АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» МІНСК 1972

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ДЗІЦЯЧЫ ФАЛЬКЛОР



ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» МІНСК 1972

Складальнік **Г. А. Барташэвіч**

Складальнік музычнай часткі
**В. І. Ялатаў**

Рэдактар тома
**К. П. Кабашнікаў**

Д 43 **Дзіцячы фальклор.** Рэд. К. П. Кабашнікаў. Мн., «Навука і тэхніка», 1972.

736 с. з нот. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Беларус. нар. творчасць). 15400 экз. 2 р. 07 к. У перапл.

У кнізе ўпершыню ў беларускай фалькларыстыцы сабраны творы народнай творчасці для дзяцей. Тэксты сістэматызаваны па жанравых адзнаках — калыханкі, забаўлянкі, песенькі, лічылкі, гульні і г. д. Да многіх тэкстаў даюцца нотныя прыклады. Том забяспечан навуковым каментарыем, паказальнікам збіральнікаў і геаграфічным паказальнікам.— Літ. у падрадк. заўвагах.

7-4-3
40-72 8Ю

# ДЗІЦЯЧЫ ФАЛЬКЛОР

Дзіцячы фальклор належыць да таго віду творчасці народа, які абавязкова ўваходзіць у жыццё кожнага чалавека. Калыханкі, забаўлянкі, немудрагелістыя песенькі, гульні, лічылкі — усё, з чаго складаецца дзіцячы фальклор, спадарожнічае чалавеку ў дзяцінстве, суцяшае і забаўляе яго, дае першыя, самыя простыя веды, выклікае творчую фантазію. Дзіцячы фальклор — яркае сведчанне клопатаў народа аб выхаванні новых пакаленняў. Гэта скарбніца сапраўднай паэзіі, тая жыватворная крыніца, далучыўшыся да якой чалавек робіць першыя крокі на шляху да мастацтва.

Гісторыя збірання і вывучэння дзіцячага фальклору бярэ пачатак у першай палавіне XIX ст. Найбольш раннімі з'яўляюцца запісы Я. Чачота [1] і А. Рыпінскага [2]. У іх працах мы знаходзім нешматлікія прыклады беларускіх калыханак і дзіцячых песень. На жаль, не шмат хто з беларускіх збіральнікаў надаваў належную ўвагу гэтаму віду творчасці народа. Нават у даволі поўных зборах народнай творчасці — Д. Г. Булгакоўскага [3], С. Малевіча [4] і іншых змешчаны толькі адзінкавыя прыклады дзіцячых песенек. Гэта ў асноўным калыханкі.

Найбольш каштоўныя і даволі поўныя калекцыі дзіцячага фальклору пакінулі П. В. Шэйн, Е. Р. Раманаў, М. Федароўскі, У. М. Дабравольскі. У зборніку «Беларускія народныя песні» (1874) і «Матэрыялы для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» (1887) П. В. Шэйн уключыў акрамя калыханак узоры забаўлянак, дражнілак, дзіцячых песень рознага зместу, а таксама апісанні гульняў з адпаведнымі ім песнямі і лічылкамі. У гэтых працах звыш 100 узораў творчасці для дзяцей. Некаторыя тэксты даюцца ў розных варыянтах.

Багата прадстаўлены дзіцячы фальклор Е. Р. Раманавым у I—II выпусках «Беларускага зборніка» (1886), якія прысвечаны народным песням.

---

[1] Jan Czeczot. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny, cz. 2. Wilno (1836—1839).

[2] A. Rypiński. Białorus. Paryż, 1840.

[3] Д. Г. Булгаковский. Пинчуки. Этнографический сборник. СПб, 1890.

[4] С. Малевич. Белорусские народные песни. СПб, 1907.

У VIII выпуску (1912) Раманаў змясціў звыш 70 апісанняў беларускіх дзіцячых гульняў і забаў, якія суправаджаюцца песенькамі. Да некаторых гульняў даюцца тлумачэнні, а таксама варыянты, характэрныя для розных мясцовасцей. У V том працы «Lud białoruski» (1958) М. Федароўскага ўключаны ў асноўным песенны матэрыял: калыханкі, дзіцячыя песенькі і прыпеўкі. Трапляюцца сярод запісаў збіральніка і дражнілкі, забаўлянкі. Каштоўнасць матэрыялам Федароўскага надаюць нотныя запісы. Амаль да кожнага тэксту збіральнік дае нотны прыклад або зазначае, на якую мелодыю песня спяваецца.

Разнастайны матэрыял змясціў У. М. Дабравольскі ў працы «Смаленскі этнаграфічны зборнік» (1903). Акрамя калыханак, дзіцячых песень, дражнілак, апісанняў гульняў аўтар дае таксама розныя дзіцячыя прыгаворы, заклічкі, некаторыя звесткі этнаграфічнага характару.

З іншых найбольш поўных збораў дзіцячага фальклору варта адзначыць запісы С. П. Сахарава. У зборніку «Народная творчасць Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў» (1940) і ў рукапісных дадатках да яго шмат цікавых песенных варыянтаў, а таксама апісанняў гульняў, карагодаў і іншых жанраў дзіцячага фальклору. Сахараў, як і яго папярэднікі, уключаў у раздзел дзіцячага фальклору многія «дарослыя» творы, якія ўваходзілі ў дзіцячы рэпертуар.

У савецкі час збіраннем дзіцячага фальклору займаліся А. К. Сержпутоўскі[5], А. Шлюбскі[6], Г. І. Цітовіч[7], М. Я. Грынблат[8]. Маюць цікавасць зборнікі А. Грыневіча «Беларускі дзіцячы спеўнік», апублікаваны ў 1925 г., і «Школьны спеўнік», які быў падрыхтаваны ў 1920 г., але застаўся ў рукапісе. Яны не толькі паказвалі, што бытуе ў народзе, але і садзейнічалі пашырэнню сапраўды мастацкіх узораў народнай творчасці сярод шырокіх мас і ў першую чаргу сярод дзяцей. Акрамя падрабязнага пашпарта Грыневіч дае тлумачэнні да выканання асобных твораў.

Багатыя рукапісныя матэрыялы захоўваюцца ў Архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (далей АІМЭФ). Тут экспедыцыйныя запісы супрацоўнікаў сектара фальклору, матэрыялы конкурсаў на лепшага збіральніка народнай творчасці, запісы шматлікіх карэспандэнтаў.

Не шмат увагі надавалася дзіцячаму фальклору ў тэарэтычных даследчых працах. Праўда, фальклярысты-збіральнікі ў сваіх зборніках пакінулі

---

[5] А. К. Сержпутовский. Отчет о поездке в Гомельскую губ. в 1926 году. Минск, 1926.

[6] А. Шлюбскі. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны, ч. II. Мінск, 1928.

[7] Г. І. Цітовіч. Песні беларускага народа. Выбранае. Мінск, 1959.

[8] «Наш край», 1928, № 8—9.

некаторыя заўвагі, разважанні аб асобных жанрах дзіцячага фальклору. Так, Е. Р. Раманаў да апісання гульняў дае невялікі ўступ, дзе выказвае думку аб цікавасці і складанасці гэтага віду фальклорнай творчасці і прапануе сваю класіфікацыю гульняў [9].

Першай спецыяльнай тэарэтычнай працай, дзе звяртаецца ўвага на беларускія калыханкі, з'яўляецца даследаванне А. Ветухова «Народныя калыхальныя песні» [10], у якім аўтар аналізуе творы ўсходніх славян — рускіх, украінцаў і беларусаў. Даследчык выкарыстоўвае запісы Раманава і Шэйна для характарыстыкі тэматыкі калыханак. Аднак часта яго тлумачэнні зместу, вобразаў песень носяць наіўны характар (напрыклад, у песні пра сустрэчу казла з рознымі звярамі ён не заўважае іроніі і таму гіпербалу тлумачыць як недарэчнасць), а некаторыя вывады даследчыка больш чым паспешлівыя. На аснове нязначнай колькасці жартоўных песенак Ветухоў робіць няўдалую спробу паказаць нацыянальны характар беларускай жанчыны (таксама як рускай і ўкраінскай). Станоўчым у працы Ветухова з'яўляецца тое, што пры разглядзе народных песень для дзяцей ён дае тэматычную класіфікацыю матэрыялу.

Прапанаваную Ветуховым класіфікацыю выкарыстоўвае Я. Ф. Карскі ў працы «Беларусы» (т. III, ч. 1). Аналіз тэматыкі дзіцячых песень Карскі вядзе на багатым фактычным матэрыяле. Даследчык удзяляе ўвагу таксама паэтыцы дзіцячых песень, аднак не закранае іншыя жанры дзіцячага фальклору.

Аб месцы калыханак у жыцці, аб іх матывах пісаў І. І. Насовіч [11].

Кароткую характарыстыку калыханак і дзіцячых песень дае М. Гарэцкі ў «Гісторыі беларускай літаратуры». Ён піша пра змест калыханак, паказвае іх адносіны да навакольнага жыцця, іх уплыў на літаратурную творчасць. М. Гарэцкі бачыць сувязь некаторых дзіцячых песенак са старадаўнімі абрадамі, паказвае, як з рэпертуару дарослых яны перайшлі цалкам у асяроддзе дзяцей [12].

Н. С. Гілевіч у навукова-папулярным нарысе «Наша родная песня» дае сцiслую характарыстыку дзіцячых песень. Ён вызначае іх жанравую прыроду, аналізуе тэматыку і вобразы, форму, паэтыку. Даследчык пералічвае амаль усе віды песеннага дзіцячага фальклору, хаця не спыняецца на кожным з іх падрабязна, што, відаць, не ўваходзіла ў задачы яго працы [13].

---

[9] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. VIII—IX. Вильна, 1912, стар. 553.
[10] «Этнографическое обозрение», 1892, № 1—4.
[11] Белорусские песни, собранные И. И. Носовичем. Записки ИРГО, т. 5. СПб, 1873, стар. 236.
[12] М. Гарэцкі. Гісторыя беларускай літаратуры. М.—Л., 1924, стар. 53.
[13] Н. С. Гілевіч. Наша родная песня. Мінск, 1968, стар. 172—178.

Гэтым у асноўным і вычэрпваецца тэарэтычная распрацоўка пытанняў дзіцячага фальклору ў беларускай фалькларыстыцы.

Ні слова не сказана пра дзіцячы фальклор у дапаможніках па фальклору для вышэйшых навучальных устаноў. Абмінулі гэта пытанне і аўтары калектыўнай манаграфіі «Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць» (1967).

Хаця першыя ўзоры дзіцячага фальклору былі запісаны яшчэ ў пачатку XIX ст., сам тэрмін «дзіцячы фальклор» не ўжываўся ў фалькларыстыцы. Творы, якія збіральнікі называлі «дзіцячымі песнямі», «калыханкамі», «пацешкамі» і г. д., змяшчаліся ў фальклорных зборніках побач з абрадавай паэзіяй, часцей за ўсё далучаліся да радзінных, хрэсьбінных песень. У савецкі час гэты тэрмін замацаваўся ў фалькларыстыцы дзякуючы шматлікім працам Г. С. Вінаградава, прысвечаным вывучэнню дзіцячага быту і фальклору.

Тэрмін «дзіцячы фальклор» вельмі шырокі. Ён аб'ядноўвае ўсе віды вуснай народнай паэзіі, створанай дарослымі для дзяцей, і творчасць саміх дзяцей. Сюды ж уваходзяць і тыя творы, якія хаця і ствараліся для дарослых, але з цягам часу перайшлі ў разрад творчасці для дзяцей.

Такая разнароднасць дзіцячага фальклору прадвызначыла неабходнасць класіфікацыі яго ў залежнасці ад функцыянальнай ролі, якая ў сваю чаргу адбіваецца на мастацкіх асаблівасцях розных відаў дзіцячага фальклору. Як адзначае рускі фалькларыст В. А. Васіленка [14], ад функцыянальнай ролі твора шмат у чым залежыць яго тэма, моўная форма, рытміка. Адны творы маюць мэтаю закалыхаць дзіця, другія выкарыстоўваюцца, каб пацешыць, падбадзёрыць яго; адны з іх прызначаюцца для арганізацыі рухавых гульняў, іншыя ж вабяць сваёй моўнай арганізацыяй.

Дарэвалюцыйныя фалькларысты прапаноўвалі класіфікацыю ў асноўным толькі песеннага матэрыялу. Я. Ф. Карскі падзяляе дзіцячыя песні па дзве групы: калыханкі, якія пяюцца пры люлянні, супакойванні дзіцяці, і ўласна дзіцячыя, якія спяваюць самі дзеці для сваёй забавы, навучаныя гэтаму дарослымі [15].

Як бачым, тут не ўлічваецца ўсё багацце і разнастайнасць матэрыялу, які выкарыстоўваецца і дзецьмі, і для дзяцей у розных мэтах — выхаваўчых, пазнавальных і проста для забавы. Выходзячы з такой класіфікацыі, разглядалі дзіцячыя песні і іншыя творы дзіцячага фальклору многія вучоныя ў дарэвалюцыйны перыяд. Падобная класіфікацыя доўга захоўвалася і ў савецкі час. Добры знаўца дзіцячага фальклору, ініцыятар вялікай работы па яго збіранню, сістэматызацыі і вывучэнню В. І. Капіца падкрэс-

[14] Русское народное поэтическое творчество. М., 1969, стар. 349—350.
[15] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, ч. 1. М., 1916, стар. 226—234.

лівала цяжкасці, якія стаяць перад кожным, хто спрабуе прывесці ў сістэму гэты вялікі і вельмі разнародны матэрыял. «Класіфікацыя дзіцячага фальклору,— піша В. І. Капіца,— можа быць зроблена ў розных разрэзах: па ўзростах, па сезонах, па мясцовасцях запісаў, па прызначэнню данага твора і г. д., у залежнасці ад тых мэт, якія ставіць даследчык» [16].

Сама Капіца размяркоўвае дзіцячы фальклор па ўзростах на дзве групы. «Першая,— піша даследчыца,— творчасць дарослых для таго ўзросту, калі дзеці знаходзяцца пад іх апекаю, г. зн. ад нараджэння гадоў да 5—6; другая група — творы, якія бытуюць сярод дзяцей, калі яны ўжо самастойна забаўляюць сябе» [17]. Гэта зноў-такі вельмі нагадвае схему, прапанаваную Карскім.

У. П. Анікін ставіць класіфікацыю дзіцячага фальклору ў залежнасць ад яго стваральнікаў. Ён прапануе размяжоўваць «творчасць дарослых для дзяцей, творчасць дарослых, якая становіцца з цягам часу дзіцячаю, і дзіцячую творчасць ва ўласным сэнсе слова» [18]. Але класіфікаваць творы па такому прынцыпу вельмі цяжка таму, што не заўсёды магчыма вызначыць іх складальнікаў. Нават сярод калыханак, безумоўна аднесеных да першай групы, могуць быць асобныя творы, узнікшыя ў дзіцячым асяроддзі, бо, як вядома, функцыю нянькі ў сялянскіх сем'ях часта выконвалі старэйшыя дзеці, якія маглі быць не толькі носьбітамі замацаваных традыцыяй твораў, але і складальнікамі-імправізатарамі. Тым цяжэй высветліць, у якім асяроддзі ўзніклі многія лічылкі, скорагаворкі, заклічкі і г. д.

Больш прымальным здаецца падзел твораў дзіцячага фальклору па іх функцыянальнай ролі. В. А. Васіленка выдзяляе тры асноўныя групы: калыханкі; творы, звязаныя з гульнёвымі дзеяннямі; творы, якія займаюць дзяцей сваім паэтычным, моўным зместам і выконваюцца незалежна ад гульняў [19].

Па сутнасці калыханкі таксама не звязаны з гульнямі, яны могуць быць аб'яднаны ў адзін разрад з творамі негульнёвага характару. Іх выдзяленне асобна адбываецца, відаць, па традыцыі, тым больш што гэта самыя першыя па часе ўспрынятыя дзецьмі творы, багатыя тэматычна і колькасна.

Калыханкі былі адными з першых твораў дзіцячага фальклору, якія звярнулі на сябе ўвагу збіральнікаў і пачалі ўключацца ў фальклорныя зборнікі. Гэта песні зусім акрэсленага прызначэння: яны выконваюцца маці або нянькаю ля калыскі дзіцяці, каб хутчэй супакоіць яго, прыспаць. Паўсядзённая патрэба ў калыханках прадвызначала іх жыццёвасць і актыўнае

---

16 О. И. Капица. Детский фольклор. Л., 1928, стар. 30.
17 Там жа.
18 В. П. Аникин. Русские народные пословицы, поговорки, загадки и детский фольклор. М., 1957, стар. 88.
19 Русское народное поэтическое творчество, стар. 350.

бытаванне і ў мінулым, і ў наш час. Праходзяць гады, мінаюць стагоддзі, мяняюцца сацыяльныя фармацыі і ўмовы жыцця, але заўсёды застаецца пяшчота да новага чалавека, застаюцца клопаты аб яго выхаванні, матчына любоў. Таму калыханкі заўсёды з'яўляюцца самым папулярным песенным жанрам, які бытуе ў кожнай сям'і. Яны вабяць сваёй пяшчотнасцю, незвычайным хараством, што ідуць з глыбіні мацярынскага сэрца. «Тут адлюстроўваецца ўсё, што ёсць у душы маці лепшага, узнёслага» [20],— пісаў А. Ветухоў. Вельмі хораша гаварыў пра калыханкі В. Жукоўскі: «Калыханкі вызначаюцца асаблівасцямі і вартасцямі, што ўласцівы і іншым блізкім да іх песням, як — жывасць і вобразнасць мовы, невычэрпная крыніца бытавых рыс, глыбіня пачуцця і непасрэднасць лірызму, яны пераўзыходзяць іх яшчэ тым, што адрозніваюцца большым багаццем зместу, разнастайнасцю і жывучасцю» [21].

Калыханкі разлічаны на не зусім звычайнага слухача: іх спяваюць дзіцяці яшчэ тады, калі яно не разумее слоў. Пазней праз песню яно атрымлівае першыя ўяўленні аб навакольным свеце. Гэта акалічнасць абумовіла і форму песні, перш за ўсё мелодыю і рытм, а таксама даступнасць зместу, прастату кампазіцыі, займальнасць. Якраз да гэтага жанру як нельга лепш стасуюцца патрабаванні, што прад'яўляюцца наогул да дзіцячага твора, дзіцячай кнігі. С. Маршак так гаварыў: «Справа не ў даступнасці, а ў нейкай сапраўднай адпаведнасці кнігі з рытмам і светаадчуваннем дзяцей» [22].

Па свайму паходжанню калыханкі належаць да старажытнейшых песенных жанраў. Рускія даследчыкі дзіцячага фальклору падкрэсліваюць нават даўнасць саміх народных тэрмінаў, якімі абазначаюцца калыханкі, і бачаць у гэтым адзін з доказаў іх старажытнасці.

Адна з распаўсюджаных і найбольш старадаўніх назваў рускіх калыханак — байкі — паходзіць ад старажытнарускага дзеяслова «баять», што азначае гаварыць, сказваць, шаптаць. Відаць, ад гэтага дзеяслова паходзяць і прыпевы да многіх калыханак усіх усходніх славян — баю, бай, баюшкі і інш., і тая міфічная асоба— бай, што ходзіць па сцяне з лапцікамі для сябе і сваіх дзяцей. У беларусаў байкамі сталі называць творы іншага характару, якія не маюць нічога агульнага з калыханкамі, але ўпамінанні аб тым, што некалі калыханкі баялі, захаваліся ў некаторых нашых песнях:

Трэба катка ў хату ўзяці,
Каб пеў баінькі дзіцяці.
Ой, люлі-люлі,
Ветры ў полі загулі.

---

[20] «Этнографическое обозрение», 1892, № 1, стар. 131.
[21] ЖМНП, 1889, ч. CCLXI, стар. 226.
[22] С. Я. Маршак. О большой литературе для маленьких. Доклад на I Всесоюзном съезде советских писателей. М., 1934, стар. 19.

Запісаная ў многіх месцах у розных варыянтах песня пра казачнага бая яшчэ раз сведчыць аб бытаванні ў народзе тэрміна байка, якім абазначаліся калыханкі.

Ішоў бай па сцяне
У чырвоным жупане.
Ці баіць, ці не?— Баіць.
— І ты кажаш — баіць,
І я кажу — баіць.

Ішоў бай па сцяне,
Насіў лапці ў кішане.
Ці баіць, ці не? — Не.
— І ты кажаш — не,
І я кажу — не.

Функцыя калыханак абумовіла і пэўную вобразную сістэму іх. У некаторай ступені калыханкі захавалі рэшткі міфалагічных уяўленняў нашых далёкіх продкаў. У калыханках мы часта знаходзім упамінанні пра сон, дрымоту, як пра нейкіх адухоўленых істот, якія могуць прыйсці да чалавека. Іх кліча нянька або просіць ката прывесці дрымоту да дзіцяці. У іншых песнях сон — нешта асязальнае, што можна прынесці ў кошыку, можна прадаваць або раздаваць:

Ходзіць каток па сяле,
Носіць дзяцей сон ў кашале.
Ходзіць каток па капусце,
Носіць сон у белай хусце,
Бабы ката злапалі,
Сон для дзетак забралі.
А ты, коце, вон, вон,
А на Зосю сон, сон.

Сон, дрымота як жывыя істоты ходзяць каля хат і могуць завітаць да дзіцяці ў госці:

Ходзіць сон каля акон,
А дрымота каля плота.
І пытае сон дрымоту:
— Дзе мы будзем начаваць?
— Дзе хацінка цяпленька,
Дзе дзетачка маленька,
А мы пойдзем начаваць
І дзяцінку калыхаць.

Многія даследчыкі ўказваюць на сувязь калыханак з замовамі. Больш ярка гэта сувязь праяўляецца ў рускім і ўкраінскім фальклоры. У беларускіх калыханках замоўныя элементы захаваліся менш, і сувязь гэта выяўля-

еццa выразней у мелодыцы. Як на прыклад можна спаслацца на наступную калыханку:

Пайдзі, коця, на вулку,
А дзіця у люльку.
На ката варкота,
А на дзіця дрымота.
На ката безгалоўе,
А на дзіця здароўе.
На ката ўсё ліха,
А ты, дзіця, спі ціха.

Творы заклінальнага характару, элементы магіі, а таксама пажаданні дзіцяці долі, здароўя, засцярога ад усякіх бед сталі неад'емнай часткай радзіннай абрадавай паэзіі.

Калыханкі мелі іншыя функцыі, ажыццяўленне якіх не звязвалася з магічнымі дзеяннямі, заклінаннямі, замовамі. Гэта творы для дзяцей, з дапамогаю якіх супакойвалі малога, знаёмілі яго з навакольным светам, расказвалі пра хатніх жывёл, птушак, розных звяроў, іх прыгоды і ўчынкі.

Галоўным персанажам большасці калыханак з'яўляецца кот. У адных песнях ён выступае як дзеючая асоба, у іншых аб ім толькі ўпамінаецца. Дарэчы, усе калыханкі ў народзе маюць яшчэ адну агульную назву, паходжанне якой звязана з гэтым галоўным персанажам. Укладваючы дзіця спаць, маці спявае яму «ката» (хаця ў песні можа ісці размова пра іншых жывых істот — курэй, гулей, зайчыка і г. д.):

Баю-баю, дзіця калышу!
Красныя пані, спявайце «ката»:
— Няхай кату ўсё ліха,
Ты, Іване, спі ціха.

Ката трымалі амаль у кожнай сялянскай хаце, ён быў першай хатняй жывёлай, з якой знаёмілася дзіця. Даследчыкі ўсходнеславянскага фальклору адзначаюць сувязь калыханак пра ката з народнымі пераконаннямі, быццам манатоннае мурлыканне ката спрыяе спакойнаму сну. У некаторых месцах нават існаваў звычай перш чым упершыню пакласці дзіця ў калыску, класці туды ката, каб дзіцяці добра спалася.

У калыханках кот — жаданы госць у хаце, ён памочнік маці, яго клічуць калыхаць дзіця:

Прыйдзі, прыйдзі, коця,
Маня спаці хоча.
Хоча, хоча, да не спіць,
Трэба яе прысыпіць.

Коціка спакушаюць цёплай хаткай («наша хата цяпленькая, наша Маня маленькая»), яму абяцаюць добрую плату за работу:

А я ж табе-то, кату,
За работу заплачу:
Дам кушын малака
І кусок пірага.

Калыханкі абяцаюць кату і больш значную плату, каб задобрыць яго і надалей:

Ціха, коце, не тужы,
Яшчэ з гадок паслужы.
Куплю табе боты
Слуцкае работы,
Хоць не дарагія —
Па тры залатыя.
Шыты боты штыхам,
Насі, коце, з ліхам.
Чаравічкі бабром,
Насі, дзіця, з дабром.

Калыханкі падкрэсліваюць клапатлівыя адносіны ката да дзіцяці. Кот у калыханках аказвае дзіцяці розныя паслугі: бегае на таржок «купіць Юрку піражок» або на вулку «купіць Юрку булку». Даюць яму і больш адказныя даручэнні:

А брысь, коцік, за мора,
Прынясі Машы здароўя.

У беларускіх калыханках кот дапамагае гаспадару і гаспадыні і прасці, і ткаць, і малаціць. Такія творы паказваюць быт вёскі. Яны з самага маленства выхоўваюць у дзіцяці павагу да працы, пераконваюць у неабходнасці ўдзелу ў ёй.

У асобных калыханках пра ката некаторыя даследчыкі, у прыватнасці А. Ветухоў, схільны бачыць элементы маралі, павучання. З гэтым можна пагадзіцца. Як слушна зазначае У. П. Анікін, наогул «дзіцячы фальклор развіваўся ў непасрэднай сувязі з народнай педагогікай, а клопаты аб разумовым, маральным і фізічным выхаванні падрастаючага пакалення здаўна былі ўласцівы народным працоўным масам» [23].

Вельмі тактоўна, неназойліва, праз учынкі ката або іншых жывых істот выхоўваюцца ў дзяцей працейшыя навыкі, даюцца павучанні, як трэба сябе паводзіць:

Не лезь, каток, на калодку,
Разаб'еш галоўку.
Будзе галоўка балець
І некаму будзе жалець.

[23] В. П. Аникин. Русские народные пословицы, поговорки, загадки и детский фольклор, стар. 87.

Побач з катом у калыханках любімымі персанажамі з'яўляюцца птушкі — куры, з якімі дзіцяці даводзіцца знаёміцца вельмі рана, і галубы, або гулі, вулі. У народнай творчасці голуб — сімвал чысціні, лагоднасці. Не дзіўна, што ў калыханках якраз галубы заняты клопатам аб дзіцяці. Гэта ж роля адводзіцца і курам. Як і кот, яны запрашаюцца дапамагаць няньцы гадаваць, забаўляць дзіця, на іх ускладаецца абавязак карміць яго («няхай дзетку пташкі прыгатовяць кашкі»), яны ў калыханках гадуюць дзіця «малачком і салодзенькім піражком». Гулі і куры ў калыханках часта прылятаюць з рознымі падарункамі для малых. То яны прынясуць Іванку «красныя чабоцікі па самыя жывоцікі», такія ж прыгожыя, як у іх саміх, то прывядуць «каня варанога, быка палавога, цялушку-рабушку дзіцяці на юшку».

З іншых жывёл і звяроў у калыханках упамінаецца бычок, заінька шэранькі, які, як і каток, носіць у белай хустцы сон, волікі, што дапамагаюць мамцы ў гаспадарчых справах. У некаторых песнях яны зусім не дзейнічаюць, упамінанне іх чыста фармальнае. У такіх песнях ствараюцца малюнкі будучага жыцця дзіцяці:

Да кыш, куркі, пад печ,
Можа, наш Сяргей заснець
І больш падрасцець.
Да пасту пагоніць
І конікаў павядзець,
Каліначак наломіць,
Малым дзеткам падзеліць.

Некаторыя калыханкі можна аб'яднаць у адну групу па іх павучальнаму характару. Частка з іх заключае вельмі мякка, тактоўна выказаную перасцярогу, у іншых калыханках ужыты не зусім педагагічны прыём запалохвання непаслухмянага, няўрымслівага дзіцяці шаранькім ваўком, які «схопіць за бачок, аднясець у кусцік і назад не пусціць». У беларускіх калыханках у адрозненне ад калыханак іншых народаў матыў пагрозы не выражан ярка, гэта хутчэй перасцярога. Шэры воўк часта замяняецца катком, які «драпне за бачок», калі дзіця будзе неасцярожна класціся на краю пасцелі. Мы не знаходзім у калыханках страшных істот, якімі можна па-сапраўднаму напалохаць малое.

Малюючы паўсядзённы побыт, хатнюю працу селяніна, апавядаючы аб розных жывёлах, калыханкі закранаюць часам тэмы сацыяльных адносін, гісторыі народа і да т. п. Але з гістарычнымі падзеямі звязаны толькі адзінкавыя творы, напрыклад калыханка, у якой расказваецца аб татарскім палоне. Песня аб тым, як татары палон дзялілі, усімі збіральнікамі беларускага фальклору адносіцца да гістарычных. Л. Куба змяшчае яе як калыханку. Гэта, па сутнасці, усечаны варыянт песні, які да калыханак прывязваецца тыповым запевам: «Баю-баю, мая дзіценка!»

Аналізуючы калыханкі ўсходніх славян, А. Ветухоў бачыць недахоп украінскіх і беларускіх твораў у тым, што ў іх выказаны іранічныя адносіны да рэлігіі. Па яго сцверджанню, яшчэ з калыскі маці павінна імкнуцца абудзіць у дзіцяці думку аб неабходнасці для ўсякага чалавека малітвы [24]. Але гэта сцверджанне Ветухова было памылковым і абвяргалася ім жа прыведзенымі народнымі песнямі.

Беларускі фальклор наогул багаты творамі, накіраванымі супраць рэлігіі, бога, творамі, дзе высмейваюцца служкі культа і іх вучэнне. Не дзіўна, што і ў калыханках выказана такое ж стаўленне да малітвы, да рэлігіі. У жартоўнай форме каток хваліцца сваім уменнем казаць «Ойча наш», бо ён «у папа начаваў і «Отчэ наш» пераймаў». У. Дабравольскі прыводзіць адзіны твор, дзе шчасце, доля дзіцяці ставіцца ў залежнасці ад літасці бога.

Гэта наогул адзіны вядомы варыянт песні такога зместу. У іншых творах хутчэй адчуваюцца крытычныя ноткі. Аб гэтым сведчыць і параўнанне ў дзіцячай песні папа з запечным клапом.

Едзе жук да папа,
Да запечнага клапа.

А поп часу не мае,
Прусака спавядае.

Некаторыя калыханкі адлюстроўваюць навакольнае жыццё, пачуцці маці. Апошняя, напрыклад, скардзіцца, што дзіця ёй звязала рукі:

За табою дзіцятачка,
Мне гульба прапала.
Мне гульба прапала,
Гуляць волі не стала.

Многія паэты выкарыстоўвалі форму калыханак у сваёй творчасці. Варта прыгадаць творы Ф. Багушэвіча, Я. Купалы.

Калыханкі літаратурнага паходжання ўваходзілі ў быт, у народнай інтэрпрэтацыі бытавалі побач з традыцыйнымі. У адрозненне ад традыцыйных яны часта больш насычаны грамадзянскімі матывамі. Напрыклад, запісаная ў Мядзельскім раёне калыханка (4) уяўляе сабой роздум аб тагачасным жыцці. Гэта твор яркага сацыяльнага зместу, у ім гаворка ідзе «аб мужыцкай долі ў панскай няволі», калі селянін не меў «праў чалавечых». У песні маці просіць сынка даць ёй «хоць хвілінку адпачыць, памарыць, як лепш гаспадарыць і паноў пазбыцца».

Рэалістычныя замалёўкі, звязаныя з бытам сялян, іх жыццём, сустракаюцца ў шмат якіх традыцыйных калыханках. У адных праца і жыццё

[24] «Этнографическое обозрение», 1892, № 1, стар. 137.

селяніна паказваюцца праз дзеянні хатніх жывёл, другія непасрэдна малююць заняткі сялянкі:

Люлі-люлічкі,
Сяду а я прасці
І дзіцяці калыхаці.

Побач з замацаванымі традыцыяй тыповымі калыханкамі над калыскай спяваюцца і іншыя песні, якія набываюць характар калыханак дзякуючы манатонна-рытмічнай мелодыі і ўжыванню прыпеву «люлі-люлюшкі», «баю-бай». У такім шырокім плане песні-калыханкі, па вызначэнню Ветухова, уяўляюць свайго роду «энцыклапедыю», якая малюе «шматгранную карціну народнага жыцця» [25].

Форма і мастацкія асаблівасці калыханак абумоўлены іх прызначэннем. Усе яны вельмі простыя па кампазіцыі, з выразным рытмам і надзвычай багатай рыфмай. Рытм калыханак перадае само пагойдванне калыскі. Часам сюжэт у калыханках толькі намячаецца, няма поўнага яго раскрыцця і завяршэння. Як і ў іншых творах для дзяцей, у калыханках выразна адчуваецца апавядальнасць. Многія з іх нясуць зусім канкрэтную інфармацыю, неабходную і цікавую для дзіцяці. Характэрна для калыханак і форма дыялога (песні пра чатырох волікаў, пра зайчыка і інш.).

Для калыханак, як ні для якога іншага з беларускіх песенных жанраў, характэрна рыфма. Вялікі знаўца дзіцячай псіхалогіі, творчасці дзяцей і літаратуры для іх К. І. Чукоўскі звяртаў увагу на тое, што дзецям найбольш даступны і любімы імі сумежныя рыфмы. Дзеці не любяць, каб рыфмаваныя радкі стаялі далёка адзін ад другога, гэта абцяжарвае ўспрыманне. У калыханках парныя рыфмы найбольш распаўсюджаныя:

Што выведу нітачку —
Камару на світачку.
Астануцца кончыкі —
Камару на штончыкі.

У шмат якіх калыханках акрамя рыфмы ў канцы радкоў з'яўляецца ўнутраная рыфма:

Сталі куры сакатаць,
Трэба курам чаго даць.
Ці ячменю жменю,
Ці жыта карыта,
Ці бобу каробу,
Ці гароху троху,
Ці ярыцы паўмяліцы,
Ці грыкі чаравікі.

---

[25] «Этнографическое обозрение», 1892, № 4, стар. 110—111.

Надзвычайная напеўнасць, пяшчотнасць у калыханках ствараецца паўтарэннем слоў і гукаў, ужываннем слоў з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі. Не апошняе месца ў калыханках належыць і гукапераймання.

У народных калыханках, пераражыўшых стагоддзі, звяртае на сябе ўвагу вельмі тонкае адчуванне асаблівасцей дзіцячай псіхалогіі, светаўспрымання дзяцей з іх павышанай эмацыянальнасцю, абмежаванай магчымасцю ўспрыняцця ўсёй глыбіні з'яў жыцця, няўстойлівасцю ўвагі. Калыханкі часцей за ўсё ўяўляюць сабой кароценькія песенькі з простым сюжэтам, якія расказваюць аб тых рэчах, што даступны дзіцячаму разуменню. Як і ў казках, жывёлы і рэчы ў калыханках персаніфікуюцца, дзейнічаюць і размаўляюць, як людзі, уступаюць з імі ў розныя ўзаемадзеянні. Фантастыка калыханак адрозніваецца ад казачнай. У калыханках няма нічога пачварнага, жудаснага, у іх багата гумару, жартаў.

Звычайнай з'явай да нашых дзён застаецца імправізацыя ля калыскі дзіцяці. Але часцей за ўсё гэта імправізацыя ў рамках традыцыі — у межах пэўных вобразаў, сітуацый, мастацкіх сродкаў адлюстравання. Якім бы кананічным ні заставаўся тэкст калыханкі, кожнае яго выкананне нясе элемент імправізацыі, бо нельга знайсці больш «інтымнага» песеннага жанру ва ўсім фальклоры, чым калыханка. Кожная маці па-свойму спявае песню любві дзіцяці, суправаджаючы яе ёй адной уласцівымі словамі, гукамі, пачуццямі. В. Жукоўскі пісаў: «Як бы там ні было, але маці песціць дзіця ў словах, якімі звяртаецца да яго, і, не здавальняючыся для гэтага багатым запасам усім зразумелай мовы, яна яшчэ вылівае сваю пяшчоту ў мяккіх слоўцах, ёй адной толькі вядомых, якія зараджаюцца перад калыскаю і перад ёю ж паміраюць і не ўваходзяць нават у паўсядзённую мову» [26].

Вельмі хораша пра калыханку, яе ролю ў жыцці чалавека сказаў Н. Гілевіч: «Слухаючы такую песню — гэтую адвечную і неўміручую песню матчынай любві,— міжволі думаеш: можа быць, менавіта адсюль, вось з такой калыханкі, з яе самай простай і самай геніяльнай на зямлі мелодыі і пачынаецца чалавек» [27].

Пачынаючы з самых першых, элементарных рухаў, многія дзеянні дзіцяці суправаджаюцца песенькамі, якія называюцца пацешкамі, або забаўлянкамі. Імі дарослыя суцяшаюць дзіця, забаўляюць яго, з іх дапамогаю прывучаюць да прасцейшых гульняў. Забаўлянкі пачынаюцца з калыскі, «як толькі дзіця пачне адрозніваць сваю маму» [28].

Даследчык дзіцячых гульняў Е. Пакроўскі ў капітальнай працы «Дзіцячыя гульні, пераважна рускія» звязвае першыя формы дзіцячых гульняў

---

[26] ЖМНП, 1889, ч. CCLXI, стар. 104.
[27] Н. С. Гілевіч. Наша родная песня, стар. 173.
[28] Е. А. Покровский. Детские игры, преимущественно русские. М., 1916, стар. 95.

з першай жа неабходнасцю ў рухах, а ў забаўлянках, гэтых славесных прыгаворах да самых пачатковых дзіцячых гульняў, знаходзіць «некаторы выхаваўчы сэнс як у фізічных, так і ў духоўных адносінах, напрыклад, для прывучэння дзяцей да неабходных рухаў, спрыту, кемлівасці» [29].

Забаўлянкі неаддзельны ад гульні з пальцамі, з рукамі, ножкамі дзіцяці, яны ж суправаджаюць і розныя рухі, якія робіць дзіця само або з дапамогаю дарослых: гушканне, качанне на назе, пацягванне ручак, першыя крокі і г. д. Часам яны выконваюцца і без пэўных рухаў, напрыклад, калі трэба супакоіць дзіця, якое плача, або рассмяшыць яго. Тыповая ў такіх выпадках забаўлянка «Не плач, куплю калач».

Уздзеянне забаўлянак зусім процілеглае таму, што аказваюць калыханкі. Забаўлянкі павінны весяліць, забаўляць дзіця, узбуджаць яго, рабіць бадзёрым. Таму і форма іх адрозніваецца ад напеўных манатонных калыханак. Гэта хутчэй не песні, а вершаваныя шматрадкоўі з хуткім рытмам, жартаўліва-гумарыстычным зместам; яны не спяваюцца, а прыгаворваюцца, вымаўляюцца рэчытатывам у рытме пэўнага дзеяння, рухаў, якія пры гэтым выконваюцца. У забаўлянках, як і ў калыханках, яскрава праяўляецца імправізацыя. На жаль, прыклады імправізаваных забаўлянак не запісаны. Цяжкасць запісу ў тым, што тут трэба быць або нябачным сведкам, або пастаянным, прывычным спадарожнікам маці, нянькі, інакш жанчына не будзе натуральнай у сваіх дзеяннях і наўрад ці зможа напаказ стварыць нешта яркае і цікавае. К. І. Чукоўскаму даводзілася чуць такія імправізацыі маці ў час пеставання дзяцей. Цікавыя прыклады ён прыводзіць у кнізе «Ад двух да пяці». Жанчына ў парыве любві, пяшчоты да свайго дзіцяці раптам пачынае прымаўляць раней ёй невядомыя словы, якія ўтвараюць сабою верш: у іх ёсць і рытм, і рыфма. Чукоўскі, прыводзячы гэтыя, як ён іх называе, «буцікі» (па першаму слову ў вершыку), зазначае, што такая вершатворчасць характэрна для многіх маці і можа быць выклікана рознымі, самымі, здавалася б, нязначнымі прычынамі. «Жанчына,— піша ён,— у сваіх прамовах, звернутых да дзіцяці, пачынае праяўляць цягу да вершаванага рытму — асабліва ў такія часы, калі яна застаецца з дзіцем адна» [30]. Гэтай з'яве Чукоўскі надае вялікае значэнне: «І калі ўжо шукаць першавытокі паэзіі, то прыйдзецца прызнаць, што вершаваныя навыкі ў значнай ступені прывіты кожнаму з нас нашай маці ў гады ранняга маленства, перш чым мы навучымся гаварыць і хадзіць. Таму што, сама таго не заўважаючы, кожная маці амаль усім сваім зваротам да дзіцяці міжволі надае калі не чыста вершаваную, то рэчытатыўную форму, якая хоць і не ўплывае на

[29] Е. А. Покровский. Детские игры, преимущественно русские, стар. 95.

[30] К. И. Чуковский. От двух до пяти. Минск, 1957, стар. 207.

форму першага дзіцячага лепятання, але ўсё ж прывучае дзіця да ўспрыняцця рытмаў» [31].

Кожнаму з нас, напэўна, даводзілася хоць раз у жыцці быць сведкам такіх рытмічна-арганізаваных матчыных словаўтварэнняў. Нават такое самае простае дзеянне, як прывучванне дзіцяці працягваць ручкі, пасля чаго яго бяруць на рукі, заўсёды суправаджаецца прыгаворамі-вершамі, якія таксама належаць да катэгорыі забаўлянак.

А. Рыпінскі прыводзіць забаўлянку, якая хутчэй за ўсё з'яўляецца імправізацыяй у час, калі дзіця гойдаюць:

А курачка, рабашэчка!
Пазыч жа мне грабушэчка!
Гута-та! Гута-та!
Не пазычу, не прадам!
Прыйдзі ка мне — дарма дам!
Гута-та! Гута-та!

Акрамя імправізаваных ёсць шмат забаўлянак з больш-менш замацаваным тэкстам, калі можна так сказаць, кананізаваных, якія ў розных варыянтах спалучаюцца з пэўнымі рухамі. Вельмі ўмоўна можна выдзеліць асобныя групы: забаўлянкі пры гульні з пальцамі і ручкамі дзіцяці; забаўлянкі пры гульні з ножкамі; забаўлянкі, якія суправаджаюць казытанне, пагладжванне і г. д.; нарэшце, забаўлянкі, калі дзіця гушкаюць на назе, імітуючы язду на кані.

Найбольш пашыранымі пры гульні з рукамі з'яўляюцца забаўлянкі «Лады-лады-ладкі». Спачатку дарослыя бяруць дзіця за далонькі і ў такт песеньцы пляскаюць імі. З часам дзіця само пачынае гэта рабіць пры першых жа словах забаўлянкі. Акрамя «ладушак» аб прыемным гасцяванні ў бабкі сустракаюцца песенькі з жартоўным зместам: аб тым, як «паповы рабятачкі гарох малацілі, цапы паламалі»; аб бабках, якія пабіліся «за камочак цеста ды пасярод места» і інш. Усе яны пачынаюцца з традыцыйнага зачыну «Лады-лады». Не менш вядомая забаўлянка «Сарока-варона» пра тое, як «варылі кашку» і дзялілі яе кожнаму пальчыку. Тут не толькі пацешлівы сэнс, але і пачаткі народнай педагогікі. Дзіцяці ў даступнай для яго форме ўнушаецца думка аб шкоднасці гультайства. Сарока абдзяляе кашкай таго, хто

Крупы не драў,
Вады не насіў,
Дзяжы не мясіў.

У многіх варыянтах гэтай забаўлянкі намячаецца шлях да выпраўлення гультая:

[31] К. И. Чуковский. От двух до пяти, стар. 207.

А ты, мальчык,
Схадзі па вадзічку
У сцюдзёну крынічку.

Або:

А ты, малы пальчык, ідзі,
Сам сабе кашы навары.

Цешаць дзіця і гульнёй з ножкамі. Пры гэтым пальцамі лёгенька стукаюць па ступні або пятачцы — «куюць» ножку:

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку,
Куплю чаравічкі,
Малы, невялічкі,
На Васіну ножку.

Адна з распаўсюджаных і вядомых забаўлянак — казытанне казой, калі пальцамі рукі, пастаўленымі як рожкі, дзіця бадаюць і казычуць. Гэта суправаджаецца песенькай-рэчытатывам:

Ішлі козы рагатыя, багатыя:
— Каго пападу, таго — забаду!

Калі лашчаць дзіця, пагладжваючы яго, звычайна прыгаворваюць «Ласачку»:

— Ласачка, ласачка, дзе была?
— Была ў пана караля.

Пры гушканні дзіцяці вярхом на назе прыгаворваюць больш энергічныя, хуткія забаўлянкі, накшталт:

Чуч-чук-чук!
Налавіў дзед шчук,
А баба плотак
Ды назвала цётак.

Прыведзенымі прыкладамі забаўлянак не вычэрпваецца іх багацце. Як і ўвесь дзіцячы фальклор, гэта адзін з найбольш жыццяздольных і прадукцыйных відаў народнай творчасці, які не траціць свайго значэння ў розныя часы. Змест і тэматыка забаўлянак непарыўна звязаны з колам інтарэсаў дзіцяці. Яны знаёмяць дзіця з навакольным жыццём, адкрываюць перад ім свет гукаў, рухаў, фарбаў. Яны даюць дзецям першыя практычныя навыкі, праз забаўлянкі дзеці засвойваюць маральныя і працоўныя нормы і паняцці.

Па кампазіцыі забаўлянкі таксама неаднародныя, як неаднолькавыя тыя дзеянні, якія забаўлянкамі суправаджаюцца. Адны з іх пабудаваны ў форме пытанняў і адказаў, другія — маналог маці, некаторыя ўяўляюць сабой пераходныя формы да драматызаваных народных твораў.

Дзіцячыя песні ўяўляюць сабой розныя па паходжанню і зместу творы. Многія з іх раней уваходзілі ў рэпертуар дарослых, таму збіральнікі фальклору яшчэ і зараз адны і тыя ж тэксты адносяць то ў разрад дзіцячых, то ў разрад бяседных або гумарыстычных. Сапраўды, дзіцячыя песні — гэта не толькі творы, прызначаныя спецыяльна для дзяцей. Многія песні дарослых даўно перайшлі ў дзіцячы рэпертуар, на што звярталі ўвагу і дарэвалюцыйныя, і савецкія фалькларысты. П. В. Шэйн зазначаў адносна песень пра розных хатніх жывёл, насякомых і звяроў, якія ён у зборніку «Вялікарус» перанёс з дзіцячага раздзела ў раздзел сатырычных і скамарошых: «Амаль усе яны вылучаюцца яўным сатырычным характарам, сэнс і мэта якога з цягам часу зацямніліся, згладзіліся, у выніку чаго яны ў значнай ступені зусім страцілі цікавасць у асяроддзі народа для людзей старэйшых пакаленняў. Але дзякуючы мноству алітэрацый, таўталогій і рыфмаў, а таксама лёгкасці, з якой запамінаюцца іх нескладаныя музычныя напевы, самі напрасіліся сваімі неацэннымі паслугамі маці, нянькам, для якіх яны з'явіліся самым зручным і падыходзячым сродкам займаць і забаўляць прыемным чынам сваіх і чужых немаўлятак» [32].

Да дзіцячага фальклору адносіць такія песні Гілевіч. «Многія жартоўныя сюжэтныя песні, галоўнымі персанажамі якіх з'яўляюцца звяры, птушкі і насякомыя («Прыйшла кабыла к стогу», «Чачотачка», «Як паставіў верабей на сметніку хату», «Жаніцьба і смерць камара» і інш.), калісьці не належалі да дзіцячага рэпертуару, а з'яўляліся алегарычнымі песнямі на сямейна-бытавую тэматыку для дарослых. Уласна кажучы, алегарычнасці сваёй яны не страцілі і тады, калі перайшлі ў разрад песень дзіцячых, але дзеці менш за ўсё адшуквалі захаваны ў алегорыях сэнс — іх захапляла цікавая, як у казцы, фабула з незвычайнымі вобразамі і перыпетыямі, весяліў сакавіты, дасціпны гумар, паланіў жыццярадасны дынамічны і чоткі песенны рытм» [33].

Дарэчы, падобныя песні іншых народаў таксама ўключаюцца ў разрад дзіцячых [34].

---

[32] П. В. Шейн. Великорусс, т. I, вып. 1. СПб, 1898, стар. VIII.
[33] Н. С. Гілевіч. Наша родная песня, стар. 176.
[34] Гл. О. И. Капица. Детский фольклор; В. П. Аникин. Русские народные пословицы, поговорки, загадки и детский фольклор; П. Иокимайтене. Литовские народные детские песни. Автореферат диссертации на соискание ученой степени кандидата филологических наук. Вильнюс, 1968.

Дзіцячыя песні вельмі разнастайныя па зместу, форме, вобразнай сістэме. Гэта ўскладняе іх класіфікацыю, тым больш што, такія розныя, яны выконваюць у большасці сваёй аднолькавую функцыю. Песні гэтыя не прымеркаваны ні да пэўнага часу, ні да пэўных падзей, дзеянняў або гульняў, а захапляюць дзяцей самі па сабе, сваім зместам і мастацкай формай. Выключэнне складаюць творы, якія выконваліся дзецьмі на святы, калі яны хадзілі па хатах з віншаваннямі і прадстаўленнямі.

Пры ўсім багацці зместу з песень для дзяцей можна вылучыць вялікую групу твораў, сюжэты якіх звязаны з жывёльным светам. Большасць з іх мае алегарычны характар, пераносны сэнс, але дзяцей захапляе ў першую чаргу жывасць і прыгажосць гэтых твораў, знаёмыя, вельмі тонка намаляваныя вобразы з свету жывёл.

Характэрнай рысай многіх песень з'яўляецца таксама незвычайнасць адлюстраваных у іх дзеянняў, відавочная неадпаведнасць уяўленням аб навакольным свеце. Гэта так званыя небыліцы. Песні са свядомай устаноўкай на неверагоднасць, неадпаведнасць рэчаіснасці распаўсюджаны ў фальклоры многіх народаў і карыстаюцца нязменнай папулярнасцю ў дзяцей. К. І. Чукоўскі, які спецыяльна займаўся вывучэннем сутнасці небыліц, іх уздзеяння на слухача, прыйшоў да слушных вывадаў, што гэта свайго роду гульня ў перавернуты свет цікава дзецям, якія ўжо знаёмы з сапраўдным станам рэчаў. Яна дапамагае ім канчаткова зацвердзіцца ў пэўных ведах, добра арыентавацца ў рэальных з'явах [35].

І калі ў песні пра жаніцьбу вераб'я маленькая мурашачка надзяляецца якасцямі вялікай жывёлы, гэта ўспрымаецца як камічнае, бо дзецьмі ўжо добра засвоены сапраўдныя суадносіны рэчаў.

А для дарагіх гасцей
Мурашку зарэзаў,
Кадку мяса насаліў,
Шост кілбас навесіў.

Такі ж прыём і ў песнях пра смерць камара або мухі, дзе гэтым нязначным падзеям надаецца сэнс зусім ім неадпаведны.

Некаторыя песні-небыліцы першымі радкамі папярэджваюць слухача, што расказ у іх вядзецца пра заведама немагчымыя рэчы. Яны вельмі блізкія да казак-небыліц, змест іх часта звязаны з незвычайным падарожжам на неба або ў трыдзесятае царства.

Найбольш пашыраныя сярод песень для дзяцей сюжэты пра жаніцьбу і смерць камара; пра вошку, што парылася ў лазні і з палка звалілася; пра казла, які не паслухаў бабку і пайшоў у лес гуляць, і непаслухмяную казу, што пайшла ў арэхі; песні пра сіўку-варонку, пра сойку, дзятла і інш.

[35] К. И. Чуковский. От двух до пяти, стар. 219—243.

Сярод гэтых песень амаль не сустракаецца твораў, якія б апісвалі жывёльны свет у яго натуральных умовах і дзеяннях. Звяры, птушкі, насякомыя, хатнія жывёлы ў песнях часцей за ўсё персаніфікуюцца, дзейнічаюць як людзі, выконваюць пэўную работу, часам надзяляюцца званнямі і пасадамі, імёнамі людзей («кароўка Маланка, а бычок Раманка і кабылка Марынка, а жарабок Гаўрылка»). Камара ў песнях жартам называюць палкоўнікам, жорава — капітанам, ястраба — дзесятнікам. І дзейнічаюць яны адпаведным чынам. Ястраб, напрыклад,

Па сялу лятаець,
Курэй выглядаець.
Панямножку бярэць,
Па дзесятку здзярэць.

Тут ужо чуюцца сатырычныя матывы, як і ў песнях пра камара, дзе ў ролі папа выступае надзвычай агіднае насякомае — клоп.

У дзіцячых песнях перадаюцца маральныя погляды народа, паказваецца праца і адносіны да яе. Многія з песень вельмі тактоўна, з лёгкім жартам крытыкуюць зазнайства, палахлівасць, самахвальства (песні пра казла). Усе гэтыя песні, нягледзячы на незвычайных дзеючых асоб, цесна звязаны з рэальным жыццём, бытам і звычаямі вёскі. І калі ў песні расказваецца аб бяседзе ў вераб'я, гэты малюнак вельмі нагадвае звычайнае сялянскае жыццё:

А варона хлябок кроіць,
А муха місачкі строіць,
Камар піва носіць,
Піці-есці просіць.
Елі кашу са швядамі,
Елі й верашчаку,
Як пад'елі, напіліся,
Ўсе сказалі: «Дзякуй!»

Не менш разнастайная і форма дзіцячых песень. Адны з іх маюць апісальны характар. У песнях з разгорнутым сюжэтам падрабязна паказваюцца дзеянні розных звяроў і птушак (песні пра жаніцьбу камара, «Сядзіць мядзведзь на калодзе» і інш.). Шмат песень пабудавана ў форме пытанняў і адказаў. Пры гэтым кожны адказ выклікае новае пытанне і так можа працягвацца бясконца («Сіўка-варонка», «Дзе ты быў, казюленька?», «Ішоў казёл мастом», «Куды ідзеш, бабка» і г. д.). Такія камулятыўныя песні блізкія да апавядальных твораў сваім зместам, і многія даследчыкі часам адны і тыя ж творы змяшчаюць то ў раздзеле песень, то казак: песні пра сіўку-варонку, пра непаслухмяную казу, якая не зважае на просьбы ісці дадому, за што ёй пагражаюць ваўком, і інш. Дарэчы, літаральнае супадзен-

з казкай і ў песні «Курка-рабушка знясла яюшка». Гілевіч адзначае блізкасць многіх песень да казак пра жывёл і лічыць, што «некаторыя нават непасрэдна развіліся з асобных казачных эпізодаў або матываў» [36].

Паходжанне камулятыўных песень даследчыкі адносяць да сівой старажытнасці, падкрэсліваючы сувязь іх з культавымі абрадамі. Найбольш пашыранай з такіх твораў з'яўляецца песня «Служыў я ў пана» (або «Як я жыў у барына»). У ёй кожнае новае сюжэтнае звяно дадаецца да папярэдніх. Шырока выкарыстоўваецца ў песні таксама прыём гукаперайманя.

Каб узмацніць дыдактычны пачатак, павучальную накіраванасць песень, у іх ужываюцца розныя мастацкія сродкі. Часцей за ўсё выкарыстоўваецца зварот да жывой істоты з перасцярогаю не рабіць нешта шкоднае і тут жа паказваецца, якое пакаранне за гэта чакаецца («Чы-чы-чы, верабей, не дзяўбі мне калапень» і г. д.).

Вельмі папулярныя сярод дзяцей песні без канца, якія называюць дакучнымі. «Сакрэт» іх бясконцасці ў пабудове: апошнія радкі патрабуюць паўтарэння ўсяго тэксту з самага пачатку («Як жыў журавок і з журавачкай», «Сядзеў я на пні» і інш.).

Цалкам перайшлі ў дзіцячы рэпертуар і песні-заклічкі, якія ўяўляюць сабой кароценькія прыгаворы або песні, звернутыя да сонца, дажджу, насякомых, птушак, раслін. Гэта вельмі старажытныя творы, якім калісьці надаваўся магічны сэнс. У іх захавалася адухаўленне прыродных з'яў, характэрнае для людзей далёкага мінулага. Заклічкі былі непасрэдна звязаны з гаспадарчымі інтарэсамі селяніна, з яго клопатам пра дабрабыт, што таксама сведчыць аб ранейшай іх прыналежнасці да абрадавай паэзіі. Такімі з'яўляюцца заклічкі — звароты да сонца, дажджу, ад якіх залежыць ураджай селяніна:

Зубі, зубі, дождж,
На бабіну рож,
На дзедаву плеш —
Дзецям на кулеш.

З вераваннямі, з назіраннямі людзей за паводзінамі звяроў, птушак, насякомых, з прыкметамі аб прадказванні надвор'я звязаны многія заклічкі, даўнія па паходжанню, але стаўшыя зараз здабыткам дзіцячага рэпертуару. Захавалася шмат зваротаў да «божай кароўкі»:

Божая кароўка!
Ці будзе заўтра пагодка?
Калі будзе, ляці ў поле,
А не будзе, сядзі дома!

---

[36] Н. С. Гілевіч. Наша родная песня, стар. 175.

Вершаванымі прыгаворамі суправаджаюць дзеці і многія дзеянні. Існуюць прыгаворы пры купанні, калі скачуць на адной назе, каб выліць ваду з вуха. Ёсць прыгаворы, песенькі пры збіранні грыбоў, у час пасьбы жывёлы. Як і наогул у дзіцячых творах, у іх багацейшая рыфма, выразны, дакладны рытм:

Ты Улас, ты Улас,
Ты найміся ў нас
Пасту пасцівіць!
Нашы каровачкі
Каля дубровачкі,
Нашы авечушкі
Каля рэчушкі,
Нашы свіначкі
Каля асіначкі,
Нашы козачкі
Каля лозачкі.

Да дзіцячай калектыўнай творчасці адносяцца і дражнілкі. Гэта невялікія вершаваныя творы, у якіх высмейваецца «супрацiўнік», яго імя, знешні выгляд, рысы характару і г. д.:

Змітрок-малышок
Як паехаў да ракі,
Дык заелі чарвякі.

Дражнілкі кпяць не толькі з чалавека. У некаторых — насмешка над птушкамі, звярамі, жывёламі. Убачыўшы бусла, дзеці крычаць:

Бацян даўганосы
Прапіў боты і галёшы,
А сам босы
Топчаш росы.

Многія дражнілкі, як і мянушкі, вельмі трапна падмячаюць якую-небудзь рысу характару або знешнасці і надоўга замацоўваюцца за чалавекам. Чым эмацыянальней рэагуе на іх чалавек, тым з большай ахвотай і стараннем скандуюць дражнілку дзеці. Асобныя дражнілкі вельмі з'едлівыя, часам натуралістычныя, што абумоўлена іх прызначэннем.

Да гульнёвага фальклору адносяцца лічылкі. Гэта невялікія вершаваныя гумарыстычнага характару творы, з дапамогаю якіх вызначаецца чарговасць у гульні, выбіраюцца дзеючыя асобы або вядучыя. Каб усіх удзельнікаў гульні падзяліць на групы, часцей за ўсё звяртаюцца да жараб'ёвак, якія таксама часта ўяўляюць сабой рыфмаваныя прыгаворы. Двое ўдзельнікаў згаварваюцца, хто кім будзе, а потым удзельнікі гульні выбіраюць па чарзе адзін з названых прадметаў.

Важную ролю ў лічылках адыгрывае рытм. Ён вызначае правільнасць пераліку. Скандаванае вымаўленне лічылкі суправаджаецца пэўнымі рухамі (напрыклад, указаннем на кожнага ўдзельніка), якія паўтараюцца раўнамерна, строга рытмічна. Сваю назву такія творы атрымалі, відаць, па той прычыне, што вядучае месца ў іх займае лічэнне. У некаторых лічылках лічэнне праходзіць праз увесь змест. На кожную лічбу даецца рыфмаваная фраза.

Раз, два — булава,
Тры, чатыры — пачапілі і г. д.

Шмат лічылак пачынаецца з простага адліку, напрыклад да пяці (вядомая лічылка пра зайчыка, які «выйшаў пагуляць») або да дзесяці: «...дзесяць — выплыў ясны месяц», «...дзесяць — цар хацеў мяне павесіць» і інш. Пералік тут з'яўляецца зачынам, пасля яго разгортваецца невялічкі сюжэт. Некаторыя лічылкі, самі не даючы пераліку, патрабуюць яго ў адказе на пытанне. У лічылцы пра зламанае кола, напрыклад, у канцы пытанне: «Колькі трэба гваздзей, гавары хутчэй».

Такія песенькі, заснаваныя на лічбах, даследчыкі адносяць да ранніх узораў песеннай творчасці. Англійскія даследчыкі, прааналізаваўшы багацейшы матэрыял творчасці розных народаў, прыйшлі да вываду, што якраз гэтыя песні адлюстравалі тыя ступені, якія прайшло чалавецтва перш чым навучылася лічыць.

Аб даўнасці лічылак сведчаць факты іншасказанняў у пералічэнні, што звязана з забабоннасцю нашых продкаў, якія верылі, што прамы пералік можа пашкодзіць справе, і таму прыдумвалі розныя формы, каб неяк завуаляваць сапраўдны сэнс і мэту пераліку [37]. Частае ўпамінанне ў лічылках князя, цара і г. д., захаванне ў канцоўках слова «крэст», што азначала завяршэнне справы, таксама пацвярджаюць меркаванне аб старадаўнім паходжанні гэтага віду фальклорнай творчасці.

З цягам часу лічылкі страцілі сваю першапачатковую аснову, ператварыліся ў звычайную гульню і цалкам перайшлі ў дзіцячы рэпертуар.

У гульні лічылка мае сілу закона, яна прадухіляе магчымасць свавольства або злоўжывання сілаю, становішчам. Якога б зместу ні былі лічылкі, яны вельмі часта заканчваюцца ўказаннем на таго, хто або выбывае з гульні, або становіцца вядучым. Гэта ўказанне вар'іруецца:

Радзівон, выйдзі вон!

Або:

Нам капеечка не нада,
А табе жмурыцца нада.

---

[37] Русское народное поэтическое творчество, стар. 355.

Прызначэнне, функцыя лічылкі абумоўлівае асаблівасці яе зместу, кампазіцыі. Гэта або невялікі закончаны сюжэт («Ішоў жаўнер із бальніцы»), або толькі намёк на нейкае здарэнне — і нечаканая канцоўка:

Апанас, Апанас!
Твая жонка ў нас
Увалілась у квас —
Лаві сем год нас!

У якасці лічылак ужываюцца і звычайныя кароценькія песенькі. У такім выпадку вядучым становіцца той, на каго пападзе апошняе слова песні.

Многія лічылкі пакідаюць ураженне выпадковага спалучэння слоў, яны не маюць зразумелага для нас сэнсу. Тлумачыцца гэта рознымі прычынамі. Адны з лічылак маглі перайсці з фальклору іншага народа ў сваім першапачатковым выглядзе і таму без перакладу трацяць сэнс; у некаторых скажэнне тлумачыцца іх працяглым бытаваннем: тое, што было зразумела ў час узнікнення, зараз свой сэнс згубіла.

Нарэшце, сама спецыфіка лічылак у сучасных умовах апраўдвае іх уяўную бяссэнсавасць. Зараз гэта толькі дзіцячая сфера фальклору, а дзеці здольны ўсё ператвараць у гульню. К. Чукоўскі неаднаразова падкрэсліваў імкненне маленькіх захапляцца, як і гульнёю, незвычайнымі гукавымі спалучэннямі. «Нават калі дзіця становіцца старэйшым, у яго часта ўзнікае патрэба пазабаўляцца і паіграць словамі, таму што яно не адразу прывыкае да таго, што словы выконваюць толькі дзелавую, камунікатыўную функцыю» [38]. Характэрна, што часам лічылкі ўжываюцца самастойна, не папярэднічаючы гульні, як забава, якая захапляе дзяцей зместам і вымаўленнем.

Лічылкі — від народнай творчасці, які пастаянна развіваецца. У значнай меры яны папаўняюцца творчасцю саміх дзяцей. Вядомы лічылкі кніжныя, якія перайшлі ў карыстанне дзяцей з шырока вядомых вершаў і песень. Лічылкі падуладны ўплыву новага часу. Тэматычныя межы іх пашырыліся, уключыўшы гарадскія матывы, узбагацілася іх лексіка, звязаная з тэхнізацыяй, з новымі з'явамі і падзеямі.

Вялікае месца ў жыцці дзіцяці займаюць уласна гульні. Гэта асноўная форма іх дзейнасці, змест жыцця. Без гульні не мысліцца дзяцінства. Пытаннямі паняцця дзіцячай гульні, яе паходжання займаліся многія даследчыкі дзіцячай псіхалогіі. Нямецкі вучоны К. Грос у працы «Душэўнае жыццё дзіцяці» развівае тэорыю дзіцячай гульні. Ён супастаўляе месца гульні ў жыцці дарослых і дзяцей: «Між тым як у нас, дарослых, гульня ўяўляе сабою толькі пабочную з'яву, якая адступае на задні план перад сур'ёзнай жыццёвай барацьбой, у дзіцяці яна складае галоўны змест яго жыцця. Дзі-

---

[38] К. И. Чуковский. От двух до пяти, стар. 267—268.

цячае існаванне пераважна складаецца з дзейснай гульні, пакуль у яго не ўрываецца насільнае выхаванне» [39]. Даследчык развівае сваю тэорыю паходжання дзіцячай гульні. Гэта «тэорыя практыкавання, або самавыхавання». Часткова пагаджаючыся са Спенсерам, што перайманне з'яўляецца адным з крытэрыяў дзіцячай гульні, Грос глядзіць на гульню як на сродак падрыхтоўкі дзіцяці да далейшага жыцця. Але не ўсе гульні могуць быць растлумачаны пры дапамозе тэорыі практыкавання. Гэта вымушае даследчыка згаджацца і з тэорыяй адпачынку (гульня чаргуецца з працай, і ў гэтым палёгка, адпачынак для арганізма), асабліва ў дачыненні да гульні дзяцей школьнага ўзросту.

Шырокае тлумачэнне паняцця дзіцячай гульні, яе развіцця дае Е. Пакроўскі. Яго тэорыя даволі цікавая і заключаецца ў наступным. Першыя праяўленні гульні назіраюцца ў зусім маленькіх дзяцей. Да такіх праяўленняў Пакроўскі адносіць «праблескі мазгавой дзейнасці з выражэннем у той жа час задавальнення, першыя няўмелыя рухі яго (дзіцяці.—*Г. Б.*) з выражэннем радасці» [40]. Калі рухі дзіцяці становяцца больш асэнсаванымі, калі яно пачынае карыстацца для гульні рознымі прадметамі, гэта наступны этап у развіцці гульні. У гэтым сэнсе гульня ёсць сродак зносін дзіцяці з навакольным светам.

Навучыўшыся каардынаваць свае рухі і карыстацца рознымі прадметамі, дзіця спрабуе ў гульнях пераймаць тое, што робяць іншыя. Потым, калі ўзнікае імкненне да эксперымента і аналізу у самай прымітыўнай іх форме, дзейнасць дзіцяці, яго гульня набываюць форму шматразовага паўтарэння нейкіх рухаў (пераліванне вадкасці, гульня з пяском, кіданне каменьчыкаў у ваду). Гэта раскрывае перад ім прычыны і сувязь тых з'яў, якія яму ўдалося заўважыць.

Ад аналізу дзіця пераходзіць да творчасці. Нават у такой, здавалася б, прымітыўнай гульні, як скаканне на палачцы, мы знаходзім шмат фантазіі, гэта сапраўдны акт творчасці. Для ўдзельніка гульні палачка — гэта конь, дзіця ўяўляе сябе незвычайным ездаком, месца, дзе яно скача,—неабсяжнымі прасторамі і г. д.

Можна згаджацца або не згаджацца з усёй перадгісторыяй гульні, якую дае Пакроўскі. Але вывад яго аб тым, што гульня — гэта творчасць, з'яўляецца безумоўна слушным. «Кожная гульня мае свае асаблівасці і правілы,— піша ён,— якім дзеці звычайна стараюцца падпарадкоўвацца, але... няма ні адной гульні такой, у якой бы дзеці не фантазіравалі па-свойму і пры гэтым кожны згодна са сваімі душэўнымі якасцямі» [41].

---

[39] К. Гросс. Душевная жизнь ребенка. Киев, 1916, стар. 67.
[40] Е. А. Покровский. Детские игры, преимущественно русские, стар. 2.
[41] Е. А. Покровский. Детские игры, преимущественно русские, стар. 4.

Дзіцячыя гульні, іх паходжанне нельга разглядаць у адрыве ад творчай дзейнасці дарослых. Даўно было зазначана, што дзіцячая этнаграфія ёсць адлюстраванне этнаграфіі дарослых. Перафразіраваўшы, гэта можна сказаць і пра гульні дзяцей. Наогул гульня, яе паходжанне самым цесным чынам звязаны з працоўнай дзейнасцю чалавека.

Г. В. Пляханаў у «Пісьмах без адраса» падрабязна аналізуе пытанне аб паходжанні гульні і падкрэслівае думку аб абумоўленасці гульні працаю [42]. Гульня вызначаецца характарам сур'ёзнага занятку чалавека, з'яўляючыся сама па сабе штучным практыкаваннем сілы. «Няма ні адной формы гульні, якая не мела б свайго ўзору ў тым ці іншым выглядзе сур'ёзнага занятку, які, як гэта само сабою зразумела, папярэднічае ёй у часе. Таму што жыццёвая неабходнасць прымушае да працы, а ў працы чалавек мала-памалу навучаецца глядзець на прымяненне ў справу сваёй сілы, як на здавальненне» [43]. Гульня, як сцвярджае Пляханаў, параджаецца імкненнем зноў адчуць здавальненне пры прымяненні сілы. Гульні ж дзяцей — няньчанне лялек, гульня ў госці і г. д.— з'яўляюцца «тэатральнымі прадстаўленнямі дзейнасці дарослых» [44].

Пляханаў крытычна падыходзіць да тэорыі гульні К. Гроса, якая дае падставу для няправільнага супастаўлення гульні і працы. З пункту погляду грамадства утылітарная дзейнасць заўсёды папярэднічае гульні, і сама гульня, якая па тэорыі Гроса з'яўляецца падрыхтоўкай маладых індывідуумаў да будучай жыццёвай дзейнасці, магла ўзнікнуць у выніку патрэб жыцця. Гульня і ўзнікае ў адказ на патрэбы грамадства ў падрыхтоўцы падрастаючых пакаленняў да жыцця ў грамадстве. Гэтым тлумачацца спецыфічныя рысы гульняў розных народаў і тое, што яны найбольш уласцівы асяроддзю дзяцей і моладзі. Гульні розных народаў пры агульнасці многіх рыс маюць спецыфічныя адрозненні, выкліканыя ўмовамі жыцця і працы. Беларускія гульні, як наогул гульні ўсходніх славян, цесна звязаны з земляробчай дзейнасцю чалавека, з бытам і жыццём сялянства, з навакольнай прыродай. Аб гэтым сведчаць самі іх назвы: «Каршун», «Ваўкі і авечкі», «Воўк і гусі», карагод «Заінька» і інш. Многія гульні заснаваны на пераймäнні рухаў, дзеянняў пры пэўных сельскагаспадарчых работах: «Проса», «Мак» і інш. Некалі яны мелі магічныя, культавыя функцыі, якія з цягам часу страчваліся, у выніку чаго менш трывалай стала сувязь паміж гульнямі і карагодамі і паэтычнымі тэкстамі, якія іх суправаджалі. Адбываўся адрыў прыгавораў ад гульні і перанясенне іх у іншыя гульні.

Вялікую цяжкасць уяўляе сабой класіфікацыя дзіцячых гульняў. Кожны іх збіральнік і даследчык выпрацоўвае ўласную сістэму ў залежнасці ад

---

[42] Г. В. Плеханов. Письма без адреса. М., 1956, стар. 67.
[43] Там жа, стар. 68.
[44] Там жа.

тых мэт, якія ён ставіць пры вывучэнні або публікацыі гэтага вельмі цікавага і важнага віду дзіцячай творчай дзейнасці. І сапраўды, які б прынцып класіфікацыі гульняў мы ні абралі, строгае размеркаванне іх па асобных групах правесці вельмі цяжка.

Характар гульняў мяняецца перш за ўсё ў залежнасці ад узросту дзяцей. Самыя маленькія дзеці, якія яшчэ не могуць выяўляць сваіх магчымасцей самастойна, прымаюць удзел у гульні пасіўна, г. зн. яны на першых парах сузіральнікі, успрымальнікі таго, што прапануюць ім дарослыя, або выканаўцы па прымусу. Прасцейшыя такія гульні — забаўлянкі тыпу «Ладушак», «Сарокі-вароны», «Казы рагатай» і інш. Набыццё самастойнасці ў дзеяннях вызначае наступны этап у гульні, калі дзеці пачынаюць самі, без дапамогі і кіраўніцтва старэйшых арганізоўваць свой час. Многія гульні гэтага перыяду носяць пераймальны характар, калі ўдзельнікі гульні робяць тое самае, што вядучы; другія ўяўляюць сабой складанае з'явішча, калі кожны ўдзельнік выконвае пэўную ролю і кожны этап гульні суправаджаецца адпавядаючымі яму прыгаворамі, слоўнымі формуламі. Такія гульні Капіца лічыць вышэйшай ступенню гульні і бачыць у іх зачаткі драмы [45].

Узрост уплывае не толькі на форму гульні, але і на яе складанасць.

У залежнасці ад колькасці ўдзельнікаў усе гульні можна падзяліць на дзве групы: гульні аднаго дзіцяці і калектыўныя [46]. Гульні, у якіх прымае ўдзел адно дзіця, у большасці маюць характар імправізацыі, яны патрабуюць наяўнасці якіх-небудзь прадметаў, у першую чаргу цацкі, і часцей за ўсё з'яўляюцца пераймannем жыццёвых малюнкаў (напрыклад, гульні з лялькамі, гульні ў доктара, шафёра і г. д.).

У калектыўных гульнях удзельнікі могуць абыходзіцца без дадатковых прадметаў, дастаткова наяўнасці ў якасці аб'екта гульні другога чалавека. Момант імправізацыі тут абмежаваны пэўнымі рамкамі. Кожная гульня мае свае правілы, і толькі ў іх рамках дапускаюцца невялікія адхіленні.

Гульні можна падзяліць на групы ў залежнасці ад іх зместу і формы, а таксама тых мэт, задач, якія яны выконваюць.

У свой час Е. Р. Раманаў звяртаў увагу на цяжкасці, якія сустракаюць кожнага, хто займаецца класіфікацыяй гульняў, і тлумачыў гэта становішча тым, што большасць гульняў вельмі складаная, і таму яны могуць разглядацца з розных бакоў. «Калі ж выбраць які-небудзь пэўны тэрмін,— зазначаў ён,— напрыклад, месца, дзе адбываецца гульня, або час, калі яна адбываецца, прадмет, якім карыстаюцца пры гульні, тады нельга па-

[45] О. И. Капица. Детский фольклор, стар. 32—33, 135.
[46] Там жа, стар. 133.

збегнуць паўтарэнняў, таму што адны і тыя ж гульні могуць адбывацца і ў розных месцах, і ў розны час, як і ў розных гульнях могуць ужывацца адны і тыя ж прадметы»[47].

Падрабязную класіфікацыю гульняў дае Е. Пакроўскі ў сваёй працы «Дзіцячыя гульні, пераважна рускія». Даследчык пры гэтым больш за ўсё кіруецца асаблівасцямі гульняў як сродку фізічнага выхавання. Праўда, ён асобна выдзяляе гульні сімвалічныя, якія лічыць у большай ступені, чым іншыя, творчымі. Гэта гульні ў звяроў, салдацікаў, разбойнікаў і г. д. Пра такія гульні даследчык піша, што яны ўяўляюць сабой як бы тэатральныя прадстаўленні, у якіх адлюстроўваюцца факты з дзіцячых назіранняў жыцця. У такіх гульнях ёсць рысы і драматызму, і камізму[48].

В. Капіца пры разглядзе гульняў асноўную ўвагу надае наяўнасці ў іх пэўных славесных формул, што робіць гульні сапраўды драматызаванымі дзействамі. З такога пункту погляду яна разглядае, услед за Г. Вінаградавым, гульні фармальныя, г. зн. традыцыйныя, якія вылiліся ў пэўныя формы, звязаныя большай часткай са слоўнымі формуламі, прыгаворамі і песнямі. Сюды ж адносяцца і карагодныя гульні. Другая група — гэта гульні-імправізацыі. Яны таксама могуць суправаджацца выкрыкамі[49], але не ў такой ступені звязаны строгімі правіламі.

Як бачым, з поля зроку выпадаюць гульні (а іх нямала), якія ў большай ступені з'яўляюцца фізічнымі, з пэўнымі традыцыйнымі нормамі, але без слоўнага афармлення. Е. Раманаў прапанаваў вылучыць два вялікія раздзелы гульняў: 1) гульні, якія развіваюць у дзецях назіральнасць, кемлівасць, удумлівасць, вынаходлівасць, вытрыманасць, пачуццё справядлівасці і г. д. (іх ён называе інтэлектуальнымі); 2) гульні фізічныя, якія развіваюць сілу, спрытнасць, зрок, слых і г. д. На жаль, пры размеркаванні сабранага матэрыялу даследчык не прытрымліваецца такой сістэмы, і зараз цяжка вызначыць, якія іменна ўзоры ён адносіў да кожнай групы. Слушная і прымальная ў сваёй аснове класіфікацыя Раманава мае недакладнасці ў дэталізацыі выхаваўчых задач гульняў: гульні фізічныя не ў меншай ступені развіваюць назіральнасць, вытрымку, пачуццё справядлівасці.

Згаджаючыся ў асноўным з класіфікацыяй Раманава, мы прапануем дзіцячыя беларускія гульні падзяліць на два разрады: гульні як мастацка-драматычнае дзеянне і гульні як сродак фізічнага выхавання. У першую групу ўключаюцца ўсе гульні, якія тым ці іншым чынам звязаны з пэўнымі прыгаворамі.

---

[47] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. VIII, стар. 553.
[48] Е. А. Покровский. Детские игры, преимущественно русские, стар. 5.
[49] О. И. Капица. Детский фольклор, стар. 135.

У сваю чаргу сярод гульняў першай групы можна вылучыць асобныя падраздзелы.

Гэта, па-першае, карагодныя гульні, г. зн. такія, дзе мы бачым спалучэнне не толькі са словамі, але і з мелодыяй, танцам. Па-другое, гульні са строгім размеркаваннем роляў кожнага ўдзельніка і адпаведнымі ім слоўнымі прыгаворамі. Да іх можна аднесці шматлікія варыянты гульні ў ваўка і авечак, у каршуна, ваўка і гусей і інш. Па-трэцяе, гульні, у якіх слоўныя формулы з'яўляюцца сігналам для нейкага дзеяння (пачатку або завяршэння яго) і замацоўваюцца за пэўнымі гульнямі: «Залатыя варата», «Гарэлыш» і інш. І нарэшце, гульні, дзе слоўныя прыгаворы маюць характар імправізацыі (у іх слоўныя прыгаворы не абавязковае правіла, а толькі жаданне або здольнасць удзельніка гульні). Напрыклад, гульня ў кошкі-мышкі можа абыходзіцца без выкрыкаў.

Такі падзел, як і іншыя, вельмі ўмоўны, але ён дазваляе вылучыць у гульні яе цесныя сувязі з паэтычнай творчасцю.

Нельга адмовіць у моўным суправаджэнні і фізічным гульням. Калі не ўсе яны патрабуюць суправаджэння стаўшых традыцыйнымі формул, то ўсё роўна не абыходзяцца без такіх этапаў, як падзел на партыі пры дапамозе лічэння або выбар вядучых, прысуджэнне штрафу за парушэнне правіл і г. д.

Фізічныя гульні таксама вельмі разнародныя. Класіфікацыю іх і падрабязнае апісанне дае Е. Пакроўскі ў сваёй фундаментальнай працы «Дзіцячыя гульні, пераважна рускія».

Таму што ў большасці сваёй дзіцячыя гульні запазычаны ў дарослых, у іх, як слушна заўважае У. Анікін, мы знаходзім і водгукі старадаўніх абрадаў, і перажыткі быту нашых продкаў. У наш час гульні ўсё больш трацяць сувязь з абрадамі і ператвараюцца ў забаву. Роля іх у выхаванні пэўных навыкаў змяншаецца. Яны страчваюць непасрэдныя сувязі з гаспадарчай дзейнасцю чалавека. Папулярныя яшчэ ў мінулым стагоддзі (што мы бачым у запісах фалькларыстаў і этнографаў) гульні і карагоды тыпу «Мак», «Проса» і іншыя саступаюць сваё месца новым узорам. Намячаецца тэндэнцыя да страты моўнага традыцыйнага афармлення. Падставу для такой высновы даюць экспедыцыйныя запісы апошніх год, а таксама назіранні збіральнікаў у недалёкім мінулым.

С. П. Сахараў у рукапісным дадатку да працы «Народная творчасць Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў» прыводзіць цікавыя звесткі аб разбурэнні карагоду, узбагачэнні яго іграванымі момантамі. Запісаны ў 40-х гадах XX ст. карагод «Гусі» па сутнасці ператварыўся ў гульню, падобную да гульні ў «Кошку і мышку», дзе карагодная песня з'яўляецца толькі своеасаблівым уступам.

У трансфармацыі гульняў, відаць, не апошнюю ролю адыгрывае сучасная сістэма выхавання ў дзіцячых садах, школах з дыферэнцыяцыяй паміж эстэтычным і фізічным выхаваннем.

* * *

У кнігу ўвайшлі запісы фалькларыстаў, аматараў-збіральнікаў з шматлікіх зборнікаў і прац, а таксама з рукапісных архіваў. Пры складанні тома ставіліся дзве задачы: паказаць лепшыя ўзоры дзіцячага фальклору і даць чытачу найбольш поўнае ўяўленне аб багацці і разнастайнасці дзіцячага фальклору. Гэтыя задачы часам супярэчаць адна другой. І калі сярод узораў народнага мастацтва для дзяцей у томе сустракаюцца прыклады, слабейшыя ў мастацкіх адносінах, а таксама творы, пераход якіх у дзіцячае асяроддзе поўнасцю не завершан, гэта тлумачыцца імкненнем даць шырокі малюнак жыцця народа, бо ўсе гэтыя творы ў сваёй сукупнасці характарызуюць быт народа, яго свядомасць, погляды, ідэалы.

Пры размеркаванні матэрыялу ў томе ўлічваліся па магчымасці яго функцыянальная роля, у некаторай ступені паслядоўнасць засваення тым асяроддзем, на якое разлічаны дзіцячы фальклор. Прынцып падзелу на гульнёвы і негульнёвы фальклор некалькі парушаецца. Пачынаецца том з калыханак, за імі ідуць забаўлянкі, іншыя ж жанры гульнёвага фальклору — лічылкі і самі гульні — адносяцца ў канец тома. Гульні, дзе пераважае апісальны матэрыял, складаюць як бы самастойную частку тома і завяршаюць яго. Такім чынам, пры прынятай класіфікацыі захоўваецца пэўная этапнасць успрыняцця твораў дзіцячага фальклору, якая ідзе ад простага да больш складанага. Лічылкі, з'яўляючыся дапаможным да розных гульняў прыдаткам, непасрэдна ім папярэднічаюць у томе. Перарываюць так званы гульнёвы фальклор не звязаныя з гульнямі песні, заклічкі, дражнілкі.

Том дзіцячага фальклору не толькі раскрывае багацце і разнастайнасць народнай творчасці. Ён акажа паслугу ў практычнай педагагічнай рабоце ўсім, хто займаецца выхаваннем падрастаючага пакалення.

*Г. Барташэвіч*

3. Зак. 18

# ДЗІЦЯЧАЯ ПЕСНЯ

У старажытным і заўсёды сучасным летапісу народнага мастацтва адной з яскравых і захапляючых старонак з'яўляецца дзіцячая песня. У ёй сканцэнтраваны найбольш аптымістычныя эмоцыі народнага мастацтва, і ў першую чаргу эмоцыі, звязаныя з пачуццём таварыскасці. Дзеці наогул самы «інтэрнацыянальны народ» у свеце, які лёгка пераадольвае расавыя, сацыяльныя, эканамічныя і нават моўныя бар'еры. Гэтаму шмат у чым спрыяе тая акалічнасць, што своеасаблівай ідэйнай платформай, на якой адбываецца збліжэнне паміж дзецьмі, з'яўляецца гульня ў самым шырокім сэнсе гэтага слова, уключаючы сюды ўсе жанры дзіцячай творчасці з яе паэтычнымі, музычнымі, мімічнымі сродкамі выяўлення пачуццяў. Іменна ў гэтай творчасці сканцэнтраваны ў найбольш чыстым выглядзе першапачатковыя элементы дзіцячага яднання.

Спалучэнне мастацкага і пазнавальнага значэння дзіцячай песнятворчасці настолькі арганічнае, што вельмі цяжка аддзяліць адно ад другога. Веды тут ідуць на самай даступнай для дзяцей хвалі — эмацыянальнай. Паступова, нібы кропля за кропляй, убіраюцца і замацоўваюцца праз песню, як і праз іншыя жанры дзіцячай творчасці, фанетычныя, лексічныя і марфалагічныя асаблівасці паэтычнай мовы, а далей — увесь круг вобразнасці, канкрэтныя сродкі мастацкага ўвасаблення тых або іншых адценняў пачуццяў і думак, што прыводзіць урэшце рэшт да ўсведамлення нацыянальнай самабытнасці мастацтва.

У адносінах музыкі засваенне нацыянальных традыцый датычыць усведамлення своеасаблівасці меладычнага, рытмічнага і ладавага складу народнай песні, яе спецыфічнага інтанацыйнага каларыту. Паступовае накапленне скарбаў народнай культуры падрыхтоўвае глебу для з'яўлення цэлага комплексу новых уяўленняў і ўражанняў у працэсе фарміравання псіхікі дзіцяці. Міне час, і ў яго свет прыйдзе творчасць, якая ахоплівае амаль усе галіны чалавечай дзейнасці — бытавой, працоўнай, сацыяльнай: песні, якія расказваюць пра далёкія часы і адклікаюцца на з'явы сучаснасці; напевы, поўныя лірычнай прыўзнятасці, і песні, якія зіхацяць запалам і шырокай багатырскай адвагай... Але пакуль што гэта даволі абмежаваныя сродкі мастацкага ўвасаблення эмоцый і вобразаў рэчаіснасці, своеасаблівая «калыска» народнага мастацтва.

Вучоныя ўжо не раз імкнуліся ў дзяцінстве чалавека ўбачыць дзяцінства чалавецтва. Меліся пры гэтым на ўвазе і пытанні генезісу музыкі, тыя першапачатковыя заканамернасці музычнага інтанавання, якія садзейнічалі станаўленню непаўторнага па сваіх сродках выразнасці і эмацыянальнаму зместу мастацтва.

Уражанню своеасаблівай «першаснасці» дзіцячага музычнага рэпертуару садзейнічае не толькі адпаведны ўзровень вобразных уяўленняў і музычных навыкаў, абмежаваны натуральнымі ўзроставымі магчымасцямі. Даныя параўнальнага музыказнаўства паказваюць, што сапраўды ў дзіцячай песнятворчасці больш поўна, чым у якім-небудзь іншым жанры народнай музыкі, захоўваюцца старажытныя рысы меладычнага мыслення чалавека, найбольш простыя (для той далёкай эпохі — натуральныя і зручныя) артыкуляцыйна-акустычныя навыкі. Як многія з'явы ў жыцці дакласавага грамадства знайшлі сваё асвятленне ў фальклорных крыніцах, так і некаторыя характэрныя якасці ранняга этапу фарміравання музыкі могуць быць суаднесены з дзіцячай творчасцю.

Зразумела, сучасныя дзеці наўрад ці пачынаюць з тых «азоў», з якіх пачыналі іх далёкія продкі. Агульнакультурны і эстэтычны вопыт, накоплены многімі пакаленнямі, у значнай меры пераўтварыў дзіцячую творчасць, але не зняў з яе поўнасцю прыкмет параўнальнай элементарнасці.

У свой час многія песні сучаснага дзіцячага рэпертуару былі састаўной часткай рэпертуару «дарослага», але затым, са зменай ідэалагічных асноў мастацтва, згубілі сваё сапраўднае значэнне і былі «перададзены дзецям на пацеху». Такім чынам нейкі раздзел дзіцячага песеннага фальклору з'явіўся своеасаблівым «архівам спраў» даўно мінулых часоў. Аднак ролю гэтага раздзела дзіцячага рэпертуару іншы раз некалькі перабольшваюць, забываючыся на тое, што ўласнае, спантаннае развіццё дзіцячай творчасці цалкам здолела стварыць свой абрадава-гульнёвы рэпертуар. Больш таго, не выключана магчымасць, што ў свой час найбольш удалыя знаходкі з дзіцячага рэпертуару маглі запазычвацца асноўнымі цыкламі народнапесеннага мастацтва.

Пры адборы інтанацыйнага матэрыялу ў дзіцячай песнятворчасці ў першую чаргу маецца на ўвазе яго лёгкая засваяльнасць. Тут мы маем справу як бы з першапачатковым слоўнікам музычнага мастацтва. У ім пераважаюць простыя, ясныя і лёгка расчляняльныя меладычныя пабудовы і абароты. Як і ў іншых відах дзіцячай творчасці, напрыклад у малюнку, знешні аб'ект выяўлення тут некалькі схематызаваны, хоць асноўныя яго якасці выразныя і шматзначныя.

Разам з тым музычны «аб'ект» мае свае спецыфічныя асаблівасці. Справа ў тым, што дзіця капіруе, як правіла, ужо больш ці менш асацыіраваны музычны вобраз. Таму ў музыцы, як ні ў якім іншым мастацтве, важная

роля належыць навакольнаму творчаму (у даным выпадку «гучальнаму») асяроддзю.

І трэба сказаць, што дзеці вельмі актыўна адклікаюцца на дзейнасць гэтага асяроддзя. Амаль уся дзіцячая творчасць меладызавана. Усе жанры дзіцячага фальклору, за выключэннем лічылак, або цалкам песенныя, або ўключаюць песенныя эпізоды. Так, у казку раптам уключаецца песенны прыгавор ці элемент заклінання, які становіцца меладэкламацыйным эпізодам і вельмі ажыўляе агульную тканіну апавядання. Тыповай у гэтых адносінах з'яўляецца распаўсюджаная ў беларусаў казка «Пра сынка Ліпнічка і ведзьму» з некалькімі паўтарэннямі наступнага песеннага прыгавору:




Асаблівым поспехам карыстаюцца ў дзяцей «музычныя нумары» з вядомых казак «Воўк і сямёра казлянят», «Кот, ліса і пеўнік» і інш. Сярод беларускіх казак ёсць узоры, якія па сваёй структуры ўвогуле нагадваюць песню [1].

Падобныя меладызаваныя ўстаўкі нярэдка сустракаюцца і ў дзіцячых гульнях. Выконваюцца яны калектыўна або імправізуюцца індывідуальна. Дзеці наогул вельмі ахвотна займаюцца меладычным вынаходніцтвам, часам проста, каб падаць голас. Складаюцца розныя тэкставыя экспромты, якія напяваюцца на любы знаёмы нягітры матыў. Калі няма слоў, можна цягнуць на якое-небудзь «ля-ля-ля» або «тра-та-та». Увогуле «мурлыканне пад нос» характэрна для дзяцей, асабліва калі яны застаюцца ў адзіноце.

У такіх імправізацыях, нават калі ў іх адсутнічае тэкставая змястоўнасць, заключан важны сэнс: у выканаўцы паступова выпрацоўваецца па-

---

[1] Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі. Мінск, 1971, № 112 («Вяселле вераб'я»), № 113 («Чыкел і сініца»), № 114 («Шлюб вераб'я») і інш.

чуццё найбольш натуральных і тыповых мелодыка-складавых суадносін, замацоўваюцца ў памяці найбольш распаўсюджаныя меладычныя абароты і ладавыя сувязі, выхоўваецца пачуццё рытму. Характэрным прыкладам з'яўляецца наступны запіс, у якім яўна беззмястоўны тэкст выконваецца на мелодыю, даволі асэнсаваную па будове і ў інтанацыйных адносінах [2]:




Лаўка, лаўка,
Акно, акно,
Дзверы, дзверы,
Зямля, зямля і г. д.

Дыяпазон напеву — секста, ужо даволі «трывалы» для такога зместу гукарад. Больш характэрным для падобных імправізацый, а таксама ўвогуле для дзіцячых заклічак, дражнілак і да іх падобных жанраў дзіцячай песнятворчасці з'яўляецца універсальны гукарад — трыхорд у межах кварты:




Гукарад гэты не толькі універсальны, але і сапраўды інтэрнацыянальны. Яго абароты ляжаць у аснове дзіцячай песнятворчасці многіх народаў свету. Асабліва гэта адносіцца да вялікасекундавай і малатэрцовай «ячэйкі», якія ў большасці выпадкаў выкарыстоўваюцца ў самастойным ладавым значэнні.

У вялікасекундавай ячэйцы вытрыман напеў сапраўды «класічных» прыпевак — «Ладушкі», «Сарока-варона», «Гары, гары ясна» і мноства іншых. На гэтым ладзе заснаван амаль увесь рэпертуар дражнілак і заклі-

---

[2] M. Federowski. Lud białoruski, т. V. Warszawa, 1958, № 1483.

чак. Некалькі менш распаўсюджаны лад на аснове малатэрцовага інтэрвалу.

Даволі часта сустракаюцца ў дзіцячых мелодыях папеўкі ў межах маласекундавай ячэйкі. Агульны характар структурнага іх афармлення такі ж, як і ў папеўках вялікасекундавых. Асабліва цікава, што адны і тыя ж песні могуць выконвацца то ў маласекундавай, то ў вялікасекундавай папеўцы і прытым часта ў залежнасці ад настрою дзіцяці-спевака.

Тут вельмі дарэчы правесці аналогію з выкананнем старажытных традыцыйных жніўных песень, дзе адна і тая ж песня ў залежнасці ад настрою выканаўцы можа выконвацца то ў мажоры, то ў міноры.

Відавочна і ў вышэйназванай зменнасці ладу намячаецца нешта падобнае да мажорна-мінорных суадносін. Ва ўсякім разе, калі выкананне ў вялікасекундавай ячэйцы ўспрымаецца як своеасаблівы эпічны стыль (тут спяваюць адкрыта, моцна, з поўнай аддачай пачуццяў), то маласекундавая ячэйка асацыіруе хутчэй з лірычнай сферай песнятворчасці (тут пераважае тое індывідуальнае спяванне «пад нос», аб якім гаварылася вышэй).

Дастаткова выразна інтануецца дзецьмі кварта. Значэнне яе часцей за ўсё ярка функцыянальнае: кварта-заклік, кварта-выгук, кварта-сцвярджэнне і г. д. Трэба сказаць, што дзіцячая песнятворчасць увогуле цягнецца да функцыянальнай пэўнасці. Яна яшчэ мала карыстаецца элементамі адценневага або далёка асацыіраванага характару. Эмоцыі ў гэтай творчасці простыя, канкрэтныя, адкрытыя і часцей за ўсё звязаны з практычнай дзейнасцю дзіцяці (а ў калыханках — з дзейнасцю, накіраванай на яго).

Дынамічнасць і агульная аптымістычнасць характару вызначаюць важнейшыя якасці дзіцячай песнятворчасці — маторыку, роўнасць метрарытму. Гэта творчасць выключна рытмічная ва ўсіх дэталях, таму што ў асноўным вызначаецца сінкрэтычным характарам: словы, музыка і рух зліты ў адзінае цэлае. Магчыма няма дастатковых падстаў, каб гаварыць пра захаванне элементаў першабытнага сінкрэтызму, але своеасаблівае пераўтварэнне гэтага сінкрэтызму відавочнае.

Сувязь мелодыі з рухам у дзіцячай творчасці не заўсёды практычна абумоўлена, г. зн. не заўсёды звязана з гульнёй, танцам, працай. Што і калі ні спявала б дзіця, у яго выкананні пастаянна адчуваецца актыўная пульсацыя рытму, якая часта праяўляецца ў прытупванні, жэстыкуляцыі, мімiцы, перабольшанай акцэнтыроўцы моцных доляў; часам гэты ўнутрана арганізаваны дынамічны паток меладычнага матэрыялу ўжо ў сваёй структуры нясе асацыяцыі з рухам.

Метрарытміка дзіцячых песень параўнальна простая. Гэта пераважна двухдольныя метры з яснай акцэнтыроўкай і, як правіла, харэічнымі рытмаматывамі. Апошняя акалічнасць у дачыненні да дзіцячай песнятворчасці

мае прынцыповы характар. Беларускае народнае вершаскладанне таксама мае пераважна харэічную метрыку. Але часта ў «дарослай» песні харэічнасць тэксту злучаецца з ямбічнасцю меладычных матываў, у выніку чаго нараджаецца тое пераліўчатае прасадычнае нюансаванне, якое так узбагачае народную песню, робіць яе рытміку пластычнай і здольнай адклікацца на ледзь прыкметныя адценні пачуццяў. Дзіцячая песнятворчасць у гэтых адносінах больш прасталінейная, яна ўсяляк падкрэслівае выразнасць і заканамернасць моўных акцэнтаў.

Цяжка выявіць у дзіцячай песні і паслядоўную змену метраў, а таксама рытмічных фігур. І ў гэтым выяўляецца яшчэ адзін важнейшы прынцып арганізацыі меладычнага матэрыялу ў дзіцячай песні — прынцып паўторнасці.

Паўторнасць — важнейшая якасць заклікаў, заклінанняў, сцвярджэнняў, перакананняў. А дзіцячае мастацтва наскрозь прасякнута імператыўнымі эмоцыямі. Лічылкі, дражнілкі, заклічкі, калыханкі — усе яны нешта настойліва сцвярджаюць і ўсе яны насычаны паўторнымі меладычнымі інтанацыямі.

Дзіцячыя вершы, асабліва кароткія (дражнілкі, прыгаворы), маюць, як правіла, сумежную рыфму. Суадносна з гэтым і кадэнцыі ўнутры музычнай структуры маюць аднатыпны характар. Завяршаючы гук — звычайна тоніка, якая, дарэчы, абыгрываецца даволі старанна.

Ва ўласна дзіцячай песнятворчасці пераважаюць лады мажорнага нахілення, калі лічыць своеасаблівым мажорам і вялікасекундавую ладавую ячэйку. У калыханках больш распаўсюджаны мінорныя лады. Апошняе зусім ясна, таму што мінор у параўнанні з мажорам мае больш ураўнаважаны, пяшчотны каларыт, і гэта яго якасць відавочна не абыякавая ў практычна-функцыянальных адносінах для калыханак. Трэба таксама падкрэсліць, што калыханкі ў сваім тэкставым змесце звычайна адлюстроўваюць свет пачуццяў маці, пачуццяў, якія ў старой вёсцы не заўсёды былі аптымістычнымі.

Мелодыка дзіцячых песень багатая стабільнымі папеўкамі, у якіх яшчэ параўнальна мала гнуткасці і нечаканых паваротаў. Агульнае рытмічнае і меладычнае развіццё прадвызначана ўжо ў першай меладычнай пабудове.

У развіцці мелодыкі выкарыстана галоўным чынам варыяцыйнасць першага тыпу, г. зн. змяняецца не само меладычнае зерне, а парадак чаргавання некалькіх мелодыка-рытмічных формул. У гэтых адносінах дзіцячая песнятворчасць уяўляе сабой як бы «класіцыстычны» стыль у народнай музыцы з яго выразнымі і больш ці менш стабільнымі канструкцыямі і тэматызмам. Трэба адзначыць, што гэты «класіцызм» не вызначае асаблівых схільнасцей да пераходу ў больш інтанацыйна гнуткі «рамантызм». Функцыянальная дакладнасць і нязменнасць, а таксама тая акалічнасць, што дзіцячая

творчасць — першы ў жыцці чалавека вопыт музычных абагульненняў, не спрыяюць асабліва прыкметнай яго эвалюцыі. Вось чаму гэта творчасць такая ўстойлівая як у гістарычным, так і ў геаграфічным разрэзе.

Разам з тым гэтыя знешне простыя напевы маюць пэўную сілу выразнасці. У іх замацавана азбука народнай творчасці, але азбука, з дапамогай якой дзіця ў далейшым лёгка далучаецца да асноўных скарбаў музычнага мастацтва. Усе сродкі мастацкай выразнасці дакладна выверааны і прадуманы. Тут няма нічога лішняга, таго, што не спатрэбіцца ў далейшым засваенні стылю і спецыфікі канкрэтнага нацыянальнага мастацтва.

Асваенне дзецьмі «дарослага» песеннага рэпертуару пачынаецца даволі рана. На Беларусі нярэдка і зараз можна сустрэць 8—10-гадовых дзяцей, асабліва дзяўчынак, якія ведаюць шмат песень з асноўных каляндарна-абрадавых цыклаў. Вясковыя дзеці асабліва хутка ўцягваюцца ў сферу гаспадарчага жыцця сям'і з усім характэрным для яе колам бытавых і грамадскіх спраў. Ёсць святы, удзел дзяцей у якіх з'яўляецца нават неабходным (напрыклад, каляда). Сустракаюцца песні, якія так і называюцца ў народзе — «дзіцячыя калядныя».

Выконваюцца дзецьмі таксама песні з веснавога і летняга цыклаў. Прычым, натуральна, выбіраюцца песні, «лёгкія на голас». Застаюцца за межамі пераймання такія напевы (напрыклад, жніўныя), «дзе трэба доўга цягнуць». Гэты рэпертуар патроху засвойваюць толькі падлеткі.

Дзеці ўвогуле любілі і зараз любяць спяваць на святы. У мінулым засведчаны выпадкі трывалага замацавання ў дзіцячым асяроддзі так званых «святых песень» (песні перад Новым годам, вялікаднем і г. д.).

Параўнальна нязначнымі з'яўляюцца ў дзіцячым абыходку песні сямейна-абрадавага цыклу (вясельныя, радзінныя), што зусім натуральна, бо іх змест прадугледжвае наяўнасць пэўнага «ўзроставага цэнзу».

Затое песні пазаабрадавыя выконваюцца дзецьмі вельмі ахвотна. Асабліва гэта адносіцца да жартоўных, гумарыстычных песень, розных прыпевак і частушак.

Усе гэтыя песні, нягледзячы на некалькі спецыфічны «дарослы» змест, маюць тыповы для дзіцячых песень інтанацыйны склад з яго паўторамі простых абаротаў, маторную рытміку, элементы скорагаворачнай рэчытацыі і г. д. Праўда, форма гэтых песень больш складаная, яна адлюстроўвае пэўную сцэнічнасць дзеяння. Таму яны, як адзначаюць многія збіральнікі, выконваюцца не дзецьмі, а галоўным чынам дарослымі для дзяцей.

У больш познім, падлеткавым, узросце дзеці паступова далучаюцца да лірычнай песеннай тэматыкі. Пачынаюць засвойвацца выразныя меладычныя сродкі, якія патрабуюць шырокага дыхання, інтэрвальнага нюансавання і, нарэшце, творчай вынаходлівасці. Тут пачынае ярка выяўляцца мастацкая індывідуальнасць выканаўцы.

Адносіны дзяцей да самога працэсу спеваў, як мы ўжо зазначалі, зусім непасрэдныя. Гэтак жа непасрэдна і натуральна адбываецца пераход ад простай мовы да меладызаванай. Некаторыя лічылкі, дражнілкі, заклічкі то дэкламуюцца, то напяваюцца ў залежнасці ад настрою або абставін, прычым да напявання схільныя больш дзяўчынкі. Увасабляючы ў гэтых адносінах як бы «лірычны» пачатак, іх спевы процістаяць «эпічнаму» дэкламаванню, больш уласціваму «мужчынскай палавіне». Відаць, ужо тут намячаецца тая дыферэнцыяцыя ў народным мастацтве, якая ў завершаным сваім выглядзе аддае перавагу ў песнятворчасці беларускай жанчыне.

Вельмі любяць дзеці спяваць хорам. У раннім узросце — гэта унісон. Пазней з'яўляюцца ўмельцы, якія вядуць падгалосак. Двухгалоссе гарманічнага тыпу і тыпу тэрцовага ўтору, якое сустракаецца ў некаторых запісах, малахарактэрнае для беларускай народнай дзіцячай песні і ўяўляе сабой хутчэй за ўсё трансплантацыю іншага стылю або вынік апрацоўкі.

У тыпова дзіцячым рэпертуары розніцы паміж песнямі хлопчыкаў і песнямі дзяўчынак не назіраецца. Пры выкананні «дарослых» традыцыйных песень для хлопчыкаў «сваёй» сферай былі калядкі, для дзяўчынак — вяснянкі.

Дзеці любяць спяваць у асноўным «на волі» — на вуліцы, у лесе, на полі, на рацэ. Спяваюць тады, калі працуюць, напрыклад пасуць статак, і ў вольны час. У гэтых умовах нярэдка можна пачуць і сольнае спяванне, якое дзіця дазваляе сабе таксама дома, калі яно ўпэўнена, што на яго не звяртаюць увагу. Пры гэтым нярэдка імітуецца ігра на якім-небудзь інструменце — скрыпцы, бубне і г. д.

У цяперашні час дзіцячы песенны рэпертуар, як і ўмовы спеваў, прыкметна змяніліся. Тут адбываюцца тыя ж працэсы, што і ва ўсёй народнапесеннай творчасці. Школьная і клубная самадзейнасць, паток новых музычных уражанняў, якія ідуць праз радыё, тэлебачанне і кіно, значна пераакцэнтавалі музычныя інтарэсы дзяцей. Паступова знікаюць з ужывання некаторыя традыцыйныя каляндарныя песні, пашыраецца рэпертуар за кошт савецкіх масавых і эстрадных песень.

Але ж асноўны традыцыйны песенны рэпертуар застаецца важнейшай часткай дзіцячага фальклору. Вельмі ўжо «класічнымі» і каштоўнымі ў выхаваўчых адносінах з'яўляюцца яго меладычныя выразныя сродкі. Рэпертуар гэты служыць асновай для фарміравання сучаснай дзіцячай песнятворчасці. Нездарма ў апошнія гады методыка пачатковай дзіцячай музычнай адукацыі ў аснову кладзе вывучэнне іменна фальклорнага матэрыялу.

* * *

Першыя музычныя запісы беларускага дзіцячага фальклору, як і асноўная большасць наступных, не насілі сістэматычнага характару і выглядалі

звычайна як своеасаблівы каларытны штрых да асноўнага, «дарослага» рэпертуару. Большая частка гэтых запісаў ахоплівала да таго ж калыханкі, г. зн. адносілася па сутнасці да выканаўчай сферы дарослых.

Інфарматарамі ўласна дзіцячай песнятворчасці таксама часцей за ўсё былі дарослыя, якія не заўсёды садзейнічалі аб'ектыўнаму выяўленню спецыфічных рыс дзіцячага выканання.

Асобныя музычныя запісы ўзораў дзіцячай песнятворчасці мы знаходзім ужо ў зборніках XIX ст. (З. Радченко. Песни Гомельского уезда. СПб, 1881; П. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т I, ч. 1. СПб, 1887).

Да пачатку XX ст. адносяцца запісы М. Федароўскага («Lud białoruski», т. V. Варшава, 1958). Тады ж выходзіць «Беларускі зборнік» Е. Раманава (вып. VII. Вільня, 1910), у якім побач з іншымі песнямі публікуецца і некалькі дзіцячых, запісаных беларускім фалькларыстам М. Чуркіным.

Пазней з'яўляецца яшчэ цэлы шэраг музычна-фальклорных зборнікаў, у якіх сустракаюцца дзіцячыя песні і песні для дзяцей. Але і гэтыя запісы носяць у асноўным эпізадычны характар. Ва ўсякім выпадку матэрыял гэты застаўся менш сістэматызаваным да цяперашняга часу, чым які-небудзь іншы жанр беларускай народнай песнятворчасці.

Больш ці менш разгорнуты малюнак дзіцячага песеннага рэпертуару даюць запісы М. Федароўскага (у даным томе іх прыводзіцца 15), а таксама запісы Г. Цітовіча, большая частка якіх захоўваецца ў рукапісах (у томе падаецца 17 песень з запісаў Цітовіча).

Сапраўдным энтузіястам збірання і вывучэння беларускага дзіцячага песеннага фальклору стаў А. Грыневіч. Дзейнасць гэтага даследчыка і прагандыста беларускага народнага музычнага мастацтва ўвогуле яшчэ ў дастатковай меры не ацэнена. Асветніцкі характар работы Грыневіча ў гэтай галіне спалучаўся з дакладнымі і глыбокімі назіраннямі над стылістыкай беларускай народнай песні. Спецыяльны ж зварот да дзіцячага фальклору меў у яго мэтанакіраваны характар: стварыць на аснове яго метадычныя дапаможнікі-хрэстаматыі для пачатковага навучання дзяцей музыцы. Выкарыстанне ў гэтых мэтах нацыянальнага матэрыялу з'явілася безумоўна прагрэсіўным крокам. У агульнаметадычных адносінах гэта было прадбачанне сучасных прынцыпаў музычнага навучання дзяцей: засваенне пачаткаў музыкі не праз абстрактныя, вырваныя з жывога кантэксту інтэрвалы і рытмічныя фігуры, а праз найбольш тыповыя і нацыянальна характэрныя інтанацыі народнай песні. Беларуская дзіцячая песнятворчасць давала ў гэтых адносінах багаты матэрыял.

Не ўсё ў методыцы Грыневіча было адпрацавана да канца. У прыватнасці, ён залішне «гладка» падрэдагаваў некаторыя музычныя ўзоры, што

з пункту гледжання чыста фальклорных вартасцей прымусіла падыходзіць крытычна да асобных яго запісаў. Але нават пры гэтым сабраныя А. Грыневічам матэрыялы маюць вялікую каштоўнасць як у колькасных, так і ў якасных адносінах. З усіх раней публікаваных нотных запісаў, якія прыведзены ў томе, звыш 40 працэнтаў узяты з яго выданых і рукапісных зборнікаў — «Беларускія песні з нотамі, т. 1». Пб, 1910; т. 2 (сумесна з Зязюляй), 1912; рукапісны зборнік «Народныя гульні», АІМЭФ, ф. 8; спецыяльныя дзіцячыя зборнікі: «Школьны спеўнік», Вільня, 1912; «Дзіцячы спеўнік». Вільня, 1925. Абодва апошнія зборнікі не раўназначныя па свайму фальклорнаму значэнню. Калі ў «Дзіцячым спеўніку» сабраны матэрыялы зусім блізкія па сваёй інтанацыйнай структуры да народнай першакрыніцы, то на многіх песнях са «Школьнага спеўніка» адчуваецца ўмяшанне рэдактара. Увогуле ж гэтыя зборнікі даюць даволі поўнае ўяўленне аб асноўных жанрах дзіцячай беларускай песнятворчасці: песнях, лічылках, дражнілках, заклічках.

У пасляваенны час інтарэс да дзіцячага песеннага фальклору некалькі зменшыўся. Ва ўсякім выпадку асобныя эпізадычныя прыклады, якія трапілі ў асноўныя цыклы, не паказваюць поўнай карціны яго бытавання. Аднак сам стыль гэтай творчасці, яе асноўныя меладычныя тыпы і тэматыка адлюстраваны ў запісах даволі падрабязна.

Магчыма, стабільнасць гэтых тыпаў і з'яўляецца прычынай таго, што адсутнічаюць новыя запісы мелодый. Асабліва гэта адносіцца да лічылак, дражнілак, прыгавораў, якія выконваюцца па ўсёй Беларусі ў найбольш простай гукаформуле (прыкл. 3). У меладычных адносінах яны сапраўды не ўяўляюць вялікай цікавасці, хаця змены ў тэматыцы (тэксты) у цяперашні час адбываюцца даволі істотныя.

Па тэкставому зместу ўвесь матэрыял данага тома сістэматызаван па сямі групах: калыханкі, забаўлянкі, песні, заклічкі і прыгаворы, дражнілкі, лічылкі, гульні. Усе тэматычныя групы так ці інакш звязаны з музычным суправаджэннем. Найбольш поўна прадстаўлены музычныя запісы ў раздзелах «Калыханкі» і «Песні». Але гэта не азначае, што малая колькасць нотных прыкладаў да астатніх груп адлюстроўвае іх меншую «музычнасць». Як мы ўжо гаварылі, іх мелодыка больш аднатыповая і простая. Таму многія збіральнікі не спынялі ўвагі на музычным баку гэтых жанраў.

У музычных адносінах матэрыял, сабраны ў томе, можна сістэматызаваць, але ў больш буйныя, чым тэкст, групы. Зыходзячы з тыпалагічных асаблівасцей мелодыкі, якія цесна звязаны з функцыянальнай роляй тых або іншых песень, апошнія можна разбіць на тры значныя, даволі самастойныя групы: калыханкі, уласна песні і дзіцячыя прыпеўкі. Апошні тэрмін не мае ніякіх адносін да жанру «прыпевак» і хутчэй абазначае сам характар выканання — напяванне, прыпяванне, падобнае да меладэклама-

цыі, у якой асноўным элементам з'яўляецца тэкст. Сюды адносяцца забаўлянкі, заклічкі і прыгаворы, дражнілкі, лічылкі, мелaдызаваныя эпізоды ў казках і дзіцячых гульнях. Першыя дзве групы — калыханкі і ўласна песні — даволі разнастайныя па мелaдычнаму зместу, прыпеўкі — простыя і даступныя любому «пяючаму» ўзросту. Апошнюю акалічнасць трэба ўлічваць у тым выпадку, калі некаторыя тэксты па свайму зместу з'яўляюцца тыповымі песнямі са шматкуплетным разгорнутым сюжэтам, мелодыя ж — тыповая прыпеўка. Хутчэй за ўсё тут вакальныя навыкі выканаўцы яшчэ настолькі абмежаваныя, што яму прыходзіцца звяртацца да найбольш даступных і лёгка інтануемых абаротаў. Спашлемся на варыянт песні «Камар лазню тапіў» (419), мелодыка якога ў параўнанні з іншымі варыянтамі гэтай песні выглядае яўна не ў стылі жанру. Часам падобнае амузычванне параўнальна складанага па зместу і страфічнай структуры тэксту ўвогуле адбываецца на адной ноце.

Пераасэнсаванне, пераключэнне мелaдычнага тэматызму з адной групы ў другую — даволі частая з'ява. Так, нярэдка маленькія нянькі інтэрпрэтуюць калыханкі ў стылі прыпевак. У сваю чаргу мелодыка калыханак натуральна пераходзіць у забаўлянкі. Па сутнасці многія забаўлянкі — як бы функцыянальны працяг калыханак: тая ж атмасфера спакойства, ласкі, мацярынскай заклапочанасці.

Разгорнутыя мелaдычныя пабудовы, тыповыя для групы песень, нярэдка пранікаюць у гульні, а таксама ў забаўлянкі і заклічкі. Вядомую «чыстату стылю» захоўваюць толькі лічылкі і дражнілкі, функцыянальна вельмі канкрэтныя і мэтанакіраваныя.

Даволі рэдка можна выявіць пераход тыповых калыханкавых абаротаў у інтанацыйны склад уласна песень. Занадта ўжо розныя мэты, якія праследуюцца гэтымі двума мелaдычнымі тыпамі: у адным выпадку заспакоіць, у другім, наадварот, развесяліць, узбадзёрыць.

Узоры песеннай творчасці дарослых, якія перайшлі ў дзіцячы рэпертуар і замацаваліся ў ім, як правіла, не выдзяляюцца асаблівай мелaдычнай структурай. Гэта ў асноўным напевы заклікальнага, замоўнага характару з тыповай для іх паўторнасцю простых інтанацыйных ячэек, пэўнай рытмічнай структурай, вузкім ладавым дыяпазонам. Увогуле пра «дарослае» паходжанне многіх падобных узораў можна гаварыць умоўна. Толькі тэкст у той ці іншай меры можа ўказаць на першакрыніцу. Мелодыка ж іх — у тыповым дзіцячым стылі.

Асноўная маса гэтых тэматычна трансфармаваных узораў знаходзіцца ў групе дзіцячых заклічак і прыгавораў, іншымі словамі, жанравага пераасэнсавання ў даным выпадку не адбылося, знізіўся толькі ўзровень «сур'ёзнасці» самога зместу. Выкарыстанне ж замоўных элементаў у такіх групах, як лічылкі, дражнілкі, гаворыць пра пэўнае жанравае пераасэнсаванне.

Дарэчы, асобныя прыклады меладычнага стылю, характэрныя для «сур'ёзных» функцыяніруючых у цяперашні час песенных жанраў, сустракаюцца і ў дзіцячым рэпертуары. Ёсць яны і ў даным томе. Падобныя выпадкі — зусім рэдкае выключэнне, якое трэба або аднесці за кошт памылак інфарматара, або лічыць сапраўды унікальнай з'явай пераходу дзіцячых песень у «дарослы» рэпертуар.

Калыханкі. Гэта найбольш распрацаваная і па-свойму вытанчаная галіна дзіцячага фальклору. Тут больш шырокае кола вобразнасці, якое дасягае часам значных мастацкіх вяршынь. Нездарма многія кампазітары выкарыстоўвалі народныя калыханкі ў якасці тэматычнага матэрыялу ў сваіх творах і прытым для характарыстыкі самых паэтычных, самых пранікнёных музычных вобразаў.

У калыханках пануе інтанацыя па-дзіцячаму даверлівая і пластычная, пазбаўленая ўнутраных кантрастаў і цалкам адпавядаючая свайму функцыянальнаму прызначэнню. Трэба адзначыць, што ў калыханках адсутнічае якая б там ні была «скідка на ўзрост». Размова «субяседнікаў» адбываецца зусім сур'ёзна, таму што пастаянна ўлічваецца яе маральна-пазнавальны і мастацка-выхаваўчы бок. Тут нельга, нават калі ўлічваць няспеласць аднаго з субяседнікаў, нешта палегчыць, ад нечага адмовіцца зусім. Як сказала адна выканаўца з уласцівай народу афарыстычнасцю: «Дзіцяці патрэбна спяваць не абы як, бо яно застанецца пень пнём». Адсюль строгі адбор музычна-выразных сродкаў, неабходны для будучага «слоўнікавы запас» музычнага мастацтва. Народ інстынктыўна дайшоў да той вялікай ісціны, якая прынята сучаснай педагогікай і якая сцвярджае, што выхаванне дзіцяці пачынаецца з першага ж дня яго жыцця.

Так паступовa ў абуджаным усведамленні дзіцяці пачынаюць запаўняцца ячэйкі памяці, якія фіксуюць гукі роднай мовы і музыкі з яе характэрнымі гукавысотнымі і рытмічнымі ўзаемаадносінамі.

Па назіраннях некаторых этнографаў, калыханкі спяваліся да таго моманту, калі дзіця перакладвалі з люлькі, звычайна падвешанай да столі, у ложак або на якое-небудзь іншае пастаяннае месца. Гэта адбывалася або калі дзіцяці спаўнялася 2—3 гады, або нават раней, калі ў сям'і з'яўлялася новае дзіця.

Выканаўцам калыханак з'яўляецца ў асноўным маці. Але вельмі часта, асабліва ў летне-восеньскую працоўную пару гэты клопат бяруць на сябе бабулі і старэйшыя дочкі. У вёсцы сямі-васьмігадовая дзяўчынка — гэта ўжо клапатлівая нянька. Песні пры гэтым выконваюцца або з дарослага рэпертуару або імправізуецца што-небудзь на вакабулы «а-а» або «люлі-люлі». Часам узнікае зусім закончаная імправізацыя з тэкстам накшталт: «Спі, а то мядзведзь прыйдзе і ў лес цябе возьме».

Калышуць дзіця і мужчыны, але гэта носіць эпізадычны характар.

Калыханкі выконваюцца, натуральна, паціху, спакойна, хаця і тут ёсць свае дынамічныя градацыі ў залежнасці ад таго, хвалюецца дзіця ці засынае. Спецыфічным для калыханак з'яўляецца таксама пераважна нізкі рэгістр іх выканання.

Набор калыханак у выканаўцы рознабаковы, але абмежаваны прыкладна 2—4 песнямі. Часам гэта цэлая сюіта, у якой песні выконваюцца адна за другой у раз і назаўсёды замацаваным парадку. Вельмі часта тэксты розных калыханак «нанізваюцца» на адзін і той жа напеў. Іншы раз гэта своеасаблівая сюіта мае розныя па меладычнаму зместу часткі. Цікавы ў гэтых адносінах цыкл калыханак паведаміла нам інфарматар Н. Д. Сушкевіч (Іванаўскі р-н Брэсцкай вобл.). У даным томе гэтыя песні размешчаны ў разбіўку. Па словах жа Сушкевіч, яны выконваліся ў строгім і пастаянна вытрыманым парадку. Трэба заўважыць, што наўрад ці ў структурных і інтанацыйных асаблівасцях гэтых песень ёсць нешта спецыфічнае, што выклікае такі іх парадак. Але, відаць, сама манера выканання, дынамічная шкала ўсяго цыкла, а таксама ўстойлівая псіхалагічная настроенасць дзіцяці на гэту паслядоўнасць (так званы «дынамічны стэрэатып») сапраўды з'явіліся важным фактарам у працэсе калыхання.

Часам, калі рэпертуар калыханак вычарпаны, пачынаюць ціхенька спяваць песні іншых жанраў. Прычым песні гэтыя гучаць у больш нізкім рэгістры, чым звычайна. Урэшце рэшт, калі маці сама ўжо амаль спіць, спевы пераходзяць у нейкае «мурлыканне».

У інтанацыйных адносінах калыханка — тыповы прыклад замовы, прычым замовы, якая захавала ў адрозненне ад іншых старажытных замоў сваё практычнае значэнне і па сённяшні дзень. У адрозненне ад тэксту, які яшчэ незразумелы для маленькіх дзяцей і ў якім адлюстравана ў асноўным інфармацыя, цікавая толькі для выканаўцы, мелодыя (а таксама інтанацыйна-фанетычны бок тэксту) непасрэдна накіравана да дзіцяці і мае сваёй мэтай супакоіць, прыспаць яго. Гэта біфункцыянальнасць калыханак і з'яўляецца прычынай таго, што замоўныя элементы ў іх захаваліся толькі ў мелодыцы.

На характары тэматызму калыханак, іх інтанацыйных і рытмічных асаблівасцях адбіваюцца не толькі «музычныя запатрабаванні» дзіцяці. Калыханкі — цікавы прыклад уплыву на меладычную структуру вытворчых працэсаў, непасрэднай залежнасці паміж працай і мастацтвам. Раўнамернае пакалыхванне люлькі, плаўнае або хуткае (амаль трасенне), у адным выпадку, а таксама характар тэмпу якога-небудзь рабочага працэсу (маці ў час калыхання іншы раз прала кудзелю)—у другім абумоўлівалі дынамічныя, тэмпавыя, рытмічныя і інтанацыйныя асаблівасці калыханак [3].

---

[3] Больш падрабязна пра гэта гл.: В. И. Елатов. Ладовые основы белорусской народной музыки. Минск, 1964, стар. 54—55.

Найбольш тыповай для беларускіх калыханак з'яўляецца меладычная структура ў межах тэрцовага ладу з субквартай:



Гэты лад мае пераважная большасць прыведзеных у томе напеваў калыханак. Іншы раз тэрцовая ячэйка пашыраецца да кварты (9) або да квінты (8). Нярэдка таксама сустракаюцца прыклады запаўнення субкварты адным (27) або двума гукамі. Лад гэты можа існаваць і ўвогуле без субкварты (53), што, аднак, менш тыпова, бо субкварта з'яўляецца важнейшым паказальнікам узаемаадносін паміж рухам і музычнай інтанацыяй, адлюстроўвае момант найвышэйшага расслаблення (падрыхтоўка руху люлькі ад сябе).

Большасць напеваў у тэрцовым ладзе з субквартай мае мінорнае нахіленне. Але нярэдка сустракаецца і мажорнае. З прыведзеных запісаў мажорныя напевы часта сустракаюцца ў М. Федароўскага. Магчыма нават, што гэта характэрная асаблівасць калыханак у заходніх раёнах Беларусі.

Мажорнае і мінорнае нахіленні тэрцовага ладу з субквартай даволі адчувальна ўплываюць на агульны эмацыянальны склад напеву. Сустракаецца каларыраванне тэрцыяй ладу, якое назіраем, напрыклад, у беларускіх жніўных песнях (апошнія, дарэчы, маюць тую самую ладавую схему). У жніўных песнях ладавае нахіленне — адзін са сродкаў эмацыянальнага нюансавання, якое характарызуе пэўны музычны стыль. У калыханках ладавае нахіленне адыгрывае тую ж значную ролю.

Радзей, чым тэрцовыя, сустракаюцца квартовыя і квінтовыя лады са ступенямі, якія апяваюць ладавую рамку зверху і знізу. Часцей за ўсё сустракаецца апяванне знізу (гук VII ступені, натуральны або гарманічны). І вельмі неахвотна ладавая рамка пашыраецца за кошт верхніх гукаў. Для ладавай будовы калыханак наогул нехарактэрныя лады актаўнай структуры, і дыяпазон ладу ад тонікі ўверх рэдка даходзіць да сексты.

Вельмі спецыфічным момантам ладавай будовы з'яўляецца амаль поўная адсутнасць пабочных натуральных ладоў: дарыйскага, фрыгійскага, міксалідзійскага, лідзійскага. У адзіным узоры сустрэлася пентатоніка (136), хоць асобныя яе элементы сустракаюцца ў аснове многіх напеваў. У цэлым ладавая пабудова беларускіх калыханак — гэта панаванне натуральных мажорнага (іанійскага) і мінорнага (эалійскага) ладоў. Апошні з іх мае пераважнае значэнне (каля 80 працэнтаў напеваў, змешчаных у томе).

Не характэрная для калыханак і танальная пераменнасць. Атмасфера спакою, раўнамернасці і пераканання патрабуе падкрэслівання аднаго танальнага ўзроўню. Рэдкі прыклад танальнага перамяшчэння — песня 70. Затое ладавая пераменнасць, г. зн. змяненне гукараду пры тым жа танальным узроўні, нярэдка з'яўляецца вельмі яркім сродкам выяўлення інтанацыйнага каларыту калыханак. У першую чаргу ладавая пераменнасць датычыць аднайменнага мажора-мінору (або мінора-мажору). У нашых запісах ёсць цэлы рад прыкладаў, калі мінорная тэрцыя змяняецца ў канцы напеву мажорнай. Прычым такі пераход адбываецца не раптоўна, а паступова, праз цэлы рад прамежкавых інтэрвалаў у 1/8 і нават 1/16 тона. Такія ледзь прыкметныя змены вышыні гукаў не могуць быць фіксаваны сучаснай музычнай тэмперыраванай сістэмай. Таму ў гэтых выпадках намі выкарыстаны дадатковыя знакі над нотамі: плюс (+) — ледзь вышэй, мінус (—) — ледзь ніжэй (19). Часам мажорная тэрцыя паяўляецца і раптоўна (40), таксама, як і наадварот, у вытрыманым амаль на ўсім працягу напеву мажоры раптам гучыць мінорная тэрцыя (183).

Разам з тым трэба мець на ўвазе і тую акалічнасць, што поруч са стылістычна замацаваным мажора-мінорным каларыраваннем сустракаюцца і выпадковыя інтанацыйныя хібы: ці стаміўся голас, ці наогул у выканаўцы, асабліва ў маленькага, яшчэ не ўмацаваліся вакальныя навыкі.

Даволі арыгінальны і стабільны ў калыханках метрарытмічны бок, які таксама шмат у чым вызначаецца прыкладной асновай песень.

Асноўныя метры беларускіх калыханак — 2/4 і 4/4. Разам з тым значная роля ў стварэнні каларыту калыханак належыць і такім метрам, як 3/4, 6/8 і нават 5/4. Трохдольныя метры надаюць калыханкам асаблівую плаўнасць і пластычнасць. Двухдольныя ў гэтых адносінах больш рашучыя і настойлівыя ў сваёй функцыі замаўлення.

З рытмічных фігур характэрны самыя разнастайныя. Але адна з іх з'яўляецца тыповай толькі для калыханак. Маецца на ўвазе адваротны пункцірны рытм, які таксама хутчэй за ўсё звязан з характарам рухаў выканаўцы:



Да гэтай жа катэгорыі рытму трэба аднесці і рытмічныя фігуры з драбленнем моцнай долі. Вельмі часта гэты рытмічны малюнак чаргуецца з трыольным рытмам, менш акцэнтным.

Для калыханак характэрны рытм цыклічнага тыпу, г. зн. чаргаванне роўных рытмічных фігур, што надае мернасць, неабходную ў гэтых умовах манатоннасць спевам. З найбольш каларытных і ўстойлівых рытмічных фігур можна звярнуць увагу на наступныя:



Як і ўся дзіцячая песенная творчасць, калыханкі маюць метрарытміку пераважна харэічнага плана з падкрэсленай акцэнціроўкай моцнай долі (адсюль адваротныя пункцірныя рытмы і драбленне моцных доляў).

Структура калыханак мае пераважна сіметрычныя квадратныя пабудовы, аснова якіх закладзена ўжо ў самім тэксце. У большасці тэксты арганізуюцца чатырохстопным харэем з усечанай або поўнай чацвёртай стапой (у апошнім выпадку акрамя харэічных зачынаў узнікаюць характэрныя харэічныя кадэнцыі):



Сама «драматургічная схема» калыханак вагаецца ў даволі шырокіх падзелах: ад двухтактных пабудоў да разгорнутай двух- ці нават трохчасткавай формы, ад манатоннага чаргавання кароткіх папевак да невялікіх музычных сцэнак.

Сярод структур пераважае «пара перыядычнасцей» (*аавв*). Іншы раз яна пашыраецца за кошт якога-небудзь звяна, новага або відазмененага паўторнага. Ёсць напевы з літаральным паўтарэннем меладычных фраз: *аа* — (53), або *аааа* — (196). Зрэдку сустракаюцца напевы з паўторным другім сказам.

Пашырэнне асноўнага ядра структуры і, як вынік, парушэнне агульнай квадратнасці напеву адбываецца за кошт шматлікіх жанрава-спецыфічных

уставак-рэфрэнаў. Гэта ў першую чаргу вакалізацыя на гуку «а», а таксама тыповыя словы-атрыбуты «люлі», «бай» і некаторыя іншыя. Іншы раз яны ўваходзяць у асноўную рытмічную сінтагму напеву, не парушаючы яго квадратнасці, часта ж служаць абрамленнем гэтай сінтагмы. Гэты своеасаблівы зачын, заклік да ўвагі будуецца на тых жа меладычных абаротах, што і асноўны напеў, апярэджваючы такім чынам агульны тон спеваў (8, 52 і інш.).

Думаецца, што такіх пачатковых рэфрэнаў значна больш, чым адлюстравана ў калыханках данага тома. Збіральнікі не заўсёды бяруць пад увагу гэтыя пазаструктурныя абароты, якія сапраўды часам носяць выпадковы характар: могуць выконвацца, а могуць і не выконвацца (іншы раз гэтыя эпізоды і зусім не ў гукавысотнай шкале асноўнага напеву).

Акрамя паўторнасці гукавых ячэек, трэба звярнуць увагу на прыём паступовага пашырэння высотнага дыяпазону напеву. Асабліва гэта паказальна на прыкладзе напеваў, якія маюць ясную двухчасткавую структуру (*аавв*). Так, у песні 8 тэрцовая ячэйка ў першай частцы змяняецца квінтовай у другой. У песнях 80, 150, 186 у другой частцы напеву паяўляецца субкварта, якая прыкметна актывізуе меладычны рух, робіць яго больш пругкім, мэтанакіраваным.

Асаблівую паэтычнасць і нейкую празрыстасць надаюць напевам калыханак кадэнцыйныя завяршэнні не на першай, а на якой-небудзь іншай ступені. Гэта можа быць другая ступень (306), квінта ладу (199), але асабліва характэрны завяршэнні на тэрцовым гуку (141, 231 і інш.). Апошняя асаблівасць збліжае калыханкі з напевамі веснавых песень.

Уся інтанацыйная структура калыханак мае тэндэнцыю да мяккіх абаротаў, пазбаўленых востранапружаных інтэрвалаў. Нават вялікую сексту вельмі рэдка можна сустрэць у гэтых напевах. Секунда, тэрцыя, кварта, квінта з параўнальна вузкімі высотнымі зонамі — пераважная сфера гукавой шкалы калыханак.

Для мінору больш тыповым з'яўляецца натуральны ўводны тон. Распевы ў асноўным на два-тры гукі, прычым пераважна ў зыходзячым напрамку.

Усе гэтыя мелодыка-рытмічныя сродкі служаць асновай для беларускіх калыханак, сярод якіх нярэдка можна знайсці сапраўдныя шэдэўры народнай музычнай культуры.

П е с н і. У адрозненне ад калыханак гэта зусім іншы свет пачуццяў, ведаў і ўяўленняў, іншы музычны стыль са сваім колам выразных сродкаў, супрацьлеглых шмат у чым таму, што характэрна для калыханак.

Галоўнай асаблівасцю гэтай песнятворчасці з'яўляецца тое, што яна наскрозь аптымістычная, бязвоблачная і жыве сённяшнімі настроямі і кло-

патамі дзіцяці. Тут адсутнічаюць сумненні і клопаты пра заўтрашні дзень, погляд у будучыню, які характэрны для калыханак. Дзеці спяваюць у асноўным тады, калі ім весела, радасна. Таму і песня іх, як правіла, перапоўнена бадзёрымі і задорнымі эмоцыямі.

Галоўныя персанажы дзіцячых песень — зайка, камар, сарока, чыжык — самі па сабе займальная кампанія, з якой адбываюцца цікавыя і часта вельмі смешныя здарэнні. І хоць дзіця разумее, што ўсё гэта няпраўда, але інстынктыўна адчувае жыццёвую падаснову падзей.

Не ўсе дзіцячыя песні выконваюцца дзецьмі. Тут таксама значная доля ўдзелу дарослых. Яны спяваюць для маленькіх дзяцей, якія яшчэ самі не могуць пець, але якія ўжо выйшлі з таго ўзросту, калі іх люляюць або «забаўляюць». Спяваюць і старэйшым дзецям, раскрываючы паступова тэматычную разнастайнасць і тэхнічныя складанасці выканання.

Выконваюцца дзіцячыя песні, як мы казалі, пераважна «на волі». Таму характар іх чысты, адкрыты, з яснымі, чоткімі інтанацыямі. Спевы «пад нос» не ўносяць у гэты характар асаблівых змен, выключаючы, зразумела, дынаміку.

Амаль усе песні гэтай групы адносяцца да жанраў «рухаючай дынамікі», г. зн. структура іх, агульная, метрарытмічная і ў нейкай меры інтанацыйная, падпарадкоўваецца пэўным рухаючым працэсам. Аднак у адрозненне ад калыханак гэтыя працэсы маюць не столькі плаўны, размераны, колькі выразна акцэнтаваны маторны характар. Дзеці вельмі любяць спяваць, бегаючы падскокам, гойдаючыся на дошцы або проста маршыруючы гуртам. Дыханне ў гэтых умовах свабоднае і здольна ахапіць як шырокі гукавысотны дыяпазон, так і ўсе галоўныя і другарадныя акцэнты мелодыкі. Таму даволі часта дзіцячыя спевы набліжаюцца да скандыравання (асабліва ў прыпеўках).

Бадзёры, вясёлы характар песень гэтай групы з'явіўся прычынай таго, што яны ў адрозненне ад калыханак пераважна мажорныя. З усіх песень, якія прыведзены ў томе, мінорных каля 20 працэнтаў.

Мажор у асноўным іанійскі, але вельмі часта сустракаецца і міксалідзійскі. Даволі працяглыя гукарады напеваў і знаходжанне тонікі ў сярэдзіне іх іншы раз ствараюць уяўленне ладавай пераменнасці ў міксалідзійскім ладзе. Апошні як бы распадаецца на два іанійскія тэтрахорды. Міксалідзійская септыма ў гэтым выпадку знаходзіцца ў ніжняй палавіне гукараду і ледзь улоўліваецца:



Іншы раз ніжні гук у гэтым ладзе адсутнічае. Але і тады завяршэнне на тоніцы робіць уражанне палавіннай кадэнцыі.

Сустракаецца пераменнасць паралельных танальнасцей (440). Але ў адрозненне ад пераменнасці ў развітай народнай лірычнай песні пераход з адной танальнасці ў другую ў дзіцячых напевах носіць характар супастаўлення, што падкрэсліваецца галоўным чынам структурна: пачатковая будова напеву ў адным ладзе (або зоне ладу, як у песні 441), завяршаючая — у другім.

У адрозненне ад калыханак тут сумяшчэнне гукавысотных зон адбываецца не знізу ўверх, а зверху ўніз. Тыповым прыкладам падобнай ладамеладычнай структуры з'яўляюцца песні 418, 547 і інш.

У асноўнай масе песень танальна-гукавы ўзровень вытрымліваецца, як правіла, з пачатку да канца. Большасць ладоў мае квінтовую і актаўную структуры. Апошняя не была характэрнай для калыханак, у якіх наогул пазбягалі напружаных паследаванняў. Стварэнне ладавага напружання ад ніжняй тонікі да верхняй у песнях — звычайная з'ява. Іншы раз тут можа сустракацца поўнае або частковае праходжанне па ўсёй гаме.

Ладавае напружанне адчуваецца і ў напевах, гукарады якіх маюць толькі адну, верхнюю тоніку. Іншымі словамі, усё ладамеладычнае развіццё накіравана ўверх, што даволі рэдка сустракаецца ў звычайнай народнай песні (544).

Напевы, у якіх ладавае развіццё мае спакойны характар, у большасці адносяцца да песень, што выконваюцца дарослымі, якія як бы па інерцыі пераносяць у гэтыя песні многія рысы калыханак і забаўлянак. Напрыклад, песня «Жыў-быў, ды няма» (475) з яе манатонным паўтарэннем адной і той жа гукавой (тэрцовай) ячэйкі сапраўды набліжаецца да калыханак.

Акрамя ладавых сумяшчэнняў у дзіцячых песнях сустракаюцца і сапраўдныя мадуляцыі, г. зн. пераходы ў другі лад з дапамогай храматычна зменанага гуку. Такія песні бясспрэчна нясуць на сабе адбітак танцавальных жанраў, для якіх падобная мадуляцыя (як правіла, на квінту ўверх) надзвычай характэрна. Падобны тып мадуляцыі сустракаем у танцах «Бульба», «Янка» і ў дзіцячай песні 433. У апошняй нават многія інтанацыі тыпова танцавальнага характару.

Значная роля ў мелодыцы дзіцячых песень належыць абаротам з субквартай. Квартовы ход у іх мае актыўны характар. Часта сустракаюцца паследаванні на гуках трохгучча, у першую чаргу танічнага. Багацце квартова-квінтовых і тэрцовых абаротаў садзейнічае яснай ладавасці песні і яе схільнасці да ўтварэння гарманічных комплексаў.

Больш, чым у беларускіх песнях іншых жанраў, тут выяўляюцца функцыі ладу. Асабліва падкрэсліваюцца аўтэнтычныя абароты. У гэтых адносінах дзіцячыя песні вельмі блізкія да песень валачобных:







Меладычная лінія таксама даволі ўстойлівая ў сваім развіцці. Пераважаюць паслядоўныя, гамападобныя рухі. Асабліва часта выкарыстоўваецца папеўка, якая ўключае паступовы рух ад тонікі да квінты ладу або ад квінты да тонікі. Трыхордавасць інтанацый выяўлена слабей, чым у калыханках. Але таксама, як і ў апошніх, нярэдка сустракаюцца кадэнцыі на тэрцыі. Наогул у адносінах да сваіх ладамеладычных сродкаў дзіцячыя песні даволі ўстойлівыя канструктыўна і выразныя ў выяўленні асноўных і пабочных раздзелаў структуры. Рэдкія выпадкі інтанацыйнай імправізацыйнасці (594, 596 і інш.) звязаны з абрадавымі функцыямі песні, дакладней, з удзелам дзяцей у абрадзе дарослых, адкуль і ідуць пэўныя ўплывы. У першую чаргу гэта датычыцца момантаў шырокіх глісанда як спецыфічнага выразнага прыёму, дзіцячай песні неўласцівага.

Але затое вельмі часта ў дзіцячай песні сустракаецца рэпетыцыйнасць на адным гуку (432, 445, 542 і інш.). Тут таксама шмат агульнага з меладыямі танцавальнага тыпу, звязанымі з маторыкай і выразнасцю інтанацыйнага развіцця. Дзеці асабліва ахвотна скандуюць тэксты нават там, дзе гэта не прадугледжана, адначасова ўчашчаючы рытм і ўзмацняючы дынаміку выканання песні.

Структуры дзіцячых напеваў уласціва строгая квадратнасць. У нотных запісах гэтыя напевы выглядаюць 4—8-тактавымі пабудовамі, якія падзелены на дзве роўныя часткі. Мяжа паміж часткамі перыяду падкрэслена або фактурна (паўза, змена рытмікі), або часцей за ўсё інтанацыйна (пачынаецца кантрастны тэматычны матэрыял).

Двух- і трохчасткавыя пабудовы сустракаюцца рэдка (439, 484). Аднасчасткавыя ж будуюцца па схемах *аавв, авав, аавс, аа* і некаторых іншых, менш распаўсюджаных. Тыя часткі гэтых структур, якія паўтараюцца, амаль не адчуваюць варыяцыйных змен, і падобныя паўтарэнні з'яўляюцца фактарам яшчэ большага члянення формы.

Парушэнне квадратнасці формы мае характар знешніх рэфрэнаў. У агульнай масе песень яны нешматлікія, але даволі каларытныя. У песні «Ішоў казёл мастом» (477) да кожнага двухтакта асноўнай структуры дабаўлена па такту рэфрэна, якія парушаюць квадратнасць, але не ліквідуюць сіметрычнасць формы. У гэтым — адно з адрозненняў выкарыстання

знешніх рэфрэнаў у песні і ў калыханцы. У апошняй гэтыя дадаткі з'яўляюцца больш ці менш самастойнымі часткамі структуры, якія маюць адвольныя прапорцыі і іншы раз месцазнаходжанне.

Часам знешні рэфрэн у песні па сваіх памерах можа быць роўны з асноўнай сінтагмай, ствараючы ў гэтым выпадку квадратнасць больш высокага парадку (замест чатырох тактаў — восем). Калі гэты рэфрэн ідзе за кожнай палавінай асноўнай сінтагмы, ён як бы асімілюецца ў ёй, уваходзячы ў адзін меладычны паток і ўтвараючы адпаведна 2-ю і 4-ю фразы меладычнага перыяду (554). Але такі рэфрэн можа быць і цалкам вынесены за межы асноўнай сінтагмы, утвараючы нешта накшталт прыпеву да яе (416 і 542). Тэматычны матэрыял такога прыпеву часта кантрастуе з асноўнай часткай.

Акрамя агульнараспаўсюджаных сінтаксічных уставак накшталт «гэй», «люлі», дзіцячая песня выкарыстоўвае і спецыфічныя для яе словы. Такімі з'яўляюцца або імітацыя жывёльных і птушыных гукаў: «чэ-чэ», «чы-чы», «бэ-бэ», або пераймание гукаў якіх-небудзь музычных інструментаў: «бом-бом», «дылі-дылі». У апошнім выпадку імітацыя ў тэксце суправаджаецца нярэдка імітацыяй музычнай (416).

Асабліва часта ў дзіцячых песнях фігуруе інструмент дуда з адпаведнай імітацыяй — «ду-ду». Сувязь гэтых песень з песнямі дударскімі з дарослага рэпертуару з'яўляецца безумоўнай. Да таго ж у адносінах апошніх яшчэ да гэтага часу не высветлена пытанне, ці перайшлі яны поўнасцю ў дзіцячы рэпертуар, ці застаюцца пакуль бліжэйшым рэзервам для яго.

Метрарытмічная арганізацыя песень даволі аднапланавая. Пераважаюць цотныя метры, у асноўным 2/4 (некаторыя напевы, запісаныя на 4/4, хутчэй за ўсё двухчвэртныя). З усіх песень, што публікуюцца ў томе, толькі тры заснаваны на трохчвэртным метры (434, 504, 593), і метр адной мае складаную структуру — 7/4, якая атрымалася ў выніку праслойвання асноўнай тэкставай страфы рэфрэнам «ду-ду» (475).

Рытмы ў песнях таксама простыя, цыклічнага тыпу. Сустракаюцца фігуры пункціpнага рытму, але ў адрозненне ад калыханак амаль ніколі не выкарыстоўваецца адваротны пункцірны рытм.

Многія дзіцячыя песні маюць маршавую рытміку. Сувязь дзіцячай песні з рухам, хадзьбой падкрэслівалася многімі збіральнікамі. Некаторыя з іх пры абазначэнні тэмпу і дынамікі абмяжоўваліся азначэннямі накшталт «хадзьбой», «паходна» і г. д. Цікавыя ў гэтых адносінах два варыянты песні «Ой, у лесе пры даліне» (431 і 433), якая ў іншых запісах, некалькі змененых у тэкставых адносінах, бытавала на Беларусі як салдацкая. У названых вышэй дзіцячых варыянтах таксама прыкметна адчуваецца каларыт салдацкіх маршавых песень з тыповым для іх унутраным рэфрэнам

«гэй-гэй» перад пачаткам другой паўстрафы. Хутчэй за ўсё вытокі падобных песень — у жанры жартоўных прыпевак, якія з цягам часу маглі трансфармавацца ў залежнасці ад патрабаванняў адпаведна салдацкай або дзіцячай аўдыторыі.

Як і ў калыханкі, у дзіцячыя песні пранікаюць іншы раз незвычайныя для іх стылю мелодыі. Шляхі пранікнення іх самыя розныя, але характэрна, што ўсе такія песні паведамляюцца збіральнікам дарослымі выканаўцамі. Даволі тыповая ў гэтых адносінах песня «Сядзеў я на пні», якую мы прыводзім у двух варыянтах — 552 і 553. У іх незвычайны для дзіцячай песні некалькі зацяжны характар распеву, які змяняе асноўную метрыку.

Напевы народных дзіцячых песень з усімі іх інтанацыйнымі і рытмічнымі асаблівасцямі не зазналі ў сучасных умовах асаблівых змен. Іншая справа, што іх некалькі адцясняе зараз прафесійная песня для дзяцей, якую развучваюць у школах і дзіцячых садах. Але і яна карыстаецца папулярнасцю ў той меры, у якой абапіраецца на абароты, натуральныя і даступныя дзіцячаму ўзросту. Праўда, можна адзначыць схільнасць сучаснай дзіцячай песнятворчасці да лірычнай тэматыкі, працяглых і ўнутрана сабраных напеваў. Але побач з імі ўсё роўна бытуе песня радасная і задзёрыстая, напорыстая і смяшлівая, якая тоіць у сабе невычэрпныя запасы дзіцячай ветлівасці і аптымізму.

Д з і ц я ч ы я п р ы п е ў к і. Гэты меладычны тып дзіцячай песнятворчасці наўрад ці патрабуе асабліва падрабязнага разгляду. Яго ладамеладычная аснова прыведзена ў прыкл. 3. Варыяцыі гэтай асновы заключаюцца ў вычляненні асобных яе ячэек, секундавай або тэрцовай. Можа таксама быць пераўтворана і якасная велічыня ўказаных інтэрвалаў: малая секунда і вялікая тэрцыя. У моманты асабліва афектаваных спеваў можа пашырацца і квартовая рамка, інтэрвалы атрымліваюць некалькі «змазаны» выгляд.

Характар ладавай структуры песні і ўвогуле яе гукавысотныя параметры шмат у чым залежаць ад навыкаў, якія вызначаюцца ўзростам «выканаўцы», а таксама яго настроем. Іншы раз песня інтануецца па схеме самага прымітыўнага гукавога комплексу — на гуку адной вышыні. Наўрад ці мы маем тут справу з ладам, але важнейшая яго прыкмета — настойлівае сцвярджэнне пэўнага гукавысотнага цэнтра — у наяўнасці. Тым больш, што рытмічна і структурна такія мелодыі-«ніткі» дастаткова арганізаваныя.

Метрарытміка прыпевак яшчэ больш выразная, акцэнтаваная і цыклічная, чым у песнях. Гэта натуральна. Пры «заніжаных патрабаваннях» з боку мелодыкі асноўная цяга выразнасці падае на рытм, не ўлічваючы, зразумела, тэксту, роля якога ў прыпеўках галоўная.

Асноўная сфера дзеяння тэрцовасекундавай ладапапеўкі або яе элементаў — забаўлянкі, заклічкі, дражнілкі, песенныя эпізоды ў казках і

гульнях. Аднак яна нярэдка пранікае ў калыханкі і дзіцячыя песні. У поўным выглядзе гэтую папеўку мы сустракаем у калыханках 196, 197, 198. Праўда, тут яна не выглядае ў поўным сэнсе прыпеўкай, таму што метрарытмічныя ўмовы, у якіх яна выкарыстоўваецца, маюць канкрэтныя жанравыя рысы — гэта калыханка.

Больш у характары ўласна прыпевак песні ў тэрцовай гукавой ячэйцы (466, 476) і асабліва ў секундавай (419). Гэта тыповыя прыпеўкі, што падкрэсліваецца іх мерным цыклічным рытмам.

У сваю чаргу ў жанры, для якіх больш характэрны прыпеўкі, нярэдка трапляюць мелодыі калыханкавага або песеннага тыпу. Прадстаўлены ў даным томе матэрыял можа нават стварыць уражанне, што такія мелодыі пераважаюць. Але, як мы ўжо гаварылі раней, многія лічылкі, дражнілкі і да іх падобныя не суправаджаюцца нотнымі запісамі па прычыне іх стандартнасці. Мелодыі «нестандартныя» прыводзяцца намі з улікам таго, што ўсе яны ўяўляюць сабой заканамерны працэс жанравага ўзаемаабмену. Тым больш што і сярод дарослых, і сярод дзяцей усюды сустракаюцца асабліва адораныя і ініцыятыўныя выканаўцы, якія імкнуцца да ўзбагачэння і разнастайнасці рэпертуару.

У раздзеле забаўлянак напеў яўна тыпу калыханак мае забаўлянка 333. Больш ці менш блізкая да песеннага тыпу забаўлянка 360. Аднак яе метрарытмічная структура ў спалучэнні з інтанацыямі, якія маюць тэндэнцыю да аднапланавасці (чаргаванне паступова ўзыходзячага з паступова зыходзячым меладычным рухам), — у стылі прыпевак. У варыянце гэтай песні (361) поўнасцю вытрымана аднанакіраванасць інтанацый, і таму ён успрымаецца тыповай прыпеўкай. Такімі з'яўляюцца і астатнія прыклады гэтага раздзела. Тут дарэчы заўважыць, што ў адрозненне ад калыханак і песень для меладычнай структуры прыпевак не характэрны кантрастныя эпізоды. Тыповая форма іх або *aa* (361, 390, 403), або *aaaa* (317).

У раздзеле заклічак і прыгавораў змешчаны ўзоры з даволі развітай ладавай і рытмічнай структурай. Але па агульнаму каларыту яны цалкам адпавядаюць свайму функцыянальнаму прызначэнню: прыгаворваць, або, як іншы раз гавораць дзеці, «варажыць», «заварожваць».

Лічылкі і дражнілкі,— бадай, найменш «распяваемыя» жанры дзіцячай творчасці. Іх больш ахвотна скандуюць, хоць і ў гэтым скандаванні можна прасачыць элементы вакалізацыі. У томе дражнілкі і гульні прыводзяцца ў найбольш тыповых сваіх узорах. Тут цыклічная паслядоўнасць ідэнтычных папевак часта парушае квадратнасць формы, якая выглядае так: *aaaa ... a* (998).

У гульнях у залежнасці ад іх сюжэта могуць быць выкарыстаны і прыпеўкі, і песні. Першыя з іх у форме лічылак і заклічак (928, 945, 947, 995

і інш.). Другія могуць мець даволі развіты сюжэт і адпаведна форму (932). Іншы раз такія гульнёвыя песні з'яўляюцца асновай для дзіцячых карагодаў (927), якія маюць шмат агульнага з карагодамі дарослага рэпертуару. У гульні адна і тая ж песня можа паўтарацца некалькі разоў («Гусі-лебедзі», «Ваўкі і авечкі»).

* * *

У гэтым томе складальнікі імкнуліся даць характарыстыку меладычнага зместу беларускай дзіцячай песнятворчасці па ўсіх яе раздзелах, уключаючы як буйныя, жанравыя (калыханкі, песні і г. д.), так і больш дробныя, тэматычныя («Пра камара», «Пра козліка» і г. д.). Асобная ўвага пры гэтым надавалася поўнаму славесна-музычнаму ўяўленню аб той ці іншай песні. З гэтай мэтай песні, якія маюць музычны запіс, вынесены ў пачатак раздзелаў і тэматычных груп, хоць у тэкставых адносінах яны часам прадстаўляюць меншую цікавасць.

Большая частка меладычных прыкладаў аднагалосная, што адлюстроўвае сапраўдны стыль народнай дзіцячай песнятворчасці. Шматгалосныя фактуры, якія прыведзены ў некаторых зборніках, асабліва ў А. Грыневіча, безумоўна, з'яўляюцца аўтарскай апрацоўкай, а таму намі не ўлічваліся. Пакінутыя эпізоды двухгалосся, акрамя сапраўдных выпадкаў падгалосачнага стылю, могуць трактавацца таксама як сукупнасць варыянтаў аднаго і таго ж меладычнага эпізоду.

Некалькі слоў аб запісах, якія былі ажыццёўлены ў апошнія гады з дапамогай магнітафона і якія зроблены ў асноўным ад інфарматараў-дзяцей. Пры расшыфроўцы такіх запісаў шмат у чым прыходзілася ўлічваць узроставыя асаблівасці выканаўцаў: неўзмацнелыя галасы, групавую няспетасць і, наогул, не заўсёды наяўнасць, асабліва сярод дзяцей малодшага ўзросту, трывалых інтанацыйных навыкаў. Як указвалася вышэй, шматгалоссе ў дзіцячым хоры мае часта выпадковы, «стыхійны» характар (інтанацыйна і рытмічна). Іншы раз пры харавым выкананні якой-небудзь аднагалоснай мелодыі атрымліваецца такая шчыльная фактура, што цяжка вызначыць, які голас вядучы.

Побач са стыхійным шматгалоссем для дзіцячага выканання ўласціва таксама стыхійная імправізацыйнасць, г. зн. імправізацыйнасць, якая з'яўляецца вынікам недастатковага замацавання ў памяці дзіцяці асноўнага напеву песні. У выніку можа змяняцца ў розных куплетах сам напеў, але часцей ў яго ўводзяцца папеўкі або цэлыя меладычныя пабудовы з іншых, блізкіх па сэнсу песень. У маленькіх выканаўцаў калыханак гэтая «стыхійная» імправізацыйнасць прыводзіць нярэдка да паяўлення скразной музычнай формы, калі амаль уся песня будуецца на розных меладычных строфах (203).

Пазафункцыянальнае (а адсюль пазавобразнае) выкананне некаторых песень парушае часта іх сапраўдны тэмп у асноўным у бок паскарэння. Асабліва гэта датычыць калыханак.

Даводзіцца сутыкацца з тэндэнцыяй паступовага (ад куплета да куплета) інтанацыйнага і рытмічнага спрашчэння. Так, адваротныя рытмы ў пачатку песні змяняюцца затым звычайнымі, сіметрычнымі (42, 141). Па ходу выканання іншы раз змяняецца танальны ўзровень (як правіла, адбываецца спаўзанне голасу ўніз).

Выкарыстаныя ў томе нотныя матэрыялы, якія публікаваліся раней, патрабавалі ў радзе выпадкаў рэдакцыйных правак. Такія з іх, як прывядзенне да агульнапрынятай у цяперашні час нотнай арфаграфіі, выпраўленне яўных памылак друку, а таксама дэталізацыя рытмічнай фактуры напеву ў адпаведнасці з характарам метрыкі верша па ўсіх яго строфах, намі не агаворваліся.

Акрамя гэтых правак узнікла неабходнасць унясення карэктываў і ў сам кантэкст некаторых песень. Так, у першакрыніцы не заўсёды былі вытрыманы прапорцыі паміж напевам і падтэкстоўкай: адсутнічалі неабходныя паўтарэнні меладычных пабудоў у адпаведнасці са структурай тэкставай страфы або, наадварот, паўтаралася ўжо вядомае ў кампазіцыйных адносінах.

Былі прыведзены да адзінай сістэмы тэмпавыя і дынамічныя абазначэнні.

У дзіцячай песнятворчасці, асабліва ў калыханках, значную ролю адыгрываюць варыянтныя пераўтварэнні метрыкі тэксту. Гэта выклікана галоўным чынам імправізацыйнымі момантамі. Многія ўстаўкі, пропускі і кантамінацыі ўзнікаюць у працэсе саміх спеваў. Жорсткая метрычная схема напеву калыханак, абумоўленая мернымі рухамі выканаўцы, часта з'яўляецца прычынай змяшчэння граматычных націскаў у тэксце. Часам у адной з наступных строф метрыка і агульная структура мяняюцца настолькі рашуча, што ўжо ні пры якіх рэдакцыях не могуць быць суаднесены з напевам, які ўвогуле нярэдка супадае толькі з першай страфой.

Ва ўсіх гэтых, як і ў іншых аналагічных выпадках, свой удзел у рэдагаванні нотных запісаў складальнікі ўказваюць з дапамогай квадратных дужак. У больш складаных эпізодах абгрунтаванне тых або іншых неабходных правак (або іх адсутнасць) даецца ў каментарыях.

*В. Ялатаў*

# КАЛЫХАНКІ

## 1




А й сон з драмой *
Лугам ішоў.

А й сон драмы
Ды пытаецца:

— А й дзе будзем
Начаваці?

— Заначуем
Ў Цімошачкі,

Ў Цімошачкі
І ў Вулічкі,

Будзем мы ў іх
Начаваці

І дзіцятка
Калыхаці:

«Люлі-люлі,
Дзіцятачка,

Люлі-люлі,
Маленькае!

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

А спі доўга,
Расці скора

Бацьку-маці
На пацеху,

Чужым людзям
На паслугу».

## 2

[Andante]

—Лю - ляй - лю - ляй, мой сы - но - чак,
—Бу - дзе ве - яць буй - ны ве - цер,
хто це бу - дзе ка - лы - ха - ці?
то той мя - не па - ка - лы - ша.

— Люляй-люляй, мой сыночак,
Хто це будзе калыхаці?
— Будзе веяць буйны вецер,
То той мяне пакалыша.
— Люляй-люляй, мой сыночак,
Хто це будзе есць даваці?
— Будзе ляцець да пчоланька,
Прынясе яна мне мёду.
— Люляй-люляй, мой сыночак,
Хто це будзе піць даваці?
— Будзе іці дробны дожджык,
То той жа мяне напоіць.

## 3

♩=76

Лю - лі - лю - лі - лю - лі, спаць, ла я ж бу - ду




Люлі-люлі-люлі, спаць,
Да я ж буду калыхаць,
Буду песеньку спяваць:
«Ходзіць пава па таку
У чырвоным калпаку.
А пан кажа: — Засяку.
Пава кажа: — Уцяку,
А я пана не баюся,
Я ад пана 'дбаранюся».

## 4

Люлі-люлі-люлі,
Ўсе дзеткі паснулі,
А ты, мой сыночак,
Не спіш, не гуляеш,
З катком размаўляеш
Аб мужыцкай долі
У панскай няволі
Без хлеба, без солі,
Без праў чалавечых.

Люлі-люлі, сынку,
Зажмур хутчэй вочкі,
Бо я ўжо з паўночкі
З табой прасядзела,
А заўтра на дзела.
Дай мне хоць хвілінку
Адпачыць, памарыць,
Як лепш гаспадарыць
І паноў пазбыцца.

5

Не плач, маё дзецятка,
А цыц, маё родна:
Вунь дзе войт ідзе,
На татку, на мамку
Ён бізун нясе.
У тым у бізуне
Скураты ўвіты,
На тым на бізуне
Слёзкі паліты.
Тыя слёзкі крывавыя
З сэрца раненага...
Схавайся ты, дзетка,
На божу пасцельку.
Няхай твае вочкі
Заплюснуць навекі:
Не бачыў бы гора,
Гора мужыкова,
Не ўзнаеш ты долі,
Кроўкай палітое...

6

Спі, дачушка, спі
Ды аб долі сні.
Маці будзе калыхаці,
Будзе песеньку спяваці.

Расце ў жыце кветка,
Кветка васілёчак.
Расце маё дзіцятка
У ясненькі дзянёчак.
Жыта зжалі, кветка звяла.
Па дзянёчку змрок.
Адыдзі ты, доля злая,
Ад майго дзіцяці ўбок.

## 7

Баю-баю, дзецітка.
Паспі, дзецітка, паспі,
Ў бога шчасця папрасі.
Божа шчасціца даець,
Цябе ў люленьку кладзець.

## 8

Andante

А... а..., лю - лі. Спі, сы_но_чак мі_лень _кі,
га_ лу_ бо_чак сі_зень _кі. Мой сы_но _чак бу_дзе спаць,
а я бу - ду ка - лы - хаць.

А... а..., люлі, а... а..., люлі.
Спі, сыночак міленькі,
Галубочак сізенькі.
Мой сыночак будзе спаць,
А я буду калыхаць.

Нашто, вецер, ты гудзеш,
Спаць Міхаську не даеш?
Спі, сыночку міленькі,
Ой, да люлі-люленькі...

Ўспомніш матку ты сваю,
Як цябе люляла,
Як табе у ноч не раз
Песню я спявала.

## 9

♩=52 - 58

А - а, лю - лі, не ма - ю ка - шу - лі.

–Ча_му не на - пра - ла? –Лёнь_ку ка_лы - ха - ла.
–Ча_му не па - шы - ла? –Лё_неч_ку на - сі - ла.

А-а, люлі,
Не маю кашулі.
— Чаму не напрала?
— Лёньку калыхала.
— Чаму не пашыла?
— Лёнечку насіла.

## 10

Люлі-люлі, люляшу,
Я дзіцятка калышу,
Нітачку звіваю,
Песеньку спяваю.

Як саўю я нітачку
Дзіцятку на світачку,
Астануцца кончыкі
Дзіцятку на штончыкі.

## 11

Люлі-люлічкі,
Сяду а я прасці
І дзіцяці калыхаці.
Што выведу нітачку —
Камару на світачку.
Астануцца кончыкі —
Камару на штончыкі.

## 12

Люлі-люлі, люляшу,
Я дзіцятка калышу,
Нітачку звіваю,
Песеньку спяваю.
Што выведу нітку
Камару на світку,
Астануцца кончыкі
Камару на штончыкі.

## 13

Брэнчы муха каля вуха,
Калыбку махаю.
А я сваю Геленачку
Шчыра калыхаю.

## 14

♩=48

Хо_дзіць кот па се - на - жа - ці, клі - ча сон ён

да дзі - ця - ці. Ой, со - неч - ку - га - лу - боч(ы) - ку,

пры - спі ма - ю Га - ну - леч(ы) - ку.

Ходзіць кот па сенажаці,
Кліча сон ён да дзіцяці.
Ой, сонечку-галубоч (ы) ку,
Прыспі маю Ганулеч(ы) ку.

## 15

[♩=72–80]

Ха - дзіў ка - ток па ка - пус - це,
на - сіў сон - чык ў бе - лай хуст - цы.

Хадзіў каток па капусце,
Насіў сончык ў белай хустцы.
Усім сончык прадаваў,
А табе, Зосю, дарма даў.

## 16

[♩=44–48]



Хо – дзіць пе – вень па ка – пус – це,
Ўсень – кім дзе – цям пра – да – ваў,



но – сіць сон у бе – лай хуст – цы.
а Га – нуль – цы дар – ма даў.

Ходзіць певень па капусце,
Носіць сон у белай хустцы.
Ўсенькім дзецям прадаваў,
А Ганульцы дарма даў.

## 17

[ Allegretto ]



Хо – дзіць ка – ток па ка – пус – це, но – сіць сон у



бе – лай ху – сце, ба – бы кат – ка зла – па – лі,



сон для дзе – так за – бра – лі.

Ходзіць каток па сяле,
Носіць дзяцей сон ў кашале.
Ходзіць каток па капусце,
Носіць сон у белай хусце,

Бабы катка злапалі,
Сон для дзетак забралі.
А ты, коце, вон, вон,
А на Зосю сон, сон.
Ідзі, коце, мышкі лапаць,
Зося будзе сама спаць.

## 18

Ходзіць каток па сяле
Носіць дзіця ў кашале.
Ходзіць каток па капусце,
Носіць дзіця ў белай хустцы.
Дай катка злапалі,
Дзіця адабралі.

## 19




Цюлі, люлі, каткі два,
Шэранькія абадва.
Адзін каток калышыць,
Другі маўчыць, не дышыць.

## 20




А-а, а-а, каткі два,
Шэры, белы — абадва.
Адзін, лысы, ловіць мышы,
Другі, буры, ловіць шчуры.
Адзін пайшоў па капусце,
Носіць Свеце сон у хусце.
Апсік, каток, на кірмаш,
А Светачка спацькі ляж.

## 21

Апсік, апсік,
Каткі два,
Шэранькія абадва.
Адзін каток шэры
І хвасточак белы,
Другі каток шэры
І хвасточак белы.

## 22

Котка шэры,
Котка белы,
Котка валахаты,
Хадзі дзіця калыхаці.

## 23

А каты, мае каты,
У іх шэрыя хвасты.
Прасіліся начаваць,
Нашых хлопцаў калыхаць.

## 24

Каток серы, каток серы,
Прыбяжы да нас у сені.
Будзеш у нас начаваць
І дзяціну калыхаць.

## 25

А ты, коце буры,
Не хадзі па гуры,
Жджэм на це ў хаце
Дзіця калыхаці.

## 26

Ой ты, коце сівы,
Просім цябе ў сені.
А ты, коце стракаты,
Просім цябе дахаты.
Будзеш у нас начаваці,
Мікалайка калыхаці.

## 27




Баю-баю-баенькі,
Люлі-люлі-люленькі,
Прыляцелі гуленькі,
Селі яны у люленькі,
Сталі яны гуркатаць,
Дзіцятачка калыхаць.
Маўчы, маўчы, не крычы.

Пайшоў каток на таржок,
Купіў сабе піражок,
Яшчэ табакі ражок.
І сеў сабе на калодзе
А ў добранькай выгодзе,
І табакі панюхаў,
Добрых людзей паслухаў.

На каточка варката,
На дзіцятка дрымата.
Прыдзі, каток, начаваць,
Дзіцятачка калыхаць.
На каточка варката,
На дзіцятка дрымата.
Засні, засні, ціха спі.

## 28

Баю-баю, люлюшкі!
Прыляцелі гулюшкі,
Садзіліся ў люлюшкі.
Яны сталі гаркуваць,
Малютачку калыхаць.
Ля коціка варката,
На малютку сон-драмата.
Ты спі, ляжы, малютка!
Прыдзі, коцік, начаваць,
Малютачку калыхаць.
Ішоў коцік па лаўкі,
Нёс малютку баранкі,
Ішоў па дарожкі,
Нёс сапожкі,
Ішоў коцік з замор'я,
Нёс малютку здароўя.

## 29

♩=80

—А ты, ка_ ток шэ - ры, прый_дзі па - вя -
- чэ - раць, бу_дзеш у нас на - ча_ ваць,
ма - лу Га _лю ка _лы _хаць.

— А ты, каток шэры,
Прыйдзі павячэраць,
Будзеш у нас начаваць,
Малу Галю калыхаць.

— Ой, не прыйду, не прыйду,
Я сабакі баюся.
— Я сабачку навяжу,
Лусту хлеба палажу.

## 30

Цыбуліца горка,
А Марылька зорка.
Люляй-люляй, дзеткі, спаць,
Каток будзе калыхаць.

## 31

[𝅗𝅥=76-80]

А ты, ко-цік, не ха-дзі, да ма-люль-ку не бу-дзі.

Ма-люль-ка ма-ла-я, ня-хай спіць, гу-ля-е.

А ты, коцік, не хадзі
Да малюльку не будзі.
Малюлька малая,
Няхай спіць, гуляе.

## 32

Цішай, коцік, не бурчы,
Майго Ваню не будзі.
А Ванечка будзе спаць,
А я буду калыхаць.

## 33

Пайдзі, коця, на вулку,
А дзіця у люльку.
На ката варкота,
А на дзіця дрымота.
На ката безгалоўе,
А на дзіця здароўе.
На ката ўсё ліха,
А ты, дзіця, спі ціха.
Ты, коця, не вурчы,
А ты, дзіця, спі-маўчы.

## 34

А ты, коця, не вурчы,
А Рыгорка, спі-маўчы.
На коціка варкота,
На Рыгорку сон-дрымота.

## 35

Хадзіў котка
Па платку
У чырвоным
Чабатку.
Трэба катка
Паняці
Да чаботка
Зняці
Да й Іванку
Накласці.
Ой ты, котка
Валахаты,
Не хадзі
Каля хаты.
Ой, на катка
Еркаты,
А на Йванку

Драматы.
Ой ты, котка,
Ярчы, ярчы,
А ты, Іванка,
Маўчы, маўчы.

## 36

Апсі, коцік, крэпка спаць,
Спі, Валечка, крэпка спаць.
Апсі, коцік, на ток малаціць,
Прыкажы сям'е ціханька хадзіць,
Каб маёй Валечкі не ўзбудзіць.
Апсі, коцік, на рынак,
Прынясі Валечкі скарынак.

## 37

А ты, коце, дадому,
Не кажы ніц нікому.
Наша Ганулька не спіць,
Трэба яе усыпіць.

## 38

Люлі-люлі-люлі, спаці,
Добры сон дзіцяці.
Дзіця ж маё малое,
Да сну яно благое,
Усю ночку не спіць,
Як каточак, бурчыць.
Палажу ў калубельку
На мяккую пасцельку.
Люлі-люлі-люлі, спаці,
Добры сон дзіцяці.
А сыночак не спіць,
Як каточак, бурчыць.

## 39

♪ = 144

Лю – лі – лю – лі – лю – лі,
ўсе дзет – кі па – сну – лі.

Люлі-люлі-люлі,
Ўсе дзеткі паснулі.
Адна мая ляля
Не спіць, не гуляець,
З катком размаўляець.

## 40

Allegro moderato

Лю – лі – лю – лі – лю – лі,
ўсе дзет – кі па – сну – лі.

Люлі-люлі-люлі,
Ўсе дзеткі паснулі.
Адна наша Светка
Не спіць, не гуляець,
З катком размаўляець.
Апсік, каток, у лясок,
Найдзі Свеце паясок,
Апсік, каток, на вулку,
Светка спаці у люльку.
Апсік, каток, не вурчы,
А Светачка, спі-маўчы.

## 41

♩=96

Лю_лі -лю _лі - лю - лі, ўсе дзе_ці па - сну - лі,
толь_ кі мой бра - то - чак не спіць, не гу -
_ля - ець, з кат - ком раз - маў - ля - ець.

Люлі-люлі-люлі,
Ўсе дзеці паснулі,
Толькі мой браточак
Не спіць, не гуляець,
З катком размаўляець.

## 42

♩=60

Лю - лі - лю _лі - лю - лі, ўсе ку - ры па -
не спіць, не гу -
_сну - лі. А - дзін мой сы - но - чак
_ля - ець, з кат_ком раз - маў - ля - ець.

Люлі-люлі-люлі,
Ўсе куры паснулі.
Адзін мой сыночак
Не спіць, не гуляець,
З катком размаўляець.

## 43

Люлі-люлі-люлі,
Ўсе дзеткі паснулі,
Адна ты не спіш,
Не спіш, не гуляеш,
З катком размаўляеш.
А ты, коця шэры,
Прыдзі павячэры,
Ночкі не даспаўшы,
Галю калыхаўшы.

## 44

Люлі-люлі-люлі,
Ўсе дзеці паснулі.
Адна Галька не спіць,
Не спіць, не гуляе,
З катком размаўляе.
А ты, коцік, не бурчы,
А ты, Галька, спі-маўчы.
Пайшоў каток на вулку,
А Галька — спаць у люльку.
Люлі-люлі, коця,
Не спі на балоце,
А спі ў калыбельцы
На мяккай пасцельцы.
Люлі-люлі,
Пайшоў кот у дулі,
Прынёс ён дульку,
А Галька — спаць у люльку.
Люлі, люлі, каточак,
Злізаў бабчын мядочак.
Сама бабка злізала,
На коціка сказала.
Біці катка, біці,
Не йдзець малаціці,
Вочкамі свяціці,
А лапкамі падграбаць,
А хвасточкам падмятаць.

## 45

Люлі-люлі-люлі спаць,
Будзем дзіця калыхаць.
Люлі-люлі-люлі
Малую дзятулю.
Люлі-люлі-люлі,
Ўсе дзеткі паснулі.
Адно маё дзіця
Не спіць, не гуляе,
Вочкамі маргае,
З катком размаўляе.
А ты, коця сівы,
Не йдзі ў нашы слівы,
Нашы слівы дарагія —
Па чатыры залатыя.
Люлі-люлі-люлі,
Ўзлез каток па дулі.
Памарозіў лапкі,
Скочыў на палаткі.
Недзе катку дзецца —
Прыдзі да нас грэцца.
Наша хата цяпленькая,
Наша Маня маленькая.
Будзеш ночку начаваць,
Будзеш дзіця калыхаць.
Люлі-люлі, каткі два,
Шэранькія абадва.
Пайшоў каток у лясок
Шукаць Манін паясок.
Паясочка не знайшоў,
Сам дахаткі не прыйшоў.
Прыйдзі, прыйдзі, коця,
Маня спаці хоча.
Хоча, хоча, да не спіць,
Трэба яе прысыпіць.
Хадзіў кот край варот,
Наставіўшы вушы.
— Куды, коця, пойдзеш?
— Пайду да Марысі.
Хадзіў каток па капусце,

Насіў сончык ў рабой хусце.
А ўсім дзеткам прадаваў,
А Марысі дарма даў!
А ты коця-варкоця,
Наша Маня спаці хоча.
Хоча, хоча, да не спіць,
Трэба катка дубцом біць.
Баю-баю-баю,
Наб'ю катка, налаю,
Каб ён да нас не хадзіў,
Нашай Мані не будзіў!

## 46

Люлі-люлі-люлі,
Ўсе дзеткі паснулі.
Не спіць толькі Алачка,
Не спіць, не гуляе,
Усім дакучае.

## 47

А-а, а-а, люлі,
Ўсе куры паснулі.
А наш жа Сярожка
Не спіць, не гуляець —
Нам дакучаець.

## 48

[ Andante ]

Лю - лі-лю - лі - лю - лі, Ўсе дзе_ці па_ сну - лі.
Ма_ рыль_ка не спіць е_шчэ, бо руч_ка - мі ўсё пле_шча.

Люлі-люлі-люлі,
Ўсе дзеці паснулі.
Марылька [не спіць] ешчэ,
Бо ручкамі [ўсё] плешчэ.

## 49




Ой-яй-яй-яй, }2 разы
Ходзіць коцік па балоце.
Ой-яй-яй-яй, }2 разы
Усе дзеці заснулі.
Ой-яй-яй-яй, } 2 разы
Адзін Слаўка не спіць.

## 50

Люлі-люлі-люлі,
Ўсе дзеці паснулі,
Толькі не спіць коцік,
Ходзіць па балоце.

## 51

Люлі-люлі-люлі,
Ўсе дзеткі паснулі.
Толькі адзін каток
Не спіць, не гуляе,
Забаўкі не мае.

## 52

Andante

А а! Ня_хай ка_ту у_сё лі_ха,

ты, І _ ва_ не, спі ці_ха. А _ а!

Ты, І _ ва _ не, спі ці_ ха.

А-а! Няхай кату усё ліха,
Ты, Іване, спі ціха.
А-а! Ты, Іване, спі ціха.
А-а! Не хадзі, кот, па печы,
Буду біць у плечы.
А-а! Буду біць у плечы.
А-а! Не хадзі, кот, па масту,
Буду біць па хвасту.
А-а! Буду біць па хвасту.

## 53

[ Andante ]

Не хадзі, ко_цік, па лаў_цы, бу _дзем бі_ці па лап_цы!

Не хадзі, коцік,
Па лаўцы,
Будзем біці
Па лапцы!
Не хадзі, коцік,
Па скрыні,

Будзем біці
Па спіне!
Не хадзі, коцік,
Па масту,
Будзем біці
Па хвасту!
Не хадзі, коцік,
Па печы,
Будзем біці
У плечы!
Не хадзі, коцік,
Па хаце,
Не будзі, коцік,
Дзіцяці!
Няхай кату
Ўсё ліха,
Наш Андрушка
Спі ціха!

### 54

Няхай кату ўсё ліха,
Ты, Іване, спі ціха.
Не хадзі, кот, па хаце,
Не будзі майго дзіцяці.
Не хадзі, кот, па скрыне,
Буду біць па спіне.
Не хадзі, кот, па печы,
Буду біць у плечы.
Не хадзі, кот, па лаўцы,
Буду біць па лапцы.
Не хадзі, кот, па паліцы,
Буду біць па патыліцы.
Не хадзі, кот, па мосту,
Буду біць па хвосту.
Не лезь, каток, на калодку,
Разаб'еш галоўку.
Будзе галоўка балець
І некаму будзе жалець.
Няхай кату ўсё ліха,
Ты, Іване, спі ціха.

55

Баю-баю, дзіця калышу!
Красныя пані, спявайце «ката»:
— Няхай кату ўсё ліха,
Ты, Іване, спі ціха.
Не хадзі, кот, па хаце,
Не будзі майго дзіцяці.
Не хадзі, кот, па скрыне,
Буду біць па спіне.
Не хадзі, кот, па печы,
Буду біць у плечы.
Не хадзі па лаўцы,
Буду біці па лапцы.
Не хадзі, кот, па паліцы,
Буду біць па патыліцы.
Не хадзі, кот, па масту,
Буду біць па хвасту.
Не лезь, каток, на калодку,
Разаб'еш галоўку.
Будзе галоўка балець
І некаму будзе жалець.
Няхай кату ўсё ліха,
Ты, Іване, спі ціха.

56

Не хадзі, коцік, па печы,
Буду біць у плечы.
Не хадзі, коцік, па масту,
Буду біць па хвасту.
Не хадзі, коцік, па лаўцы,
Буду біць па лапцы.
Не мні, коцік, падушкі,
Буду драці за вушкі.

## 57

Не хадзі, кот, па масту,—
Буду біць па хвасту.
Ды не хадзі, кот, па скрыні,—
Буду біць па спіне.
Не хадзі, кот, па лаўцы,—
Буду біць па лапцы.

## 58

Баю-баенькі-баю,
Мішку спаткі палажу.
Не хадзі, коцік, па лаўцы,
А то дасць Мішка па лапцы.
Не хадзі, коцік, па масту,
А то дасць Мішка па хвасту.
Ідзі, коцік, на вулку,
Прынясі хлеба булку.

## 59




Трэба катка біці, біці,
Каб не будзіў каток дзеці.
Трэба катка біці вельмі,
Каб не стукаў каток дзвермі.
Трэба катка па лапцы,
Каб не хадзіў па хатцы.
Трэба катка па хвасту,
Каб нарубіў хварасту.

## 60







Ходзіць каток па вароцях
У чырвоненькіх чабоцях.
Упаў кот із варот,
Пабіў спіну і жывот.

## 61

Ходзіць каток па вароцях
У чырвоненькіх чабоцях.
Упаў кот із варот,
Забіў спінку і жывот.
Ката біці па спіне,
Штоб нарубаў лучыны.
Ката біці па хвасту,
Штоб нарубаў хварасту.
Ой ты, коця, не варчы,
А ты, Жэня, спі, маўчы.

## 62

Люлі-люлі, люляю,
Наб'ю катка, палаю.
Ты, каток, к нам не хадзі,
Майго дзіцяці не будзі.
Ты коця-варкоця,
Маё дзіця спаць хоча.

## 63

Люляю-люляю,
Я коціка налаю,
Каб ён да нас не хадзіў,
Цябе, дзетка, не збудзіў.
А ты, каток, пайшоў вон,
А дзетачцы аддай сон.
Ходзіць сон каля акон,
А дрымота каля плота.
І пытае сон дрымоту:
— Дзе мы будзем начаваць?
— Дзе хацінка цяпленька,
Дзе дзетачка маленька,
А мы пойдзем начаваць
І дзяцінку калыхаць.

## 64

Біці ката, біці,
К сталбу прывязаўшы,
Хлеба лусту даўшы.
Біці ката аборкай,
Няхай не спіць з Хадоркай.
Біці ката лучынкай,
Няхай не спіць з Аксінкай.
Біці ката качалкай,
Няхай не спіць з Наталкай.
Біці ката паленам,
Няхай не спіць з Аленай.
Біці ката, біці,
Нашто пакраў ніці,
З хаты выгнаці
І есці не даці.

## 65

Біць ката качалкай,
Каб не спаў з Наталкай.
Біць ката аброткай,
Каб ён спаў з Аўдоткай.

### 66

Біці катка, біці,
Нашто пабраў ніці?
Біці яго палушкаю,
Няхай бяжыць дарожкаю,
Дарожкаю ды ў лясок
Па Ясенька паясок.
Трэба з катка зняці
І Ясеньку даці.
Ходзіць каток па капусце,
Водзіць дзеткі па том кусце.

### 67

Скочыў каток на платок
І украў ніцей маток.
А ты, коце-варкоце,
Чаго сядзіш на плоце?
Ой, будзем ката біці,
Нашто украў нам ніці,
Ой, зажэнем, зажэнем
Да гумна малаціці,
Лапкамі заграбаці,
А хвастом замятаці.

### 68

Ой ты, коце сівы,
Не хадзі у сені.
Ой ты, коце стракаты,
Не хадзі дахаты.
Будзем катка біці,
Нашто пакраў ніці.

## 69

Біці ката, біці,
Нашто украў ніці?
Сама бабка схавала,
На коціка сказала.

## 70

♪ = 112-120

Да лю- лі - лю- лі, ка - то - чак да злі-заў
баб- чын мя - до - чак. Са-ма ба - бач- ка
злі -за - ла - на ка -та ска - за - ла.

Да люлі-люлі, каточак
Да злізаў бабчын мядочак.
Сама бабачка злізала —
На ката сказала.

## 71

♩ = 5[illegible]

А-псік, а-псік, ка- то - чак злі-заў баб-чын




Апсік, апсік, каточак
Злізаў бабчын мядочак.
Сама бабка злізала,
На каточка сказала.

## 72

Як занадзіўся каток
Па смятанку у скляпок.
Як убачылі яго
Дзве бабкі праз акно.
Пабеглі за катком
Ды з доўгім кійком.
Яны білі ката
Ды ўпоперак жывата.

## 73

Апсік, апсік, каточак,
Нашто злізаў мядочак?
Сама бабка злізала,
На каточка сказала.

## 74

А-а-а, каточак,
Злізаў бабчын мядочак.
Сама бабка злізала,

На катка сказала.
А ты, каток, не вурчы,
А ты, Маня, спі-маўчы.

## 75

Апсік, апсік, каточак,
З'еў бабін мядочак.
А бабачка злізала,
На коціка сказала.

Апсік, апсік, коця,
Не спі на рабоце,
А спі на асеці,
Дзе калышуць дзеці.

## 76

А-а, каточак
Паеў бабін мядочак,
Сама бабка злізала,
Да на коціка сказала.
Ай, кошачка бела
Смятаначку з'ела,
Сама бабка злізала,
Да на кошачку сказала.

## 77






Баю-баю-баючык,
Вазьму з банкі мядочак.
Сама бабка злізала,
На коціка сказала.
А той коцік спужаўся,
За ступачку схаваўся.
Яго бабушка знайшла,
За хвосцічак патрасла.

## 78

Люлі-люлі, каточак
Злізаў бабкі мядочак.
Сама бабка злізала,
На каточка сказала.
Каток бабкі збаяўся,
Пад пярынку схаваўся.
Бабка катка знайшла,
За вушкі натрасла.
Пайшоў каток плачучы,
За ім бабка скачучы:
— Ціха, коце, не тужы,
Яшчэ з гадок паслужы.
[Куплю табе боты]
Слуцкае работы,
Хоць не дарагія —
Па тры залатыя.
Шыты боты штыхам,
Насі, коце, з ліхам.
Чаравічкі бабром,
Насі, дзіця, з дабром.

## 79

Люлі-люлі, каточак,
Злізаў бабчын мядочак.
Сама бабка злізала,
На катка сказала.

Люлі-люлі, кот шэры,
Ды замяці нашы сені,
Ды замяці нам хатку,
Дам катку заплатку.

Куплю катку боты
Не сваёй работы,
Хоць недарагія —
За два залатыя.

## 80

[♩= 108]



Ся - дзе - ла ко - та - чка ў ку - хні,
У я - е во - чач - кі спух - лі.



—Ча - го ж ты, ко - та - чка, пла - чаш?
Ці пі - ці, ці ес - ці хо - чаш?

Сядзела котачка ў кухні,
У яе вочачкі спухлі.
— Чаго ж ты, котачка, плачаш?
Ці піці, ці есці хочаш?

— Не піці, не есці хачу,
Па сваёй крыўдачцы плачу:

Сам кухар смятанку злізаў,
На мяне, котачку, сказаў.

Хочуць мне лапачкі адбіць.
Чым жа мне, бедненькай, хадзіць?
Чым жа мне, бедненькай, хадзіць,
Чым жа мне мышачак лавіць?

## 81

Сядзеў коцік на кухні,
У яго вочачкі папухлі.
— Чаго ж ты, коцічак, плачаш,
Ці піцькі, ці есцькі хочаш?
— Не піцькі, не есцькі хачу,
Па сваёй жалосці плачу:
Сам кухар пячонку злізаў,
На мяне, коціка, сказаў.
Будуць мяне, коціка, біці,
Будуць мне вушкі церабіці...

## 82

Сядзела котка на кухні,
Ды ў яе вочкі падпухлі.
— Чаго ж ты, котачка, плачаш,
Ці піці-есцікі хочаш?
— Я й піць-есці не хачу,
Па сваёй крыўданьцы плачу:
Сам кухар пячэню злізаў,
На мяне, котаньку, сказаў!
Меліся лапачкі пабіць,—
Чым буду шчурачак лавіць?

### 83

Сядзіць коця на кухні,
Яго вочкі папухлі.
— Чаго, коця, плачаш,
Ці ты есці хочаш?
— А я есці не хачу,
Па сваім горы плачу.

### 84

— Чаго ты, кошанька, плачаш,
Мусіць, ты есці-піці хочаш?
— Я есці-піці не хачу,
Па сваёй нядоленьцы плачу:
Сам кухар пячэню злізаў,
А на мяне, кошаньку, сказаў

### 85

Сядзела кошачка на кухні,
У яе вочанькі папухлі.
— Чаго ж ты, кошачка, плачаш?
Ці піцькі, ці есцікі хочаш?
— Не піцькі, не есцікі хачу,
Па сваёй жаласці плачу:
Сам кухар пячонку злізаў,
На мяне, кошачку, сказаў,
Хоча мне лапкі адбіці.
Чым жа я буду хадзіці?

### 86

Сядзіць коцік, плача.
— Чаго, коця, плачаш,
Ай естачкі хочаш?
— Піці, есці не хачу,
Па сваёй долі плачу.

У нас кухар — абманшчык:
Сам мёд палізаў,
На мяне, коціка, сказаў.
Хочуць мне лапкі перабіць.
Чым жа я буду мышак лавіць?

87

— Чаго ты, катулінька, так маркочаш,
Ці піць, ці есць ты хочаш?
— Я ні піць, ні есць не хачу,
Я па сваём няшчасційку клапачу:
Меўся мне пан лапкі адсеч,
Штоб я ў ловы не хадзіў,
Штоб я й дзетак не карміў.

88




Апсік, апсік, мой каток,
Паеў-папіў ўвесь мядок,
Патэльнечку палізаў,
А на котачку сказаў.
А котачка плачыць,
А каток смяецца —
Котцы не ўдаецца.

89

А брысь, коцік, за мора,
Прынясі Машы здароўя.
А брысь, коцік, на таржок,
Прынясі Машы паясок.

А брысь, коцік, пад мосцік,
Паймай рыбку за хвосцік.
А брысь, коцік, кашку паеў,
Маёй Машы спаці вялеў.
Баба мядок злізала,
На коціка сказала.
А ты, коцік сеpанькі,
Твой хвосцічак беленькі,
Ходзіць кыска па лаўкі,
Водзіць кошку за лапкі.
А баю-баю-баю,
Калатушак надаю,
Калатушак дваццаць пяць,
Тады Маша будзець спаць.
Баю-баю-баінькі!
Люлі-люлі-люлінькі!

## 90

Люлі-люлі-люлі,
Паляцелі куры
На чорныя балата
Шукаць сабе золата.
Пайшоў каток дай ў лясок,
Назбіраў ён трасачок
І зрабіў ён хатку
Да ўзлез на палатку
Пагрэць сваю лапку.
І з палатак ён зваліўся,
І моцненька ён забіўся,
Абабіў спінку і плечы,
Упаў каток з печы.

## 91

Ой, лелю-лелю,
Праў кот кудзелю.
Не стала валу —
Падлез пад лаву.

## 92

Палез каток на шасток
Ды адтуль зваліўся,
Крэпенька пабіўся.
А пайшоў другі на рынак
Купіць табе скарынак,
А тады на рэчку
Нарваць табе парэчкі.
Палез каток у чулан,
Лапкі салам намажа,
Табе дульку пакажа.

## 93

Ой, люлі-люлі,
Ветры ў полі загулі.
Ехаў каток ды па дрова,
Загарэлася диброва.
Пайшоў каток ваду насіці,
Стаў дубровушку тушыці.
Ехаў каток ды па сена,
Забалела калена.
Трэба катка ў хату ўзяці,
Каб пеў баінькі дзіцяці.
Ой, люлі-люлі,
Ветры ў полі загулі.

## 94

А ў маёй Марысі
Шоўкам шуба шыта,
У малога каточка
Лапка перабіта.
— А хто ж яе перабіў?
— Марысіна маці.
— А чаго ж ён прыходзіў
Да майго дзіцяці?

— Ён прыходзіў, прыходзіў,
Чаравічкі прыносіў.
Марысечка збаялася,
Ў камораньку схавалася,
Праз дзірачку ўзіралася.
Каток шукаў, не знайшоў,
Сам заплакаў ды пайшоў.

## 95

А люлі-люлі,
Ідзе котка дарогаю да й плача.
Яго абулі ў лапці, шкаруплыя анучы.
Не плач, котка, не плач, братка,
Будзеш мне слугаваці,
Сенца ў стажок складаці.
Ай, люлі-люлі,
На возік пакідаці.
Ай, люлі-люлі,
Сонкі, дрэмкі ў вочыца
Да здароўейка ў плечыца.
Пабег котка пад печку
Да знайшоў котка перапечку.
Трэба бегці да атняці
Да Коленьцы пажаваці.
Да пабег котка ў лясочак,
Знайшоў котка паясочак,
Трэба бегці да атняці
Да Коленьцы падперазаці.

## 96

А-а-а-а, люлі.
Катка ў лапці абулі,
Ў парваныя анучы,
Плакаў каток ідучы.
Пайшоў коця па плоце
У шэранькай капоце.
Трэба ў катка лапці садраці
І дзіцяці аддаці.

## 97

Сядзеў коцік на стольцы,
Паплёў кошцы пастольцы,
Пайшла кошка па вадзіцу
Да й упала у крыніцу.
Пайшоў коцік ратаваці,
Стаў над ёю гвалтаваці.
Бегаў коцік па лаўках,
Яго білі па лапках.
Бегаў коцік па печы,
Паскідаў абручы.
Бегаў коцік па паліцы,
Паскідаў паляніцы.
— Ой, котайка-котайка,
Нашто зрабіў шкодайку?
— То ж да не я,
А то ж кошка мая.

## 98




Люлі-люлі, люляю,
Засні-спаці, гультаю.
Люлі-люлі-люленькі,
Усім дзецям дуленькі,
Майму Мішку калачы,
Каб спаў удзень і ўначы.
Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў сабе паясок,
Трэба коціка пераняць,
Паясочак адабраць.
Паясочак адабраць
Да свайму Мішцы даць.
Пайшоў коцік пад ліпку
Ды й знайшоў сабе скрыпку,

Трэба коціка пераняць
Да й скрыпачку адабраць.
Да й скрыпачку адабраць
Да й Мішачку аддаць.

## 99

[ Andante ]

А - а, лю - лі, ця - ле - шы - ка, на - ва - ры - ла ба - ба ку - ле - шы - ка.

А-а, люлі, цялешыка,
Наварыла баба кулешыка
Ды й паставіла пад елку,
Ды й накрыла талеркай.

Пайшоў каток пад грушку
Ды й найшоў каток падушку.
Нада катка пераняць
Ды й падушку адабраць
І малому аддаць.

Пайшоў каток пад ліпку
Ды й найшоў калітку.
Трэба катка пераняці
І калітку адабраці.

Пайшоў каток па платку,
Знайшоў каток чабатку.
Нада катка пераняці
Ды й чабатка адабраці.

## 100

♩=80

1.

Гэй, да лю_ лі - лю - лі, ды ка_ ты два.

Гэй, да лю - лі- лю - лю_ шань_ кі, ды шэ_ ры _ я

а _ бо _ два. 2-8. А _ дзін ка _ ток ва _ ла _ ха _ ты

спа _ ло _ хаў _ ся ды ўцёк з ха _ ты. Гэй, да лю _ лі-

лю _ лю _ шань _ кі, спа _ ло_ хаў _ ся ды ўцёк з ха _ ты.

Гэй, да люлі-люлі,
Ды каты два.
Гэй, да люлі-люлюшанькі,
Ды шэрыя абодва.
Адзін каток валахаты
Спалохаўся ды ўцёк з хаты.
Гэй, да люлі-люлюшанькі,
Спалохаўся ды ўцёк з хаты.
Пабег каток у лясочак,
Знайшоў сабе паясочак.
Гэй, да люлі-люлюшанькі,
Знайшоў сабе паясочак.
Трэба ката пераняці,
Паясочак адабраці.
Гэй, да люлі-люлюшанькі,
Паясочак адабраці.

Паясочак адабраці,
Мартынку падперазаці.
Гэй, да люлі-люлюшанькі,
Мартынку падперазаці.
Пабег каток пад ігрушку,
Ды знайшоў сабе падушку.
Гэй, да люлі-люлюшанькі,
Ды знайшоў сабе падушку.
Трэба катка даганяці,
Падушачку адабраці.
Гэй, да люлі-люлюшанькі,
Падушачку адабраці.
Падушачку адабралі
Ды Мартынку прысылалі.
Гэй, да люлі-люлюшанькі,
Ды Мартынку прысылалі.

## 101

Люлі-люлі, малая дзяціна,
Да на котка варкота,
А на Янка дрымота.
Бег каток па плотку
Да ў чырвоных чаботах.
Трэба коціка дагнаць
Да чаботачкі адабраць,
Да Яначку даць,
Да ён будзець добранька спаць.

## 102

Ішоў кот па плоце
У чырвонай капоце.
Трэба ў катка адабраць
І Жэнечку даць.

## 103

Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў рабы паясок.
Нада ісці адабраць,
Паясочак Колю даць.

## 104

Пайшоў каток у лясок,
Прынёс каток паясок.
Паясочак адабраць,
А Ванюшку яго даць,
Ваня будзе сладка спаць,
А я буду калыхаць.

## 105

Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў белы паясок,
А котачка узяла
І дзіцяці аддала.

## 106

Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў каток паясок.
А кошачка адняла
І дзіцяці аддала.
Пайшоў каток на таржок,
Знайшоў каток піражок;
Ці самому есці,
Ці дзіцяці несці?
І сам трошкі укусіў,
І дзіцяці прынасіў.

## 107







Люлі-люлі, цэлы дом спіць,
А каток на печы сон сніць.
Люлі-люлі-люлі. } 2 разы
Ціха, мышка, варушыся,
Бо каточак прытварыўся.
Люлі-люлі-люлі. } 2 разы
Як пайшоў каток на ганак,
Знайшоў маток абаранак.
Люлі-люлі-люлі. } 2 разы
Таму-сяму прадаваў,
А Манечцы дарма даў.
Люлі-люлі-люлі. } 2 разы
Скочыў коцік у мякіну,
А Манечка — у пярыну.
Люлі-люлі-люлі. } 2 разы

## 108




Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў рабы паясок,
Сяму-таму раздаваў,

А Сярожку дарма даў.
Сяму-таму за грошы,
Мой Сярожка харошы.

## 109

♩=80

Пай_шоў ко_ цік у ля _ сок, знай_шоў ко _цік

па - я - сок. Ся _ му - та _ му пра _ да _ ваў,

а Ва _ лер - ку дар ма даў.

Пайшоў коцік у лясок,
Знайшоў коцік паясок.
Сяму-таму прадаваў,
А Валерку дарма даў.

## 110

Пайшоў каток на таржок,
Купіў жа ж ён піражок.
Ён нікому не даваў,
Алёначцы дарма даў.

## 111

Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў каток паясок.
Таму-сяму прадаваў,
А Анэткі дарма даў.

Пайшоў каток на таржок,
Знайшоў каток піражок,
Таму-сяму прадаваў,
А Анэткі дарма даў.
Пайшоў каток на ганак,
Знайшоў каток баранак,
Таму-сяму прадаваў,
А Анэткі дарма даў.
Пайшоў каток на беражок,
Злавіў рыбку за хвасток,
Таму-сяму прадаваў,
А Анэткі дарма даў.
Пайшоў каточак на ток,
Знайшоў нітачак маток,
Сталі ніткі віці —
Не нада штаноў мыці.
Сталі катка біці —
Палез каток на палаткі.
Абмерзлі катку лапкі.
Коцік — у мякінку,
Анэтка — у пярынку.

**112**




Пайшоў каток на брадок,
Прынёс Мішку ягадок.
Ідзі, Мішка, пазбірай,
Будзе шышка каравай,
Ды нікому не давай.

113

Ой, ой, баінькі,
Каток маленькі.
Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў паясок.
Ой, ой, баінькі,
Каток маленькі.
Іванку абвязаць,
Штобы ціха спаць.

114

Зайшоў коцік у лясок,
Знайшоў Марынцы паясок.
Люлі-люлі, Марынка спаць.
Чужыя дзеткі паснулі,
На Марынку забулі.

115

Пайшоў каток у лясок,
Прынёс каток паясок.
Пайшоў каток на ганачак,
Прынёс каток бараначак.
Пайшоў каток у лавачку,
Прынёс каток булавачку.
Пайшоў каток на рыначак,
Прынёс каток разыначак.
Пайшоў каток на крылечка,
Прынёс каток калечка.
Пайшоў каток на таржок,
Прынёс каток піражок.
Пайшоў каток на места,
Прынёс каток цеста.
Пайшоў каток на вулачку,
Замарозіў лапкі,
Катаецца, валяецца,
Просіць цёплай хаткі.

## 116

Пайшоў каток у тачок,
Прынёс малютку пятачок,
Пайшоў каток у лясок,
Прынёс малютку паясок.
Пайшоў каток на ганак,
Прынёс каток баранак.
Я трошку укушу
І табе прынясу.
Пайшоў каток на рынак,
Прынёс малютку разынак.
А ты, коця, не вурчы,
А малютка спі-маўчы.

## 117

Пайшоў коцік на таржок,
Купіў Юрку піражок.
Пайшоў коцік на вулку,
Купіў Юрку булку.
Пайшоў коцік рэпку рваць,
Юрку трэба крэпка спаць.

## 118

Пайшоў коцік на таржок,
Купіў Іваньку піражок.
Пайшоў коцік на места,
Купіў Іваньку ком цеста.
Пайшоў коцік пад ганкі,
Прынёс Іваньку баранкі.
Спі, Іванька, спачывай,
На баранкі не ўжывай.

## 119

Пайшоў каток у лясок,
Прынёс каток паясок.
Пайшоў каток на рынак,
Прынёс каток пярынак.
Пайшоў каток на таржок,
Прынёс каток піражок.
Пайшоў каток на ганак,
Прынёс каток баранак.

## 120

А-а, бай-бай-бай,
Бай-бай, бай-бай-бай!
Пайшоў коцік
Пад сарай.
Пайшоў коцік
На таржок,
Прынёс дзецям
Піражок.
Пайшоў коцік
У гулі,
Прынёс дзецям
Дулі.

## 121

Баю-баю-баюшкі!
Юрка мой маленькі!
Пайшоў конік на рынак —
Прынёс Юрку пернік,
Пайшоў конік на ганак —
Прынёс Юрку баранак,
Пайшоў конік на места —
Прынёс Юрку ком цеста,
Пайшоў конік на таржок —
Прынёс Юрку піражок.

## 122

А на кота варкота!
На малютку сон-дрымота!
А брысь, коця, не варчы!
А дзетанька, спі-маўчы!
Пайшоў коцік у лясок
Прынесць дзетаньку арашок.
Пайшоў коцік на вулку,
А дзецятка ў люльку!
Пайшоў коцік на таржок,
Прынесць маленькаму піражок.

## 123

А-а, коцічак!
Пайшоў коця на вулку,
Прынёс Якубку булку.
Пайшоў коця на места,
Прынёс ком цеста.
Пайшоў коця на таржок,
Купіў Якубку піражок.
Пайшоў коця на рынак,
Купіў Якубку разынак.
Ці самому есці,
Ці Якубку несці?

## 124

А-а, а-а, малое,
А-а, а-а, спаць,
Пайшоў каток
У лясок,
Прынясе вам
Каласок,
Будзеце спаць.

## 125

Баю-баю-баюшкі!
Люлі-люлі-люлюшкі!
Пайшоў коцік на рыначак,
Прынёс Вані бараначак.
Пайшоў коця на таржок,
Прынёс Вані піражок.
Ой, брысь, коця, не варчы,
А ты, Ваня, замаўчы,
Закрый глазкі і засні.
Баю-баю-баюшкі!
Люлі-люлі-люлюшкі!

## 126

А йдзі, коця, на ганак,
Прынясі Арынцы баранак.
А йдзі, коця, на вулку,
Прынясі Арынцы хлеба булку.
А йдзі, коця, у лясок,
Прынясі Арынцы паясок.
А йдзі, коця, на таржок,
Прынясі Арынцы піражок.
А ты, коця, не вурчы,
А ты, дзетка, спі-маўчы.

## 127

А брысь, коцік, у лясок,
Прынясі Юльцы паясок!
А брысь, коцік, у траснік,
Нясі Юлічцы каснік!
А брысь, коцік, на вулку,
Нясі Юльцы хлеба булку!
А брысь, коцік, на ганкі,
Нясі Юльцы баранкі!
А брысь, коцік, на таржок,

Нясі Юльцы піражок!
А брысь, коця, куды хоця,
Бяжы, коця, ў шчыры бор,
Не забывай, коця, на мой двор.

### 128

Пайшоў, каток, на вулку,
Прынясі хлеба булку.
Ідзі, каток, на ганак,
Прынясі баранак.
Ідзі, каток, у лясок,
Прынясі паясок.
Ідзі, каток, на рынак,
Прынясі разынак.
Спі, дзіця, не крычы,
Ты, коця, не вурчы.
Цяпер на кота
Усё варкота,
На дзіцяцю
Сон-дрымота.

### 129

Апсік, коця, не вурчы!
А ты, дзіцятка, спі-маўчы!
Апсік, коцік, не гуляй
Ды дзіцятку забаўляй.
Апсік, коця, на вулку,
А дзіцятка у люльку.
Апсік, коця, на таржок
Ды прынясі піражок,
Сам разок укусі
І дзіцяці аддасі.

### 130

Апсік, апсік, каток, вон,
Дзіцяці будзе сон.

Палез бы каток на палаткі —
Дык баіцца маткі.
Палез бы далоўкі —
Дык баіцца вяроўкі.
Палез бы вышай —
Дык баіцца мышай.

## 131

А брысь, коцiку,
На таржок,
Прынясі мне
Піражок.
А брысь, коцік,
На рынак,
Прынясі мне
Пярынак.

## 132

Апсік, каток, у лясок,
Кошачка — на дульку,
Шанаваў, гадаваў
Дзядулька бабульку.

Апсік, каток, у лясок,
Знайшоў каток паясок,
Нікому не паказаў,
Малышу падперазаў.

## 133

Пайшоў каток у лясок
Па чырвоны паясок.
Паяска там не найшоў,
Сам да бабкі не прыйшоў.

Памарозіў лапкі,
Скочыў на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Няма куды дзецца.
А ты, коцік, сядзі дома,
Стружы верацёна,
Каробачка поўна,
Паедзем да Роўна,
А з Роўна — да Руўнічкі,
Купім чаравічкі.

## 134

Люлі-люлі-люлюшок,
Куплю табе грабушок,
Будзеш галоўку часаць
І у коскі заплятаць.

## 135

Пайшоў каток у лясок
Па Гандзін паясок.
Паясочка не знайшоў,
Сам дадому не прыйшоў.

## 136

♪=148







Пайшоў каток у лясок *
Шукаць Волі паясок.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Ён паяска не знайшоў,
Узяў плюнуў і пайшоў.

А Волечка чакае,
Што ёй каток шукае.

Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.

Ён сам бярэ і жарэ,
А Волечцы не дае.

### 137

Пайшоў каток
На таржок,
Купіў сабе
Піражок.
І сам ходзіць
І жарэць,
А дзевачцы
Не даець.
Каб у катка
Адабраці
І дзевачцы
Аддаці.

### 138

Пайшоў каток на таржок,
Купіў сабе піражок
І табачкі ражок.
І сеў на калодзе
У добрай выгодзе:
І табачкі занюхаў,
І добрых людзей паслухаў.

## 139

Хадзіла брумка каля лаўкі
Ды насіла брумка абаранкі.
Ды вы тую брумку даганіце,
Ды тыя баранкі адбярыце.

## 140

Ішоў каток з падпечча,
Нёс шубку авеччу.
Ішоў каток з падлаўя,
Нёс шубку баранню.
Ішоў каток з падполля,
Нёс шубку соболлю.
Пайшоў каток у лясок,
Прынёс каток піражок.
Ці самому есці,
Ці дзіцяці прынесці?

## 141

♩=72

Пай-шоў ка- ток у ля -сок па су - хі - я
дроў - цы, на -пат -каў ён ка- зач -ка,
чор - нень - кі - я броў - цы.

Пайшоў каток у лясок
Па сухія дроўцы,
Напаткаў ён казачка,
Чорненькія броўцы.

Апсік, каток, па платку,
Збіраючы драматку,
Каток з платка зваліўся
І дрымоткі забыўся.

## 142

Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.
Ці самому з'есці,
Ці Танечцы прынесці?
Я й сам разок укушу,
І дзіцяці аднясу.

## 143

Люлі-люлі-люлі,
Ай, псік, каток, пад масток,
Злаві рыбку за хвасток
І сам разок укусі,
І Светачцы прынясі.

## 144

Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.
Ці самому есці,
Ці котачцы несці?
А я сам раз укушу,
А то катку занясу.

## 145

Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.
Ні самому есці,
Ні малому несці.
Укусіў адзін разок
І панёс дадому
Дзіцяці малому.

**146**

Пайшоў каток
Пад масток,
Злавіў рыбку
За хвасток.
Ні самому есці,
А ні дзеткам несці.
А-а, люлі!

Апсік, каток,
Не бурчы,
Маіх дзеткаў
Не будзі,
А-а, люлі!

Палез каток
На дулі,
А з дулі
Зваліўся,
На смерць каток
Забіўся.
А-а, люлі!

**147**

Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.
«І сам не знаю, дзе дзець:
Ці самому з'есці,
Ці дзіцяці прынесці?
І сам разок укушу,
І дзіцяці прынясу».

## 148




А-а, а-а, каткі два,
Харошыя абодва.
Люлі-люлі-люлі,
Палез кот у дулі,
Памарозіў лапкі,
Скочыў на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе катку дзецца.

## 149




А-а, а-а, люлі,
Палез кот па дулі.
З дулі зваліўся,
Крэпка пабіўся.
Памарозіў лапкі,
Палез на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе катку дзецца.
Каток у мякіну,
Анютка ў пярыну.

## 150

♩=78

Ха – дзіў ко – цік па пла – ту, па – ма – ро – зіў лап – кі. Ста – лі лап – кі грэц – ца, кат – ку не – дзе дзец – ца. А – а, а – а, дзі – ця спаць, а я бу – ду ка – лы – хаць.

Хадзіў коцік па плату,
Памарозіў лапкі.
Сталі лапкі грэцца,
Катку недзе дзецца.
А-а, а-а, дзіця спаць,
А я буду калыхаць.

## 151

♩=96

Пай – шоў ка – ток па ду – лі, па – ма – ро – зіў лап – кі, па – лез на па – лат – кі.




Пайшоў каток па дулі,
Памарозіў лапкі,
Палез на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе катку дзецца.
Дайце катку папкі
У абедзве лапкі.
Хай каток не вурчыць,
А мой брацік спіць-маўчыць.

## 152

Люлі-люлі-люлі,
Палез кот па дулі,
Узлез на палаткі,
Памарозіў лапкі.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе катку дзецца.
Сталі лапкі адхадзіць,
Стаў каточак галасіць.
Шыйце кату боты
Турэцкай работы.

## 153

Ага-ага, люлькі,
Пайшоў кот у дулькі.
Памарозіў лапкі,
Узлез на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе кату дзецца.

## 154

А-а-а-а,
Пайшоў каток у лясок,
Памарозіў лапкі,
Скочыў на палаткі,
З палаткаў на печку,
Пабіў бабцы плечкі.
Узяла бабка паленца,
Разбіла катку каленца.
Пайшоў каток скачучы,
За ім бабка плачучы.

## 155

Люлі-люлі-люлі,
Палез кот па дулі,
Памарозіў лапкі,
Узлез на палаці.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе кату дзецца.
Дайце кату папкі
У абея лапкі.
Няхай каток не вурчыць,
А малютка спіць, маўчыць.
Пайшоў каток на вулку,
А ты, дзіця, у люльку.
А я буду калыхаць,
Дзіця будзець спаць.

## 156

Люлі-люлі-люлі,
Пайшоў кот па дулі.
Памарозіў лапкі,
Пайшоў да Агаткі
Папрасіць латкі.
— Дай, Агатка, латкі
Завярнуці лапкі.
А Агатка не дала,
Па хвосціку надала.

## 157

Люлі-люлі-люлі,
Пайшоў кот у дулі.
Адмарозіў лапкі,
Палез на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе катку дзецца.
Сталі лапкі адхадзіць,
А стаў коцік галасіць.

## 158

Пайшоў каток па платку,
Збіраючы драматку.
Каток з платка зваліўся,
Драматачкі забыўся,
Памарозіў каток лапкі,
Палез на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе катку дзецца,
Сталі лапкі адхадзіць,
Стаў каточак галасіць.

## 159

Хадзіў каток па плотку,
Збіраючы драмотку.
Каток з плотку зваліўся
І драмоткі забыўся.
А-а, а-а, люлі,
Люлі-люлі-люлі.
А-а, а-а, спаці,
Я буду люляці.

## 160

Люлі-люлі-люлі,
Пайшоў кот па дулі,
Памарозіў лапкі,
Узлез на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе кату дзецца,
Пайшоў кот на вулку,
А дзіцятка ў люльку.

## 161

Лю-лю, лю-лю, лю-лю,
Пайшоў котка пад вулей,
Памарозіў лапкі,
Палез на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Няма дзе катку дзецца.
Люлі-люлі-люлі,
Усе каткі паснулі,
Адзін ты не спіш.

## 162

Каток ўскочыў на палаткі,
Памарозіў сабе лапкі.
А ты, коце, варчы, варчы,
А ты, дзіця, маўчы, маўчы.

163

Moderato

Лю- лі - лю- лі -лю - лі, пай-шоў кот у ду - лі,

ад -ма -ро - зіў лап - кі, па -лез на па -лат кі.

Ста-лі лап - кі грэц - ца- не -дзе кат -ку дзец - ца.
Па- лез я -шчэ вы - шай, а там я- шчэ ху - жай.

Люлі-люлі-люлі,
Пайшоў кот у дулі,
Адмарозіў лапкі,
Палез на палаткі.
Сталі лапкі грэцца —
Недзе катку дзецца.
Палез яшчэ вышай,
А там яшчэ хужай.
Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток,
Таму-сяму прадаваў,
А Светачцы дарма даў.
Сталі рыбку варыць,
Па кавалачку дзяліць.
У каго сіва барада,
Таму поліўка адна,
У каго чорны вусок,
Таму рыбкі кусок.

## 164







Люлі-люлі-люлі,
Пайшоў кот па дулі,
Адмарозіў лапку,
Прыйшоў грэцца ў хатку.

Недзе кату дзецца,
Лапачцы пагрэцца,
Ўзлез бы на палаткі,
Дык баіцца бабкі.

Палез бы ён вышы,
Дык баіцца мышы:
Там мышы дурэлі,
Кату хвост ад'елі.

Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў каток паясок,
А котачка адняла
Ды дзіцяці аддала.

Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.
Ці самому з'есці,
Ці дзіцяці несці?

Думаў каток, думаў,
Думаў ды надумаў:
І сам разок укушу,
І дзіцяці занясу.

## 165

Люлі-люлі-люлькі,
Пайшоў каток у дулькі,
А котачка ў сліўкі.
Памарозіў каток лапкі,
Палез на палаткі.
Лапкі сталі грэцца,
Катку недзе дзецца,
Палез бы на вышкі,
Дык баіцца мышкі.

## 166

Люлі-люлі-люлі,
Пайшоў кот па дулі,
Памарозіў лапкі,
Узлез на палаткі.
Палез ён на вышкі,
Там гулялі мышкі.
Так яны дурэлі —
Хвост кату ад'елі.

## 167

Люлі-люлі-люлі,
Палез кот па дулі,
Памарозіў лапкі,
Палез на палаткі.
Палез бы ён вышай,
Дык баіцца мышаў,
Мышы вушкі адгрызуць
І у запек пакладуць.

## 168

Пайшоў коця па плоце
У шэранькай капоце,
Памарозіў лапкі,

Палез на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Няма катку куды дзецца.
Палез ён вышай,
Дык баіцца мышай,
Палез бы далоўкі,
Дык баіцца варонкі.

## 169

Люлі-люлі-люлі,
Пайшоў кот па дулі,
Памарозіў лапкі —
Скочыў на палаткі,
А з палаткі ды на печ,
Ударыў бабку паміж плеч.
Тады коцік спужаўся
Ды на печку схаваўся.
Бабка коціка знайшла
Ды за вушкі патрасла.
Пайшоў коцік плачучы,
За ім бабка скачучы.
Ціха, коцік, не ўцякай,
Ціха, коцік, пачакай.
Ціха, коцік, не тужы,
Яшчэ з гадок паслужы.
Куплю табе боты
Слуцкае работы,
Боты дарагія
За тры залатыя.
Ой ты, коце, коце,
Не сядзі на плоце,
Хадзі лепей к нам, к нам,
Нешта табе дам, дам.
Люлі-люлі-люлі,
А я катка палажу,
Каб па ночы не хадзіў,
Маёй Насты не будзіў.

## 170

Люлі-люлі-люлі,
Палез кот па дулі.
З дуляў—на палаткі,
Памарозіў лапкі.
З палатак—на палічку,
Знайшоў рукавічку.
З палічкі зваліўся,
Рукавічкі забыўся.
Сядзіць кот на печы
І грэе плечы.
А-а-а, коцік, не вурчы,
А ты, Валя, спі й маўчы.

## 171

Люлі-люлі-люлі,
Палез кот на дулі.
Адмарозіў лапкі,
Палез на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Нейдзе катку дзецца,
Каток на палічку,
Лапкі ў рукавічку,
А палічка стук і бразь,
А мой коцік шлёп у гразь.

## 172

Люлі-люлі-люлі,
Пайшоў кот па дулі.
Памарозіў лапкі,
Скочыў на палаткі.
Палаткі уварваліся,
Катку лапкі пабіліся.

## 173

Люлі-люлі-люлі,
Пайшоў кот па дулі,
Скочыў на палаткі,
Адмарозіў лапкі,
З палаткаў зваліўся,
Насмерць каток забіўся.
Стала кошка бедаваць,
Дзе каточка пахаваць.
— Пахаваю пад елачкай,
Сама буду паненачкай,
Пахаваю пад ялаўцом,
Сама буду з малайцом.

## 174

♩=58

А - а, а - а, лю - лі, па-лез кот па ду - лі.
Ка- ток ду - ляў не дас - таў, са -бе лап - кі
па -хва - стаў, ка - ток ду - ляў не да- стаў,
са - бе лап - кі па - хва - стаў.

А-а, а-а, люлі,
Палез кот па дулі.
Каток дуляў не дастаў,
Сабе лапкі пахвастаў.*

---

* Апошнія два радкі паўтараюцца двойчы.

## 175

А-а, а-а, люлі,
Каток без кашулі.
А котачка ў лесе
Кашульку прынесе.
Там красёнцы ткала,
І кудзельку прала,
На сонцы бяліла,
На ветры сушыла,
Кашульку пашыла,
Катку падарыла.

## 176

Люлі-люлі-люлькі,
Пайшоў кот у дулькі,
І дулечак не дастаў,
І лапачкі пахвастаў.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе катку дзецца.

## 177

♩. = 43

А - а, а - а, спат - кі. Пры_бег ко - цік
да баб - кі, за_ма - ро - зіў лап - кі,
та - ец - ца баб - кі.

А-а, а-а, спаткі.
Прыбег коцік да бабкі,

Замарозіў лапкі,
Пытаецца бабкі,
Дзе пагрэці лапкі.
— Бяжы, коцік, на плоцік,
Там пагрэеш лапкі.

## 178




Люлі-люлі-люлі,
Палез кот па дулі,
Наеўся, напіўся
Дый спаць пакаціўся.

## 179

Люлі-люлі-люлі,
Палез коцік па дулі,
Ката дулі надулі,
У лапцікі абулі.

## 180

Баю-баю басню,
Палез кот на лазню,
З лазні зваліўся,
Крэпка пабіўся.

## 181

А ты, коцінька, каток,
Ў цябе шэранькі хвасток.
А ты прыйдзі начаваці —
Будзем Якушку качаці.

Ну, я шэраму кату
За працу заплачу —
І кукшынчык малака,
І кавалак пірага.

## 182

Ах ты, коцік, мой каток,
Ў цябе серанькі хвасток.
Прыйдзі ў хату начавацьц,
Маю Волечку качаць.
А я табе заплачу:
Дам кусочак піражка
І кушынчык малачка.

## 183

♩=124

А_псік, а_псік, ко – ця, не спі
на ра – бо – це. Вы_спі – ся ў ка_лу –
_бе – лі на мяк_кань – кай пас_це – лі.

Апсік, апсік, коця,
Не спі на рабоце.
Выспіся ў калубелі
На мякканькай пасцелі.

Пайшоў каток у лясок,
Найшоў сіні паясок,
А котачка адабрала
І Паўліку даравала.

## 184








Апсі, коця-мармоця,
Не спі на рабоце.
Апсі, коця, не вурчы,
А Мішанька крэпка спі.

## 185








Апсік, апсік, коця,
Не спі на рабоце,
А спі ў калыбелі
На краснай пасцелі.

## 186

♩=80























Апсік, апсік, коця,
Не спі на рабоце,
Засні ў калыбельцы
На белай пасцельцы. } 2 разы
Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.
Ні самому есці,
Ні дзіцяці несці.
Я й сам крышку укушу,
Я й Марынцы занясу.
Пайшоў, пайшоў, каток, вон.
На Марынку — сон, сон.

## 187

Сядзіць кошка на стаўпе,
Відзіць рыбку у прудзе.
А хацела б рыбку з'есць,
Ды баюся ў ваду лезць.

## 188

Люлі-люлі-люлі,
Каток без кашулі,
А котачка ў лесе
Кашулечку несе.

## 189

А коцічак сeранькі,
Твой хвосцічак беленькі.

Пабег, пабег коцік
А ў поле гуляць
І ў пір піраваць.
За ім ўдагон кошка,
За ім беланожка:
— Вярнісь, вярнісь, коцік,
Да ты варацiся
Да з чыстага поля.

190

Ой, басую на басу,
Спяку катку каўбасу,
Маслечкам памажу,
Катку не пакажу.

191

Люлі, дзіцятка, люлі.
Да дзе ката забулі?
Засылалі малацiць,
Лапкамі заграбаць,
Хвосцікам замятаць.
Коцік таго не схацеў
Да пайшоў жа па плоце
У чырвонай капоце.

192

Нашто катка біці,
Будзе малаціці.
За чатыры злоты
Купім яму боты.

193

— А каток наш,
Ці ўмееш «Отча наш»?

— Я ўмею лучша вас:
Я ў папа начаваў
І «Отча наш» пераймаў.

## 194




Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры.
Селі на варотах } 2 разы
У чырвоных ботах.

Сталі сакатаці,
А нечага даці:
Ці ячменю жменю, } 2 разы
Ці гароху троху.

Гаршчок чачавіцы,
Карытца вадзіцы.
Яшчэ курам мала, } 2 разы
Каб іх разарвала.

## 195




Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,

Селі на варотах
У чырвоных ботах,
Сталі сакатаці,
Трэба есці даці:
Ці гароху троху,
Ці ячменю жменю,
Ці аўса ў лубені,
Ці грэчкі з засечкі.

## 196

[ Andante ]

Лю – лі-лю – лі –лю – лі, пры –ля –це – лі ку – ры,
се – лі на ва – ро – тах у чыр – во – ных бо – тах.

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці,
Няма чаго даці:
Хоць ячменю жменю,
Хоць гароху троху,
Грыкі чаравікі,
Ярыцы паўмяліцы,
А пшаніцы рукавіцы.

## 197

[♩=84]

Лю – лі – лю – лі –лю – лі, пры – ля – це – лі ку – ры,




Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці,
Няма чаго даці:
Ці ячменю жменю,
Ці гароху троху,
Грыкі чаравікі,
Пшаніцы рукавіцы?

## 198

[♩= 76_80]










Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на вароцях
У чырвоных боцях.

Сталі сакатаці,
Да нічога даці.
Вынесу ім грыкі
Поўны чаравікі,

Вынесу пшаніцы
Поўны рукавіцы,
А ячменю жменю
І гароху троху.

А пшаніцы паўдайніцы
І ярыцы паўмяліцы.

## 199

[Moderato]



Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на вароцех
У чырвоных боцех.
Сталі куры сакатаць,
Няма чаго курам даць:
Ці аўса каласа?
Ці ячменю жменю?
Ці жыта карыта?
Ці гароху троху?

## 200

Moderato

се_лі на ва - ро - тах у чыр _во - ных бо тах.

Ста_ лі са_ ка - та - ці, не - ча_ га ж вам да - ці:

Ці яч_ ме - ню жме_ ню, ці га_ ро - ху тро - ху,

ці пша_ ні - цы боч - ку май_ - му га - лу - боч - ку.

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці,
Нечага ж вам даці:
Ці ячменю жменю,
Ці гароху троху,
Ці пшаніцы бочку
Майму галубочку.

## 201

Moderato

Лю_лі -лю_лі - лю - лі, па_ля_ це - лі ку - ры.

Люлі-люлі-люлі,
Паляцелі куры.
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі куркі сакатаць,
А што куркам есці даць:

Ці ячменю жменю,
А ці жыта карыта,
Ці гароху троху,
А ці бобу каробу,
Ці грэчынкі ра́жку,
Маленькай на кашку.

## 202

[ Moderato ]

Лю - лі - лю - лі - лю - лі, лю - лі - лю - лі -
лю_лі спаць, а я бу _ ду ка_лы_хаць ма_лень_ку_ ю
Све_тач _ку, мі _ лень _ ку _ ю кве _тач _ ку.
Лю_лі - лю_лі - лю - лі, пры_ля _ це _лі ку - ры,
се - лі на ва _ ро _ тах.

Люлі-люлі-люлі,
Люлі-люлі-люлі спаць,
А я буду калыхаць
Маленькую Светачку,
Міленькую кветачку.
Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах,
Сталі куркі сакатаць,
Няма чаго куркам даць:

Ні жыта карыта,
Ні ячменю жменю,
Ні бобу каробу,
Ні аўса ім з каўша.
Пасыпце хоць грэчкі,
Каб неслі яечкі.

## 203

♩=72 - 80

Лю- лі - лю- лі - лю - лі, пры-ля - це - лі гу - лі,
се - лі на ва - ро - ты у чыр - во -ных бо - тах.
Ста -лі ку - ры са - ка - таць, ды не - ча - га
кур-кам даць: ні бо- бу ў ка - ро - бу, ні га- ро- ху
тро - ху, ні жы-та з ка -ры - та, ні аў - са
з каў - ша, ні грэч- кі з за- сеч - кі, ні пша -ні -цы
чаш - ку сы - ноч - ку на каш - ку.

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі гулі,
Селі на вароты
У чырвоных ботах.
Сталі куры сакатаць,
Ды нечага куркам даць:
Ці бобу ў каробу,
Ці гароху троху,
Ці жыта з карыта,
Ці аўса з каўша,
Ці грэчкі з засечкі,
Ці пшаніцы чашку
Сыночку на кашку.

## 204

Люлі-люлі-люлі,
Паляцелі куры.
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці,
Нечага ім даці:
Ні аўса, ні гароху,
Ні ячменю троху.

## 205

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на вароцях
У чырвоных боцях.
Сталі сакатаці,
Што дзіцяці даці,
Ні бобу каробу,
Ні гароху троху,
Ні канапель чарапень,
Ні ячменю жменю,
Каня варанога,
Быка палавога,
Цялушку-рабушку
Дзіцяці на юшку.

### 206

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на вароцех
У чырвоных боцех,
Сталі сакатаці,
Каму кашу даці?
Малому дзіцяці.
Ці гарошку трошку,
Ці ячменьку жменьку,
Ці пухову пярынку,
Ці шчасліву гадзінку.

### 207

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры
З вялікае буры.
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі куры сакатаць,
Трэба курам чаго даць.
Ці ячменю жменю,
Ці жыта карыта,
Ці бобу каробу,
Ці гароху троху,
Ці ярыцы паўмяліцы,
Ці грыкі чаравікі,
Ці пшаніцы паўдайніцы,
А дзіцяці — цыцы.

### 208

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на вароцях
У чырвоных ботах,
Сталі сакатаці,

А нечага даці.
Дала б я ім гароху,
Так не маю ні троху.
Дала б я ім бобу,
Так не маю ні дробу,
Дала б я ім аўса,
Так не маю каўша.

## 209

А-а, а-а, люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах,
Сталі сакатаці,
Што й малому даці?
А жыта — карыта,
А ячменю — жменю,
Аўса — паўкаўша,
Калапень — з чарапень
Ды бобу — каробу,
А гароху — латку,
Грачыхі — прыдатку.

## 210

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры.
Сталі сакатаці,
Што дзіцяці даці.
Адна кажа:— Шаляжок.
А другая:— Піражок.
А вы, куры, вон, вон!
А дзіцяці сон, сон!

## 211

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры
У чырвоных боцях,

Селі на вароцях,
Сталі сакатаці,
Няма чаго даці.
Дала б ім аўса,
Няма ў мяне каўша.
Дала б ім гароху,
Ды няма ні троху,
Дала б ім бобу,
Да няма ні дробу.

## 212

А-а, люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці,
Што ім з'есці даці.
Ці бобу каробу,
Ці ячменю жменю,
Ці кіслага малачка,
Ці кіёчкам па бачках?
Ай, люлі-люлі.

## 213

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці,
Няма чаго даці.
Бочачку пшанічкі,
Мяшок сачывічкі,
І яшчэ ім мала,
Каб іх разарвала.

## 214

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці,
Дзетак спаткі зваці:
— Спіце, спіце, дзеткі,
Дзеткі-малалеткі,
А мы пойдзем есці
І яечкі несці.

## 215

Люлі-люлі-люлі,
Паляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці,
Нечага ім даці:
Ні аўса, ні гароху,
Ні ячменю троху,
Ні ячменю жменю,
Ні бобу каробу,
Ні калапень чарапень,
Ні жыта карыта,
Ні аўса каласа.

## 216

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці,
Трэба куркам даці,
Даці куркам грэчкі,
Каб няслі яечкі.

Дацъ куркам пшаніцы
Да й з новенькай дайніцы.
Куркі зерне паядуць
І яечак нанясуць.

## 217

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Сталі сакатаці,
Трэба куркам даці.
Даці, даці грэчкі,
Каб няслі яечкі.
Куркі грэчкі не ядуць
Ды яечак не нясуць.
Даці, даці пшаніцы
Да з новенькай дайніцы.
Куркі пшаніцу паядуць
І яечак нанясуць.
Даці куркам жыта,
Будзе курка сыта.
Люлі-люлі, дзеткі,
Маленькія кветкі.
Люлі-люлі-люлі,
Ўсе дзеткі паснулі.
Люлі-люлі-люлі,
Ўсе дзеткі паснулі.

## 218

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці,
Няма чаго даці.
Трэба дацъ ім грэчкі,
Каб неслі яечкі.
Куркі грэчкі не ядуць

І яечак не нясуць.
Трэба даць ім канапель,
Унадзіўся верабей.
А я таму вераб'ю
Калом ножку пераб'ю.

### 219

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах,
Сталі сакатаці,
А нечага даці.
Знпраслі тры яечкі,
Як пасыпалі грэчкі.
Шугі-шугі паляцелі,
Куды самі захацелі.

### 220

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці,
Трэба грэчкі даці.
Куркі грэчкі не ядуць
І яечак не нясуць.
Дала б я ім гароху,
Ды не маю ні троху,
Пасыпала б ячменю,
Дык не маю ні зерня.

### 221

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на вароцях

Ў чырвоных чабоцях.
Сталі сакатаці,
Што ім есці даці?
Чы жменю ячменю,
Чы гароху міску,
Чы сабаку Лыску?

## 222

А-а, люлі-люлі-люленькі,
Да ляцелі куранькі,
Да ляціце, куранькі, вон, вон,
Да нясіце хлопчыку сон, сон.
Да ляціце, куркі, на вароты.
Да селі-ўпалі на вароцях
У чырвоненькіх чабоцях.
А-а, баю-баю, баю-баю.

## 223

Люлі-люлі-люлькі,
Прыляцелі куркі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах,
Сталі сакатаці,
А што есці даці?
Ці жыта карыта,
Ці ячменю жменю,
Ці гароху троху,
Ці канапель чарапень,
Ці аўса з поўнага каўша?

## 224

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на пячуры,

Што яны пачулі.
Сталі сакатаці,
Што дзіцяці даці.
Даці, даці боты
Шавецкай работы.
Боты малыя —
Падкоўкі залатыя.

### 225

А-а, а-а, люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі куркі сакатаць,
Няма чаго курам даць.
Даці, даці жыта
Поўнае карыта.
Даці, даці ячмяню
Небальшэнькую жмяню.
Даці, даці гарошку
Нямноганька да трошкі.
А-а, а-а, люлі спаць,
А-а, а-а, спаці,
Я буду люляці.

### 226

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі куры сакатаць —
Няма чаго курам даць.
Пасыплю курам грэчкі,
Каб няслі яечкі,
Бо куры жыта не ядуць
І яечак не нясуць.

## 227

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на вароты
У чырвоных ботах.
Сталі куры сакатаць,
Нечага ім есці даць.
Ці жыта карыта,
Ці ячменю жменю,
Ці гароху троху,
Ці бобу з каробу,
Ці пшаніцы лубяшку,
Трэба ж Колю на кашку.

## 228

♩=96

Лю- лі -лю - лі - лю - лі, па -ля - це - лі
ку- - ры. Пай-шлі ж ку - ры ў хаў- ту - ры;
Ку- ры я - му ка - па -лі,
ве - ра - бе - еч - ка па - мёр, я- му ж веч-нень -
а ва - ро -ны спя - ва - лі, ве - ра - бей - ку
- кі па - кой. Лю - лі -лю - лі - лю - лі,
ха -ва - лі.
па - ля - це - лі ку - ры.

Люлі-люлі-люлі,
Паляцелі куры.
Пайшлі ж куры ў хаўтуры:

Верабеечка памёр,
Яму ж вечненькі пакой.
Куры яму капалі,
А вароны спявалі,
Верабейку хавалі.
Люлі-люлі-люлі,
Паляцелі куры.

## 229

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі куры,
Верабейка памёр,
Яму вечны пакой,
А лісіца галасіла,
Муха клёцкі мясіла,
Камар доскі часаў,
Павук яму капаў.

## 230

Ага-га, люлі,
Падраў каршун куры,
Пер'е — на падушкі,
А мяса — ў кадушкі.
Адна засталася
І тая не ўдалася.
Бяры, каршун, і тую:
Мы купім другую.

## 231






Люлі-люлі-люлі,
Пpыляцелі гулі,
Селі на вароцях
У чырвоных боцях.
Сталі шчабятаці,
Ды што каму даці:
А Іваньку сапажкі,
А Рыгорку ражначкі.

## 232

♩= 58















А-а, люлі-люлі,
Прыляцелі гулі,
Селі яны ў люлі,
Сталі яны гуркатаці,
Дзяціну калыхаці.
Гойда-гойда, люлюсенькі,
Мой сыночак малюсенькі,
Гойда-гойда-гойдада,
Дзіця маё кахана.

## 233






А-а, каткі
Прынеслі дзеткам цвяткі.
Люлі-люлі, гойда.
Прыляцела сойка,
Села на вароцях
У чырвоных ботах.
Стала кудкудаці,
Што ёй есці даці:
Ў чарапочак вадзіцы,
А ў місачку пшаніцы.
Ешце, куркі, піце,
Андрэйку прыспіце.
А-а-а.

## 234

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі гулі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі шчабятаці,
А што каму даці:
Іванку сапожкі,
Рыгорку ражночкі.

## 235

А-а, а-а, люлі,
Прыляцелі гулі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах,

Селі-палі на таку
У сізенькім каўпаку,
Сталі варкаваці,
Што дзіцяці даці,
Ці бобу каробу,
Ці гароху троху,
Ці калапень чарапень,
Ці ячменю жменю,
Каня варанога,
Быка палавога,
Цёлушку-рабушку
Дзіцяці на юшку.

## 236

Люлі-люлі,
Паляцелі вулі
Да селі на вароцех
У красных чабоцех.
Да сталі шчабятаці,
А што каму даці.
А даці, даці
Сярожку спаці.

## 237

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі гулі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі яны варкаваць,
Як дзіцяцю забаўляць.

## 238

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі птулі.
Селі на варотах

У чырвоных ботах.
Боты пагарэлі,
Птушкі паляцелі.

### 239

Люлі-люлі,
Прыляцелі гулі,
Селі на люлі.
Пачалі бруkaці
І дзіцяцю калыхаці.

### 240

Люлі-люлі-люлінькі!
Люлі-люлі, спаценьку!
Прыляцелі гуленькі,
Сталі яны гаварыць:
— Чым малютку накарміць?
— Будзем карміць піражком,
Будзем паіць малачком.
Люлі-люлі, спаценьку.

### 241

Ай, люлі-люлі-люлечкі,
Прыляцелі гулечкі.
Сталі яны брукаваць:
— Чым Валечку гадаваць?
Адзін кажа:— Кашкаю.
Другі кажа:— Камкаю.
Трэці кажа:— Малачком
І беленькім піражком.

## 242

Люлі-люлі-люленькі!
Саляталісь гулінькі.
Селі гулькі на люлькі,
Сталі яны гуркуваць,
Як Ніколю гадуваць.
— Будзем карміць кашкаю,
Будзем паіць бражкаю.

## 243

Люлі-люлі-люленькі!
Прыляцелі гуленькі,
Селі-палі ў люленькі,
Сталі думаць і гадаць:
— Чым дзіцяцю гадаваць?
— Дзіцяціньку—пруцінкай,
— А мамачку — кашынькай,
— А нянічку — папанькай.

## 244

Баю-баю-баюшкі!
Люлі-люлі-люлюшкі!
Прыляцелі гулюшкі,
Яны сталі гуркуваць,
Майго Ваню забаўляць.
А наш Ваня маленькі
Будзець ў золаце хадзіць,
Чыста серабра насіць.
Нянькам, мамкам — абноскі,
Красным дзеўкам — абрэзкі.

## 245

Баю-баю-баінькі!
Люлі-люлі-люлінькі!
Саляталісь гулінькі,

Селі гулькі на люлькі,
Сталі ж яны гуркаваць.
Сядзелі, сядзелі,
Ўзняліся — паляцелі.
Ляцелі, ляцелі,
Апяць селі — пасядзелі.

### 246

Люлі-люлі-люленькі!
Прыляцелі гуленькі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі яны варкаваці,
Чым дзіцятку гадаваці.
Няхай дзетку пташкі
Прыгатовяць кашкі!

### 247

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі гусі,
Яны сталі гаварыць,
Чым Колечку пакарміць.
— Пакарміць малачком,
Салодзенькім піражком.

### 248

Наляцелі гусі,
Селі на варотах
У красных чаботах.
Сталі думаць і гадаць,
Чым дзіця гадаваць:
Ці кашкаю, ці мядком,
Ці салодзенькім малачком?

## 249

Прыляцелі гусі
А з беленькай Русі.
Палі-селі на крыніцы,
Сталі яны ваду піці,
Ваду піўшы, размаўляці,
Якці дома даць дзіцяці.

## 250

Наляцелі гусі,
Селі у варотах
У красных чаботах.
— Ой, што нашаму Іванку прынеслі?
— Красныя чабоцікі
Па самыя жывоцікі.

## 251




А шыш, а шыш, верабей,
Не клюй маіх калапень.
А я ж таму вераб'ю
Колам ножку адаб'ю.
А на тыя ножкі
Куплю ж я панчошкі,
А на тое ж целца
Куплю палаценца.

## 252
















А шыш, а шыш, верабей,
Не клюй маіх калапень.
Мае калапенькі
Яны зеляненькі.
А я ж таму вераб'ю
Колам ножку падаб'ю,
Я на тую ножку
Пашыю панчошку,
Я ж на тое целца
Куплю палаценца.

## 253

А кыш, а кыш, верабей,
Не клюй маіх калапень,
А я таму вераб'ю,

Колам ножку пераб'ю,
Верабейчык скачыць,
Па ножачцы плачыць.

### 254

Верабей, верабей,
Не клюй маіх канапель.
Я старому вераб'ю
Колам нагу пераб'ю,
Маладому не буду —
Скарэй хлеба дабуду.

### 255

Баю-баю-баінькі,
Прыбяжалі заінькі.
— Ці спіць ваша дзевачка,
Дзевачка-прыпевачка?
— Ухадзіце, заінькі,
Не мяшайце баінькі.

### 256

А-а-а, люлі-люлінькі,
Да пабег зайчык у лясочак,
Да знайшоў зайчык паясочак.
Трэба зайчыка паймаці,
Да паясочак адабраці
І хлопчыку аддаці,—
Стане хлопчык спаці.
Да пабег зайчык пад ліпку,
Да знайшоў сабе скрыпку.
Трэба зайчыка паймаці,
Скрыпачку адабраці,
Стане хлопчык спаці.
Да пабег зайчык пад грушку,
Да знайшоў сабе падушку.
Трэба зайчыка паймаці,
Ды падушку адабраці,—

Стане хлопчык спаці.
А-а-а, люлі-люлінькі.

## 257

Бегаў зайка каля зайкі
І ў авёс.
Ехаў хлопец па дзевачку —
Не прывёз.

## 258

Ходзіць зайчык па капусце,
Носіць дзеці ў белай хустцы.
А катора пісне,
То на землю цісне.

## 259

Ля, ля, воўк ідзе!
А ты, воўча, пайшоў вон!
А на Яся майго сон!

## 260

♩=78

Ба - ю - ба - ю - ба - ю, не ла - жы - ся
з кра - ю, прый - дзе се - рань - кі ваў - чок,
схо - піць ця - бе за ба - чок.

Баю-баю-баю,
Не лажыся з краю,
Прыйдзе сeранькі ваўчок,
Схопіць цябе за бачок.

261

Баюшкі-баю,
Не лажыся на краю,
Прыйдзе шэранькі ваўчок,
Схопіць Таньку за бачок,
Аднясець у кусцік
І назад не пусціць.

262

Ой, баю-баю-баю,
Не лажыся на краю,
Прыйдзець шэранькі каток,
Драпнець Ваньку за бачок.

263

Баю-баю-баю-бай,
Не лажыся ты на край,
Прыйдзе шэранькі ваўчок,
Схопіць Нінку за бачок
І пацягне у лясок
Пад малінавы кусток.

264

Баю-баінку-баю,*
Не лажыся на краю.

Не лажыся на краёк,
Прыйдзе шэранькі ваўчок.

Прыйдзе шэранькі ваўчок,
Ён усхопіць за бачок.

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

А ён ўсхопіць за бачок
І зацягнець у лясок.

І зацягнець у лясок,
Закапае у пясок.

## 265

Баю-баю-баяньку,
Не кладзіся на крайку,
Прыбяжыць ваўчок
І знясець у лясок
Пад ракітавы кусток.

## 266

♩= 58

Ай, ба - ю - ба - ю - ба - ю, не ла - жы - ся
на кра - ю. На кра - ю ты зва - ліш - ся,
крэп - ка, крэп - ка ўда - рыш - ся. А - псік, ко - цік,
на да - лін - ку, а Зі - нач - ка - спаць у пя - ры - ку.
А - псік, ко - цік, рэп - ку рваць, а Зі - нач - ка -
крэп - ка спаць. А - псік, ко - цік, пад мас - ток,




Ай, баю-баю-баю,
Не лажыся на краю.
На краю ты звалішся,
Крэпка, крэпка ўдарышся.

Апсік, коцік, на далінку,
А Зіначка — спаць у пярынку.
Апсік, коцік, рэпку рваць,
А Зіначка — крэпка спаць.

Апсік, коцік, пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток,
Сам разочак укусіў
І Зіначку угасціў.

## 267

Ой, баю-баю-баю,
Не лажыся на краю.
А ты з краю упадзеш
І галоўку разаб'еш.

## 268

Баю-баю-баю,
Не лажыся з краю,
Бо ты з краю упадзеш,
Ручку, ножку расшыбеш.

## 269

Баю-баюшкі-баю,
Не лажыся на краю,
А то з краюшку ўпадзеш,
Сваю галовушку паб'еш.

## 270

♩= 54

Лю - лі - лю - лі - лю - ля - сі,
па - бі - лі - ся два Я - сі.

Люлі-люлі-люлясі,
Пабіліся два Ясі.
— За якую прычыну?
— За пекную дзяўчыну.

## 271

[ ♩= 64 ]

Лю- лі - лю-лі - лю - ля- шы, па- бі - лі-ся Галь- я -шы.
— За я - ку -ю пры -чы -ну? — За ха - ро-шу дзяў-чы- ну.

Люлі-люлі-люляшы,
Пабіліся Гальяшы.
— За якую прычыну?
— За харошу дзяўчыну.

## 272

♩= 64

Лю- лі - лю - лі - лю - лі, па - бі - лі - ся

ку - ры. — За я - ку - ю пры - чы - ну?

— За Ле - нач - ку - дзяў - чы - ну.

Люлі-люлі-люлі,
Пабіліся куры.
— За якую прычыну?
— За Леначку-дзяўчыну.

## 273

Люлі-люлі-люлясі,
Пабіліся два Ясі.
— За якую прычыну?
— За малую дзяўчыну,
За хлеба скарынку,
За малую свінку.

## 274

Люлі-люлі-люлясі,
Пабіліся два Ясі.
— За якую прычыну?
— За малую дзяўчыну.
— А дзе ж тая дзяўчына?
— Калода забіла.
— А дзе ж тая калода?

— Чэрві патачылі.
— А дзе ж тыя чэрві?
— Куры паклявалі.
— А дзе ж тыя куры?
— Каршуны падралі.
— А дзе ж тыя каршуны?
— Паляцелі на мора.
— А дзе ж тое мора?
— Праскамі парасло.
— А дзе ж тыя краскі?
— Дзеўкі пашчыпалі.
— А дзе ж тыя дзеўкі?
— Замуж пааддавалі.

## 275

Люлі-люлі-люлясі,
Пабіліся два Ясі.
— За якую прычыну?
— За харошую дзяўчыну.

Люлі-люлі-лялю,
Мама купіць балю,
Тата купіць барышу,
Што я лялю калышу!

Люлі-люлі-люлі,
Каток без кашулі,
Котка без сарочкі
Змарозіла плечкі.

Люляй-люляй,
Вочкі стуляй,
Як выспішся,
То йзноў гуляй.

## 276

— Баю-баю, баянёк,
Прыйдзі ка мне на дзянёк!

— А я цюцькі баюсь.
— А я цюцьку прывяжу,
Краец хлеба падлажу.

## 277

Люляй-люляй, дзіця, спаць,
Няма каму калыхаць,
А я, маладзенька,
Пагуляць радзенька.

## 278

Люлі, малое дзіця,
Люлі, дарагое.
Бадай жа ты, дзіцятачка,
З калыбелі ўпала,
За табою, дзіцятачка,
Мне гульба прапала.
Мне гульба прапала,
Гуляць волі не стала.

## 279




Люлі-люлі, малое,
А налета — другое.
Гэта будзець нянька,
Тая будзець лялька.
Тое карміць малаком,
А няньку біць кулаком.

## 280

♩ = 96

А – а, а – а, ма – ло – е,
а на – ле – та – дру – го – е.

Гэ – га бу – дзець нянь – ка,
а дру – го – е – лянь – ка.

А-а, а-а, малое,
А налета — другое.
Гэта будзець нянька,
А другое — лялька,
Гэта будзець калыхаць,
А малое будзець спаць.
Гэту будзем малаком,
А другую — кулаком.

## 281

[♩=80]

Цю – ці, лю – лі, дзі – ця спаць! А я бу – ду ка – лы – хаць!

Цюці, люлі,
Дзіця, спаць!
А я буду калыхаць!
Цюці, люлі, малое,
А налета — другое!
Будзем гэта калыхаць,
А другое дабываць:
Пойдзець маці у асець
І другога прынясець.

12. Зак. 18

## 282

Люлі-люлі, малое,
А налета — другое.
Бацька лапці напляце,
Маці сына прывядзе.

## 283

А-а, а-а, малое,
Пакуль будзець другое.
А-а, а-а, дзецічка,
Пакуль будзець дзевачка.
А-а, а-а, Несцерка,
Пакуль будзець шэсцерка.

## 284

Люлі-люлі, малое,
А налета — другое.
Люлі-люлі, Несцерка,
А налета — шэсцерка.
Люлі-люлі, Петрачок,
А налета — сем дачок.
Адна будзець нянька,
А другая — лялька.

## 285

Баю-баю, Петрачок,
Налета шэсць дачок.
Баю-баю, Пецірка,
Налета будзець семірка.

## 286

Люлі-люлі, малое,
А налета — другое.

Гэта будзе нянька,
А там будзе лялька.

## 287

А, малое, налета — другое.
Ой, каток-варкаток.
Упаў коцік із варот,
Забіў спіну і жывот.
А, малое, налета — другое.
На ката варката,
На майго Івана сон-драмата.

## 288

Люлі-люлі, спацькі,
Няма дома бацькі.
Пайшоў бацька на таржок,
Купіў табе піражок.

## 289

[ Andante ]







Люлі-люлі, калышу,
Купіць татка барышу.
А за што? За грошы.
Які барыш харошы.

## 290

Гэй, да люлю калышу,
Купіць тата барышу.
— А за што?— За грошы.
Наш барыш харошы.

## 291

Люлі-люлі, калышу,
Купіць бацька барышу,
А маці закускі
На святы запускі.

## 292

Люлі-люлі, калышу,
Купіць татка барышу,
А мама — балю,
Што калыша лялю.

## 293

Люлі-люлі-люляшы,
Прадаў бацька лемяшы,
А матушка скавараду
На салодзенькім мяду.

## 294

Люлі-люлі-люляшы!
Прапіў бацька лемяшы.
А сын таго роду —
Прапіў скавароду,
А матка на наругу
Прапіла дзяругу.

## 295

Люлі-люлі, калышу,
Зварыць матка куляшу,
Алеем, алеем намажыць
І нам з табой не пакажыць.
Люлі-люлі, люляшы,
Прапіў бацька лемяшы,
Люлі-люлі, лемяшы.
А матачка таго роду —
Прапіла скавароду.
Люлі-люлі, калышу,
А бабачка — чапялу,
А седзючы на палу,
Люлі-люлі, калышу.

## 296




Ой, люлі-люлі-люлі,
Жыў мужычок на краі.
Ён не бедны, не багат,
У яго семера рабят.
Усе на лавачцы сядзяць,
Па калачыку дзяржаць.

## 297

Ай, баю!
Жывець Янка на краю.
Ён не бедзен, не багат,
У яго семера рабят.
Усе па лавачках сядзяць,
Кашку масляну ядзяць.

## 298

[ ♩=48-54 ]

Лю_ляй- лю_ляй - лю_ ля _шынь_ кі, бы_ ло ў мат_кі
тры Я _сень_ кі: а_дзін гу - сі па- се, дру_ гі ес -
_ці ня _ се, трэ_ ці ся_дзіць на ка - ме _ ні,
дзер_жыць тру _бу на ра _ ме _ ні. Ой, па - ве _ шу
тру _ бу на зя _лё_ным ду _ бу, ня_хай ве_цер
па _ вя ва _ е, ня_хай са _ ма тру_ ба гра _ е.

Люляй-люляй-люляшынькі,
Было ў маткі тры Ясенькі:
Адзін гусі пасе,
Другі есці нясе,
Трэці сядзіць на камені,
Дзержыць трубу на рамені.
Ой, павешу трубу
На зялёным дубу,
Няхай вецер павявае,
Няхай сама труба грае.

## 299

Люлі-люлі-люлясенькі,
Было ў маткі тры Ясенькі:
Адзін быдла пасе,
Другі есці нясе,
Трэці сядзіць на камені,
Дзяржыць дуду на рамені.
Ой ты, дудка ж мая,
Весялушка мая,
Весялі ж ты мяне
На чужой старане.
Хай вецер павявае,
Няхай дуда сама грае.

## 300

♩=72

Лю_лі - лю_ лі - лю_ лі, ся_дзеў дзед у пу - ні,

а ба _ба ў ва_ се _ ці ка_лы_ ха_ ла дзе _ ці.
Ма_лы_ я ра _ бят _ кі шчы _па _лі квят _ кі.

Люлі-люлі-люлі,
Сядзеў дзед у пуні,
А баба ў васеці
Калыхала дзеці.
Малыя рабяткі
Шчыпалі квяткі.

## 301

Люлі-люлі, маляты,
Паляцелі цяляты
Пад гарушку крутую,

Пад царкаўку святую.
Пад гарушкай пад крутой
Сядзіць дзедзька з барадой.
Ён красачкі шчыпаець,
Усім дзеткам даець
Па тры, па чатыры,
А Янку пяць, пяць —
Трэба яму спаць.

**302**

Да кыш, куркі, пад печ,
Можа наш Сяргей заснець
І больш падрасцець.
Да пасту пагоніць
І конікаў павядзець,
Каліначак наломіць,
Малым дзеткам падзеліць.

**303**

Люлі-люлі, дзяцінка малая,
Парвалася ачыпачка навая.
Да не жалка мне ачыпачкі навоі,
Да жалка мне дзяціны маёі.

**304**

Баю-баю-баінькі,
Купілі Тоні валенкі.
Надзенем на ножанькі
І пусцім па дарожанькі.
Будзе Тонечка хадзіць,
Новы валенкі насіць.

## 305

Люляй-люляй-люляй,
Вочкі стуляй, стуляй.
А як прачхнешся,
То зноў гуляй, гуляй.

## 306

[𝅗𝅥=72]

Лю_лі - лю - лі, дзе_ця ез_дзі - ла ў ка_рэ - це,
зі- мо - ю—ў ва - зоч _ку на сі вым ка_нёч - ку.

Люлі-люлі, дзеця
Ездзіла ў карэце,
Зімою — ў вазочку
На сівым канёчку.

## 307

Спі, Валюшанька, не плач,
Купім мы табе калач.
Мёдам памажам,
Нікому не пакажам.

## 308

Люлі-люлі,
Чужым дзеткам
Дулі,
А майму Іванку
Калачы,
Штоб спаў
Дзень і ўначы.

309

Люлі-люлі, дзяціна малая,
Ляж жа ты спаці,
А котка не хадзі па хаце
Да не будзі дзіцяці,
Бо чужым дзецям дулі,
А майму калачы,
Штоб спаў і ўдзень і ўначы.

# ЗАБАЎЛЯНКІ

## 310




Ладу-ладу-ладкі.
— А дзе былі?— Ў бабкі.
— А што елі?— Кашку.
— А што пілі?— Бражку.

Бабулька казала,
Як нас частавала:
— Прыхадзіце часцей,
Пачастую ляпей:

Дам вам сыраквашкі,
Бярозавай кашкі,
Піражкоў у маку
І розных прысмакаў.

## 311

Лады-лады-ладкі.
— Дзе былі?— У бабкі!
— Што елі?— Кашку!
— Што пілі?— Бражку!
Кашкі паелі,
Бражкі папілі,
На галоўку селі,
Пырх — і паляцелі.

## 312

А ладачкі-ладкі!
— А дзе былі?— У бабкі.
— А што елі?— Кашку.
— А што пілі?— Бражку.

## 313




Ладкі-ладушкі,
Прыляцелі птушкі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.

Селі на варотах
У чырвоных ботах,
Сталі сакатаці,
Нечага ім даці.

Насыплю гарошку,
Каб пад'елі трошку,
Ды падсыплю грэчкі,
Каб неслі яечкі.

Сталі сакатаці,
Нечага ім даці,
Грэчкі не ядуць,
Яек не нясуць.

## 314




Ладкі-ладушкі,
Прыляцелі птушкі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці,
Нечага ім даці.
Пасыплю гарошку,
Каб пад'елі трошку.
Ды пасыплю грэчкі,
Каб няслі яечкі.
Грэчкі не ядуць,
Яек не нясуць.

## 315

Ладачкі-ладушкі,
Прыляцелі птушкі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.

Боты паскідалі,
Кругом палятадлі,
Сталі сакатаці,
Каб ім есці даці.

Прынясу ім жыта —
Будуць птушкі сыты.
Пасыплю гароху,
Хай ядуць патроху.

Ды пасыплю грэчкі,
Хай нясуць яечкі.
Грэчкі не ядуць,
Яек не нясуць.

## 316

Ладкі-ладушкі,
Прыляцелі птушкі,
Селі на варота
У чырвоных ботах.
Сталі шчабятаці,
Што каму даці.
Адна кажа:— Піражок,
А другая:— Кока
З вароніча вока.

## 317

♩=96

Ла _ду _ сі _ кі - лад _ кі, па _ бі _ лі _ ся баб _ кі,
ад _на ад _ну за ка _ су: — Ад _ дай ма _ ю каў _ ба _ су.

Ладусікі-ладкі,
Пабіліся бабкі.
Адна адну за касу:
— Аддай маю каўбасу.

## 318

♩= 144

Ла - ду - ла - ду - лад - кі, па - бі - лі - ся баб - кі

за ка - мок цес - та па - ся - род мес - та.

А вы, ба - бач - кі, вы не бі - це - ся,

ку - пі - це пі - ра - жок, па - мі - ры - це - ся.

Ладу-ладу-ладкі,
Пабіліся бабкі
За камок цеста
Пасярод места.
А вы, бабачкі,
Вы не біцеся,
Купіце піражок,
Памірыцеся.

## 319

♩=78

Ла - ду - ла - ду - лад - кі, па - бі - лі - ся баб - кі

за ка - мок цес - та па - ся - род мес - та,




Ладу-ладу -ладкі,
Пабіліся бабкі
За камок цеста
Пасярод места,
За скарыначку
Сярод рыначку.

## 320

Ладу-ладу-ладкі,
Пабіліся бабкі
За камок цеста
Пасярод места,
За хлеба скарынку
Пасярод рынку.
А вы, бабачкі,
Вы не біцеся,
Купіце піражок,
Памірыцеся.

## 321

Ладу-ладу-ладкі,
Пабіліся бабкі
За камочак цеста
Ды пасярод места;
Селі у запечку,
З'елі перапечку.
Засталіся крошкі,
Іх паелі кошкі.

### 322

Ладу-ладу-ладкі,
Паедзем да бабкі
На камок цеста
Пасярод места.

### 323

Лады-лады-ладкі,
Малыя рабяткі
Гарох малацілі —
Цапы паламілі.
Лады-лады-ладкі!
— Дзе былі? — У бабкі!
— Што елі? — Кашку!
— А што пілі? — Бражку!
Кашка — масляная,
Бражка — смашненькая.
Папілі, паелі —
Дамоў паляцелі,
На вароты селі,
«Ладушкі» запелі.

### 324

Ладу-ладу-ладкі,
Паповы рабяткі
Гарох малацілі,
Цапы паламалі,
Папу не сказалі.
Поп лез з печы,
Прабіў плечы,
А баран з-пад печы
З крутымі рагамі,
А дзед на парозе
З мяккім пірагом,
А маленькі хлопчык

13. Зак. 18

Узлез на істопачку,
У дудачку йграець
І малага забаўляець.

### 325

Лады-лады-ладкі!
Паповы рабяткі
Гарох малацілі,
Цапы паламалі,
На клець паскідалі.
Поп рассярдзіўся,
З палацей зваліўся.
Пападдзя — з печкі,
Пабіла плечкі.
Курыца — з падпечкі,
Пабіла гаршчэчкі.
Жыд з полкі
Рассыпаў іголкі.

### 326

Ладу-ладу-ладкі!
Паповы рабяткі
Ў поле ганялі,
Гарох малацілі,
Цапы паламалі,
За сець пакідалі,
Папу не сказалі.
Поп рассярдзіўся,
З печкі зваліўся,
А пападдзя — з ложку,
Зламіла ножку.

### 327

А ладачкі-ладачкі!
Паповы рабятачкі
Гарох малацілі,

Цапы паламалі,
За авін пакідалі.
Поп сварыўся,
З палаць зваліўся;
Пападдзя — з печы,
Пабіла плечы.
Пятух на ямкі
Пабіў склянкі.
Кот на пячы
Прадаець калачы;
Ён зваліўся з пячы,
Ён пабіў калачы.

328

Кацюты, кацюты,
Ладушкі-ладкі.
— Дзе былі?
— У бабкі.
— Што рабілі?
— Муку малолі.
— Дзе падзелі?
— Мышкі з'елі.
— Куды паняслі?
— Сюды, сюды, сюды.

329

Ладкі-ладушкі,
Прыляцелі птушкі
На бабіны грушкі.
Грушкі пасохлі,
Птушкі падохлі.

330

Ладкі ладком,
Піражкі з мядком,
Кашка з алеем,
Есці не ўмеем.

## 331

[♩=108]

Ко- ці, ко ці лап - кі, па - е -дзеш да

баб - кі, баб -ка дасць пі -ра -жок, а дзя- ду - ня

ша-ля-жок і та-бач - кі ра-жок. І та-бач- кі

нюх - нюх, за го- рач - ку трух - трух.

Коці, коці лапкі,
Паедзеш да бабкі,
Бабка дасць піражок,
А дзядуня шаляжок
І табачкі ражок.
І табачкі нюх-нюх,
За горачку трух-трух.

## 332

Лады-лады-ладкі,
Паеду да бабкі.
Бабка дасць піражка
І табачкі з ражка.

## 333

Moderato

Гой – да, гой–да, гай –да – маш, па – е –дзе – мо
на кір – маш, на кір– ма –шы цу–ке–рач–кі, бул – кі.
Што На–дзей – цы ку – пі – ці? Цу – ке – рач – ка
ма – ла, на бу–лач–ку гро–шай не ста – ла.

Гойда, гойда, гайдамаш,
Паедземо на кірмаш,
На кірмашы цукерачкі, булкі.
Што Надзейцы купіці?
Цукерачка мала,
На булачку грошай не стала.

## 334

[ Allegro ]

–Чэ– чэ, чэ –чэ, са –ро –ка, а дзе бы– ла да –лё–ка?
–Бы– ла ў па–на на та –ку, ма –ла –ці –ла а –са– ку.

— Чэ-чэ, чэ-чэ, сарока,
А дзе была далёка?

— Была ў пана на таку,
Малаціла асаку.

Паня сына радзіла,
На коніка садзіла.

Канёк вараненькі,
Панічок маленькі.

Гуца, конік, да вады,
Шаўковыя павады.

Канёк не напіўся,
Панічок зваліўся.

## 335

𝅗𝅥=112

— Чы_ кі - чы _кі, са_ ро _ка, дзе бы_ ла? — Да_ лё - ка.

У па - на на та _ ку ма _ла _ці - ла а - са _ку.

Па_ня сы_ на ра_дзі - ла, на ко - ні _ка са _дзі _ла.

На, ко - нік, да ва _ ды, шаў_ ко _вы - я па - ва _ды.

Ко_ нік не на - піў - ся, па _нік у _ та _піў _ся.

— Чыкі-чыкі, сарока,
Дзе была? — Далёка.
У пана на таку
Малаціла асаку.

Паня сына радзіла,
На коніка садзіла.
Но, конік, да вады,
Шаўковыя павады.
Конік не напіўся,
Панік утапіўся.

## 336




Чар-чар, сарока
Прыляцела здалёка,
Села ў пана на таку,
А пан сказаў: — Засяку!
Яна кажыць:— Уцяку.
Пыр-пыр-пыр! Паляцела.

## 337










— Ці ты, ці ты, сарока,
Дзе ты была далёка?
— Была ў пана на таку,
Малаціла асаку.
Пані сына радзіла,
На коніка ўсадзіла.
Гоца, конік, да вады,
Шоўкавыя павады.

338

Чы-чы, чы-чы! Сарока
Прыляцела здалёка.
Села-пала на таку
У чырвоным каўпаку.

339

Чы-чы, сарока
Прыляцела здалёка.
Села-пала на таку
У чырвоным каўпаку.
А пан кажаць:
— Засяку!
Паня кажаць:
— Не буду,
Скарэй хлеба
Дабуду.

340

— Чыкі-чыкі, сарока,
А дзе была? — Далёка.
Я ў пана на таку,
Я відзела талаку:

Пані сына радзіла,
На коніка садзіла,
А конічак вараны,
А паночак малады.

## 341

Чы-чы-чы, сарока!
— Дзе была? — Далёка.
Была ў пана на таку,
Відзела там талаку.
Пані сына радзіла,
На коніка садзіла.
Конік вараненькі,
А сам маладзенькі.
Паехалі ў Піцер:
Жалезны шынцы,
Шаўковы павады,
Дубовы пакаты.

## 342

— Ці-ці-ці, сарока,
Дзе была далёка?
— А я была ў Паначох,
У чырвоных капачох,
Паня сына радзіла,
На коніка садзіла:
«А тпру, кося, да вады,
Чырвоныя павады!»
Конік не напіўся,
Паніч утапіўся.
Пайшоў пан за вадой,
Стаіць сын з барадой.

**343**

Чы-чы-чы, сарока!
Паляцела далёка,
Села-пала на таку
У чырвоным каўпаку,
Пан кажыць: — Засяку!
Пані кажыць: — Не сячы,
Будзець сядзець на пячы,
Малых дзяцей берагчы.
Чаму ўчора не была?
— Баялася чыгуна,
Чыгуновы дзеці
Хочуць уляцеці
На Іванушкі клеці.
А Іван пашыць,
А воўк на дарозе,
Мядзведзь на калодзе,
А дрозд на рабіне,
Рабіну лушчыць.
— Ты, Калінаўна,
А падай сапагі.
— А мне некалі,
А я мост машчу,
Серабром трашчу.
Дрозд на рабіне,
Сава на балоце,
А мядзведзь на рабоце,
А ў лесе дуга
Ды не высечана.
А стаць ды сякаць,
Дык дзень пацяраць.
За той жа дзень
Трое лапці ўсплесць:
А сабе, і жане,
І таму [малому],
Што пад печчу сядзіць.

## 344

— Чы-ры, чы-ры, сарочанка!
Дзе была далёчанька?
— Была ў пана на таку.
Ходзіць жораў па таку
У чырвоным каўпаку,
Носіць шаблю пры баку:
— Усіх людзей перасяку!
Пайду сам за раку,
Дзе там людзі гаманяць
І мост масцяць,
Серабром гваздзяць!
Мой татка, гасудар,
Купіў мне сарафан:
Не долаг, не каротак —
Толькі па лесу хадзіць,
Шэрых зайцаў лавіць.
Варона, стара жона,
Пайшла жыта жаці,
А мядзведзь на бару
Боты падшываець:
— А сінічка-сястрычка,
Пашый мне кашульку!
Прывязу я жану,
І за стол пасажу,
І ўсім людзям пакажу.

## 345

Чы-чы, чы-чы, сарока!
Прыляцела здалёка,
Села-пала на таку
У чырвоным каўпаку.
— Не бей, паня, па баку,—
Буду табе служыці,
У поле саху насіці.
Прыйду ў поле — сахі нету.
Прыйду двору — жаны нету.

— А йдзе жана? — У мякіне.
— Што радзіла? — Якіма.
— Хто ксціў? — Кульбака.
— Чым завуць? — Сабака.

## 346

Чы-чы-чы, сарока!
Прыляцела здалёка,
Села-пала на таку
У чырвоным каўпаку.
Прыйшла к ёй паненка,
Гэта Валя маленька.
Прыйшла к ёй другая,
Гэта Манечка такая.
Прыйшла к ёй трэцяя Аня.
— Не бей, паня, па баку:
Буду табе служыці,
Ў поле саху насіці.

## 347

А курачка, рабашэчка!
Пазыч жа мне грабушэчка!
Гута-та! Гута-та!
Не пазычу, не прадам!
Прыйдзі ка мне — дарма дам!
Гута-та! Гута-та!

## 348

♩=80

Лю _ лі - лю - лі, гу - та - та, вый_ шла кош - ка
за ка - та. За ка - том доб - ра жыць,




Люлі-люлі, гута-та,
Выйшла кошка за ката.
За катом добра жыць,
Не нада тапкі шыць.

## 349

Тра-та-та, тра-та-та,
Кошка выйшла за ката,
За ката катовіча,
За Пятра Пятровіча.

## 350

Тра-та-та, тра-та-та,
Выйшла кошка да ката,
Селязень — да качкі,
Сучка — да сабачкі.

## 351

Гоп-гоп, і-га-га.
На буланцы едзець Янка,
Паўтараста рублей санкі,
Пяцьдзесят рублей дуга.
А кабылка паўрубля.
Гоп-гоп, і-га-га.

## 352

Гоп-гоп, гапаначкі,
Едзець баба на палачкі,
А дзед яе за вушка:

— Куды едзеш, старушка?
— А я еду на кірмаш,
Толькі грошай нямаш.

### 353

Чоха-чоха, чуханачкі,
Едзе баба у саначках,
Пытаецца ў Васіля,
Ці далёка да сяла?
Васіль праўды не сказаў,
Да бярозы прывязаў,
Каб не гэты панічы,
Прастаяла б дзве начы,
Каб не гэты кавалеры,
Прастаяла б дзве нядзелі.

### 354

Гоп-гоп, гопа-па,
Чорна морда у папа,
А ў папіхі белая,
Поп за ёю бегае.

### 355

Чук-чук, чукавала,
Пад рэшатам начавала.
Рэшата радзенька,
Дзіцятка маленька.

### 356

Чук-чук-чук,
Налавіў дзед шчук,
А баба — плотак
Ды паэвала цётак.

## 357

Гэй, чук, гэй, чук, гэй, чука,
Лепей, дзеўкі, дзецюка,
Дзяцюк дроў насячэць,
Дзеўка бліноў напячэць.

## 358

Чукі-чукі-чучкі,
На гары стручкі.
Курапатачкі
Іх клююваюць і дзюўбаюць
І Данілку забаўляюць.

## 359

Чух-чух, Марысіца,
Хвартух калышыцца.
Вецярок, вецярок
Павявае хвартушок.

## 360




Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.
Дарожка крывая,
Кабылка сляпая.

Еду, еду, еду,
Ніяк не даеду.
За чатыры мілі
Кабылку ўмарылі.

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку,
Запрагу барана,
Паеду да пана.

Скоранька паеду,
Каб паспець к абеду:
Пан дасць піражочак
І сыру кусочак.

## 361




Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.
Заўтра рана
Зарэжам барана,
Паедзем да пана.
Пан барана не бярэць,
Толькі [спінку] надзярэць.
Дзеры-дзеры-дзеры!

## 362



- рож - ку,
па - на. Пан дасць пі - ра - жок і та - бач -

- кі ў ра- жок, і каш - кі з а - ле - ем,

а ес - ці не ўме - ем.

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку,
Зарэжу барана,
Паеду да пана.
Пан дасць піражок
І табачкі ў ражок,
І кашкі з алеем,
А есці не ўмеем.

## 363

♩=132

Ку - ю, ку - ю нож - ку, па - е - ду ў да - рож - ку.
За - рэ - жу ба - ра - на, па - е - ду да па - на.

Дасць пан пі - ра- жок і та - бач - кі у ра- жок.

Ку- ю, ку - ю дру - гу - ю, па - е - ду у Пру - ю,
пры - вя - зу та - ко - га Ва- лер - ку муд - ро - га.

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.

14. Зак. 18

Зарэжу барана,
Паеду да пана.
Дасць пан піражок
І табачкі у ражок.
Кую, кую другую,
Паеду у Друю,
Прывязу такога
Валерку мудрога.

## 364

♩= 144

Ку_ ю, ку - ю нож - ку, па - е_ ду ў да - рож -ку,

за - рэ -жу ба - ра - на, па - е -ду да па - на.

Пан дасць пі_ раж -ка і та - бач - кі з раж_ка.

Ку - ю, ку - ю дру - гу - ю, я па - е -ду

у Дру - ю, куп - лю муд - ру - ю.

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку,
Зарэжу барана,
Паеду да пана.
Пан дасць піражка
І табачкі з ражка.
Кую, кую другую,
Я паеду у Друю,
Куплю мудрую.

### 365

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.
Паеду да пана,
Зарэжу барана.
Паеду да бога,
Зарэжу другога.

### 366

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.
У госці к цесцю
Пірагоў есці.
Кую, кую другую,
Паеду ў даўгую.

### 367

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.
Дарожка крывая,
Кабылка ліхая.
Дужка завалілась,
Кабылка змарылась.
Дарожачка рохля,
Кабылачка здохла!

### 368

Кую, кую ножку,
Паедзем ў дарожку,
Дарожка крывая,
Кабылка сляпая
Зачапіла за пень,
Прастаялі цэлы дзень.

### 369

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку,
Куплю чаравічкі,
Ножкі невялічкі.
Трэба каня падкаваць,
Штоб далёка начаваць.
Тут пень, тут калода,
Тут сцюдзёная крыніца,
Тут халодная вадзіца,
Вадзіца!

### 370

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку,
Куплю чаравічкі,
Малы, невялічкі,
На Валюшкіну ножку.
Кую, кую другую,
Паеду ў даўгую.
Дарожка — даўгая,
А ножка — малая.

### 371

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.
Куплю чаравічкі
На ножкі вялічкі.
Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.
За чатыры мілі
Падковачкі збілі.
Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.
Дарожка ліхая,
Кабылка кульгае.

## 372

Коў-коў ножку!
Паеду ў дарожку.
Трэба каня падкаваць,
Штоб далёка начаваць.

## 373

— Коў-коў, кавалёк,
Падкуй сапажок.
— Я не буду каваць:
Мае ручкі баляць.

## 374

Сарока-варона на прыпечку сядзела,
Дзеткам кашку варыла,
Апалонічкам мяшала,
А хвосцікамківала,
Усім дзеткам давала:
Аднаму дала, другому дала,
А ты, малы, круп не драў,
Вады не насіў, дзяжы не мясіў.
Схадзі, мальчык, па вадзіцу,
Табе каша на паліцы,
На паліцы, ў чарапіцы.
Тут пень, тут калода,
Тут мох, тут балота,
Тут крыніца і халодная вадзіца.
Шугі-шугі — паляцелі.

## 375

Сарока-варона
Дзеткам кашку варыла,
На прыпечку студзіла.
Гэтаму дала, гэтаму дала.
Гэтаму дала, гэтаму дала,

А гэтаму — не дала:
— А ты, мал, круп не драў,
Вады не насіў, дзяжы не мясіў.
Ідзі, малы, па вадзіцу,
Табе кашка на паліцы
У маленькай чарапіцы.

## 376

Піпа кашу варыла,
Малых дзетак карміла:
Аднаму дала, другому дала,
Трэццяму дала,
Чацвёртаму дала.
А ты, малы пальчык, ідзі,
Сам сабе кашы навары!
Тут — пень, тут — калода,
Тут — мох, тут — балота,
А тут — цёпленькая вадзіца.

## 377

Сарока-варона
Дзеткам кашку варыла,
На прыпечку студзіла,
Памялом мяшала,
Чапялой давала.
Гэтаму дала,
І гэтаму дала,
І гэтаму дала,
І гэтаму дала,
А гэтаму не дала:
— Ты, малы, круп не драў,
Вады не насіў,
Дзяжы не мясіў.
Ідзі, малы, па вадзіцу
У сцюдзёную крыніцу,
За пень, за калоду
Па жывеньку воду!

## 378

Сарока —
Белабока,
Кашу мяшала,
На прыпечку стаўляла,
Дзеткам давала.

Гэтаму дала,
Гэтаму дала і г. д.
А гэтаму не стала.

Тут пень — тут калода,
Тут пень — тут калода.
Бр-рр...

## 379

Сарока-варона
Кашку варыла,
Дзетак карміла:
Гэтаму давала,
Гэтаму давала,
Гэтаму давала,
Гэтаму давала...
А ты, пальчык,
Маленькі мальчык,
Схадзі па вадзіцу
У сцюдзёну крыніцу...
Тут мох,
Тут балота,
Тут пень,
Тут калода,
Тут крыніца,
Тут сцюдзёная вадзіца!

## 380

Сарокі-вароны
Дзецям кашку варылі,

Ой, на прыпечку дзялілі.
Таму далі, таму далі,
Таму галоўку адцялі.
Кіну варону
На бабкіны харомы.

## 381

Сарока-белабока
Кашку варыла,
Кашку варыла,
Дзеткам дарыла.
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
А ты, пальчык,
Малы-невялічкі,
Твая кашка
Ў чарапічцы.
Злыя каўкі прыляцелі,
Тваю кашку з'елі
І шух-шух — паляцелі.

## 382

Сарока, варона
Дзяцём кашу варыла,
На прыпечку ставіла,
Качаргой мяшала,
Паляном давала.
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
А гэтаму маленькаму не стала.
Бяжы, малы, па вадзіцу,
Знойдзеш кашку на паліцы.
Тут пень, тут калода,
Тут зімная, а тут цёплая вадзіца.

383

Сарока-варона
На прыпечку сядзела,
Дзеткам кашку варыла,
Палонічкам дзяліла.
Гэтаму дала, гэтаму дала,
А гэтаму не стала,
Бяжы, мышка, па вадзіцу,
Знойдзеш кашку на паліцы.
Тут пень, тут калода,
Тут зімная вадзіца.

384

Сарока-варона
Кашку мяшала,
Сваім дзеткам давала.
Ідзі, мышка, па ваду,
Табе кашкі пакладу.
Тут пень, тут калода,
Тут крыніца,
Тут халодная вадзіца.

385

Чэ-чэ, сарока
Прыляцела із далёка,
На прыпечку сядзела,
Дзеткам кашку варыла.
Аднаму дала, другому дала.
А ты, мал, круп не драў,
Вады не насіў,
Кашы не палучыў.

## 386

Сарока-варона кашку варыла,
У палонічку дзяліла.
Гэтаму, гэтаму, гэтаму, гэтаму дала.
А табе, маленечкі, на палічцы,
Малачком забелена.
Схадзі і вазьмі.
Тут пень, тут калода,
Тут мох, тут балота,
Тут крыніца, а тут зімная вадзіца.

## 387

Тфу-тфу-тфу.
Варыла, варыла мышка кашку,
На палонічку дзяліла.
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Гэтаму дала.
А ты, маленькі, невялічкі,
Бяжы па вадзічку.
Табе кашка ў гаршчочку на паліцы.
Тут пень, тут калода,
Тут мох, тут балота,
Тут крыніца,
А там зімная вадзіца.

## 388

Варыла, варыла
Мышка кашку.
Першаму дала,
Другому дала,
Трэцяму дала,
Чацвёртаму дала,
А пятаму не засталося.
Тут пень, тут калода,
А тут салодзенькая вадзіца.

## 389

Катуська, катуська
Беленькі,
Шэранькі,
Апсік!

## 390




— Мышка, мышка, дзе была?
— Была ў пана караля.
— Што рабіла?—Лыжкі мыла.
— А што далі? — Кусок сала.
— Дзе паклала? — Пад лаўкаю.
— Чым накрыла? — Халяўкаю.
— Дзе падзела?—Кошка з'ела.

## 391

— А ласачка,
А дзе была?
— У бога!
— А што ела,
А што піла?
— Ела кашыцу,
Піла вадзіцу,
Сцюдзёну крыніцу...
Тут мох,
Тут балота,
Тут пень,
Тут калода,
Тут крыніца,
Тут сцюдзёная вадзіца!

### 392

— Ласачка, дзе была?
— У бога.
— Што дзелала?
— Кросны ткала.
— Што заткала?
— Кусок сала.
— Дзе паклала?
— Пад кутом.
— Чым накрыла?
— Хамутом.

### 393

— Ласынька, Ласынька!
Дзе была?
— У пана.
— Што рабіла?
— Кросны ткала.
— Што зарабіла?
— Кусок сала.
— Дзе ж тое сала?
— Кошка ўкрала.
— Дзе ж тая кошка?
— За мора пабегла.
— Дзе ж тое мора?
— Кветкамі зарасло.
— Дзе ж тыя кветкі?
— Панны пашчыпалі.
— Дзе ж тыя панны?
— Замуж пайшлі.
— А дзе ж іх муж'я?
— На вайну пайшлі.
— А дзе ж та вайна?
— Пасярод [гумна].

— Ласачка! Дзе ж была?
— У бога.
— Што дзелала?
— Кросні ткала.
— Што за кросні?
— Кусок сала.
— Дзе ж тое сала?
— Пад сталом.
— Чым накрыта?
— Пасталом.
— Дзе ж тое сала?
— Кошка ўкрала.
— Дзе ж тая кошка?
— Пад печ пабегла.
— Дзе ж тая падпечча?
— Вада заняла.
— Дзе ж тая вада?
— Валы папілі.
— Дзе ж тыя валы?
— Доўбні пабілі.
— Дзе ж тыя доўбні?
— Чэрві патачылі.
— Дзе ж тыя чэрві?
— Куры падаўбілі.
— Дзе ж тыя куры?
— Каршун падраў.
— Дзе ж той каршун?
— Паляцеў на мора.
— Дзе ж тое мора?
— Краскамі зарасло.
— Дзе ж тыя краскі?
— Парвалі дзеўкі Параскі.
— Дзе ж тыя Параскі?
— Замуж павыйшлі.
— Дзе ж іх мужыкі?
— Пайшлі па вяззя
Да й самі завязлі.

395

— Ласачка-басачка, дзе была?
— На палу.
— А дзе пол?
— У бога.
— Што рабіла?
— Кросна ткала.
— Што заткала?
— Кусок сала.
— А дзе сала?
— Кошка ўкрала.
— А дзе кошка?
— Вадою заліта.
— А дзе вада?
— Валы папілі.
— А дзе валы?
— Доўбнямі пазабівалі.
— А дзе доўбні?
— Чэрві патачылі і г. д.

396

— Ласачка, ласачка,
Дзе была?
— У бога была.
— Што рабіла?
— Кросны ткала.
— Што заткала?
— Кавал сала.
— А дзе сала?
— Мышка ўкрала.
— А дзе мышка?
— У норку паджгала.
— А дзе норка?
— Вадой заплыла.
— А дзе вада?
— Краскамі зарасла.
— А дзе краскі?

— Дзеўкі парвалі.
— А дзе дзеўкі?
— Жаніхі пабралі.
— А дзе жаніхі?
— На вайну пайшлі.
— А дзе вайна?
— Пасярод гумна.

### 397

— Коця, коця, дзе была?
— У каморы.
— Што рабіла?
— Млечка піла.
— Што зрабіла?
— Збан пабіла.
— Апсік, апсік, апсік.

### 398

Ішлі козы рагатыя, багатыя:
— Каго пападу, таго забаду!
Аксютку папалі,
Аксютку забадалі:
Будык-будык-будык!

### 399

Ішлі козы ў арахі,
Нашчыпалі тры мяхі,
Хацелі Ваню забароць:
Калі-калі-калі!

### 400

Цаца-ляля,
Куплю балю,
Маслам памажу,
Табе пакажу,
А сам з'ем, з'ем, з'ем.

## 401

Дзеткі мае, галубочкі,
Нашто ж я вас паіла,
Нашто ж я вас карміла?
Воўк прыйшоў, дзяцей украў,
А я, маладзенька, заснула,
Таго дзіва не чула.
— Воўча, воўча,
Хапай дзяцей моўча.

## 402




Ішоў бай па сцяне,
Нёс сямёра лапцей:
І дзяцёнку па лапцёнку,
І жане, і сабе.

Ішоў бай па сцяне
У чырвоным каптане,
Нёс сямёра лапцей:
І дзяцёнку па лапцёнку,
І жане, і сабе.
І ці бавіць, ці не?

## 403

Moderato




Хадзіў бай па сцяне
У чырвоным жупане,
Нёс сямёра лапцёў:
І сабе, і жане,
І дзяцёнку па лапцёнку.
Ці бавіць, ці не?
— Баў.

## 404

Ішоў бай па сцяне
У чырвоным жупане.
Ці баіць ці не? — Баіць.
— І ты кажаш — баіць,
І я кажу — баіць.

Ішоў бай па сцяне,
Насіў лапці ў кішане.
Ці баіць, ці не? — Не.
— І ты кажаш — не,
І я кажу — не.

Ішоў бай па сцяне... і г. д.

## 405

Ішоў бай па сцяне,
Нёс торбу на спіне.
Што ў торбе, то мне,
Што ў карыце, то Мікіце.

## 406

Шоў бай па сцяне,
Нёс сямёра лапцей:
І сабе, і жане,
І дзіцёнку па лапцёнку.
Ці баіць, ці не?

## 407

Ходзя бай па сцяне
У чырвоным кафтане,
Нося лапці
І сабе, і жане,
І нам, дзяцёнкам, па лапцёнку.
А ты бай ці не?
— Бай!
— Тады ты зачынай.
— Ходзя бай па сцяне і г. д.

## 408

— Бегаў бай па сцяне
У чырвоным каптане.
Добрая мая казка ці не?
— Добрая.
— Як табе добрая, то і мне добрая.
Бегаў бай па сцяне
У чырвоным каптане.
Добрая мая казка ці не?
— Ну, добрая.
— Як табе добрая, то і мне добрая.
Бегаў бай па сцяне
У чырвоным каптане.
Добрая мая казка ці не?
— Ай, ідзі ты.

## 409

Бег бай па сцяне
У чырвоным каптане,
Нёс трое лапцей:
І жане, і сабе,
І дзяцёнку па лапцёнку.
Баіць ці не?
— Бай!

## 410




Сядзіць Сцяпан за сталом,
Накрыўшыся рукавом,
Ён лучынку шчапаець,
Ён дзяўчынку чапаець.
— Нашто ты мяне чапаеш,
Калі ты вусоў не маеш?
Ідзі вусы прычапі,
Тады мяне зачапі.

## 411

Трах-бах-тарабах,
Едзе баба на валах.
А волікі тупу-тупу,
Баба з воза цупу-лупу.

## 412




— Чыкі-чыкі, паненачка,
Чаму така маленечка?
— Мяне брат гадаваў,
Хлеба-солі не даваў:
Каб вяліка не расла,
Каб я замуж не пайшла,
Каб вяселле не спраўляць,
Каб пасагі не даваць.

## 413

Чыры-чыры па барану.
— Каму рогі? — Каэтану.
Чыры-чыры па быку.
— Каму рогі? — Януку.

## 414

Чыры-чыры барана,
Паедзеш да пана,
Пан дасць піражок
І табачкі ражок.

## 415

Чыры-чыры, скрыпачка,
Ляціць бабка з прыпечка,
А дзед яе за касу:
— Пячы, бабка, кілбасу.

# ПЕСНІ

## 416

♩= 108







Камар лазню тапіў,
Муха парылася.

Прыпеў:

Дылі-дылі-дылі,
Го-ца-ца-ца,
Ой, дыль-дыль-дыль,
Го-ца-ца.*

Ды з палка звалілася
І на смерць забілася.

Едзе жук да папа,
Да запечнага клапа.

А поп часу не мае,
Прусака спавядае.

Прэ блаха на мышы,
Ужо муха без душы.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Пакуль муху памылі,
Пук лучыны спалілі.

Пакуль муху прыбралі,
Певуны запялі.

Зайцы яму капалі,
Лісы труну збівалі.

Совы муху няслі,
Ваўкі голас вялі.

У пясочку хавалі
І памінкі спраўлялі.

Вылі ўсе, галасілі,
Выпілі, закусілі.

## 417




Камар лазню тапіў,
Муха парылася.

Прыпеў:
Дылі, дылі, го-ца-ца-ца.
Ой, дыль-дыль-дыль, го-ца-ца!*

З палка звалілася,
Насмерць забілася.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Блыха добрай была,
Запрагае ката,

Едзе ў Мінск да аптэкі,
Каб купіць мусе лекі.

Прэ блыха на мышы,
Муха ўжо без душы.

Пакуль муху памылі,
Пук лучыны спалілі.

Пакуль муху прыбралі,
Певуны ўжо спявалі.

Зайцы яму капалі,
Лісы труну збівалі.

Совы муху няслі,
Ваўкі голас вялі.

У пясочку хавалі
І памінкі спраўлялі.

Вылі ўсе, галасілі,
Год жалобы насілі.

## 418




Камар лазню тапіў,
Блыха парылася,
Блыха парылася,
З палка ўдарылася.

Ай, бяжыць да папа,
Па запечнага клапа,
Няхай поп прыбяжыць,
Няхай поп пачадзіць.

Няхай поп прыбяжыць,
Вугалём пачадзіць,
Запісачку прачытае,
Нябожчыка адпявае.

Жучкі ямку капаюць,
Яны блошку хаваюць.
Ой, ду-ду, ду-ду-ду,
Трубіць жораў на дубу.

## 419




Камар лазню тапіў,
Блыха парылася,
Распрапарылася,
З палка ўдарылася.

Ай, бяжы па папа,
Па запечнага клапа.
Няхай поп прыбяжыць,
[Няхай поп пачадзіць].

[Няхай поп прыбяжыць,
Вугалём пачадзіць],
Запісачку прачытае,
Упакойнічка адпявае.

Жучкі Яначку качаюць,
Яны блошку зарываюць.
Ой, ду-ду, ду-ду, ду-ду!
Сядзіць жораў на дубу.

Прыляцела сінічка,
Вераб'ёва сястрычка.
Каго будзеш жаніці?
Васіля папова.

А Васіль, Васілёк,
Пабяжы-ка у лясок,
Адсячы даўбню,
Удар бабу па (і)лбу.

Няхай баба коціцца,
У балоце топіцца.
А ў балоце гусі,
Ляці да Марусі.

А ў Марусі галкі,
Смаляныя лаўкі:
Як сеў-прыкіпеў,
Дык абедаць не хацеў.

Адчыняйце варата,
Едзе пан сірата
Без сарочкі, без штаноў,
Поўна торба сухароў.

420

Камар баню тапіў,
Муха парылася.
Ох, дылі-дылі, гоца-ца,
Муха парылася.
І звалілася з палка,
Крэпка ўдарылася.
Ох, дылі-дылі, гоца-ца,
Крэпка ўдарылася.

Пасылайце па папа,
Па запечнага клапа.
Ох, дылі-дылі, гоца-ца,
Па запечнага клапа.
А поп часу не мае,
Таракана спавядае.
Ох, дылі-дылі, гоца-ца,
Таракана спавядае.
Пакуль поп із імшы,
Ужо муха без душы.
Ох, дылі-дылі, гоца-ца,
Ужо муха без душы.
Зайцы доскі скрабуць,
Ваўкі голас вядуць.
Ох, дылі-дылі, гоца-ца,
Ваўкі голас вядуць.
Лісы дол капаюць
І муху хаваюць.
Ох, дылі-дылі, гоца-ца,
І муху хаваюць.

### 421

Камар лазенку тапіў,
Муха парылася,

[З палка зваліласяя],
Аб падлогу ўдарылася.

Ох-ці, не магу!
Пацягніце за нагу.

Як паслалі за папом,
За падпечным клапом,

А поп часу не мае —
Таракана спавядае.

Жукі яму капалі,
Зайцы дошкі часалі,
А лісіцы галасілі,
А сарокі правадзілі!

**422**

А камар дровы рубіў,
[Муха лазню тапіла,]
А вош парылася
І запарылася.

А схадзіце за папом,
За запечным клапом.
Пакуль папа прывялі,
Душы ў вошы не знайшлі.

**423**

Камар дровы сячэць,
Муха лазню топіць.
А вош парылася —
Перапарылася.

[А вош парылася —
Перапарылася],
З палка звалілася,
Насмерць забілася.

Едзьце па папа,
Па запечнага клапа.
Поп часу не маець —
Таракана спавядаець.

Едзець поп на мышы,
Ляжыць вош без душы.
Тры дні яму капалі,
Пакуль вош схавалі.

### 424

Камар дровушкі рубіў,
Муха банюшку тапіла,
Гніда шчолак шчалачыла,
А вош парылася,
З полку ўдарылася,
Рабро выламіла.
Схадзіце за папом,
За запечным за клапом!
А матушка пападдзя
Парадзіла вераб'я
Даўганосенькага,
Даўгахвосценькага.
Як унадзіўся той верабей
За пагрэбіцу лятаць,
З краснай дзевіцай гуляць.
Паймаем вераб'я
За пагрэбіцаю,
Павядзём вераб'я
Мы на панскі двор,
Мы прыкажам вераб'я
Наказаць яго кнутом.
— Не сякіце мяне кнутом,
Абстрыгіце мяне кругом,
Абстрыгіце кругом,
Вы пастаўце папом.
Хто не едзець, хто не йдзець,
Вераб'я папом завець:
— Што ж ты, бацюшка папок,
Што ты служыш без парток?
— У мяне былі парткі,
Парткі строчаныя.
Парткі дзеўкі страчылі.
Папа прансы тачылі.

### 425

Муха баню тапіла,
Камар воду насіў,

У гразь ногі ўтапіў.
Блаха шчолак шчалачыла,
Вош парылася,
З полку ўдарылася.

Зашумела вашыца.
Закрычэла блашыца:
— Гукніце-ка папа,
Запечнага клапа;
Прычасціце вашыцу,
Прычасціце блашыцу!

На тым на дубу
На дубовенькім,
На тым на кляну
На кляновенькім,
Там сядзела сава,
Сава-барыня.

Ніхто саву не зазнаў,
Ніхто саву не заведаў.
Як зазналі саву,
Як заведалі саву
Два луні белых,
Два другі мілых.

Як засваталі саву,
Як забраталі саву
Ды за луня белага,
Ды за друга мілага.
Сабіраліся, саджаліся
Бальшэе члены к саве на свадзьбу:

Жораў — маёрам,
Арол — капітанам,
Сыч — засядацель,
Конюх — губернатар
Ястраб быў повар —
Сем курэй гатовіў.

## 426

Мухі лазню тапілі,
Камары ваду насілі,
Блох парыўся,
Ў ніц ударыўся.

А паслалі па папа,
Па пляшывага,
Ваўкі яму капаць,
Зайцы доскі цясаць.

Прыляцелі чыжыкі,
Парабілі крыжыкі.
Прыляцелі вароны,
Ударылі ў звоны.

## 427

Сягонняшні дзень — субота,
Тараканава работа.

Таракан дровушкі рубіў,
Сабе галаву 'трубіў.

Блошка банюшку тапіла,
Гніда шчолач шчалачыла,

Вошка парылася,
З полку ўдарылася;

Яна бокам ненарокам
Рабро выламала.

— Уж ты, вош наша раба,
Ці схадзіць нам па папа,

Па папа, па папа,
Па духоўнага й айца?

428

Я на рынку была
І гарэлку піла;
Я расаду купляла,
У гародзе саджала.
Сем лех насадзіла,
Сем нядзель не глядзела.
Як удаўся качан:
І наногі высок,
І на лісце шырок.
Ах ты, качан, качанок,
Не хадзі ты па сянёх,
Не хадзі ты па сянёх,
Са мной спацькі не лёг.
Ты, Ванюшка папоў,
Завядзі мяне дамоў.
А мой дамок ясны —
Вароцячкі красны.
Сучка на лычку
Палахаецца,
Мядзведзь суравець,
Сурываецца,
Старык на пячы
Абуваецца.
Мышка на прыпечку
Карункі тчэць,
Камар дровы сячэць,
Муха лазню топіць.
А вош парылася —
Перапарылася,
З палка звалілася,
Насмерць забілася.
А пашліце па папа,
Па запечнага клапа.
Поп жа часу не маець,
Ён прусака спавядаець.
Пакуль поп із імшы,
Дык і вош без душы.

429

А дуду-дуду-дуду,
Сядзіць жораў на дубу
Да іграець у трубу
Паціхонечку, памаленечку.
Прыляцела сініца —
То жорава сястрыца:
— Жораў, жораў, бацюшка,
Каго будзеш жаніці?
— Паповіча Васіля.
Васіль кажыць: — Уцяку!
Жораў кажыць: — Даганю!
Як ёсць жа ў мяне
Тры кані вараных,
Тры сядлы залатых.
Як сяду ж я,
Як паеду ж я
На панскі двор,
На баярскі двор.
Там б'юцца-дзяруцца,
Сумачкі трасуцца,
Кастылькі гаварацъ:
Кошка ў лукошкі
Пякецъ ляпёшкі;
Баран з пуні
Парваў струны;
Муха банюшку тапіла,
Блаха парылася,
З полку ўдарылася.
Бела гніда падскачыла,
За ручаньку падхваціла.
Пакацілася зярно
На Марцінава гумно.
Марцін — з мяшком,
Марцініха — з гаршком,
Марцінятъі-чарцяняты —
З палусітачкамі.

## 430

Касы заяц, касы заяц
На прыпечку граець,
Сава з вераб'ём
Пайшла скакаць.
Мышка банічку тапіла,
Блаха парылася,
З полкі ўдарылася.
Клоп доктарам быў,
Ён ёй ножку лячыў.

## 431







Ой, у лесе, пры даліне
У нас сталася бяда.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
У нас сталася бяда.

Пры даліне, у гушчары
Калыхаліся камары.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Калыхаліся камары.

Дуб да дуба пахіліўся —
Камар з дуба зваліўся.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Камар з дуба зваліўся.

Пабіў камар патыліцу
Аб дубову карыніцу.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Аб дубову карыніцу.

Ой, пабіў камар бакі
Аб дубовыя сукі.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Аб дубовыя сукі.

Ды пабіў камар калені
Аб дубовыя карэнні.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Аб дубовыя карэнні.

Высыпаліся ўсе зубы
Із камаравай губы.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Із камаравай губы.

Ляціць муха ратаваць,
Зімнай вадой адліваць.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Зімнай вадой адліваць.

Камарочку, родны браце,
Як жа цябе ратаваці?
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Як жа цябе ратаваць?

Пасылайце да аптэкі,
Ці не будзе трохі лепі.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Ці не будзе трохі лепі.

У бальніцу завязіце
І мяне там палажыце,
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
І мяне там палажыце.

Там добрыя дактары
Вымуць душу без пары.

Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Вымуць душу без пары.

Камарочку, ты мой браце,
Дзе ж мне цябе пахаваці?
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Дзе мне цябе пахаваці?

Не хавайце пры даліне,
Бо вырыюць мяне свінні.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Бо вырыюць мяне свінні.

Не хавайце край дарогі,
Бо дратаваць будуць ногі.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Бо дратаваць будуць ногі.

Пахавайце ў цёмным лесе
Пры зялёненькім гарэсе.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Пры зялёненькім гарэсе.

Будуць гарэхі шчыпаць
І камара ўспамінаць.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
І камара ўспамінаць.

## 432

[ ♩= 96 ]



Дуб да ду_бу па_ хі_ліў_ ся, ка_ ма_рык з ду_бу зва_ліў_ ся.



Ой, у ле_ се, ле_ се, ле_ се пры зя_ лё_нень_кім га_рэ_ се.

Дуб да дубу пахіліўся,
Камарык з дубу зваліўся.

Прыпеў:
Ой, у лесе, лесе, лесе
Пры зялёненькім гарэсе.*

Муха з хаты вылятала,
Камарынку ратавала.

— Камарочак жа ты мой,
Родны брацітка ты мой.

А дзе цябе пахаваці,
Каб хадзілі памінаці?

Пахаваю край Дунаю,
Сама пайду пагуляю.

Сама пайду пагуляю,
Як рыбачка па Дунаю.

Пахаваю край даліны,
Каб па табе ваўкі вылі.

Каб па табе ваўкі вылі,
А сабакі галасілі.

Дзеўкі па грыбы ішлі,
На магілачку ўзышлі.

— А хто ж тут ды за пакойнік,
Ці маёр тут, ці палкоўнік?

Ляжыць грэшнае тут цела,
Што ўніз з дубу паляцела.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 433




А у лесе у амшары
Калыхаліся камары.

Прыпеў:

Эй, эй, ў лесе, лесе
Пры зялёненькай гарэсе.*

Дуб да дубу прыхіліўся,
Камар з дубу зваліўся.

Аб дубовыя сукі
Паламіў камар бакі.

Аб дубовую кару
Пабіў камар галаву.

Аб дубовыя карэнні
Папабіў камар калені.

А скуль браліся дзве мухі,
Ўзялі камара пад рукі.

Павялі яго на ложа,
На пуховую падушку.

Гэй жа, скарэй у аптэку,
А то будзе крэкурэку.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы

Дык вашыя дактары
Вымуць сэрца без пары.

Стаў камар уміраць,
Стаў ён мухам казаць:

— Не хавайце пры даліне,
Не то вырвуць мяне свінні.

А хавайце мяне ў лесе
Пры зялёненькай гарэсе.

Будуць дзеўкі арэшкі рваць
І камара спамінаць.

Што гэта за пакойнік,
Ці маёр тут, ці палкоўнік.

Ці маёр, ці палкоўнік,
Ці мухі спалюбоўнік.

Ой, не маёр, не палкоўнік,
А то мухі спалюбоўнік.

## 434

[♩=112]

Ся_дзіць камар на ду_боч_ ку, на зя_лё_нень_кім лі_сточ_ ку.

Ай, лю_лі- лю_лі -лю - лі, на зя_лё_нень_кім лі_сточ - ку.

Сядзіць камар на дубочку,
На зялёненькім лісточку.
Ай, люлі-люлі-люлі,
На зялёненькім лісточку.

Сядзіць камар, папяваець,
Чорных мушак забаўляець.
Ай, люлі-люлі-люлі,
Чорных мушак забаўляець.

Наляцела шура-бура,
Камарочка з ліста здула.
Ай, люлі-люлі-люлі,
Камарочка з ліста здула.

Прыляцелі тут дзве мушкі,
Ўзялі камара пад ручкі.
Ай, люлі-люлі-люлі,
Ўзялі камара пад ручкі.

Ўзялі камара пад ручкі,
Сунулі яго ў падушкі.
Ай, люлі-люлі-люлі,
Сунулі яго ў падушкі.

Як прыехаў цар-палкоўнік:
— Што у вас тут за пакойнік?
Ай, люлі-люлі-люлі,
Што у вас тут за пакойнік?

Як спалохаліся мушкі,
Задрыжэлі ножкі, ручкі.
Ай, люлі-люлі-люлі,
Задрыжэлі ножкі, ручкі.

— Гэта зусім не пакойнік,
А там мухін палюбоўнік.
Ай, люлі-люлі-люлі,
А там мухін палюбоўнік.

### 435

Паляцеў камарочак на дубочак,
Ён з дубочка на тычынку,
Прылажыў галовушку к лісточку.
Адкуль ўзяўся буйны вецер,

Растрос, разнёс камаровы косці.
Мухі-гарухі сабіраліся,
Камаровы косці сабіралі,
У грабніцу яны складалі.
Павязлі камарочка ды на мары,
Насустрэчу ўсё баяр'я:
— А што гэта ў вас за пакойнік?
— Не князь, не паннік,
Не кароль, не палясоўнік —
Самы бедны камарочак.

## 436

Ой, што за шум узбурыўся,
Што камар ды на мусе ажаніўся.
Узяў сабе жонку невялічку,
Што не ўмее шыць і прасці чалавечку.

А з той бяды, з таго гора
Паляцеў камар у чыста поле.
Да і сеў камар на дубочку,
Да й павесіў жонкі ногі на сучочку.

Скуль узяліся шуры-буры,
Узялі таго камарыка з дуба здулі.
Паляцеў камар з высакосці,
Паламаў, пакрышыў сабе косці.

Ох, што ж там ляжыць за чыноўнік:
Ці то пан генерал, ці палкоўнік.
Ой, не пан генерал, не палкоўнік,
Старой мухі-заварухі палюбоўнік.

## 437

Што за шум, за драка й
Усладзіўся.
Да камар з мушкаю
Пажаніўся.

Да ўзяў сабе мушку
Зелянушку,
Да й у чыстым полі
Палятушку.

Да й яна ж не ўмее
Ткаць ні прасці,
Да няма чым камарыка
Адзяваці.

Да ўпаў жа камарычак
З высакосці,
Да пабіў жа, да пацёр
Свае косці.

Прыляцелі мушкі
Зелянушкі,
Як узялі камарыка
Пад крылушкі.

Сталі ж яны думаці
І гадаці,
З чаго ж нам трунучку
Да скаваці.

Да скуём мы трунучку
Да з каліны,
Чорнымі сукнамі
Абабілі.

Сталі яны думаці
І гадаці:
— Дзе ж нам, дзе камарыка
Пахаваці.

Пахаваем камарыка
Пры дарозе,
Хто ідзе, хто едзе,
Той пытае:

— Што ж бо гэта
За пакойнічак?
— Гэта мушкі зелянушкі
Палюбоўнічак.

## 438

Сабіралісь гаспада — ўсё баяры,
Сталі талкаваці-гаварыці:
— З кім будзем мы камарыка жаніці?
Ажэнімце камарыка мы на мушцы!
Бесція муха за нявесту.
Па двару муха літавала,
Ў пограбе муха зімавала,
З гарлачыкаў вяршыначкі знімала,
Тым яна камарыка прапітала.
Выпітала камарыка вялікага.
Паляцеў камар ў чыста поле.
Як сеў камар на дубочку,
Прылажыў галовачку і к лісточку.
Адкуль ўзяўся буйны вецер,
Ён дубішчу заваліў,
Камарышчу разабіў,
Растрос, разнёс буйны косці.
Ох, і там цясорыкі цесавалі,
Камару ж то гроб гатавалі,
Рознымі стружкамі выстругалі,
Рознымі сукнамі выкладалі.
Сабіралісь гаспада — ўсё баяры,
Яны таму дзіву дзіваваліся:
— Ох, што ж гэта за пакойнік,
Ні князь, ні маёр, ні палкоўнік.
Ажно ж гэта камарышча.
Ён сеў на коніка, прыбадрыўся.

## 439






Як паставіў верабейка
На сметнічку хату
Ды сазваў на наваселле
Госцейкаў багата.

Піва, квасу наварыў,
Квашанінкі настудзіў,
Насмажыў кілбасаў
І ўсякага мяса.

Ў залачонай карэце
Дзяцел пад'язджае,
А за дзятлам на валах
Жоўна паспяшае.

А зязюля з шуляком,
Перапёліца з круком
Лугам, далінoю
Шпарацъ пехатою.

Заклікае верабейка
Ўсіх госцейкаў есці,
Запрашае белу лебедзь
На покуце сесці.

А з лебеддзю — жураўля,
І савішчу, і луня,
І стару чачотку,
Сваю родну цётку.

Сядзіць мядзведзь на калодзе,
На скрыпачцы йграіць,
Дзіцяняты-медзвядзяты
Струны напраўляюць;

Як зайгралі «дылі-дылі»,
Госці ў далоні білі,—
Адзін дзіваваўся,
А другі смяяўся.

Шчыгел важна пахаджае,
Цаплю ў танец просіць,
Галка піва налівае,
А удод разносіць.

За здароўе вераб'я
Пілі, елі аж да дня,
А бацян упіўся
Ды пад стол зваліўся.

## 440

[ Allegro ]

За_пра_ жы_ це сі_вых ко_ ні у па_езд шы - ро - кі,

ў ім па_ е_ дзе ве- ра_бей _ка да па- ні са - ро - кі.

Запражыце сівых коні
У паезд шырокі,
Ў ім паедзе верабейка
Да пані сарокі. *

Як прыехаў верабейка,
Стукнуў чабатамі,
Выскачыла сарочанька
З нізкімі ўкланамі.

---

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

— Проша, проша, верабейка,
Мяне не цурацца,
І ў убогай маёй хатцы
Проша забаўляцца.

Прыйшоў мядзведзь дзіва глядзець
Ды стаў насміхацца,
А наш рыцар верабейка
З ім за лоб цягацца.

Ды мядзведзю задаў дыхту,
Каб не забываўся,
Над рыцарам верабейкам
Больш не насміхаўся.

## 441




А у печы жар, жар,
На прыпечку дзіва:
Наварыў верабей
Пшанічнага піва.

А для дарагіх гасцей
Мурашку зарэзаў,
Кадку мяса насаліў,
Шост кілбас навесіў.

Чалом, чалом, верабей,
Лятуць к табе госці,
Ляці скарэй пераймаць
Важных ягамосцяў.

Ляціць доўгі журавель,
За ім чапля і хрушчэль.
І пані странатка,
Яна яму матка.

І пані чачотка,
Яна яму цётка,
Сіняя сінічка —
Родная сястрычка.

Прыляцелі совы,
Селі пазастоллю;
Прыляцелі каўкі,
Паселі на лаўкі.

А варона хлябок кроіць,
А муха місачкі строіць,
Камар піва носіць,
Піці-есці просіць.

Елі кашу са швядамі,
Елі й верашчаку.
Як пад'елі, напіліся,
Ўсе сказалі: «Дзякуй!»

Крук варону стук у бок,
Сойка сойку за чубок.
Завяліся біцца,
Не маглі змірыцца.

А хрушчэль упіўся,
Пад стол заваліўся.
А сарока пайшла ў скокі,
Ўзяўшыся ў бокі.

На вяселлі вераб'я
Весяліліся два дня.
Я таксама там быў,
Салодзенькі мёд піў.

442

Да паставіў верабейка
На сметніку хатку.
Да палажыў на парозе
Хваёвую кладку.

Многа дзіва там было,
Многа птаства прыбыло.
Адзін дзіваваўся,
А другі смяяўся.

Да запрасіў верабейка
Ўсяго птаства з леса,
Садзіў саву на покуце,
Як ліхога беса.

Ой, як села сава,—
Пагудзіла вераб'я.
Трэ саву, саву спаймаці
Да яе звязаці.

Да спаймалі тую саву,
Да звязалі рукі,
Падкінулі тую саву
Пад катнія рукі.

— Гэта ж табе, сава,
Што гудзіла вераб'я.
Вочы завязалі,
На смерць спавядалі.

— Верабейка мой,
Хаця ж мяне не губі,
Колькі злотых маю,
Ўсе табе аддаю.

443

Як задумаў верабей
Хутка ажаніцца,
Сладкіх рэчаў скаштаваць
І мёду напіцца.

Скочыў шчыгел на шаста
Коньмі варанымі,
Чаго трэба, накупіў,
Плаціў залатымі.

Воран асьманоў выдаў,
Назад павярнуўся.
— Масці пане верабей,
Да шлюбу гатуйся.

Запрагайце шэсць пар коні
І паезд широкі,
Я паеду у залёты
Да пані сарокі.

Пярун, качар і гусак
Коньмі праткавалі,
Два індыкі за ім ўслед
Песенькі спявалі.

— Масці пане верабей,
Хутка паспяшайся,
Хаця з сваім мілым другам
Хораша вітайся.

444

Як задумаў пан верабей
З сарокаю жаніцца,
Смачных рэчаў скаштаваць
І віна напіцца.

Запрагайце шэсцью коней
У паязд шырокі,
Да паедзе пан верабей
Да панны сарокі.

— Як прыедзеш, пан верабей.
Да панны сарокі,
Хораша вітайся
І з паннаю сарокай
На здароўе пытайся.

## 445




Шчыглік маленькі
Скача памаленьку,
Сам сабе рассуждае,
Жаніціся мае.

Да бярэ сініцу,
Вераб'я сястрыцу,
Верную, харошую
Пракрасную пціцу.

Сарокі-прыданкі
Скачуць каля лаўкі,
Бедна ж наша галовачка,
Німашака чайкі.

Чайка гарою
Ляціць з другою,
Бедна ж наша галовачка,
Не знаем кудою.

А шчуры з тхаром
Абабеглі дваром,
Абабеглі каля хаты
Да і сталі танцаваць.

Чмялі з асою
У вялікай злосці,
Чмель мёд падае
Да частуе госці.

Вераб'і ўпіліся,
Шуляка пабілі,
На той час вароны
Каравай мясілі.

Два сакалы, два сакалы
Жыта малацілі,
А кукушкі па тры мяшкі
У млын валачылі.

Арол меле, арол меле,
Бацян насыпае,
А крумкачык, добры хлопчык,
Муку абірае.

А перапяліца
Хату замятае,
Прылятае цецярук
Да пытае, што за гук.

Ой, я хлопчык гожы
Да не валачашчы,
Дзе дзевачкі чую,
Там я і начую.

Ішоў жа я вечарочкам
З паўцёмнае ночы.
Сядзіць сава на дарозе,
Вытрашчыўшы вочы.

Я на яе гыля-гыля,
Дык яна прысела,
Каб не палка, не чурбалка,
Яна б мяне з'ела.

Там дзявіцы-красавіцы
Канапелькі бралі.
Яны мяне, малайца,
З канапель выгналі.

Як выскачыў з канапель
Дай узяўся ў бокі,
Глядзіце, красавіцы,
Які я высокі.

### 446

Шчыглік невялікі
Грамаду збірае,
Сам не хоча адзін жыць,
Жаніціся мае.

Узяў сабе птіцу —
Бараву сініцу,
Красную, ясную,
Вераб'я сястрыцу.

Паслаў арла, паслаў арла
Усё птаства збіраці,
А арол напаў на гусі,
Давай мардаваці.

Два снігіры, два снігіры
Шпака спаймалі,
А вароны за той час
Каравай згібалі.

Два каплуны, два каплуны
Солад малацілі,
Курапатка і з цяцерай
Да млына насілі.

Бацян меле, бацян меле,
А крук засыпае,
А варобчык, добры хлопчык,
Муку абірае.

Перапёлка, перапёлка
Хату замятае,
Сава сядзіць на покуце,
Скоса паглядае.

Сядзіць дзяркач на парозе,
Сядзіць на парозе,
Пугач, пугач упіўшыся
Ляжыць на марозе.

А сарокі, як прыданкі,
Скачуць каля лаўкі:
— Бедна наша галаванька,
Не маем прыганкі.

А чаечка з кулічком
На вяселлі грае.
А кулік чайку
Узяў за чубайку.

Чайка кігіча:
— Згінь ты, куліча!
А зязюля-вазніца,
Харошая пціца,

Залатыя крылы мае,
Так гучна лятае.
А чмель мёду дадае
І госці прымае.

447

Шчытнік маленькі
Сам думае,
Думае, думае,
Жаніціся мае.

А бярэ сінічку
Гараб'я сястрычку,
Ярную, харошую,
Прыгожую пцічку.

А ў суботу рана
Ўсе пціцы з'язджалі.
У нядзелю раненька —
Братка салавейка.

Братка салавейка,
А зязюлі сванькі,
А зязюлі сванькі,
Сарокі прыданкі.

Сарокі прыданкі
Скачуць паверх лаўкі,
А прыяцель цецярук
Пытаецца, што за гук.

Сава на покуце
Скрыва паглядае,
А перапялуха
Хату замятае.

А сыч у парозе
Стаіць на старозе,
Сыч упіўся, паваліўся,
Лёг спаць у дарозе.

Дзецям на калочку
Ў ладушачкі плешча,
Гарабей ў каноплі
Насыціўся яшчэ.

Чайка гарою
Ляціць крутою.
Бедная галованька,
Не знаю, кудою.

Крук меле, крук меле,
Бацян засыпае,
А крумкачык, добры хлопчык,
З каўша абірае.

## 448

Паслухайце, малайцы,
Скажу вам на пацеху:
На беднага вераб'я
Успала сава з лесу.

Руку й нагу выбіла
І з хатачкі выгнала,
Некаму прыбыці,
Яго бараніці.

Зваліўся верабейка
Звышэй сваей хаты,
Звыбіў бы, зламаў карк,
І стаў ён плакаці.

Пайшла сава да лесу,
Паляцела да бесу.
Совушку злапалі,
Як ведзьму, звязалі.

Звязалі саве ногі,
Звязалі ёй рукі,
Падалі саву к кату,
У катнія рукі.

Глюканосы журавей,
Пасабісты верабей
У крэслах пасядалі,
Саву біць казалі.

— Ты, сава-напасніца,
Будзеш чвартавана,
А нашто ты зачапіла
Верабейку пана?

— Верабейка мой любы,
Хаця ж мяне не губі,
Што золата маю,
Усё табе даю.

Сойка саву звязаную
На смерць спавядала,
Бувальнічным платочкам
Вочы завязала.

Ах ты, сава-пазура,
За што ж біла вераб'я?
Гатуйся да смерці,
Прыйдзе табе ўмерці.

Наляцела да вераб'я
Усё птаства з лесу,
Пасадзілі на куце
Крука, яко беса.

Варона хлеб крое,
Муха міну строе,
Снігір піва носе,
Верабей гасцей просе.

Залажылі су(н)сядове
На сметнічку хатку,
Палажылі між каберцаў
Цясовую кладку.

Тры акрэнты качароў,
Дзевяць віцер лебядзёў
І чорная каўка,
І сіва кукаўка.

Баравыя цяцерачкі
Ішлі пехатою
Да вераб'я на банкет
Борам-сухатою.

А хто рана прыбыў,
Той напіўся і пад'еў,
А хто ляніўся,
Пашлі галодныя.

А маленькі недапырак
Спазніў на вячэру,
Як дабраўся да віна,
Перабраў ён меру.

За здароўе вераб'я
Пілі, елі аж да дня,
Вераб'ю на славу,
А нам на забаву.

## 449

Скачыць, скачыць верабей,
Ён клікаець ўсіх дзяцей,
Да дзяцей ён просьбу маець,
Ён цілікаець, як знаець.
Скіньце, дзеткі, па зярну,
Я вам песеньку спяю.

## 450

А ў нашага верабейка
Жонка маленька.
Сядзіць на калочку,
Прадзе на сарочку.
Што выведзе нітку,
То вымые світку.
Як астануцца канцы —
Верабейку штанцы.

## 451




Чы-чы, чы-чы, верабей,
Не дзяўбі мне калапень,
Бо я табе, вераб'ю,
Задам дыхту, як злаўлю.*

Верабейка паляцеў,
Калапенькі не чапаў,
Пачаў лавіць мошачку,
Зламаў сабе ножачку.

Я на тую ножачку
Пашыю панчошачку,
А на тое цельца
Вытку палаценца.

## 452

Чы-чы-чы, магера!
На прыпечку сядзела,
Кудзелечку вярцела.
Адна адну талкнула
І ножачку звіхнула.
Адна адну звалакла
За місачку талакна,
Магер, магер, магера!
На крыночку сядзела,
Кудзелечку вярцела,
У Палоўкі заказалі,
Што б магеры не плясалі.

---

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

## 453




Сякі-такі журавель, журавель,
Не еш маіх канапель, канапель,
Бо я табе, жураўлю,
Колам ножкі падаб'ю.

## 454

Як жыў журавель і з журавачкай,
Накасіў сенца поўны ясельцы.
Песня мая нова,
Й пачынайце з канца знова.

## 455

Сядзіць бусел на куце,
У тры лісты піша,
А журавель на прыпечку
Дзяцінячку калыша.

А перапяліца
Хату падмятае,
Сарокі прыданкі
Скачуць паверх лаўкі.

Сарокі прыданкі
Скачуць паверх лаўкі,
Сядзіць сава на куце,
Скоса паглядае.

— Не журыся, снегурок,
Будзеш панаваці.
Ты будзеш свіней пасці,
А я заганяці.

## 456

[ Allegretto ]

Адзін

Ся_дзіць сыч на ка_пе, а са_ва на дру_гой.

Хор

Гой-гой-гой, на дру_гой. Гой-гой-гой, на дру_гой.

Сядзіць сыч на капе,
А сава на другой.
Гой-гой-гой, на другой.
Гой-гой-гой, на другой.

Ў савы сыч пытае:
— Хто ў лесе гукае?
Гу-гу-гу! Гукае,
Гу-гу-гу! Гукае.

Дрывасекі мае
Сякуць лес у мяне.
Чах-чах-чах! У муне.
Чах-чах-чах! У мяне.

І сякуць, і крычаць,
Каб звяроў напужаць.
Пух-пух-пух! Напужаць,
Пух-пух-пух! Напужаць.

## 457

♩=120

Ля ва_дзі _ цы бліз _ ка лёг_ ка ска_ча пліс - ка,

шэ - ры_ я воч - кі, бе - лы _я шчоч - кі,
чор_на_ я га _ лоў - ка, сі _ ва_я ва _ тоў - ка.

Ля вадзіцы блізка
Лёгка скача пліска,
Шэрыя вочкі,
Белыя шчочкі,
Чорная галоўка,
Сівая ватоўка.

## 458

Коў-коў! Дзяцел
Сядзеў на варотах
У чырвоных ботах.
— Ці дома Даніла?
Ці варыў піва?
Ці 'ддаваў дачку
За балдовачку.

## 459

Коў-коў, дзяцел
Сядзіць на варотах
У чырвоных ботах:
— Ці дома Даніла?
Ці варыў піва?
Ці жаніў сына?
Ці даваў дачку
За куковачку,
За булдовачку?

## 460

Коў-коў, дзяцел!
Сеў на варотах
У чырвоных ботах:
— Ці здароў Даніла?
Ці жаніў сына?
Ці варыў піва?
Ці аддаваў дачку
Кацярынушку?
Коў-коў, дзяцел!
Сеў на варотах
У чырвоных ботах,
У красненькім каўпачку
І шапачка на бачку:
— А Мікітка, сакалок!
Ці варыў піва?
Ці жаніў сына?
Ці даваў дачку
За Яначку?

## 461

Паймаў бацька сойку, сойку,
Паймала матка сойку, сойку,
Паймалі сойку дзеці, дзеці.
Да ўжо ж сойцы не ляцеці,
Да ўжо ж сойцы не ляцеці,
Да ўжо ж сойцы не гуляці.
Гэй, сойка, гэй!

Разнуў бацька сойку, сойку,
Разнула матка сойку, сойку,
Разнулі сойку дзеці, дзеці.
Да ўжо ж сойцы не ляцеці,
Да ўжо ж сойцы не ляцеці,
Да ўжо ж сойцы не гуляці.
Гэй, сойка, гэй!

Скубнуў бацька сойку, сойку,
Скубнула матка сойку, сойку,
Скубнулі сойку дзеці, дзеці.
Да ўжо ж сойцы не ляцеці,
Да ўжо ж сойцы не ляцеці,
Да ўжо ж сойцы не гуляці.
Гэй, сойка, гэй!

Зварыў бацька сойку, сойку,
Зварыла матка сойку, сойку,
Зварылі сойку дзеці, дзеці.
Да ўжо ж сойцы не ляцеці,
Да ўжо ж сойцы не ляцеці,
Да ўжо ж сойцы не гуляці.
Гэй, сойка, гэй!

З'еў бацька сойку, сойку,
З'ела матка сойку, сойку,
З'елі сойку дзеці, дзеці.
Да ўжо ж сойцы не ляцеці,
Да ўжо ж сойцы не ляцеці,
Да ўжо ж сойцы не гуляці.
Гэй, сойка, гэй!

### 462

Забіў тата сойку,
Забіў тата сойку,
Забіла маці, забілі дзеці,
А ўжо сойцы не ўзляцеці.
Гэй, сойка, гэй!
Скубаў тата сойку,
Скубаў тата сойку,
Скубала маці, скубалі дзеці,
А ўжо сойцы не ўзляцеці.
Гэй, сойка, гэй!
Варыў тата сойку,
Варыў тата сойку,
Варыла маці, варылі дзеці,
А ўжо сойцы не ўзляцеці.
Гэй, сойка, гэй!

Саліў тата сойку,
Саліў тата сойку,
Саліла маці, салілі дзеці,
А ўжо сойцы не ўзляцеці.
Гэй, сойка, гэй!
Пажэр татка сойку,
Пажэр татка сойку,
Пажэрла маці, пажэрлі дзеці.
А ўжо сойцы не ўзляцеці.
Гэй, сойка, гэй!

## 463

♩=68

Бе_ла_ бо- ка са-ро _ ка пры_ля_ це_ ла зда_ лё_ ка,
се_ла ж я_ на на та_ ку, ў я_ е хвос_цік на ба_ ку.

Белабока сарока
Прыляцела здалёка,
Села ж яна на таку,
Ў яе хвосцік на баку.

## 464

[𝅗𝅥=108]

—Чы_жык, чы_жык, дзе ты быў? —На гас_ці_ не мя_док піў,
вы_піў мё_ ду кро_плі дзве, за_шу_ ме_ла ў га_ ла_ ве.
Хо_чуць чы_жы _ ка зла_віць ды у клет_ ку па_ са_ дзіць.

18. Зак. 18




— Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
— На гасціне мядок піў,
Выпіў мёду кроплі дзве,
Зашумела ў галаве.

Хочуць чыжыка злавіць
Ды у клетку пасадзіць.
— Чу-чу! Не хачу!
Лепш на волі паскачу.

## 465




— Чыжык-пыжык, дзе ты быў?
— За гарою водку піў.
Выпіў чарку, выпіў дзве —
Зашумела ў галаве.

## 466




— Сіўка-варонка.
Да-лі-гойда!*
Куды паляцела?
— К кавалю на двор.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

— Нашто табе каваль?
— Косы каваці.
— Нашто табе косы?
— Траўку касіці.
— Нашто тая траўка?
— Каровак карміці.
— А нашто кароўкі?
— Млечка даіці.
— А нашто млечка?
— Сырцы ляпіці.
— А нашто сырцы?
— Пастухоў карміці.
— А дзе ж пастухі?
— На вайну пайшлі.
— Дзе тая вайна?
— Пасярод гумна.

## 467

— Сіўка-варонка,
Дзе ты была?
— Была ў Кліма.
— А што Клім робіць?
— Косы клепіць.
— Нашто яму косы?
— Сена касіць.
— Нашто яму сена?
— Карову карміць.
— Нашто яму карова?
— Малако даіць.
— Нашто яму малако?
— Дзяцей карміць.
— Нашто яму дзеці?
— Жалуды збіраць.
— Нашто яму жалуды?
— Кабаноў карміць.
— Нашто яму кабаны?
— Горы капаць.
— Нашто яму горы?
— У тых гарах макавае зярно.

— А дзе тое зярно?
— Птушкі склявалі.
— А дзе тыя птушкі?
— Паляцелі на сіняе мора.
— А дзе тое мора?
— Сіняе мора зарасло краскамі.
— А дзе тыя краскі?
— Дзеўкі сарвалі.
— А дзе тыя дзеўкі?
— Пайшлі замуж.
Палезлі на ёлкі,
Паламалі галоўкі,
На гэтым і кончылася.

## 468

— Сіўка-варонка!

Да-лі-гойда!*

Куды паляцела?
— На Йванаў двор!
— Што Іван робіць?
— Косы клепіць!
— Нашто яму косы?
— Сена касіць!
— Нашто яму сена?
— Кароў карміць!
— Нашто каровы?
— Малако даіць!
— Нашто малако?
— Дзетак карміць!
— Нашто яму дзеткі?
— Жалуды збіраць!
— Нашто яму жалуды?
— Свіней карміць!
— Нашто яму свінні?

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

— Горы капаць!
— Што ў тых гарах?
— Залатая ступка!
— Што ў той ступцы?
— Макава зярно!
— Дзе тое зярно?
— Птушкі здзяўбалі!
— А дзе тыя птушкі?
— За мора паляцелі!
— А дзе тое мора?
— Краскамі зацвіло!
— А дзе тыя краскі?
— Дзеўкі парвалі!
— А дзе тыя дзеўкі?
— Замуж пайшлі!
— А дзе іхныя мужыкі?
— Пайшлі ў лыкі,
Там прыліплі...
Да-лі-гойда!

## 469

— Сіўка-варонка.

Да-лі-гойда!*

Куды паляцела?
— На Іванаў двор.
— Што Іван робіць?
— Косы точыць.
— Нашто яму косы?
— Сена касіць.
— Нашто яму сена?
— Кароў карміць.
— Нашто яму каровы?
— Малако даіць.
— Нашто яму малако?
— Пастухоў карміць.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

— Нашто яму пастухі?
— Свіней пасціць.
— Нашто яму свінні?
— Горы рыць.
— А што ў гарах?
— Зялезная ступа.
— А што ў ступе?
— Палівана міска.
— А што ў місцы?
— Цыноўныя лoжкі.
— А што ў лoжках?
— Макава зярно.
— А дзе тое макава зярно?
— Пятух скляваў.
— А дзе ж той пятух?
— За мора паляцеў.
— А дзе ж тое мора?
— Краскамі зарасло.
— А дзе ж тыя краскі?
— Дзеўкі сарвалі.
— А дзе ж тыя дзеўкі?
— Замуж пайшлі.
— А дзе ж іх муж'я?
— На вайну пайшлі.
— А дзе ж іх вайна?
— Пасярод [гумна].

## 470

— Сіўка-варонка.

Да-лі-гойда!*

Куды паляцела?
— На Іванаў двор.
— Што Іван робіць?
— Косы кляпіць.
— Нашто яму косы?
— Сена касіць.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

— Нашто яму сена?
— Кароў карміць.
— Нашто яму каровы?
— Малако збіраць.
— Нашто яму малако?
— Дзяцей карміць.
— Нашто яму дзеці?
— Горы капаць.
— А што ў тых гарах?
— Залатая ступка.
— А што ў той ступцы?
— Залатая ложка.
— А што ў той ложцы?
— Макава зярно.
— А дзе тое зярно?
— Пятух скляваў.
— А дзе ж той пятух?
— За мора паляцеў.
— А дзе ж тое мора?
— Краскамі зарасло.
— А дзе ж тыя краскі?
— Дзеўкі парвалі.
— А дзе ж тыя дзеўкі?
— Замуж пайшлі.
— А дзе ж іх [мужыкі?]
— Пайшлі ў Цемья —
Там цёмна.
Пайшлі ў Вяззе —
Там увязлі.
Пайшлі ў Турцы —
Там ім канцы.

**471**

— Сіўка-варонка,
Куды паляцела?
— На Іванькаў двор.
— Што Іванька робіць?
— Касу клепча.
— Нашто гэта каса?
— Сенка касіць.

— Нашто гэта сенка?
— Кароўкі карміць.
— Нашто гэты кароўкі?
— Млечка даіць.
— Нашто гэта млечка?
— Дзеткі паіць.
— Нашто гэты дзеткі?
— Свінкі пасышчы.
— Нашто гэты свінкі?
— Горы капаць.
— А што ў гэтай гары?
— Залатая міска.
— А што ў гэтай місцы?
— Залатая лыжка.
— А што ў гэтай лыжцы?
— Залатое зярно.
— А дзе гэта зярно?
— Куры ўхапілі.
— А дзе гэты куры?
— Паляцелі на луга.
— Дзе гэты луга?
— Кветкамі зараслі.
— А дзе гэты кветкі?
— Бабы пашчыпалі.
— А дзе тыя бабы?
— Хлопчыкі пабралі.
— А дзе гэты хлопчыкі?
— Паехалі на вайну.
— А дзе гэта вайна?
— Пасярод Іванава двара.

## 472

— Сіўка-варонка,
Да-лі-гойда.*

Куды паляцела?
— На Івана двор.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

— Што Іван робіць?
— Косы клепіць.
— Нашто яму косы?
— Сена касіць.
— Нашто яму сена?
— Кароў карміць.
— Нашто яму каровы?
— Малако збіраць.
— Нашто яму малако?
— Дзяцей карміць.
— Нашто яму дзеці?
— Жалудзькі збіраць.
— Нашто яму жалудзькі?
— Свіней карміць.
— Нашто яму свінні?
— Гару рыці.
— А што ў той гары?
— Зялезная ступка.
— А што ў той ступцы?
— Залатая чашка.
— А што ў той чашцы?
— Сярэбраная ложка.
— А што ў той ложцы?
— Макавае зярно.
— А дзе тое зярно?
— Пятух скляваў.
— А дзе той пятух?
— На вадзе растаў.
— А дзе тая вада?
— Квяткамі зарасла.
— А дзе тыя квяткі?
— Дзеўкі пашчыпалі.
— А дзе тыя дзеўкі?
— Замуж зайшлі.
— А дзе іх мужыкі?
— На вайну пайшлі.

473

— Сіўка-варонка,
Куды ты паедзеш?

Да-лі-гойда.*

— На Якушаў двор.
— Што Якушка робіць?
— Косы куець.
— Нашто яму косы?
— Сена касіць.
— Нашто яму сена?
— Кароў карміць.
— Нашто яму каровы?
— Малако збіраць.
— Нашто яму малако?
— Рабят карміць.
— Нашто яму рабяты?
— Жалуды збіраць.
— Нашто яму жалуды?
— Свіней карміць.
— Нашто яму свінні?
— Круты горы капаць.
— Што ў тых гарах?
— Зялезная ступа.
— Што ў тэй ступе?
— Макава зярно.
— Дзе тое макава зярно?
— Пятух скляваў.
— Дзе той пятух?
— За́ мара паляцеў.
— А дзе тая замара?
— Краскамі зарасло.
— А дзе тыя краскі?
— Дзеўкі падралі.
— А дзе тыя дзеўкі?
— Замуж павыйшлі.
— А дзе тыя жаніхі?

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

— Пайшлі ў лыкі,
Там і ўліплі.
Пайшлі ў мачалы,
Там іх чэрці закачалі.

## 474

— Сіўка-варонка.

Да-лі-гойда!*

Куды паляцела?
— На Йванаў двор.
— Што Йван дзелаець?
— Косы клепіць.
— Нашто яму косы?
— Сена касіць.
— Нашто яму сена?
— Кароў карміць.
— Нашто яму каровы?
— Малачка сабірацъ.
— Нашто яму малако?
— Дзяцей карміць.
— Нашто яму дзеці?
— Жалуды збірацъ.
— Нашто яму жалуды?
— Свіней карміць.
— Нашто яму свінні?
— Горы капацъ.
— Што ў тых гарах?
— Макавае зярно.
— Ідзе то зярно?
— Пятух склюваў.
— Ідзе той пятух?
— За мора ўляцеў.
— Ідзе тое мора?
— Краскамі парасло.
— Ідзе тыя краскі?

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

— Дзеўкі парвалі.
— Ідзе тыя дзеўкі?
— Замуж выйшлі.
— Ідзе іх муж'я?
— Пайшлі ў ліп'е,
Там і ўліплі.
Да-лі-гойда!

## 475




Жыў-быў, ды няма.
Ду-ду.*
Ды паехаў да Міра.

Ды купіў ён коску.
Ды за сваю слёзку.

— Нашто тая коска?
— Сеначка касіці.

— Нашто тое сенца?
— Кароўкі карміці.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

— Нашто ты(й) кароўкі?
— Малако даіці.

— Нашто то малочка?
— Сырчыкі рабіці.

— Нашто ты(й) сырочкі?
— Хлопчыкаў карміці.

— Нашто тыя хлопцы?
— На вайну хадзіці.

## 476




Ду-ду!
Ды казёл-барада.
Ду-ду! Ду-ду!*
Ды пабег да Міра.
Ды купіў коску.
— А нашто коска?
— Сянцо касіць.
— А нашто сянцо?
— Каровак карміць.
— А нашто кароўкі?
— Млечка даіць.
— А нашто млечка?
— Сырцы ляпіць.
— А нашто сырцы?
— Пастухоў карміць.
— А дзе ж пастухі?

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

— На вайну пайшлі.
— Дзе тая вайна?
— Пасярод гумна.
Ду-ду.

## 477

[ Moderato ]

І – шоў ка – зёл ма – стом. Ду – ду – ду!

Кі – ва – ю – чы хвас – том. Ду – ду – ду!

Ішоў казёл мастом.
Ду-ду-ду!*
Ківаючы хвастом.
— А куды ідзеш, казёл?
— На кірмаш пайду.
— А чаго на кірмаш?
— Касу купляць пайду.
— Нашто табе каса?
— Буду сена касіць.
— Нашто табе сена?
— Каровачак карміць.
— Нашто табе каровы?
— Буду млечка даіць.
— Нашто тое млечка?
— Пастушкоў карміць.
— Нашто тыя пастушкі?
— Будуць свінак пасвіць.
— Нашто тыя свінкі?
— Будуць горы рыці.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

— А што ў тых горах?
— Дубовая бочка.
— А што ў той бочцы?
— Зялезная ступа.
— А што ў той ступе?
— Медзяная міса.
— А што ў той місе?
— Цыноўная лыжка.
— А што ў той лыжцы?
— Макавае зерне.
— А дзе тое зерне?
— Петушок здзюбаў.
— А дзе той петушок?
— За мора паляцеў.
— А дзе тое мора?
— Кветкамі зарасло.
— А дзе тыя кветкі?
— Дзеўкі пазбіралі.
— А дзе тыя дзеўкі?
— Замуж павыходзілі.
— А дзе іх мужыкі?
— На вайну пагналі.
— А дзе тая вайна?
— Пасярод гумна.

## 478

— Дзе быў, казёл?

Ду-ду! Ду-ду! *

— Сена касіў.
— Нашто сена?
— Кароў карміць.
— Нашто каровы?
— Малако даіць.
— Нашто малако?
— Пастухоў карміць.

* Паўтараецца пасля кожнага запытання.

— Нашто пастухі?
— Свіней пасвіць.
— Нашто свінні?
— Горы рыць.
— Што ў той гары?
— Ступа зялезная.
— Што ў той ступе?
— Лыжка цыноўная.
— Што ў той лыжкі?
— Макава зярошка.
— А дзе тая зярошка?
— Пятух скляваў.
— А дзе пятух?
— На мора паляцеў.
— А дзе мора?
— Кветкамі зарасло.
— А дзе кветкі?
— Дзеўкі павышчыпалі.
— А дзе дзеўкі?
— Замуж павыйшлі.
— А дзе іхнія мужы?
— На вайну пайшлі.
— А дзе вайна?
— Там, дзе татары.
— Як ехалі татары,
Мусар растапталі.

### 479

Быў дзед-барада,
Купіў сабе варата,
Купіў сабе коску.
— Нашто табе коска?
— Сенца касіці.
— Нашто табе сенца?
— Кароўку карміці.
— Нашто табе кароўка?
— Малачко даіці.
— Нашто табе малачко?
— Сыркі рабіці.

— Нашто табе сыркі?
— Пастушкоў карміці.
— Нашто табе пастушкі?
— Свіней пасціць.
— Нашто табе свінні?
— Ямачку рыці.
Ды ў той ямцы залатая бочка,
Ды ў той бочцы залатая дзежка,
Ды ў той дзежцы залатыя крупкі.
— Дзе тыя крупкі?
— Певень пахапаў.
— Дзе той певень?
— Паляцеў у лес.
— Дзе той лес?
— У печ улез.

**480**

— Ты каза, каза,
Лубяныя глаза,
Ты, каза, ідзе была?
— Я, каза, каней пасла.
— Ідзе коні?
— Ніколка ўкраў.
— Ідзе Ніколка?
— У клець пайшоў.
— Ідзе та клець?
— Вадой пазаліло.
— Ідзе вада?
— Быкі выпілі.
— Ідзе быкі?
— Пад гару ушлі.
— Ідзе гара?
— Чэрві вытачылі.
— Ідзе чэрві?
— Гусі паклявалі.
— Ідзе гусі?
— У траснік паплылі.
— Ідзе траснік?
— Дзеўкі паламалі.

19. Зак. 18

— Ідзе дзеўкі?
— Замуж пайшлі.
— Ідзе муж'ё?
— Пайшлі сена касіць.

### 481

— Куды ідзеш, бабка?
— К мамцэ па бердачка.
— Нашто табе берда?
— Світу ткаць.
— Нашто табе світа?
— Мышэй ганяць.
— А дзе тыя мышы?
— Пад печчу.
— А дзе тая падпечча?
— Вадой залілася.
— А дзе тая вада?
— Чорны вол папіў.
— А дзе той вол?
— Даўбня забіла.
— А дзе тая даўбня?
— Чэрві патачылі.
— А дзе тыя чэрві?
— Куры паклявалі.
— А дзе тыя куры?
— Каршуны падралі.
— А дзе тыя каршуны?
— На мора паляцелі.
— А дзе тое мора?
— Краскамі зарасло.
— А дзе тыя краскі?
— Дзеці пашчыпалі.
— А дзе тыя дзеці?
— На вайну пагналі.
— А дзе тая вайна?
— Пасярод двара.

482

Чыкі-чыкі-чыкі сок,
Няма хлеба ні кусок,
Адна была мараначка,
І тую з'ела Маршаначка.
— А дзе тая мараначка?
— Калода забіла.
— А дзе тая калода?
— Чэрва патачыла.
— А дзе тая чэрва?
— Куры паклявалі.
— А дзе тыя куры?
— Каршуны падралі.
— А дзе тыя каршуны?
— Ў мора пазляталі.
— А дзе тое мора?
— Краскамі зарасло.
— А дзе тыя краскі?
— Паны пашчыпалі.
— А дзе тыя паны?
— У вайну паязджалі.
— А дзе тая вайна?
— Пасярод Пляўна.

483

Пайшоў конік да вады,
Шаўковыя павады,
Вады не напіўся.
— Чаму не напіўся?
— Калодзіцы няма.
— А дзе тая калодзіца?
— Чэрві патачылі.
— А дзе ж тыя чэрві?
— Куры падзяўбалі.
— А дзе тыя куры?
— Каршуны падралі.
— А дзе тыя каршуны?
— У поле паляцелі.

— А дзе тое поле?
— Кветкамі зарасло.
— А дзе тыя кветкі?
— Дзеўкі пашчыпалі.
— А дзе тыя дзеўкі?
— Панічы пабралі.
— А дзе тыя панічы?
— Пайшлі на вайну.
— А дзе тая вайна?
— Пасярод гумна.

**484**

[ Allegretto ]

Ку- ка- ра- ку, пе- ту-шок, чыр- во-нень- кі гра-бя- шок,
пад па- ве-тач - ку пай-шоў, кур -ку ра- бу - ю знай-шоў.

Кукараку, петушок,
Чырвоненькі грабяшок,
Пад паветачку пайшоў,
Курку рабую знайшоў.

Пачаў яе пытаці,
Ці умееці чытаці.
— Не чытаю, не пішу,
Толькі яечкі нясу.

♩= 112

Ку- ка- ра - ку, пе ту- шок, чыр во - нень- кі
гра - бя - шок, пад па - ве - тач ку пай - шоў,
кур - ку ра - бу - ю знай - шоў. Па - чаў ў ку - рач -

-кі пы -таць, ці ўме - ець я - на чы - таць.

-Не чы - та -ю, не пі -шу, толь-кі я - еч - кі ня- су.

## 485

Ах ты, пятух-петушок,
Залаценькі грабяшок.
Пайшоў па вадзічку,
Знайшоў маладзічку.

Маладзічка Хоміна
Па балоту хадзіла,
Траўку цмыкала,
Цяляткам давала.

## 486

[ Moderato ]

-За - і-нька, шэ - ра-нькі, дзе ты бы- ваў?

-У млы-не, у млы-не. -Што ты ві - даў?

— Заінька, шэранькі,
Дзе ты бываў?
— У млыне, у млыне.
— Што ты відаў?
— Мех мукі, мех мукі.

— Чаму ж не ўзяў?
— Хацеў я, хацеў я,
Млынар не даў:
Набеглі, набеглі
Млынарчыкі,
Пабілі, пабілі
Мне пальчыкі.
Набеглі, набеглі
Падмельшчыкі,
Пабілі, пабілі
Мне плечыкі.

## 487

[Moderato]

—Зай - чы -ку, зай - чы -ку, дзе ты бы-ваў? —У млы -не,
у млы -не. —Што ты ві -даў? —Мех му -кі, мех му - кі.
—Чом ты не ўкраў? —На-ля- це-лі крэў-чы-кі, шэў-чы- кі,
па- бі - лі мне паль - чы -кі, лед- ві я у - драў.

— Зайчыку, зайчыку,
Дзе ты бываў?
— У млыне, у млыне.
— Што ты відаў?
— Мех мукі, мех мукі.
— Чом ты не ўкраў?
— Наляцелі крэўчыкі, шэўчыкі.
Пабілі мне пальчыкі,
Ледва я удраў.

488

— Заінька-крэванька,
Дзе ж ты бываў?
— У млыне, у млыне.
— Што ж ты відаў?
— Мех мукі, мех мукі.
— Чаму ж ты не ўкраў?
— А там былі зайчыкі,
Перабілі пальчыкі,
Я насілу ўцёк
Да й на бабін ток,
Лапкі папёк.
А я ў канапелькі,
А там верабейкі.
Канапелькі трэсь-трэсь,
Верабейкі цыў-цыў.

489

— Зайчык маленькі,
Чым ты жывенькі?
— Я і сам дзіўлюся,
Чым я жыўлюся.
Пасадзіў капусту
Ні рэдка, ні густа.
Пайду я рана,
Капуста парвана,
Пайду я позна,
У капусце росна.

490

— Заінька беленькі,
Хвосцічак серанькі,
На цябе бабы сварацца
І пабіць цябе радзяцца.
— Што я ім здзелаў,
Што па іхняй капусце пабегаў.

## 491

Заінька шэры,
Не хадзі па сенях,
Не тропай нагою,
Не лягу з табою,
Я лягу з Іванам
Пад чырвоным каптанам.

## 492

Заінька серанькі,
Хадзі кашу есці.
Заінька наш не хоча,
Каля бабы тапоча.

## 493

Ох ты, баба старая,
Чаму не йдзеш замуж за зая:
Зая дроў насячэ,
Баба бліноў напячэ.

## 494




— Гэй ты, воўчанька,
Гэй ты, шэранькі,
Што ты ў лесе жывеш,
Пану чэсць не даеш?

— За што буду даваць,
Няма ў чым зімаваць:
Ані хатанькі,
Ані буданькі.

За кусточкам сядзеў,
На свіначку глядзеў.
Хацеў свінку схапіць,—
Пачалі гаманіць.

495

Тын-тын-тана!
Служыў я ў пана.
Тын-тын-тынку!
Выслужыў я свінку.
Тын-тын-толе!
Пагнаў у поле.
Тын-тын-тустум!
Сеў я пад кустам.
Тын-тын-тугу!
Стаў віць пугу.
Тын-тын-тачок!
Выскачыў ваўчок.
Тын-тын-табіць!
Нечым воўка біць.
Тын-тын-толам!
Воўка колам.
Тын-тын-татка!
Стаіць хатка.
Тын-тын-толік!
Стаіць столік.
Тын-тын-тожык!
Ляжыць ножык.
Тын-тын-тупіць!
Будзем воўка лупіць.
Тын-тын-тожу!
Вазьму кожу.
Тын-тын-тачо!
Вазьму на плячо.

Тын-тын-орад!
Пайду у горад.
Тын-тын-тужык!
Чый ты мужык?
Тын-тын-тожу!
Прадай кожу.
Тын-тын-тублі!
На табе тры рублі.
Тын-тын-тублёў!
Не хачу тваіх трох рублёў.

### 496

Трын-трын-тана!
Служыў я ў пана.
Трын-трын-тынку!
Выслужыў я свінку.
Трын-трын-толе!
Пагнаў я ў поле.
Трын-трын-тоўкі!
Бягуць два воўкі.
Трын-трын-тацілі!
І свінку ўхвацілі.
Трын-трын-тагом!
Я за ім бягом.
Трын-трын-танаў!
Я воўка дагнаў.
Трын-трын-талкай!
Я яго палкай.

### 497

Ратуцем-тана!
Служыў я ў пана.
Ратуцем-тынку!
Выслужыў я свінку.
Ратуцем-толе!

Пагнаў я ў поле.
Ратуцем-тужы!
Сеў я на мяжы.
Ратуцем-тугу!
Я звіў пугу.
Ратуцем-таўчок!
Аж бяжыць ваўчок.
Ратуцем-толік!
Я выламіў колік.
Ратуцем-табіў!
Я воўка забіў.
Ратуцем-тупіць!
Нечым лупіць.
Ратуцем-тавалю!
Пайшоў к кавалю.
Ратуцем-таваль!
— Зроб нож, каваль.
Ратуцем-табіў!
Каваль ножык зрабіў.
Ратуцем-тупіць!
Буду воўка лупіць.
Ратуцем-тупіў!
Я воўка аблупіў.
Ратуцем-цеста!
Я панёс на места.
Ратуцем-тужы!
Прыйшлі жыды.
Ратуцем-тагуюць!
Воўка таргуюць.
Ратуцем-тублі!
Плацяць тры рублі.
Ратуцем-тадаў!
Я воўка прадаў.
Ратуцем-цемя!
Я купіў семя.
Ратуцем-толе!
Засеяў поле.
Ратуцем-танок!
Удаўся лянок.
Ратуцем-тучыст!
Лянок стручыст.

## 498

Сядзіць мядзведзь на калодзе,
Чапец вышываець,
А лісіца, стара псіца,
З куста выглядаець.

А сарочкі-белабочкі
Пайшлі танцаваці,
А вароны, стары жоны,
Пайшлі жыта жаці.

Тры кукушкі, тры кукушкі
Жыта малацілі,
Тры каплоны, тры каплоны
Жыта вынасілі.

Казёл меліць, казёл меліць,
Каза падсыпаець,
А малыя казляняткі
У мерку збіраюць.

Муха месіць, муха месіць,
Камар воду носіць,
А малыя камараткі
У іх цеста просяць.

## 499

У балоце на калодзе
Мядзведзь боты шыець,
А малыя медзвяжаты
Шоўкам падшываюць.

## 500

Сядзіць мядзведзь на калодзе,
Боты падшываець,
А заінька-работнічак
У скрыпачку йграець.

А варона, стара жона,
Яна прыпяваець,
А сарока-белабока
Пайшла танцаваць.

А сініца маладзіца
Пайшла ў поле жаць,
Ляціць сокал з красным вокам
Колас падбіраць.

## 501

А ў балоце на калодзе
Мядзведзь боты шыець,
А варона сцеражона,
На яго глядзя, зяваець
І ў скрыпачку граець,
А ваўчонак-скрыпачонак
Ёй прыпяваець.

## 502

Мядзведзь кароставы,
Ён палез на ростання,
З ростання — на істопачку,
Там знайшоў каробачку.
— А што ў той каробачцы?
— Залатая макавачка.
— А што ў той макавачцы?
— Поўная насення.
Поўная, не поўная,
Абы поле ўсеялі.

## 503

Мядзведзь кару дзярэць,
Кацярына ваду бярэць.
— Ой, мядзведзь, нашто кара?
— Дзяўчынушка, нашто вада?
— Кара хату тапіці.
— Вада есці варыці.

## 504




Стара бабуленька
Козліка мела.
Бэ-бэ, бэ-бэ!
Козліка мела.*

Зрання да вечара
За ім глядзела.
Бэ-бэ, бэ-бэ!
За ім глядзела.

Козліка бабанька
Вельмі любіла.
Бэ-бэ, бэ-бэ!
Вельмі любіла.

Сенам, саломаю
Штодня карміла.
Бэ-бэ, бэ-бэ!
Штодня карміла.

Гэй, ды надумаўся
Козлік гуляці.
Бэ-бэ, бэ-бэ!
Козлік гуляці.

Скочыў да лесу ён
Па сенажаці.
Бэ-бэ, бэ-бэ!
Па сенажаці.

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

Козліка ў лесе тым
Ваўкі схапілі.
У-ю, у-ю!
Ваўкі схапілі.

Між сабой козліка
Там падзялілі.
У-ю, у-ю!
Там падзялілі.

Кінулі бабцы тэй
Ножкі ды рожкі.
У-ю, у-ю!
Ножкі ды рожкі.

Цешся, бабуленька,
Хоць гэтым трошкі.
У-ю, у-ю!
Хоць гэтым трошкі.

505

Быў у бабушкі казёл,
У Масееўны казёл,
У Федасееўны казёл.
Ён у стайні стаяў,
Воду грэтую піваў,
Муку сеяну ядаў,
Авёс параны,
Гарох пражаны.
Захацелася казлу,
Захацелась дураку
У чыстым полі пагуляць,
Серых зайкаў павідаць
Па ельнічку, па бярэзнічку.
Устрэціў казёл
Зайчыка маленькага,
Касалапенькага.
— Здарова, казёл!
Паборамся з табой,
Перакінемся з табой:

Я і той канавал,
Што жарэбчыкаў каваў,
Каваў, не каваў
І платы не браў.
Як узяў казла за рогі,
Як ударыў аб дарогу,—
Ў казла глазкі глядзяць,
Як свечкі гараць.
Як узяў казла за грыву,
Як ударыў казла аб ніву,—
Ў казла глазкі глядзяць,
Як свечкі гараць.
Як узяў казла за хвост,
Як ударыў казла аб мост,—
Ў казла глазкі глядзяць,
Як свечкі гараць.
Масей дроўцы рубаў,
Усё дзіўца відаў,
Пайшоў бабушке сказаў:
— Ах ты, бабушка Масееўна,
Ах ты, бабушка Федасееўна,
Наш казёл трох ваўкоў убіў
І ў Піцер дaступіў.
Баба кінула пралку пад лаўку,
Верацёнцы пад кравацъ,
Прыбягаець к ніве —
Ляжыць яго грыва.
Прыбягаець к дарожкі —
Ляжаць яго рожкі.
Прыбягаець на мост —
Ляжыць яго хвост.
Сабрала баба рогі да ногі,
Панясла папу памінаць.
— Ах ты, бацюшка папок,
Памяні майго казла.
— Дура ты, баба,
Хто казла памінаець?
Казла абухом забіваюць,
Шкуру дзяруць,
Чаравічкі шыюць,
Куды надабна ідуць.

506

Быў у бабушкі казелька,
Быў у бабушкі Мацейка,
Ён на стаенцы стаяў,
Муку, рож паядаў,
Муку сеяную,
Рожу веяную.
Захацелася казлу
Ў чыста поле пагуляць,
Сваю сілу спрабаваць.
Як пабег па ельнічку,
Пабег па бярэзнічку,
Сустрэў казелька,
Сустрэў Мацейка
Шасці ваўкоў,
А сёмы ваўчок —
Абарваны бачок.
— Мы з табой, казелька,
Мы з табой, Мацейка,
Пабортаемся,
На лютым марозе
Пагрэемся.
Як узяў воўк казла за рогі,
Як ударыў казла аб дарогі,
Відзь свечы гараць,
Аж ў казла глаза глядзяць.
Як узяў казла за хвост,
Як ударыў казла аб мост,
Як узяў казла за грыву,
Як ударыў казла аб ніву.
Як пабег казелька,
Як пабег Мацейка
Каля бабіна двара.
Дзед дровы сячэць,
Баба бліны пякець.
— Нутка, бабка,
Нутка, галубка,
Станем радню сабіраць,
Будзем казла памінаць!

Казелька Мікітка,
А кошка Сцепанідка,
Кароўка Маланка,
А бычок Раманка,
Кабылка Марынка,
А жарабок Гаўрылка,
Авечка Гапечка,
А баранька Раманька,
Свінка Аксынка,
А парсючок Максімка,
Утка Лукутка,
А селязень Якутка,
Курка Заарэйка,
А петушок Матвейка.
Хто ў нас старшы?
Хто ў нас большы?
Жораў-капітан,
Ястраб-дзесятнік
Па сялу лятаець,
Курэй выглядаець.
Панямножку бярэць,
Па дзесятку здзярэць.

507

Быў у бабушкі казёл,
У Барбарушкі казёл.
Ён на стайні стаяў,
Мукі, сена ядаў,
Ваду цэджану піў,
Перацэджаную.
Захацелася козліку
Ў лес пагуляці,
Шэрых заяў павідаці.
Як узяў заяц казла
За хвосцік
Да як кіне яго
Аж на мосцік.
Як узяў заяц яго
За спіну

Да як кіне яго
Аб даліну.
Як узяў заяц яго
За рогі
Да як кіне яго
Аб дарогі...
Бабін дурань дровы сек,
Пабег, бабе сказаў.
Пайшла баба на мост,
Валачэ казлоў хвост.
Пайшла баба на даліну,
Валачэ казлову спіну.
Пайшла баба на дарогі,
Валачэ казловы рогі.
Прывалакла казла
Да к папу на двор.
— Ой ты, попя, бацька наш,
Спамяні казла для нас!
— Эх ты, баба дурная,
Хто ж казла спамінае?
З казла шкуру дзяруць,
З казла мяса ядуць,
З казла боты робяць.

## 508

Жыў-быў у бабулі
Шэранькі козлік.
Вось як, вось як,
Шэранькі козлік!

Бабуля козліка
Дужа любіла.
Вось як, вось як,
Дужа любіла!

Уздумалась козліку
У лес пагуляці.
Вось як, вось як,
У лес пагуляці!

Напалі на козліка
Шэрыя воўкі.
Вось як, вось як,
Шэрыя воўкі!

Пакінулі бабулі
Рожкі ды ножкі!
Вось як, вось як,
Рожкі ды ножкі!

509

Як і быў у нас казёл,
Ён і вумны быў,
Ён і па ваду хадзіў,
Ён і кашу варыў,
Дзеда з бабай карміў.
Ён пайшоў, наш казёл, у лес,
Напалі на яго
Роўна семера ваўкоў.
Як і былі [яны],
Ваўкі галадны,
Як хвацілі казла
Папярок бачка —
Куды рожкі, куды ножкі,
Куды ўвесь казялок!

510

Як у бабушкі казёл,
Як у старой казёл,
Ён на лавачцы ляжаў,
Ён мучыцу ядаў,
Ён вадзіцу піваў,
Муку сеяную,
Ваду цэджаную.
Папрасіўся казёл
У чыста поле гуляць.

Як пайшоў жа казёл
Ў чыста поле гуляць,
Як сустрэліся з казлом
Сем ваўкоў.
Ох, і сёмы воўк —
Ён гарэлы бок,—
Як узяў воўк казла
Папярок жывата,
Як ударыў воўк казла
Аб сырую зямлю,—
Яго рогі пры ў дарогі,
Галава — па лугам.
Тама дзевушкі гулялі,
Яны ямачкі капалі,
Бабушкі ведама давалі:
— Ох, ты бабушка,
Ты Варварушка,
Ты вары клёцкі,
Памінай казельку!
— Уж ты, Ванька сынок,
Едзь за казёлькай!
Ванька быў глух,
Заехаў у луг,
Кабылку аддаў ваўкам
І сам пяшком прымкаў.

## 511

А ў бабушкі быў казёл,
У Масееўны быў казёл,
Падзі права, быў казёл.
Скачыў казёл на гарод,
Зламіў казёл качашок,
Руты-мяты не дастаў.
Рута-мята зелена,
А я, млада, весела,
Узяла казла за рага,
Павяла казла на базар,
Прадала казла на тавар,
Да на той тавар дарагой:

Да на белыя бяліла,
На красныя красіла,
На чорныя чарніла.
Да на тую пару муж з Масквы.
— А йдзе, жана, бел казёл?
— Скачыў казёл на гарод,
Буйну голаву зламіў.
— А йдзе, жана, галава?
— У ямачку зарыла.
— А йдзе, жана, магілка?
— Хадзі, мой друг, пакажу
Да цябе туды ўсажу.

## 512

Як у бабушкі каза,
У Мар'янушкі каза!
Ах, і тая каза
Спарадзіла казла,
Казла сівенькага,
Сівагрывенькага.
Захацелася казлу
Ў чыста поле пагуляць
Да па ельнічку,
Па бярэзнічку.
Да спаткаўся казёл
Да з шэрым ваўком:
— Ці ты воўк,
Ці ты заінька?
Да паборамся з табой,
Перакінемся з табой!
Як узяў казла за грыву,
Як ударыў казла аб ніву —
Ў казла вочкі глядзяць,
Як свечы гараць.
Як узяў казла за хвост,
Як ударыў аб мост —
Ў казла вочкі глядзяць,
Як свечы гараць.
Пайшла баба казла іскаць

Да па алешнічку,
Да па бярэзнічку.
Спатыкалася з ваўком:
— Ах ты, воўчыхна,
Ах ты, бацюхна,
Ці не відзеў майго казла?
— Вунь рогі пад дарогай,
А галоўка пад ялушачкай.
Села баба на ката,
Паехала да папа:
— Ах ты, попюхна!
Ах ты, бацюхна!
Памяні майго казла.
— Ах ты, баба, дурак!
Хто казла памінаець?
Казла ножам заразаюць
І кожу знімаюць,
У сапожкі ўшываюць
І на ножкі надзяваюць.

**513**

Як у бабушкі казёл,
Ў Цімахвееўны казёл,
Ды ў Ляксееўны казёл,
Ды ва Андрэеўны казёл.
Ён за ступачкай стаяў,
Ён і пшоначку ядаў,
Муку сеяную, ваду мераную.
Як пайшоў казялец
Па чысту полю гуляць.
Насустрэчу казлу.
Насустрэчу дураку
Да і шэранькі ваўчок,
Шэраваценькі, белаваценькі.
Як згроб казла за бараду
І ударыў аб ваду,
Як узяў казла за рогі,
Як ударыў аб дарогі,
Як узяў казла за нос,

Як ударыў аб авёс,
Як загроб казла за грыву,
Як ударыў яго аб ніву.
Мужык дровы сек
Да і кінуў тапор,
Ён пайшоў дамоў.
— Уж ты, бабушка мая,
Цімахвееўна мая,
Ды Ляксееўна мая.
Ды Андрэеўна мая,
Як наш казялец
Ён за Піцер адступіў,
Ён за Піцер адступіў,
Ён жаробчыка купіў
Са быком, са валом,
Са цялятам трыццякамі.
Як баба стара рада:
Яна праліцу пад лавіцу,
Верацёна пад кравацъ,
Сама пайшла скакаць.
Паглядаець у вакно —
Ці не едзець казялец.
Няма, няма казла,
Няма дурака,
Няма дурака.
Баба сатнёў напякла,
Сама пайшла ў пагост.
— Ах ты, бацюшка папок!
Адламі-тка сатня,
Памяні-тка казла.
Поп бабу абругаў:
— Не памінай скаціну,
Няхай бог пасець жываціну.

### 514

Жыў у бабушкі казёл,
У старушачкі казёл,
Ён на стаянкі стаяў,
Сыраватачку хлябаў,

Муку сеяную,
Ваду цэджаную,
Рэпу параную.
Сарваўся казёл
Ды пабег ў чыста полюшка гуляць.
Ну, сустрэўся казёл са звярушачкай:
— А ты, заянка, а ты, шэранькі!
Мы пабарамся з табой,
Перакінемся са мной.
— Я не заянка, я не шэранькі,
А я шэранькі ваўчок.
Я й па полюшку бяжаў,
Я й жаробчыкаў складаў,
Добрых хазяінаў на пуць навадзіў.
Як узяў казла за рогі,
Як ударыў аб дарогу;
Як узяў казла за грыву,
Як ударыў аб ніву.
Куды рогі, куды ногі,
Куды хвост з галавой.
Чакала бабушка дзень,
Чакала бабушка другі,
А на трэці жа дзень
Пайшла бабушка казла сачыць.
Знайшла рогі, знайшла ногі,
Знайшла хвост з галавой.
Пайшла бабушка папа прасіць:
— А ты, попінька, папок,
Памяні майго казла.
— А ты, баба, дурак,
Хто казла памінаець?
Казлова мяса ядуць,
З казловай шкуры
Боты ш'юць.

### 515

— Дзе ж быў, казюленька?
— На рабоце, матуленька.
— Што заробіў, казюленька?
— Ком сала, матуленька.

— Дзе ж дзеў, казюленька?
— Кот з'еў, матуленька.
— Бадай яго разарвала,
Маё дзецяя не гаравала.

## 516

Як пайшоў казёл дарогаю,
Як пайшоў казёл шырокаю.
Ой, люлі, ай, люлі,
Як пайшоў шырокаю.
Насустрэчу казлу серы заінька.
А наш жа казёл прыўжахнуўся,
Ён за кусцік схараніўся,
Галавою закатаў:
— Ці не смертухна мая?
Ці не з'есць мяне хацяць?
— Ты нябось, нябось, серы заінька!
Я ў хазяіна жыву, капусту сцерагу.
Хазяін на гарод, я з гароду далоў.
Як пайшоў казёл дарогаю,
Як пайшоў казёл шырокаю,
Насустрэчу казлу сера лісанька.
А наш жа казёл прыўжахнуўся,
Ён за кусцік схараніўся,
Галавою закатаў:
— Ці не смертухна мая?
Ці не з'есць мяне хацяць?
— Ты нябось, казёл, серай лісанькі!
Я ў хазяіна жыву, я цыплятак сцерагу.
А хазяін на двор, я з цыплятак далоў.

## 517

Пайшла каза у 'рахі,
Нашчыпала тры мяхі,
А чацвёрты — шалухі.
Гаварыць ёй казёл:

— Каза, каза, пайдзём двору!
— Не. не пайду!
— Пагадзі, каза.
Нашлю на цябе ваўкоў!
— Воўкі, воўкі,
Ідзіце казу есць!
— Не, не пайдзём!
— Пагадзі, воўкі,
Нашлю на вас стральцоў!
— Стральцы, стральцы,
Ідзіце ваўкоў біць!
— Не, не пайдзём!
— Пагадзі, стральцы,
Нашлю на вас чарвей!
— Чэрві, чэрві,
Ідзіце стральцоў тачыць!
— Не, не пайдзём!
— Пагадзі, чэрві,
Нашлю на вас курэй!
— Куры, куры,
Ідзіце чарвей кляваць!
— Не, не пайдзём!
— Пагадзі, куры,
Нашлю на вас ястрабаў!
— Ястрабы, ястрабы,
Ідзіце курэй драць!
Ястрабы пайшлі курэй драць,
Куры пайшлі чарвей кляваць,
Чэрві пайшлі стральцоў тачыць,
Стральцы пайшлі ваўкоў біць,
Ваўкі пайшлі казу есць.

518

Пайшла каза ў арахі,
Нашчыпала тры мяхі,
А чацвёрты — шалухі.
Казёл кажыць: — Пайдзём двору!
Каза кажыць: — Не пайду!
— Ну, падаждзі, каза,

Я на цябе нашлю ваўкоў.
Ваўкі, ваўкі, ідзіце казу есць!
— Не, не пайдзём.
— Ну, падаждзіце, ваўкі,
Я на вас стральцоў нашлю.
Стральцы, стральцы, ідзіце ваўкоў біць!
— Не, не пайдзём.
— Ну, падаждзіце, стральцы,
Я на вас пашлю смерць.
Смерць, смерць, ідзі стральцоў марыць!
— Не, не пайду.
— Ну, падаждзі, смерць,
Я на цябе агонь нашлю.
Агонь, агонь, ідзі смерць паліць!
— Не, не пайду.
— Ну, падаждзі, агонь,
Я на цябе нашлю ваду.
Вада, вада, ідзі агонь тушыць!
— Не, не пайду.
— Ну, падаждзі, вада,
Я на цябе нашлю валоў.
Валы, валы, ідзіце ваду піць!
— Не, не пайдзём.
— Ну, падаждзіце, валы,
Я на вас даўбень нашлю.
Даўбні, даўбні, ідзіце валоў біць!
— Не, не пайдзём.
— Ну, падаждзіце, даўбні,
Я на вас чарвей нашлю.
Чэрві, чэрві, ідзіце даўбні тачыць!
— Не, не пайдзём.
— Ну, падаждзіце, чэрві,
Я на вас нашлю курэй.
Куры, куры, ідзіце чарвей клюйце!
— Не, не пайдзём.
— Ну, падаждзіце, куры,
Я на вас нашлю арлоў.
Арлы, арлы, ідзіце курэй біць!
Пайшлі арлы курэй біць,
Куры пайшлі чарвей клюваць,
Чэрві пайшлі даўбень тачыць,

Даўбні пайшлі валоў біць,
Валы пайшлі ваду піць,
Вада пайшла агонь тушыць,
Агонь пайшоў смерць паліць,
Смерць пайшла стральцоў марыць,
Стральцы пайшлі ваўкоў біць,
Ваўкі пайшлі казу есць.
Каза — на 'сінку, воўк — за спінку;
Каза — пад мост, воўк — за хвост.

## 519

Ого-го, каза,
Ого-го, серая!
На даліне воўк
З ваўчанятамі;
На гары каза
З казлянятамі.
Узяла сярпок,
Пабегла ў садок,
Нажала травіцы
Цэленькі снапок;
Яна падкарміла
Да падгадавала
Сваіх дзетушак;
Павяла паіць
Усё ў тое сяло
Да у Данькава.
А у Данькаве
Усё людзі стральцы;
Сталі казу біці,
Сталі застраліці,
Тама каза пала,
Навекі прапала.

## 520

Ого-го, каза, ого-го, серая!
А йдзе ж прабывала,
А йдзе ж пражывала?

— Пражывала я ў вялікай Маскве,
А ў доўгай Касьме.
А йдзе каза з рогам,
Там жытушка стогам;
І дзе каза з хвастом,
Там жыта кустом.
А выскачыў воўк:
— Ты каза, казішча,
Ты сваім дзецям не памашчніца!
Схваціла сярпок,
Пабегла ў садок,
Нажала траўкі снапок.
Яна падкарміла іх, падгадавала,
А воўк выскачыў і стаў іх есць.
Казляняты наўцёк,
А ён палавіў,
А ён паеў.

**521**

Пагнала бабка
Казла у поле,
Ды з качарэжкай
Села пад арэшкам.
Села, задрамала,
Козліка праспала.
Глядзіць: ідуць ваўчышчы,
Тры дурнішчы.
— Вы, ваўчышчы,
Тры дурнішчы,
А ці бачылі
Вы майго козліка?
Адзін кажа:
— Я не чуў і не бачыў.
Другі кажа:
— Я чуў і бачыў
Твайго козліка,
Ножкі да рожкі
Пасярод дарожкі.
Трэці кажа:

— Я бачыў яго,
Бо з ім сустракаўся,
Няблага ім падсілкаваўся.
Дзе смачна лілася вада,
Ляжыць козліка барада.

## 522

Быў у бабушкі казёл.

Дыль-дыль. *

Ён на стаеньке стаяў,
Ў глазы сена не відаў.
Ох ты, бабка мая,
Выпусці казла
У лясок на часок.
Як пайшоў жа казёл
Да дарогай казёл,
Да шырокаю казёл.
Як напалі на казла
Тры ваўка.
Да й узялі казла за хвост,
Да й ўдарылі казла аб мост,
Казёл зоры відаў,
А дзед дровы рубаў
Да ўсё дзела відаў.
Ох ты, бабка мая,
За бутылкай віна
Будзем памінкі спраўляць,
Чым казліну называць.

## 523




* Паўтараецца пасля кожнага радка.




Каза мая белая
Па гародзе бегала,
Аб'елася лебяды,
Скок-брык, скок-брык да вады.

Як скакала праз масток,
Адваліўся ёй хвасток,
Пайшла каза бядуючы,
А дзед пугай лупцуючы.

Го-го-го-го, козанька,
Го-го-го-го, шэрая,
Ты ж паўбока лупленая,
За тры грошы купленая.

## 524

А шэрая козанька,
Тапу-тапу скоранька,
Пераскочыла праз плот
Ды пабегла ўва гарод.

Аб'елася цыбуліцы,
Крычыць, бяжыць па вуліцы;
Аб'елася часнаку,
Крычыць, бяжыць па таку.

## 525

А пайшоў казёл у гарод,
Паламаў казёл лук-часнок.
Вазьму казла за рага,
Павяду казла на таржок.
Прадала казла на таргу,

Яна прасіла тры рубля,
А ў прыдачу тры каня;
Прыйшла дамой — скаялась,
Што дзёшава аддала.

## 526

[Allegretto]

—Дзе ж гэ – та быў ты, наш чор ны ба - ран?

—На млы- не быў, на млы -не быў, мі - ла- сці – вы пан.

— Дзе ж гэта быў ты, наш чорны баран? *
— На млыне быў, на млыне быў, міласцівы пан.
— Што ж ты рабіў там, наш чорны баран?
— Муку малоў, муку малоў, міласцівы пан.
— Хто ж цябе скрыўдзіў, наш чорны баран?
— Млынарчыкі, млынарчыкі, міласцівы пан.
— Як цябе білі, наш чорны баран?
— Ды палкамі, стукалкамі, міласцівы пан.
— Як жа ты плакаў, наш чорны баран?
— Мэмэ-мэмэ, мэмэ-мэмэ, міласцівы пан.
— Як жа ўцякаў ты, наш чорны баран?
— То я скокам, то я бокам, міласцівы пан.
— Як бараніўся, наш чорны баран?
— Ды вось гэтак, ды вось гэтак, міласцівы пан.

## 527

Уж ты, бысінька, бычок,
Закалі цябе ваўчок
Не ў маём ляску,
А ў бярэзнічку.
А ляцелі сакалы,

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Пацыралі сапагі.
А Саўка йшоў,
Сапог найшоў,
А Куліна йшла,
Другі не найшла.

## 528

Ах ты, бысінька, бычок,
Задзяры цябеваўчок
А ў маім ляску,
У бярэзнічку.
А ляцелі сакалы,
Уранілі сапагі.
— Ох ты, Сёмушка,
Сіміонушка,
Ты падай сапагі!
— А мне некада:
Нада мост масціць,
Серабром гваздзіць;
А маё ж серабро
Пад калодаю ляжыць,
Ў катле варыцца.
Ах, і цар на кані
Уцяшаецца,
А царыца у святліцы
Наражаецца.
Ах вы, вуткі, не гудзіце,
Майго бацьку не будзіце.
Ах, мой бацюшка
За чараю водку піў,
Ён робрушка зламіў.
Муха банюшку тапіла,
Гніда венічак вязала,
Вошка парылася,
З полку ўдарылася.
Бела гніда падскачыла,
За ручаньку падхваціла:
— Судзі, судзі, ваявода,
Пажалуй лякарства!

Папы свяршчкі,
Тараканы-барабаны,
Мухі голасам крычалі,
Раскрычаліся.

### 529

Ай, быська, мой бысінька,
Залатая твая лысінка!
А ў быка не бычыны стан,
А ў галуба галубіны калтан.
Ах ты, Хвеня, Хвенюшка,
Старадаўняя купечаска жана,
Пойдзем мы, Хвеня, на таржок,
Купім мы пенечкі пудок,
Саўём мы вяровушку,
Круценьку, пазалацісценьку,
Возьмем мы быка за рага,
Павядзём мы быка на тарга.
Сталі бысіньку пашчупываці,
Сталі дзенежкі пастуківаці.

### 530

Ты, Улас, Улас,
Ты најміся ў нас
Скату пасцівіць!
Нашы каровачкі
Каля дубровачкі,
Нашы авечкі
Каля рэчкі,
Нашы свіначкі
Каля 'сіначкі,
Нашы козачкі
Каля лозачкі.

## 531

— Кацярына, Кацярынушка!
Айдзе твая жывацінушка?
— Каровухны каля ровухны,
А свінухны каля нівухны,
А козухны каля лозухны,
А авечкі каля рэчкі.

## 532

Пайшлі каровачкі
Каля дубровачкі,
Авечачкі — каля рэчачкі,
Свіначкі — каля нівачкі,
А конічкі — каля горачкі.

## 533

[ Allegro ]

Як у ко_ ці _ ка, ка_та бы_ ла ма_чы_ха лі_ха, га _ва -

_ры - ла, вы- га- ва - ры _ва - ла: —Не ха _ дзі па чу -

_жых два - рах, не ка - чай чу _ жых дзе _ та-

_чак. Прый_дзі, ко - цік, на - ча- ваць, мі _ лых




Як у коціка, ката
Была мачыха ліха,
Гаварыла, выгаварывала:
— Не хадзі па чужых дварах,
Не качай чужых дзетачак.
Прыйдзі, коцік, начаваць,
Мілых дзетачак качаць.
За работу заплачу:
Дам гладыш малака
І кусок пірага.

## 534

У ката-варката
Была мачаха ліха;
Яна біла яго
І журыла яго:
— Хадзі, каток, начаваць,
Майго Іваначку катаць,
А я ж табе, кату,
За работу заплачу:
Дам куўшын малака,
І кусок пірага.

## 535

У ката-варката
Была мачаха ліха,
Яна біла яго,
Прыгаварывала:

— Не хадзі па чужым,
Не хадзі па дварам,
Не качай, не качай
Чужых дзетушак.

Прыйдзі, коцік, начаваць,
Прыйдзі Міценьку качаць,
А я табе-то, кату,
За работу заплачу.

А я табе-то, кату,
За работу заплачу:
Дам куўшын малака
Да кусок пірага.

**536**

— Дзе быў, коцік?
— У лясу.
— Што там дзелаў?
— Крупы драў.
— Што заработаў?
— Кусок сала.
— А дзе дзеў?
— Пад лаўкай.
— Чым накрыў?
— Траўкай.

**537**

— Котанька, рысанька,
Ідзе ж ты быў? — У прудзе.
— Што ж ты еў? — Мучыцу.
— Што ж ты піў? — Вадзіцу.
— Не ласы, коцік, не ласы, не ласы.

## 538




Былі ў бацькі тры сыночкі.

Цю-лю-лю.*

Ды ўсе тры Васілёчкі.

Адзін козачкі пасе.
Другі лапцікі пляце.

Трэці сядзіць на каменю.
Дзяржыць дуду на раменю.

Як зайграе та дуда.
Ды з высокага дуба.

## 539

Было ў бацькі тры сыны,
А ўсе тры Васілі.
Адзін дровы сячэць,
Другі лапці пляцець,
Трэці сядзіць на камушкі,
Дзяржыць казу на рамушкі,
А пры боку пісталет.
Аглянецца — казы нет.
Пайшла каза сцібаючы,
На сем сажань займаючы.
Ўсе касцёлы абайшла,
Нідзе папа не знайшла.
І на рынку была,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

І расады купіла,
І ў гародзе садзіла.
Як удаўся качан
І тонак, і высок,
І лісцем шырок.
А ты, качан, качанок!
Не хадзі па сянёх,
Не топай нагой,
Я не лягу з табой.

## 540

Было ў бацькі тры сыны,
А ўсе ж яны Васілі.
Адзін коні пасець,
Другі лапці пляцець,
Трэці сядзіць на камушкі,
Дзяржыць казу на рамушкі.
Сюды мах! і туды мах!
Ударыў казу па зубах.
Пайшла каза рыкаючы,
На сем сажэнь цягаючы.
І на рынку была,
І гарэлку піла,
І расадку купіла,
Сем град насадзіла.
Як удаўся качан,
Вышэй плоту тарчаў.
Круты боты на нагах,
Пісталеты на руках.
— Ах ты, Ванюшка мой,
Завядзі ж ты мяне дамоў?
— А дзе ж твой дом?—
— Пасярод Масквы:
Ай там жа сучка на лычку
Парываецца.

## 541

Ах ты, Іванька Папоў,
Завядзі мяне дамоў.
Мой дом недалёка:
Пад ельнічкам,
Пад бярэзнічкам.
Там сучка на лычку
Двара сцеражэць,
А пятух на павеці
У дуду равець.
А кошка ў лукошку
Карункі тчэць,
А кот на пячы
Прадаець калачы.
Ах ты, уціца мая,
Ах ты, шэрая мая,
Не лятай на раку,
Не клюй пяску,
Не тупі наску.
Прыляцелі сакалы,
Пацяралі сапагі.
Калінушка, дружок!
Падай сапажок!
Я масточак машчу,
Серабром гважджу.

## 542

[ Allegro ]

Саў - ка да Гры - шка ла - дзі - лі ду - ду.

Ду - ду - ду - ду, ду - ду - ду - ду, ла - дзі - лі ду - ду.

Саўка да Грышка ладзілі дуду.*
Ду-ду-ду-ду, ду-ду-ду-ду, ладзілі дуду.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Ладзілі славіць дудой каляду.
Ду-ду-ду-ду, ду-ду-ду-ду, дудой каляду.
Як разышліся музыкі, гу-га!
Гу-га-га-га, гу-га-га-га, музыкі гуга.
Згінула гора, згінула туга.
Гу-га-га-га, гу-га-га-га, згінула туга.
Язэп старэнькі, ёмкі ўзяўшы скрут.
Ту-ту-ту-ту, ту-ту-ту-ту, ёмкі ўзяўшы скрут.
Кіем на дзверы паказаў ім тут.
Ту-ту-ту-ту, ту-ту-ту-ту, паказаў ім тут.
Вы сабе дуйце сваё го-ца-ца.
Го-ца-ца-ца, го-ца-ца-ца, сваё го-ца-ца-ца.
Толькі не страшце Езуса хлапца.
Го-ца-ца-ца, го-ца-ца-ца, Езуса хлапца.

## 543

[ Moderato ]

Адзін — Хор

І_ граў я на дуд _ цы, ту _ лю _ лю!
Се _ дзя _ чы у буд _ цы, ту лю лю!

Ту_ лю, ту _лю, ту _лю _лю, ту - лю - лю!

Іграў я на дудцы, ту-лю-лю!
Седзячы у будцы, ту-лю-лю!

Ту-лю, ту-лю, ту-лю-лю, ту-лю-лю! *

Грае мая дудка: ту-лю-лю!
Пяе весялушка: ту-лю-лю!

Як іграла дудка, ту-лю-лю!
Прыбег скакаць Юрка, ту-лю-лю!

А за Юркам — Янка, ту-лю-лю!
А за Янкам — Танька, ту-лю-лю!

* Паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 544







Зайграй жа мне, дударочку,
А я патанцую,
Курка мне яйка знясецъ,
Табе падарую.

П р ы п е ў:

Тум-тум, тум-та, тум-та,
Тум-та, тум-та, тум-тум.*

Зайграй жа мне, дударочку,
Як сам разумееш,
Зайграй, сівы галубочку,
Тое, што ўмееш.

Як іграюць без дуды,
Ходзяць ножкі не туды,
А як дуду пачуюць,
Самі ножкі танцуюць.

## 545

Пяяў бы я песні,
Ды не знаю ноты.
Абарваны кажушок,
Дзіравыя боты.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 546

Паспяваю песню,
Ды не маю ноты.
Абарваны кажушок,
Дзіравыя боты.

## 547




Тпрунда, баба, тпрунда, дзед,
Хапіліся — хлеба нет.

Пайшлі пабірацца,
Хлеба не набрацца.

Баба села на барана.
І паехала не рана.

А з барана на казла,—
Чуць да ночы дапаўзла.

## 548

Тпрунды, баба, тпрунды, дзед,
Хваціліся — хлеба нет!

Села баба на барана
І паехала да пана,

Зачапілася за пень —
Прастаяла цэлы дзень.

Каб не тыя панічы —
Прастаяла б да начы.

Тпрунды, баба, тпрунды, дзед,
Хваціліся — хлеба нет!

Села баба на барана
І паехала да пана,

Зачапілася за корч —
Прастаяла цэлу ноч.

Каб не тыя ахвіцэры —
Прастаяла б да нядзелі.

Тпрунды, баба, тпрунды, дзед,
Хваціліся — хлеба нет!

Села баба на барана
І паехала да пана,

Зачапілася за плот —
Прастаяла цэлы год.

### 549

Стук, гром пад вакном:
Едзець баба з талакном;
Мех зваліўся з талакном.
Едзець баба, едзець,
Прыгаварываець:
— Там, сям, па панам,
Талакно распрадам.
Едзець баба з талакном,—
Бох-бох-чамчурох.

### 550

Стуку-стуку па таку.
Едзіць баба на быку,
Пытаецца Васіля:
— Ці далёка да сяла?

Васіль кажыць: — Тры мілі,
Васіліха — чатыры.
Васіліха Васіля
Палонікам зацяла.

Васіль пайшоў плачучы,
Васіліха — скачучы.
Васіль пайшоў да цара,
Васіліха — да папа.

## 551

♩=120

Сту_ ку-сту_ ку, таў_ка _чы _кі, сту_ку -сту_ ку, ду_бо_ вы- я,

сем год ва_ля _лі _ся,ў вад_ну сту_ пу са_бра_ лі _ ся.

Стуку-стуку, таўкачыкі,
Стуку-стуку, дубовыя.
Сем год валяліся,
Ў вадну ступу сабраліся.

## 552

♩=69

Ся_дзеў я на пні. Гэй, гэй, гэй!

Еў я ка _нап _ лі, гэй, гэй, гэй!

Сядзеў я на пні.

Гэй, гэй, гэй! *

Еў я канаплі,
Прыйшоў ка мне Якаў.
Папрасіў табакі.

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Я ж яму не даў.
Ён жа мне задаў.
Пойдзем жа мы к пану.
Пану жаліцца.
Пан пытаецца:
— Як у вас было?
— Сядзеў я на пні.
Еў я канаплі.
Прыйшоў ка мне Якаў...
і г. д.

## 553




Сядзеў я на пні,
Гэй, гэй!
Еў я калапні,
Гэй, гэй, гэй!
Прыйшоў ка мне Якаў,
Гэй, гэй!
Папрасіў табакі.
Гэй, гэй, гэй!
Я яму не даў,
Гэй, гэй!
А ён мне задаў.
Гэй, гэй, гэй!
Пайшоў к пану я,
Гэй, гэй!
З крыўдай жаліцца.
Гэй, гэй, гэй!
Пан пытаецца:
Гэй, гэй!

— Як у вас было?
Гэй, гэй, гэй!
— Сядзеў я на пні,
Гэй, гэй!..
і г. д.

## 554

[ Allegretto ]
Адзін
Хор

–Ку_ды е_дзеш, Ра_ма_не? Ой, вір_вір, бом – бом!

–На кір_маш, мас_па_не. Ой, вір_вір, бом – бом!

— Куды едзеш, Рамане?

Ой, вір-вір, бом-бом! *

— На кірмаш, маспане.
— А што вязеш, Рамане?
— Воз дзяўчат, маспане.
— Пачом цэніш, Рамане?
— Па чырвонцу, маспане.
— Куды едзеш, Рамане?
— На кірмаш, маспане.
— А што вязеш, Рамане?
— Воз хлапцоў, маспане.
— Пачом цэніш, Рамане?
— Па талеру, маспане.

## 555

— Куды едзеш, Сілівон?
— Жаніцца еду, брацец мой!
— Шапкі не маеш, Сілівон!
— Праўда, праўда, брацец мой!

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

— Вот табе шапка, Сілівон!
— Спа-а-асіба, брацец мой!

— Куды едзеш, Сілівон?
— Жаніцца еду, брацец мой!
— Шубкі не маеш, Сілівон!
— Праўда, праўда, брацец мой!
— Вот табе шубка, Сілівон!
— Спа-а-асіба, брацец мой!

— Куды едзеш, Сілівон?
— Жаніцца еду, брацец мой!
— Ботаў не маеш, Сілівон!
— Праўда, праўда, брацец мой!
— Вот табе боты, Сілівон!
— Спа-а-асіба, брацец мой!

— Куды едзеш, Сілівон?
— Жаніцца еду, брацец мой!
— Рукавіц не маеш, Сілівон!
— Праўда, праўда, брацец мой!
— Вот рукавіцы, Сілівон!
— Спа-а-асіба, брацец мой!

— Куды едзеш, Сілівон?
— Жаніцца еду, брацец мой!
— Каня не маеш, Сілівон!
— Праўда, праўда, брацец мой!
— Вот табе конік, Сілівон!
— Спа-а-асіба, брацец мой!

— Куды едзеш, Сілівон?
— Жаніцца еду, брацец мой!
— Саней не маеш, Сілівон!
— Праўда, праўда, брацец мой!
— Вот табе сані, Сілівон!
— Спа-а-асіба, брацец мой!

— Куды едзеш, Сілівон?
— Жаніцца еду, брацец мой!
— Жонкі не маеш, Сілівон!

22. Зак. 18

— Праўда, праўда, брацец мой!
— Вот табе жонка, Сілівон!
— Спа-а-асіба, брацец мой!

## 556




Брын-брын, шапавал,
А дзе воўну падзяваў?
Брын-брын, шапавал,
А ў кішэню пахаваў.
А з кішэні відна,
Шапавалу стыдна.
Брын-брын, шапавал,
А дзе воўну падзяваў?
Брын-брын, шапавал,
А ў кішэню пахаваў.
Воўну атабралі,
Шапавала гналі.
Брын-брын, шапавал,
А дзе воўну падзяваў?
Брын-брын, шапавал,
А ў кішэню пахаваў.
Набраўшыся стыду,
Пайшоў ён да жыда.
Брын-брын, шапавал,
А дзе воўну падзяваў?
Брын-брын, шапавал,
А ў кішэню пахаваў.

## 557

[ Allegro ]



Дзя_док ры_бач _ку зла_віў, зва_рыць ю_шач _ ку пра_сіў.



Трэ_ба рыб _ку па_са_ліць, смач_ну юш_ку каб зва_рыць.

Дзядок рыбачку златвіў,
Зварыць юшачку прасіў.
Трэба рыбку пасаліць,
Смачну юшку каб зварыць.

Ў каго рыжанькі вусок,
Таму рыбачкі кусок.
Ў каго рыжа барада,
Таму рыбачкі шкада.

Рыжы чорнага пытаў:
— Чым бараду фарбаваў?
— На прыслончыку ляжаў,
Ўгору бараду трымаў.

## 558

[ Moderato ]



Му_жы_чок, му_ жы_чок, ма _ ё сэр _ цай _ ка,



не ха_дзі на тар_жок ты да ме _ стань _ ка.

Мужычок, мужычок, маё сэрцайка,
Не хадзі на таржок ты да местанька.

Не хадзі на таржок ты да местанька,
Не купляй ты лянку ні павесманька.

Каля лёну хадзіць — паясніца баліць,
Калапенькі ірваць — мае ручкі баляць.

О-ё-ёй, як баляць! О-ё-ёй, як баляць!
Не магу вытрымаць! Не магу вытрымаць!

## 559

На гары жабка
Красенцы ткала.
Прыехаў рачык
Ды к жабцы ў сваты:

— Зачым табе, жабка,
Чатыры лапкі?
— Зачым табе, рачык,
На задзе вочкі?

## 560

Бом-бом, тром, бом-бом —
Загарэўся кошкін дом.
А той Вася з памялом
Стаў тушыці кошкін дом.

А той Вася не дурак
Да пабег у беразняк,
Да вырубіў булаву,
Заказную галаву.

Сюды мах, туды мах,
Да ударыў па губах.
Пайшла яна храмаючы,
На сем сажон ступаючы.

## 561

А чу-чу, а чу-чу!
Я гарох малачу
На Іванавым тачку,
На прымыльнічку.

Пакацілася зярно
На Іванава гумно.
Іван Папоў
Заганяў ваўкоў.

Шапка татарка
З горада ляцела,
[З горада ляцела,]
Князю папала.

— Ты, князь, не пячалься,
Твая жана Мар'я
Сына парадзіла —
Мала гасудара.

## 562

А чу-чу, чу-чу, чу-чу,
Я гарох малачу
На чужом тачку,
На прыгорачку.

Пакацілася зярно
На Марцінава гумно.
Марцін — з мяшком,
Марцініха — з гаршком,

Марцінятачкі-чарцянятачкі —
І з пустыннікамі.
Блінчыкі валочуць,
Есці яны хочуць.

## 563

Лятаў, лятаў сакалок,
Ураніў ён сапажок:
— Ах ты Ваня, ты Ванюшка,
Ты Ванюшка дурачок.

[Ты Ванюшка дурачок,]
Паднімі мой сапажок.
— А мне падняць некалі,
Нада мост масціць.

[Нада мост масціць,]
Серабром гваздзіць.
Пакацілась серабро
За Мартынава гумно:

Мартын з мяшком,
Мартыніха з гаршком,
Мартынята-дзецянята
З чарапочкамі.

## 564

Я й песню спеў,
Я й на лычка ўздзеў,
На базар панёс,
Тры капейкі ўзяў.

Я й мылца купіў,
Я й рылца памыў,
Ручніком уцёрся
Да й да дзевачак папёрся.

Мяне дзевачкі любілі,
Каромыслам адлупілі,
Пад печ падагналі,
Учкур перарвалі.

Парткі мае дубовыя,
Калошачкі вярбовыя,
Учкур з лебяды.
Набраўся бяды.

### 565

Ой, казала маці
Кісель памяшаці,
А я не мяшала,
Да ў ключыкі гуляла.

Ключы пагубіла,
Мяне маці біла.
Шукала наўкола —
Ножкі пакалола.

Ажно там спаткала,
Дзе з падружкамі скакала.
Ключыкі, замчыкі,
Мае мілыя танчыкі.

### 566

— Гой-гой, дзецючок!
Куды ты паплыў?
— Па сена, па дровы,
Па красную птушку.
— А йдзе ты іх дзенеш?
— Птушку ў клетку,
Сена пад паветку,
Дровы ў печку
Да й сам на печку.

### 567

Доміна, доміна!
Выскачыла баба з коміна,
Ударылась аб печ —

Выскачыў млады хлапец.
Пайшоў да лесу,
Высек сасну і саснічку,
Паставіў касцёл і каплічку.
Прыляцелі ўроны,
Паставілі звоны.
Прыляцелі каўкі,
Паставілі лаўкі.
Прыляцеў крук,
Зрабіў ў касцёле гук,
Назбіраў [смецця] пук:
— Вы прыдзеце ўсе ў нядзелю,
Усім па кавалку надзялю.

## 568

Слава богу і хрысту,
Што я хлопчыкам расту:
Я ігрэц у ражок,
Я для быдла пастушок,
Я на лузе касец,
Я для качара стралец
І для дзевак маладзец.

## 569

Хораша места з-пад Вільні,
Ехаў дзяцінка на свінні,
Да яго дзевачка на казе,
Сустрэліся на лазе:
— Пастой, дзевачка, нешта скажу:
Памяняймо свінню на казу.

## 570

Да на гары дубочак,
Да на гары зялёны,
Ды на том дубочку
Да па чатыры лісточкі.

Да на небе месячык,
Да на небе ясненькі,
Да на том месячыку
Да чатыры нядзелькі,
Да ў тых нядзельках
Да па шэсць дзянёчкаў.

## 571




Ой, ляцеў жук,
На ваду пук.
Прыляцела маці
Жука ратаваці.

## 572

— Перапёлачка летавая,
Дзе ты зіму зімавала?
— У крыніцы зімавала,
А летавала ў пшаніцы,
Зімавала — воду піла,
А летавала — пшаніцу ела.

## 573

Ходзіць шавец каля плоту,
Пытаецца на работу:
— Мая міла гаспадыня,
Ці не здохла дзе кабыла?
— Вось там, на даліне,

Здохлі ў пана дзве кабылы:
Адна — чорна, друга — лыса,
Адна — ўчора, а другая — сёння.

### 574

Гаю-гаю-гаю,
Я беса паймаю,
Хвост прэч адарву,
А рогі зламаю.

Як была малада —
Тады была рэзва:
Цераз плот і ў гарод
Сама пералезла.

### 575

Сівы конь, сівы конь,
Маляваны санкі.
— Куды едзеш, куды йдзеш?
— Да сваёй каханкі!

А ў маёй каханкі
Смаляныя лаўкі:
Як сеў — прыкіпеў
І спатанькі захацеў.

### 576

Транды-транды-трандышачкі,
На балоце кукушачкі.
А там Дуня штаны мыла
Да нітачкі пагубіла,
Да на Йваньку саграшыла.
— Брэшаш, Дунька, я не браў!

Я ускочыў на лавушку,
Ухапіў я булавушку:
Туды мах, туды шах —
Трэснуў Дуньку па зубах!
Дунька плача, а Іванька скача.

## 577

Ёр — яры, пакаціўся дзед з гары,
Ёр — яць, некаму дзеда падняць,
Ёр — яруся, я сам паднімуся.

## 578

Акулінка мая,
Чарнаброўка мая,
Я за твае русы косы
Нахадзіўся голы, босы.

## 579

Забылася гаспадынька,
Як сабачку завуць.
— Цюцік, цюцік, хадзі ў хатку,
Табе хлеба дадуць.

## 580

А пасеяў гарашок
На шырокай ніўцы:
Не ўрадзіў гарашок —
Адны лапатачкі,
А стаптала чаравічкі —
Адны запятачкі.

581

Пабоўся баран з казлом,
Памуцілася вада з пяском,
Разбранілася старуха з старыком,
Пацярала рог з табаком.

582

На дварэ не рана,
Забіў Ванечка барана,
Рожкі, ножкі — у гаршкі,
Кішкі, трыбушкі — ў піражкі.

583

Ах ты, мая птушачка,
Ах ты, мая шчабятушачка,
Харашо ты пела,
Куды ж ты ад нас адляцела?

584

Уж вы, куры, уж вы, дуры,
Прыхадзіце на хаўтуры.
Верабейка памёр,
Тры нядзелькі па ём.

585

Сам еду, сам,
А дзеці там.
Ай, дзеці, дзеці,
Дзе вас падзеці?
Ці гром пазабіў,

Ці дождж пазаліў.
Я сваіх дзетушак
Шаўковым невадам
Пазвалачыў.

586

— Цецяроў, цецяроў!
Хадзі парыцца.
— Не пайду, не пайду,
Дзеўкі сварацца.

587

Пякла баба калачы
У халодненькай пячы,
І як раз ляцеў камар
І калачыкі пакраў.

Цераз вулачку ўцякаў —
Камізэлечку парваў,
І гузікі згубіў,
І Марусю палюбіў.

588

Чачу-чачу,
За паповіча хачу,
За Раманавіча;
А ў Раманавіча
Тры вузды залотых,
Тры кані вароных.
Як сяду ж я,
Як паеду ж я
На папоў двор;
Там і б'юцца, і дзяруцца,
І камар пішчыць
І ваду ташчыць,

А курыца на паліцы
Талакно таўчэць,
А пятух на парозе
На мароз пяець,
Парасёнак на загнеце
Бліны пякець,
Кошка на вакошкі
Карункі вядзець.

## 589

Пазвольце-ка, братцы, небыльніцу спеці,
Небыльніцу, бліцу, небывальніцу.
Чаго не было, таго не будзець.
На павеці куры сена косяць,
І грабуць, і ў стагі кладуць.
А ўсё гэта, братцы, небыльніца,
бліца й небывальніца;
Чаго не было, таго й не будзець.

Пазвольце-ка, братцы, небыльніцу спеці,
Небыльніцу, бліцу, небывальніцу.
Чаго не было, таго не будзець.
На печцы аўца гняздзечка звіла, яечкі знясла,
Тупаносыя, крываносыя.
А ўсё гэта, братцы, небыльніца,
бліца й небывальніца;
Чаго не было, таго й не будзець.

Пазвольце-ка, братцы, небыльніцу спеці,
Небыльніцу, бліцу, небывальніцу.
Чаго не было, таго не будзець.
На дубе свіння парасілася: пяцьдзесят парасят
Да ўсё свіначкі, да ўсё Хімачкі,
Адзін вапручок і той Паўлючок.
А ўсё гэта, братцы, небыльніца,
бліца й небывальніца;
Чаго не было, таго й не будзець.

Пазвольце-ка, братцы, небыльніцу спецi,
Небыльніцу, бліцу, небывальніцу.
Чаго не было, таго не будзець.
Як ідзець мядзведзь па паднябессю,
Ён ідзець, ідзець, ён нясець, нясець
Ён каровіцу, ён бурэніцу.
Бальшая й галава чорта-д'ябала.
А ўсё гэта, братцы, небыльніца,
бліца, небывальніца.
Чаго не было, таго й не будзець.

Пазвольце-ка, братцы, небыльніцу спецi,
Небыльніцу, бліцу, небывальніцу.
Чаго не было, таго не будзець.
Паехаў Хрэм у таргі на хмель,
Не купіў хмелю, купіў ячмяню з цэлую жмяню,
З таго ячмяню наварыў соладу, напёк пірагоў.
А ўсё гэта, братцы, небыльніца,
бліца, небывальніца;
Чаго не было, таго й не будзець.

Пазвольце-ка, братцы, небыльніцу спецi,
Небыльніцу, бліцу, небывальніцу.
Чаго не было, таго й не будзець.
Зазваў цешчухну к сабе ў госці.
Пасадзіў цешчу к сцяне глазамі, ў ізбу плячамі.
— Шчытай, цешчухна, ці ўсе клапы, ці ўсе прусы.

А ўсё гэта, братцы, небыльніца,
бліца, небывальніца;
Чаго не было, таго й не будзець.

**590**

Два бараны іграюць у арганы,
Дзве лісіцы іграюць у скрыпіцы,
А чорная свіння са смеху лягла,
Што ў яе на двары такая капэльня была.

## 591

Раба курачка бычка прывяла,
Парасёначак яечак нанёс,
А бязрукі яечкі пабраў
Да іх голаму за пазуху паклаў.

Сляпы прыгледзеўся,
Глухі прыслухаўся,
Нямы «каравул» закрычаў,
Бязногі бегам пабяжаў.

## 592




Ох ты, дзядзька Майсею,
Да ці бачыў чудасею,*
Што на полі чалавек
Камарамі да й араў.

Камарамі араў,
Дубінаю паганяў.
І дубіну паламаў,
І камары пагубіў.

Ох ты, дзядзька Майсею,
Да ці бачыў чудасею.
Да на печы чалавек
Ячмень ступаю пажаў.

* Другі і чацвёрты радок кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

Да на печы чалавек
Ячмень ступаю пажаў,
Ячмень ступаю пажаў,
Верацёнмі павязаў.

Ох ты, дзядзька Майсею,
Да ці бачыў чудасею.
Была ў дзядзькі свіння,
Да на ліпе гняздо звіла.

Была ў дзядзькі свіння,
Да на ліпе гняздо звіла,
Да на ліпе гняздо звіла,
Парасятак навяла.

Ох ты, дзядзька Майсею,
Да ці бачыў чудасею.
Была ў дзядзькі кабыла,
Яна люльку курыла.

Была ў дзядзькі кабыла,
Яна люльку курыла.
Яна люльку курыла,
На вячоркі хадзіла.

Ох ты, дзядзька Майсею,
Да ці бачыў чудасею.
Была ў дзядзькі карова,
Ўсё была нездарова.

Была ў дзядзькі карова,
Ўсё была нездарова,
Ён каровы не змяніў,
Ўсё падымак гаманіў.

## 593




Ай, куры, куры, куранятачкі,
Вашы хвосцікі, як лапатачкі:
І грабуць, мятуць, у засек нясуць,
З засека нясуць, кураняткам даюць,
Кураняткі ядзяць і болей глядзяць.

## 594







Шчодры вечар, добры вечар,
Каму шчодрыка спяваці?
— Ганначцы!
У пана дзядзька хараша дачка,
Святы вечар!*
Хараша дачка, добра Ганначка,

* Далей паўтараецца пасля кожнага радка.

І харошая, і нарадная.
Нарадзілася у тры нарады:
Перша нарада — юкла сукенка,
Друга нарада — кован паясок,
Трэця нарада—барвін вяночак.
Юкла сукенка свет замятае,
Кован паясок костачкі ломіць,
Барвін вяночак галоўку клоніць.

## 595

Ой, рана, рана куры запелі,

Святы вечар.*

Ой, шчэй найраней ўстае Іванька-пан.
Устаў раненька, умыўся бяленька,
Званком пазваніў, братоў пабудзіў:
— Уставайце, браткі, каней сядлайце,
Дай паедземо на паляванне,
На паляванне, на пагулянне.
Дай выпалюем горы-даліну,
Горы-даліну, ў полі звярыну.

## 596




Ідзі, зіма, да Кракава,
Зноў ты прыйдзеш аднакава.
Ідзі, зіма, да Кіева,
Ты нам лета пакінула.
Ідзі, зіма, да крыніцы
Ды забірай рукавіцы.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

## 597

Куры, куры, куранятачкі,
Не крычыце каля хатачкі.
Наша хатачка старэнькая,
А я ў мамкі маладзенькая.

## 598

Я маленькі хлопчык
Узлез на ставічык,
У дудачку йграю,
Хрыста забаўляю.
А вы, дзядзенька, знайце,
Да капеечку мне дайце!

## 599

Я дзевачка маленька,
Ў мяне плаціна рабенька,
Башмачкі карковенькія,
Будзьце з празнічкам здаровенькія.

## 600

Калядачкі далёка,
Кілбасачкі высока.
Калядачкі прыблізіліся —
Кілбасачкі паніжыліся.

## 601

[Moderato]

Свя_ці, свя_ці, со - ней_ка, каб нам бы_ло цёп_лень_ка.

Ай, лю_лі - лю - лі, лю - лень_кі - лю - лі.

Свяці, свяці, сонейка,
Каб нам было цёпленька.
Ай, люлі-люлі,
Люленькі-люлі.

Пад хаткаю седзячы,
Лусту хлеба дзержачы.
Ай, люлі-люлі,
Люленькі-люлі.

Яечкі качаючы,
Песенькі спяваючы.
Ай, люлі-люлі,
Люленькі-люлі.

## 602

Соўнушка-ядрушка,
Выблесні, выглянi!
Тваe дзеткі
На паветке

Сыр калупаюць,
Людзям раздаваюць:
Людзям па ложцы,
А нам ні па крошцы.

## 603

Сонца, сонца,
Выблесні ў аконца!
Я тваю матку відзела:
На камушку сядзела,
Іголачкі істрыла,
Мяшэчкі мыла,
Намётачкі бяліла.

## 604

Сонейка, сонца,
Выглянi ў аконца,
Пасвяці нам трошку,
Дам табе гарошку.

## 605

Moderato

Дож-дж, дож-дж, се- ка- кі ды па Мот-ка- вым ка- кі.

Дождж, дождж, секані
Ды па Моткавым кані.
Дождж, дождж, перастань,
Я паеду на Растань:
Буду богу маліцца,
Буду цару кланіцца,
Буду бога ухваляць,
Буду цара укланяць.

## 606




Дождждык, дождждык, секані,
Я паеду на кані.
Дождждык, дождждык, перастань,
Я паеду на Растань.

## 607

Дождждык, дождждык, прыпусці!
Я паеду у кусты
Богу маліцца,
Хрысту пакланіцца.

## 608

Дождждык, дождждык, сыпані!
Я паеду на кані
Богу маліцца,
Цару кланіцца.
Дождждык, дождждык, перастань!
Я паеду, арыштант,
З ключыкам-замочкам,
З залатым цапочкам.

## 609

Дождждык, дождждык, секані,
Каб не ўседзеў на кані.
Дождждык, дождждык, перастань,
Я паеду на Ярдань
Богу маліцца,
Хрысту пакланіцца.

610

Зубі, зубі, дождж,
На бабіну рож,
На дзедаву плеш,
Дзецям на кулеш.

611

Рубі, рубі, дождж,
На бабіну рож,
На дзедава сена,
Каб яно дзёўбам села.

612

Дождзік, дождзік, рубані
На чатыры грабяні!

613

Даждзёк, даждзёк, прыпусці,
Мы схаваемся ў кусты.

614

Дожджык, дожджык, крапані,
Бабу з поля прагані.

615

Не йдзі, не йдзі, дожджыку,
Звару табе боршчыку.

Прыпеў:

Ай, люлі-люлі,
Люленькі-люлі.*

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Пастаўлю пад лаўкаю,
Накрыю лапаткаю.

Пастаўлю пад сенцамі,
Накрыю паленцамі.

Пастаўлю пад елкаю,
Накрыю талеркаю.

Талерачка здымецца,
А дождж унімецца.

## 616

Ідзі, ідзі, дожджыку,
Звару табе боршчыку.
Пастаўлю пад елкаю,
Накрыю талеркаю,
Сама пакаштую,
Цябе пачастую.

## 617

Дожджык, дожджык, перастань,
Я паеду на Растань,
Куплю табе сарафан.
Паеду на Кіеў
Богу маліцца,
Хрысту пакланіцца.
Як у бога сірата
Адкрывала варата
Ключыкам-замочкам,
Шоўкавым платочкам.

## 618

Дожджык, дожджык, перастань!
Мы паедзем на Ярдань,
Богу памолімся,

Хрысту паклонімся.
Станем пад елкаю,
Накрыемся талеркаю,
Станем пад грушкаю,
Накрыемся падушкаю,
Станем пад хатаю,
Накрыемся лапатаю.

## 619

Дожджык, дожджык,
    Перастань!
Я паеду на Ердань
    Богу маліцца,
    Хрысту пакланіцца.
Я у бога сірата,
Падпірайце варата
    Кручком, дручком,
    Папярэшнічкам.

## 620

Даждзёк, даждзёк, перастань!
Куплю табе халастан,
Астануцца дзеньгі —
Куплю табе сергі.

## 621

Мядзведзь, мядзведзь,
Разгонь тучу,
Дам табе
Аўса кучу.

## 622

Гары, гары гарка,
Прыедзе кухарка.
Кухарка — на карове,
Кухар — на кабыле,
Дзеці — на цялятках,
Слугі — на шчанятах.

## 623

Гары, гары ярка,
Прыедзець Захарка
У краснай шапке.
Сам — на лашадке,
Жана — на кароўке,
Дзеці — на сабачках,
Казёл — у кахтане,
Каза — ў сарахване,
Вуткі — у будке.
Тараканы!
Біце ў барабаны!

## 624

Гары, гары гарка,
Прыйдзе кухарка
І прывязе кока
Дай залепіць вока.

## 625




Божая кароўка,
Што заўтра будзе —
Дождж ці пагода,

Пень ці калода?
Пагода — ляці,
Дождж — сядзі.

626

Кацілася калода
Каля паповага гарода,
Пыталася ў бога,
Ці будзець заўтра дождж ці пагода?
Пагода, пагода, гу-у-у!

627

Гнілая калода,
Ці будзець заўтра пагода?
Калі будзець — адгукніся,
А не будзець — заікніся!

628

Калода, калода,
Ці будзе пагода?
Як цяпер, то пушчу,
А заўтра, то заб'ю.

629

Калода, калода,
Калі будзе пагода?
Як цяпер, то ляці,
Як ў чацвер, то сядзі.

630

Андрэйка-калода,
Што заўтра будзе,
Дождж ці пагода?
Бз-з-з.

## 631

Андрэйка-калода,
Куды паляціш:
Уніз ці ўгору,
На дождж ці на пагоду?

## 632

Андрэйка-бажок,
Ляці ў той бачок,
Папытайся ў бога,
Што заўтра будзе —
Дождж ці пагода?

## 633

Андрэйка-братка,
Дзе твая хатка?

## 634

Ядзерка, ядзерка,
Калі будзе сонейка?
Калі будзе, то пушчу,
А не будзе, то заб'ю.

## 635

Ядзерка, ядзерка,
Паляці да бога,
Папытайся ў бога,
Што заўтра будзе —
Дождж ці пагода?

## 636

Пагодка-ягодка,
Калі хочаш, дык ляці,
А не хочаш, дык сядзі.

## 637

Цецер, цецер,
Ці далёка вечар?
Як далёка, то ляці высока,
Калі блізка, то ляці нізка.

## 638

Фэдрык, фэдрык,
Дзе твае дзеткі?
Куды паляціш:
Ці ў высокія горы.
Ці ў глыбокія норы?

## 639




Божая кароўка,
Паляці на небка.
Там твае дзеткі
Кушаюць катлеткі,
Півам запіваюць,
Хлебам заядаюць.

## 640




Божая кароўка,
Паляці на небка.
Прынясі нам хлебка
Чорнага і белага,
Толькі негарэлага.

## 641

Ядзерка, ядзерка,
Божае дзіцятка!
Паляці на неба,
Прынясі нам хлеба.

## 642

Кароўка-мугоўка,
Дай малачка.

## 643

Божая кароўка,
Паляці на небка,
Там твае дзеткі
Кушаюць катлеткі,
Ядуць і табе дадуць.

## 644

Божая кароўка,
Ты ляці на небка,
Там твае дзеткі

Кушаюць катлеткі.
Усім раздаюць,
А табе не даюць.

## 645

Ядзерка, ядзерка,
Паляці на неба,
Прынясі нам хлеба.

## 646

♩=120

Бо – жа – я ка – роў – ка, дзе ма – я свяк – роў – ка? Ці у ле – вым ба – ку...

Божая кароўка,
Дзе мая свякроўка?
Ці у левым баку,
Ці у правым баку,
Ці у жоўтым пяску?

## 647

Moderato

Пят–ру, Пят– ру, Пят – ру – шач– ка, а дзе ма– я ду– шач–ка? Ці ў левым ба–ку, ці ў правым ба–ку, ці ў жоўтым пяс–ку?

Пятру, Пятру, Пятрушачка,
А дзе мая душачка?
Ці ў левым баку,

Ці ў правым баку,
Ці ў жоўтым пяску?

## 648

Слімак, слімак,
Выпусць рожкі,
Дам мукі
На піражкі.

## 649

Мурашкі, мурашкі,
Хавайце падушкі:
Татары наедуць,
Падушкі заберуць.

## 650




Цішы, мышы,
Кот на крышы,
А кацяты яшчэ вышы.

## 651

Ангелы купаліся,
А нам астатачкі аставаліся.
Вадзіца ў мора,
А Ніколя расці ўгору.

## 652

Кума-галуба, прасці мяне!

## 653

Кумкі-галубкі, прасціце мяне!
— Чорт просціць!
— Бог просціць!

## 654

Макаўка, макаўка,
Загладзь галоўку гладзенька,
Як яечачка!

## 655

Калека, калека,
Нагрэй чалавека!
Калі не нагрэеш,
Сама акалееш.

## 656

Чорт — у воду
З-пад калоды,
Я — з вады.
Хто ля бацькі,
Таго бог спалюбіў,
Хто ля Грышкі,
Таго чорт задавіў.

## 657

Каза, каза, дай малака!
Казёл, казёл, дай дзёгця!

658

Сямёнава кроў, выйдзі вон!

659

Грыб на грыбу,
А мой навярху.

660

Грыбок, выстаў лабок:
Я цябе пацалую.

661

Жылі-былі мужыкі,
Бралі грыбы рыжыкі.

662

А сыравежкі — ўсё грыбы.
А грыб-грыбавік,
Што пад дубам баравік,
Над грыбамі палкавік:
Заказаў усім грыбам
На вайну іціць.

663

Дзед пайшоў у грыбы,
А баба ў апенкі,
Дзед свае прасушыў,
А бабіны макрэнькі.
— А дзед-дзядулінька,

А йдзе твая бабулінька?
— Нету, нету, да няма ж,
Паехала на кірмаш.
А ці чорт яе панёс,
Не падмазаўшы калёс.

## 664

[Allegro]

Ска- ча, ска-ча куль- га-вы ад пры-печ -ка да ла -вы.

А ад ла-вы да па-ро- га ча-ра-віч- кі па- па- ро- ла.

Скача, скача кульгавы
Ад прыпечка да лавы.
А ад лавы да парога
Чаравічкі папарола.
Чаравічкі — рыпу-рыпу,
Тата кажа — куплю, куплю
Мама кажа — трасцу,
Бо лянуецца прасці!

## 665

Ох ты, Поля-Спалагея,
Выйшла замуж за Агея.
Думала — за барына,
Выйшла за татарына.
А татарын быў дурман,
Пасадзіў Полю ў карман,
Поля плакала, рыдала
І з кармана выглядала.

## 666

А сініца, сініца,
Вераб'ёва сястрыца,
А брат Аляксейка,
А калі нам жаніцца?
І скуй булаву
З казіную галаву,
Удар бабу па лбу.
Ліпавая скрыпка,
Бярозава струнка,
Чаму ж ты не іграла,
Як баба ўмірала?
А бабіны дзеці
Хочуць паляцеці
На дзедаў двор.
Што дзед робіць?
На тры лісты піша
Да й на бабу дыша.

## 667

Скок-паскок,
Малады драздок
Па вадзічку пайшоў,
Маладзічку найшоў.
Маладзічанька невялічанька:
Сама з вяршок,
Галава з гаршок.

## 668

Коцік-абармоцік,
Доўгія вусікі,
Тоўсценькія лапкі,
Ходзіць без шапкі.

## 669

[Moderato]

Да ві – ла – ся пчо – лач – ка,
У вяр – шэч – ку со – сан – кі,
пчо – лач – ка, пчо – лач – ка
со – сан – кі, со – сан – кі.

Да вілася пчолачка,
Пчолачка, пчолачка
У вяршэчку сосанкі,
Сосанкі, сосанкі.

## 670

Ехала ікаўка
На сівой кабыле.
Кабыла пала,
Ікаўка прапала.

## 671

— Хлоп, хлоп, уцякай,
Цябе коні стопчуць!
— А я коней не баюся,
Па дарозе пакачуся.

## 672

Тусту, тусту —
Забыўся я лусту.
Ташы, ташы —
Прынеслі мне кашы.
Тышкі, тышкі —

Забыліся лыжкі.
Тальцам, тальцам —
Ем я кашу пальцам.

### 673

Тусту, тусту —
Лезець воўк з-за кусту.
Талку, талку —
Як схапіў я палку!
Тэчы, тэчы —
Як даў я воўку праз плечы!

# ДРАЖНІЛКІ

## 674

♩=192

Ан - тось ба_ра _да _ты вёў ка _зу ка _ля ха - ты.

Ан_ та_ сі_ ха пад_га _ня _ла, на кан_фе _ты за_ раб_ля - ла.

Антось барадаты
Вёў казу каля хаты.
Антасіха падганяла,
На канфеты зарабляла.

## 675

Антон-Харытон
Забіў бабу хамутом.
Сазваў гасцей,
Наварыў касцей.
— Ешце, ешце, госці,
Маёй бабы косці.

## 676

Allegro moderato

Ан - дрэй - ве _ра_ бей на ка_душ - цы ся_дзеў.

Андрэй-верабей
На кадушцы сядзеў.

Усіх жаб пераеў,
Адну не даеў
І жывот забалеў.

## 677




Юрка-курка,
Падсмажаная скурка.

## 678

Антон бацька,
Антон я,
Улавілі салаўя.
Бацька — ў пуню,
Сын — у ток,
Бацьку абсеклі,
Сын уцёк.

## 679

Антон казу вядзе,
Антоніха падганяе,
Каза бубкі раняе,
Антоніха падбірае.
Не папала па казе —
Да па 'Нтонавай назе:
Антон плача,
Антоніха скача.

## 680

Ах ты, Кузьма,
Не вядзі казла,
Вядзі казаньку,
Беланожаньку.
Не вядзі ў асаку,
Бо я ногі пасяку,
А вядзі ў лапушок
Ды купі мне фартушок.

## 681

— Мі-кі-та! Ці ты та?
— Не я то, мой та-та.
Мікіціха дзяжу месіць,
А Мікіта [спіну] чэшыць.
Мікіта дровы сячэць,
А Мікіціха бліны пячэць.
Сячэць дровы яловыя,
Пячэць бліны паловыя.
Касы заяц нанёс яец,
Вывеў дзяцей — касых чарцей.

## 682

Наталля — пралля,
Кузьма — верацённік.
Пайшоў у бярэзнік,
Сабакі дагналі,
Нагу адарвалі.

## 683

Васька-кабаська,
Куцы парасёнак:
Ножкі гнуцца,
Кішкі валакуцца.
Семдзесят парасят,
Толькі ножкі вісяць.

684

Гуд гудзе,
Свадзьба йдзе.
Гніда за Дзяміда
Замуж ідзе.

685

Дзілінь-дзілінь-баў!
Саўка прапаў!
Палажылі Саўку
На белую лаўку.
Лаўка трасецца.
Саўка смяецца.
Курачка сакоча —
Савачка рагоча.
Дзілінь-дзілінь-баў!
Саўка прапаў!

686

Іван-балван
На сасне дран,
На ліпінке луплен,
За тры грошы куплен.

687

Іван-балван
На капусце сядзеў,
Усе чэрві паеў.

688

Змітрок-малышок
Як паехаў да ракі,
Дык заелі чарвякі.

689

Пятрук без рук
Лез на дрова,
Разадраў чэрова.

690

Юзік — пузік,
Барабан,
Тры качулкі,
Адзін збан.

691

Віця, Віця, Віцяля,
З'еў карову і цяля
І дванаццаць парасят,
Толькі хвосцікі вісяць.

692

Райка-балалайка
Дома не хазяйка,
Дома не начуе,
З крысамі танцуе.

693

Сяргей-верабей
На кані катаўся,
Рукі, ногі паламаў,
Без штаноў застаўся.

694

Барыс-барбарыс
На вяроўцы павіс,
Дзеўкі думалі — маліна,
Адкусілі палавіну.

695

Ларыска-калыска,
Тоўстая, як міска.

696

Галушка-пушка,
Тоўстая, як грушка,
Урокі не вучыла,
Двойкі палучыла.

697

Ленка, Ленка,
Тоўстае паленка,
Тоўстая бочка,
Радзіла сыночка.

698

Светка-катлетка,
Длінная шкарпэтка.

699

Франак — абаранак.

700

Людзік — пудзік.

701

Юзік скруціўся ў гузік.

**702**

Параска — ў языку траска.

**703**

Гром грыміць, зямля трасецца,
Люда з торбачкай нясецца.

**704**




Жадзіна-гавядзіна,
Салёны агурэц,
На палу качаецца,
Ніхто яго не з'есць.

**705**

Сівы, па чом слівы?
Як па рублю — дык куплю,
Як па пяць — дык хай яны згараць.

**706**

Перац горкі, дай махоркі.
Перац гладкі, дайаладкі.

**707**

Гладкі пёк аладкі.

### 708

Плакса-вакса, гуталін,
На насу гарачы блін.
Гэта не гадзіцца,
Можна прастудзіцца.

### 709

— Сляпец!
На блінец!
— Не хачу.
— На два!
— Не хачу.
— На тры!
— У кайстру пры.

### 710

Хахол — бака,
Раскарака!
Наварыў юшкі
Без пятрушкі,
Назваў гасцей —
Сляпых чарцей.

### 711

Дровы бярозавыя,
Дровы дубовыя,
Дровы асінавыя,
Дровы альховыя,
Дровы сасновыя,
Дровы лазовыя,
Дровы-дровы-дровы!

712

Доктар Пенкін
Лечыць блох
З дзесяці
Да чатырох.
Доктар Пенкін
Лечыць дарам,
Мажа плечкі
Скіпідарам.

713

П'яніца-няўдаліца!
Прапіў штаны і сарочку,
А сам сядзіць у куточку
Ды й хваліцца.

714

Стрыжка-ярыжка
У пограбе сядзела,
Акраюшку хлеба ела.

715

Стрыжка-камарыжка!
У пограбе сядзеў,
Усіх мышэй паеў.
Адна мыш асталась,
Ў кораб захавалась.
Ён яе ташчыць,
А яна пішчыць.

### 716

Пастух, пастух,
Твой яловы трыбух.
Ты і ў доме жарэш,
І з сабою бярэш,
А прыйдзеш на поле —
Плачаш.

### 717

Пастух-чарада,
Вашывая барада,
Пакаціўся у мох,
Набраўся блох.

### 718

Пастух трубіў,
Штаны згубіў.
Пастушка ішла,
Штаны знайшла.

### 719

Староста, староста,
Цябе знойдзе кароста.

25. Зак. 18

## 720

Злодзей, злодзей — канавод,
Вядзі коней на гарод.

## 721

Moderato

Дождж і - дзець - гры - бы бу - дуць,
а на хлоп - цах гар - бы бу - дуць.

Дождж ідзець—грыбы будуць,
А на хлопцах гарбы будуць.

А на дзевак — роста,
На хлопцаў — кароста,

А на дзевак — красата,
А на хлопцаў — здыхата.

Дождж ідзець—грыбы будуць,
А на дзеўках гарбы будуць,

А на хлопцаў — роста,
На дзевак — кароста.

А на хлопцаў — красата,
А на дзевак — здыхата.

## 722

З паповай лазні—дым казлом,
За рабятамі—чорт з ражном,
А за дзеўкамі—поп з крастом.

## 723

Дабы, дабы,
Дзеўкам — жабы,
Тыры, тыры,
Хлопцам — сыры.

## 724

— Жук, жук, дзе твой дом?
— Пад гумном.
Ехалі татары,
Жука растапталі.

## 725

— Жук, жук, дзе твой дом?
— Пад лістом.
Ехаў пан — растаптаў,
І сабачка забрахаў.

## 726




У чырвоных ботах
Ходзіць па балотах
Бусел даўганосы,
Жабы сабе носіць.

## 727

Бусел, бусел — клекатун,
Схапіў жабу за каўтун,
Па балоту валачыў,
Нагавіцы замачыў.

## 728

Бацян даўганосы
Прапіў боты і галёшы,
А сам босы
Топчаш росы.

## 729

Бацян, бацян, доўгі нос,
Куды цябе чорт панёс?

## 730

Вы паночкі мае,
Сенатарочкі мае!
Наўчыце мяне
Кошыкі плесці,
А я вас наўчу
Торбамі трэсці.

## 731

Слава табе, цяцеру!
Два ўбіў, два ўляцела,
Два ў мяшке, два ў гаршке,
А два ў кішке.

## 732

Отча наш, бацька наш,
Курэй краў, пад печ хаваў.
Дзеткі ўзналі, бацьку звязалі.
Бацьку — ў мех, дзеткі — ў смех.
Мех прадраўся, бацька злякаўся.

733

Свяціся, свяціся, новы Русаліме!
На табе, Васіля, гаршчок кісяля.
Ложка крашаная, каша масляная,
Ложка гнецца, каша мнецца,
Душа радуецца.

734

Войметца, войметца,
А не войметца,
І так астанецца.

735

Ва імя 'тца і сына!
Капуста сыра,
Буракі не ўпрэлі,
Сабакі паелі.

736

Госпадзі, памілуй!
Дзед бабу пакінуў,
Сухары пабраў,
А бабе не даў.

737

У імя атца і сына і святога духа!
Ёсць у печы саладуха.
Трэба ў печ улезці,
Саладуху з'есці.

738

У імя атца і сына!
Ішла баба з Кнышына,
Ехаў дзед з Альшанкі,
Узяў бабу на санкі.

# ЛІЧЫЛКІ

## 739

Раз, два, тры, ча_ ты_ры, кош_ку гра_ма_ це ву_ чы _лі:
не чы_тацъ, не пі_сацъ, а за мыш_ ка_мі ска_кацъ.

Раз, два, тры, чатыры,
Кошку грамаце вучылі:
Не чытаць, не пісаць,
А за мышкамі скакаць.

## 740

Раз, два, тры, чатыры,
Кошку грамаце вучылі:
Не пісаць, не чытаць,
А па комнатке скакаць.
Скок-скок, скаканула,
Сабе ножку ламанула.
Не журысь, мая мілая,
Зажыве нага бальная.
А ў сяродкуваспалення,
Дайце ложачку варэння,
Тады вадой запіць —
Буду лепей гаварыць.

### 741

Раз, два, тры, чатыры,
Мяне грамаце вучылі:
Не чытаць, не пісаць,
Толькі ў паплясы іграць.
Я плясала, я плясала,
Сабе ножку я зламала.

### 742

Раз, два, тры, чатыры,
Мы стаялі на кварціры:
Чай пілі, кружкі білі,
Па капейцы заплацілі.
Адам, Сцяпан, падай стакан!
Падай лімон — убірайся вон!

### 743

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Выйшаў зайчык пагуляць.
Трох ахотнічкаў напала,
Майго зайчыка злапала.
Піф-паф, о-ё-ёй,
Паміраe зайчык мой.
Прыняслі яго дамой,
Паглядзелі — ён жывой.

### 744

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Выйшаў зайчык пагуляць.
Два ахотнікі напалі
І зайчышку расстралялі.
Павязлі яго ў бальніцу,
Ён украў там рукавіцу.
Павязлі яго ў буфет,
Ён украў сто грам канфет.

### 745

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Выйшаў зайчык пагуляць.
А за зайцам — серы воўк,
Воўк у зайцах знае толк.

### 746

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Выйшаў зайчык пагуляць.
А за зайчыкам луна,
Просіць выйсці калдуна.

### 747

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Выхаджу шукаць.
Каго першага знайдзем,
Той за палачкай пайдзе.

### 748

Раз, два, тры —вот мае шагі.
Раз, два, тры, чатыры, пяць —
Я іду шукаць.
Хто перада мной стаіць,
Той у агне гарыць.

### 749

Раз, два, тры, чатыры,
Пяць, шэсць, сем, восем,
Мы цябе, стукач, папросім.

## 750

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Выйшаў месяц пагуляць,
А за месяцам луна.
Аставайся ты адна.

## 751

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць,
Выплыў белы месяц,
А за месяцам луна,
Хлопец дзеўчыны слуга.
— Ты, слуга, падай карэту,
А я сяду і паеду.

## 752

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць,
Выйшаў белы месяц,
А за месяцам луна,
Мальчык дзевіцы слуга.
— Ты, слуга, падай карэту,
А я сяду і паеду:
Я паеду ў Пітаград,
Пасматру там вінаград.

## 753

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць,
Выплывае светлы месяц,
А за месяцам луна,
Мальчык дзевачкі слуга.

— Ты, слуга, падай карыта,
А я сяду ды паеду.
Ты, слуга, падай цiфон,
А я свiсну, а ты — вон!

### 754

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць,
Выплыў ясны месяц,
А за месяцам луна,
Мальчык дзевачке слуга.
— Ты, слуга, падай карэту,
А я сяду i паеду.
Я паеду ў Ленiнград
Пакупаць сабе нарад:
Красны, белы, галубой —
Выбiрай сабе любой.

### 755

Цыкаў, цыкаў
Матацыкл,
Ўсе дарогi перацыкаў.
Ён паехаў ў Ленiнград
Выбiраць сабе нарад:
Красны, жоўты, галубой —
Выбiрай сабе любой.

### 756

Стаiць дом двухэтажны,
А за iм гудок адважны.
Ён i свiшча, i пяе,
Ўсiх на фабрыку заве.
Ў гэтай фабрыке атлiчна:
Ёсць памада i духi,
Ленты, кружава, бацiнкi,
Што угодна для душы.

## 757

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць,
Выплывае белы месяц,
А за месяцам луна,
Барын дзевіцы слуга.
— Ты, слуга, падай карэту,
А я сяду да й паеду.
Я паеду ў цёмны лес,
Там увіджу чорны крэст.
А пад тым крастом магіла,
Там душа мая уныла.

## 758

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць,
Выйшаў ясны месяц,
А за месяцам луна,
Выйшла дзевіца-слуга.
— Ты, слуга, падай карэту,
А я сяду і паеду.
Ты, слуга, падай мятлу,
А я сяду памяту.

## 759

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць,
Цар вялеў мяне павесіць.
А нядоўга я вісеў;
Вецер дунуў — я зляцеў.

## 760

Ляцеў лебедзь,
Шчытаў дзесяць,
Цар хацеў мяне павесіць,

А царыца не дала
І павесіла сама.
Я вісеў, вісеў, вісеў
І ў памойку уляцеў,
Ўсю памойку аблізаў
І спасіба не сказаў.

### 761

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць,
Цар вялеў мяне павесіць,
А царыца не дала
І павесіла цара.
Цар вісеў, вісеў, вісеў
І ў памыйку уляцеў.
А ў памыйках жыў Барыс,
Прадсядацель дохлых крыс.
А жана яго Ларыса —
Прадсядацельская крыса.

### 762

Раз, два — булдава,
Тры, чатыры — пачапілі,
Пяць, шэсць — недзе сесць,
Сем, восем — сена косім,
Дзевяць, дзесяць — сена весіць.

### 763

Раз, два — булава,
Тры, чатыры — прычапілі,
Пяць, шэсць — кашу есць,
Сем, восем — сена косім,
Дзевяць, дзесяць—сена весіць.

## 764

Раз, два — кружава,
Тры, чатыры — пачапілі,
Пяць, шэсць — кашу есць,
Сем, восем — сена косім,
Дзевяць, дзесяць — грошы весіць.
Грош згубілі, два знайшлі —
У карчму пайшлі:
Чай п'юць, кружкі б'юць,
На стол грошыкі кладуць.

## 765

Раз, два — рукава,
Тры, чатыры — нос ў чарніле,
Пяць, шэсць — кашу есць,
Сем, восем — сена косім,
Дзевяць, дзесяць — Мішу павесіць.

## 766

Раз, два, тры, чатыры,
Пяць, шэсць, сем, восем,
Выйшла баба з доўгім носам,
А за бабай сівы дзед,
Запытываець, колькі табе лет.

## 767

Сядзіць немец на паліцы,
Лічыць дзеці на вуліцы:
Айн, цвай, драй —
Міша, вылятай.

## 768

Сядзіць зайчык на прыпечку,
Лічыць дзеці па-нямецку:
— Сцяпан, Лявон,
Выйдзі з хаты вон.

## 769

Я сядзеў, чытаў газету,
Нехта выпусціў ракету.
Раз, два, тры —
Гэта, верна, будзеш ты.

## 770

Первенчыкі,
Другенчыкі,
Кругі,
Другі,
Вон!

## 771

Дружэньчыкі,
Бярвеньчыкі,
Я шышаў,
А ты выйшаў.

## 772

Пірывічкі,
Дружычкі,
Камарыкі,
Карачыкі.
Хто поп,
Хто журак,

26. Зак. 18

Радзівон,
Пайдзі вон!
Хто ў печы,
Хто за дровы.
Што ў печы?
Ў печы квас.
Лаві мышэй,
Да не нас!

773

Сем семярэй
І сямёра свіней.
Свінка і свінчын брат
І сямёра парасят.

774

Бег сабака цераз мост,
Чатыры лапы, пяты — хвост.

775

Ах ты, вутачка шарой,
Пастурай скарэй дамой,
Ў цябе семера дзяцей,
Восьмы селязень,
Дзевятая вутка,
Дзесятая клютка.
За морам пала,
У царкві стала.
Высеку дубінку,
Палажу на полку.
Хто ўзяў?— Я ўзяў!
Радзівон, выйдзі вон!

776

Ехаў мужык па дарозе,
Зламаў кола на парозе.
Колькі патрэбна гваздзей,
Кажы хутчэй!

777

Ехаў мужык па дарозе,
Зламалася калясо ў возе.
Колькі трэба спіц,
Каб калясо пачыніць?

778

Ехаў памешчык,
Зламалась цялега.
Сколькі ў цялегу
Нада гваздзей?

779

Ехаў мужык па дарозе,
Зламаў калясо на дарозе.
Колькі гваздзей, гавары паскарэй,
Не задумывайся.

780

Ехала машына із Масквы,
Пацярала тры даскі.
Стук-звон, выйдзі вон!

781

Едзе брычка, званок звоне,
Выйшла пані лічыць коні.
Раз, два, тры,
Выйдзі, малы, ты.

782

Стаяла машына
Каля канторы,
Номер дзевяты —
Выйдзі, пузаты.

783

Стакан, лімон,
Выйдзі вон!
Стакан вады,
Выйдзі ты!

784

Ішла кукла па таку
У зялёным фартуку,
Ела сахар і мядок.
Выйдзі вон, каралёк.

785

Бегла курка па таку,
Па зялёным табаку,
Ела сахар і мядок.
Адчапіся, каралёк.

**786**

Цётка ў рож,
Цётка ў рож,
Выхадзі, тавар харош.

**787**

Плыў па мору чамадан,
Ў чамадане быў дзіван,
На дзіване плаваў слон.
Хто не верыць — выйдзі вон!

**788**

Пацілася яблычка
Розавы цвет,
Ты мяне любіш,
А я цябе нет.
Проч, проч,
Ты — капітанская доч.

**789**

Сава, соўка,
Маладая ўдоўка,
Сядзіць на павецці,
Люба паглядзеці:
Сама шэранькая,
Дзюбка доўгенькая.
Дзінь-бразь,
Выйдзі, князь,
Не забудзь дзіця.

**790**

Нітачка, голачка,
Сіня сцяколачка,
Рыба, карась,
А ты ўбірайсь!

**791**

Нітачка, іголачка,
Ці-ці-ці,
Уляці.

**792**

Нітачка, іголачка,
Шышал — вышал.

**793**

Нітачка, іголачка,
Выйдзі, камсамолачка.

**794**

Саломіна
Паломана,
Шышал,
Вышал.

**795**

Салома,
Талома,
Выйшла
Дышла.

## 796

Саломінка,
Яромінка
Прэла,
Гарэла,
На мора
Ляцела.
Касцюк,
Масцюк,
Радзівон,
Пайдзі вон.

## 797

Ані, Вані,
Што пад вамі,
Пад жалезнымі стаўбамі?
Цып, бразь,
Выйдзі, князь.

## 798

Ані-бані, што пад вамі,
Пад жалезнымі стаўбамі?
Унчык-бунчык, сам гарбунчык,
Серабраны крэст.

## 799

Ані-бані, што пад намі,
Пад жалезнымі стаўпамі?
Сіта, пліта, квас,
Адыйдзі, дурак, ад нас.

## 800

За сцяклянnымі дзвярамі
Сядзіць Мішка з пірагамі.
— Мішка-Мішанька, дружок,
Колькі стоіць піражок?

## 801

За сцяклянnымі дзвярамі
Стаіць попка з пірагамі.
— Здраствуй, попка, мой дружок,
Колькі стоіць піражок?
— Тры капейкі з палавінай,
Ухадзі, дурак, з дубінай.

## 802

Рагадан, рагадан,
На чатыры загадан.
Пяцьсот ваявод,
Мар'я, Юр'я,
Кацярынін нос
На пятнаццаць вёрст.
Шалды-балды,
Бушмак-барада,
Выйдзі вон з гарада́,
Ту́рмас!

## 803

— Заяц-месяц,
Ідзе быў?
— У лесе.
— Што дзелаў?
— Лыкі драў.
— Куды клаў?
— Пад калоду.
— Выйдзі вон із карагоду!

## 804

Кацілася яблыка міма саду-вінаграду.
Хто падыміць, той і вон.

## 805

Бег сабачка-галашыйка,
Ў яго борачка на шыйке.
То не борка — ланцужок,
Выйдзі, міленькі дружок.

## 806

Чыкі-чыкі-чыкарок,
Паня, Фёдар-Федарок.
Тлела, гарэла, замуж хацела.
Чырык, башмак,
Барада, лаві.

## 807

Цок-цыгірок,
Пана фіда-футарок.
Прэла, гарэла,
Замуж ляцела.
Вусь, барадусь,
Кіслы квас,
Лаві нас!

## 808

Плыла жабка па вадзе,
Хто-та злапе,
Той выйдзе.

## 809

Ходзіць свіння па двару
І шукае лебяду,
А за свіннёй стары дзед,
Таму дзеду сорак лет.
Сорак, сорак, пяцьдзесят,
Выйшаў дзедушка-басяк.

## 810

Каціласся ягадка
Кругa гароду.
— Хто яе пойме?
— Царскі сын.
Выйшаў, выйшаў,
Ён пайшоў,
На баярскі двор
Сыйшоў.

## 811

Ляцеў заяц
Па бару,
Ірваў лебяду,
Ірваў ў пучок,
Выйдзе ваўчок.

## 812

Ішоў баран па бару,
Ірваў капусту, лебяду.
Што сарве, то ў пучок,
Выйдзі вон, дурачок.

### 813

Бег зай па бару,
Абіраў лебяду.
Рваў, клаў у пучок,
Выбірайся, ваўчок.

### 814

Бег, бег зайчык,
Вырыў трубку,
Палажыў на лаўку.
Хто ўзяў целефон,
Пажалуста, выйдзі вон.

### 815

Ішоў баран
Па крутым гарам,
Вырваў траўку,
Палажыў на лаўку.
Хто яе возьмець,
Той вон пойдзець.

### 816

Пад зямлёй драва рубілі,
Па-нямецку гаварылі:
— Алды-балды, пшык,
Выйшаў маленькі мужык.

### 817

На стале ляжала міна,
Па-нямецку гаварыла:
— Энік, бэнік, шмык,
Выйдзі, маленькі мужык.

### 818

Кацілася мандаліна,
Па-нямецку гаварыла:
— Шэндэр, мэндэр, пшык,
Залатой мужык.

### 819

Опа-опа,
Амерыка, Еўропа,
Англія, Кітай —
Поля, вылятай.

### 820

Об, Лена, Енісей
Пабіліся за кісель.

### 821

Ехала машына цёмным лесам
За якім-та інцірэсам.
Інці-інці-інцірэс,
Выхадзі на букву «с».

### 822

Дзеці, дзеці, дзетвара,
Уцякайце са двара,
Хто не захаваецца —
Крычыць «ура!»

### 823

Ішла дзевачка па рынку,
Наступіла на карзінку.

У той карзіначцы табак,
Хто закурыць, той дурак.

## 824

Маскарад, маскарад,
Пагляндзі, які нарад:
Чорны нагавіцы, белы фрак —
Гэта будзеш ты, дурак!

## 825

Жыў-быў цар,
У цара быў сад,
У саду быў пруд,
У пруду быў рак,
А хто слухаець —
Той дурак.

## 826

Бочка-грэчка,
Выкінь чалавечка.

## 827

Доры-доры, памідоры,
Мы ў саду спаймалі вора.
Сталі думаць і гадаць,
Як нам вора наказаць.
Мы звязалі рукі-ногі
І пусцілі па дароге.
Вор ішоў, ішоў, ішоў
І капеечку знайшоў.
Нам капеечка не нада,
А табе жмурыцца нада.

828

Анды, банды, рукатворы,
Мы злавілі ў доме вора.
Мы звязалі рукі, ногі
І пусцілі па дароге.
Вор ішоў, ішоў, ішоў
І карзіначку знайшоў.
А ў той маленькай карзінке
Ёсць памада і духі,
Лента, кружава, бацінкі —
Што угодна для душы.

829

Эні, бэні, тры капторы,
Мы спаймалі ў лесе вора.
Сталі думаць і гадаць,
Як нам вора пакараць.
Мы звязалі рукі, ногі
І пусцілі па дароге.
Хто ні едзе, хто ні йдзе,
Па капеечцы кладзе.
Нам капеечка не нада,
Зажмурыцца вору нада.

830

Пятро, Пятро,
Падай вядро.
Карове піць —
Табе жмурыць.

831

Ляцеў воран
Ў трубу чорну.
Дым валіць —
Табе жмурыць.

### 832

Тапор, тапор,
Сядзі, як вор.
Піла, піла,
Ляці, як страла.

### 833

Стакан, карэц,
Табе, сляпец.

### 834

Анты-банты, шлі салдаты.
Анты-банты, на базар.
Анты-банты, што купілі?
Анты-банты, самавар.
Анты-банты, колькі стоіць?
Анты-банты, тры рубля.
Анты-банты, хто выходзіць?
Анты-банты, ты да я.

### 835

Аты-баты, шлі салдаты.
Аты-баты, на базар,
Аты-баты, што купілі?
Аты-баты, самавар.
Аты-баты, колькі стоіць?
Аты-баты, два рубля.
Аты-баты, хто выходзіць?
Аты-баты, гэта я.

### 836

Аты-баты, шлі салдаты.
Аты-баты, на базар,

Аты-баты, што купілі?
Аты-баты, самавар.
Аты-баты, колькі стоіць?
Аты-баты, тры рублі.
Аты-баты, ён какой?
Аты-баты, залатой.

## 837

Шытыль-пытыль, шэндыль-мэндыль!
Ехаў пан — повен жбан:
І пушачка тыцюну, і ражочак табаку.
— На, панюхай, мужычок, ці харошы табачок?
Раз, два, тры, граў я і ты!

## 838

Цынцы-брынцы, балалайка,
Цынцы-брынцы, паіграй-ка.
Цынцы-брынцы, не хачу,
Цынцы-брынцы, спаць хачу.
Цынцы-брынцы, хто стучыць?
Цынцы-брынцы, дзевачка.
Цынцы-брынцы, як завуць?
Цынцы-брынцы, Евачка.

## 839

Цынцы-брынцы, два кальца
Выстругалі малайца,
На святой нядзельцы
Здзелалі кацельцы.
Кацельцы ўпалі,
На кузню сказалі.
Кузня божыцца: — Не я,
Балалаечка мая.
Балалаечка-гудок,
Разваліўся мой дамок.

## 840

Каціласе торба
З вялікага горба,
А ў той торбе
Хлеб, пшаніца.
З кім ты хочаш,
З тым дзяліся.

## 841

Каціласе торба
З высокага горба.
А ў той торбе
Хлеб, пшаніца.
З кім жадаеш
Ты дзяліцца?

## 842

Каціласе торба
З вялікага горба.
А ў той торбе
Хлеб, паляніца.
З кім ты хочаш
Падзяліцца?

## 843

Каціласе торба
З высокага горба,
У гэтай торбе
Хлеб і рыс,
З кім ты хочаш,
З тым дзяліць.

### 844

Выйшаў лётчык із тумана,
Выняў фінку із кармана:
— Буду рэзаць, буду біць.
З кім астанешся дружыць?

### 845

Выйшаў месяц із тумана,
Выняў ножык із кармана:
— Стану рэзаць, стану біць.
З кім астанешся дружыць?

### 846

Выйшаў немец із тумана,
Выняў ножык із кармана:
— Буду рэзаць, буду біць.
З кім астанешся дружыць?

### 847

Выйшаў месяц із тумана,
Выняў ножык із кармана:
— Буду рэзаць, буду біць,
Ўсё адно табе не жыць.

### 848

На залатом крыльцэ сядзелі
Цар, царэвіч,
Кароль, каралевіч,
Сапожнік, партной.
Хто ты будзеш такой?
Гавары паскарэй,
Не задзержывай
Добрых і чэсных людзей.

### 849

На залатом крыльцэ сядзелі
Цар, царыца,
Клоп, макрыца,
Кукалка-балетніца,
Задавака, сплетніца.

### 850

Шла кукушка міма сецi,
А за ёю яе дзецi.
Ку-ку, ку-ку,
Прынімай адну руку.

### 851

Шла кукушка міма сецi,
А за ёю малы дзецi.
Ку-квак, ку-квак,
Распусціце свой кулак.

### 852

Ішла кукушка
Міма сецi,
А за ёй
Пішчалі дзецi.
Кук-мак, кук-мак,
Выбірай адзін кулак.

### 853

Ляцела кукушка міма саду,
Наплявала на расаду
І крычала: — Ку-ку, мак,
Прынімай адзін кулак.

### 854

Шла кукушка міма клеці
І пазвала свае дзеці:
— Ку!

### 855

Выйшла курыца з-пад сеці,
А за ёю — злыя дзеці.
Кох-кох, адзін здох.

### 856

Шла квактуха міма сеці,
Сама села на павеці.
Кох-кох-кох,
Адзін цыплёнак здох.

### 857

Курыца-квактуха
Вадзіла дзяцей
Каля кляцей.
Квох — сесці
На красным месці,
Яечка знесці.

### 858

Ішла кошка па раялі,
Наступіла на педалі
І ад болі закрычала:
— Мяў!

## 859

Ішла кошка па раялі,
Наступіла на педалі
І запела: — До, рэ, мі, фа, соль, ля, сі,
Што украла — прынясі.
— Я украла каўбасу,
Заўтра рана прынясу.

## 860

Кацілася яблычка па агароду
І упала прама ў воду.
Бульк!

## 861

Ішоў Ціхан па масту,
Праваліўся у ваду.
Бульк!

## 862

Із падпечка
Тры дашчэчкі
Хлоп!

## 863

Агадзін, трыгадзін,
Сасновы, яловы,
Трысцель, карасцель,
Супека, кукарэка,
Сапроня-зязюля!

## 864

Анцы, цванцы,
Трычы, рычы,
Эны, бэны,
Мэны, вэк!

## 865

Экта-бэкта,
Чукта мэ,
Абель-фабель,
Дэ монэ.
Экс, тэкс, пуля,
Пукс паур.

## 866

Эскі, доскі,
Колга, Волга,
Лімінатар,
Гутар-гатар.
Лімі-лімі,
Лім-пам-пом,
Паіст.

## 867

Эна, бэна, рэсь,
Кэнтар, мэнтар, жэсь,
Эна, бэна, раба,
Кэнтар, мэнтар, жаба.

## 868

Она, дуна, рэс,
Кіндэр, віндэр, рэс.
Она, дуна, раба,
Кіндэр, віндэр, жаба.

**869**

Э-ката, пэ-ката, мэ,
Абель, дабель, далінэ,
Ікі, пікі, гармацікі,
Клёнц, бонц, заёнц.

**870**

Тром-тром, місе-дэлі,
Місі-асі, кум-пацэлі,
Місі-а, місі-бэ,
Місі-асі, кум-пацэлі.

**871**

Эні-бэні, лікі-факі,
Торба, горба, сенцябракі.
Дэус-дэус, касмадэус,
Бац!

**872**

А ты, шындаль-біндаль, што пашындаль,
Гарцу-барцу з калагрынцу — кох!

**873**

Эны-бэны, дыкі-пакі,
Арба, торба, энцы, смакі,
Эвус, дэвус, касматэвус,
Старой бабе ў запек спаць.

**874**

Эні-бэні, тры канторы,
Сахар, махар, памідоры,
Ас, бас, кіслы квас,
Выбірайся, чорт, ад нас.

### 875

Энікі-бэнікі,
Елі варэнікі.
Энікі-бэнікі,
Клёш,
Выйшаў савецкі матрос.

### 876

Энікі-бэнікі,
Елі варэнікі.
Энікі-бэнікі,
Клёш,
Выйдзі, пузаты матрос.

### 877

Энікі-бэнікі,
Елі варэнікі.
Энікі-бэнікі.
Клёц!

### 878

Эны-бэны, фіны, лёк,
Сам Пятровіч бліны пёк.
Пёк, пёк, не дапёк,
Схваціў шапку дый уцёк.

### 879

Чыкенчыкі, пікенчыкі,
Ляцелі галубенчыкі.
Чыкін, пікін,
Пальчык выкінь.

## 880

Эна-бэна дудкі,
Гаспадар малюткі,
Гаспадыня яшчэ менша
І напэўна разумнейша.
Села баба на барону,
Паехала ў госці
І нарвала траўкі,
Палажыла ў лаўкі.
Нехта траўку ўзяў,
Той пайшоў вон.

## 881

Шарыбары-раздабары,
Белы сняжкі выпадалі.
Ахотнічкі выязжалі,
Серых зайцоў пабівалі,
Красную дзевушку спугалі:
— Ты, дзевушка, стой, стой,
Ты, красная, пой, пой!

## 882

Шэнь-пень, я — вергень,
Я вер'я, вер'я, вер'я.
Дуня, Дуня, Дуняша.
А ў нашага барына
Сама брату баяла:
— А ты, дзеўка, стой, стой!
Красавіца, пой, пой!

## 883

Ад дубу да дубу,
Да белага кораня,
Сітушка, плітушка,
Маслены дуб.

### 884

Круціцеся, жорны,
З'едзен хлеб наш чорны:
Крысін і Марысін,
Грунін і Анісін,
З'едзен і Пятроў хлябок.
Намялі для іх, дзядок.

### 885

Ой, рабіны, рабіны галамузы,
Нашы кабылкі нядужы.
Гэту кабылку зарэжце
І гэтае мяска із'ежце.
А з спіны — драбіны,
З трыбухоў — пярыны,
А з галавы — фанары,
А з капытоў — кубкі,
А з галёнкаў — крупкі.

### 886

Дура баба, дурны дзед,
Хапіліся — хлеба нет!
Запраглі барана,
Паехалі да пана.
Пана дома не знайшлі,
Вараціліся назад,
Зачапіліся за пень,
Прастаялі цэлы дзень!

### 887

Хто не ўмеець гараць,
Таму хлеба не даць,
Ні капусты, ні бацвінні —
Няхай пасець свінні.
Яму свінні дакучылі
І гараць навучылі.

## 888

Мужык-вожык
Прадаў ножык,
Купіў мыла,
Памыў рыла.

## 889

Тарана, тарана,
Купіў бацька барана,
Да не скобленага,
Да не доенага.
Матка даіла,
Даёнку пабіла.

## 890

А ты, коцік, не гуляй,
Начовачкі прыбірай!
Начовачкі склізкі,
Вядзёрачкі блізкі.
Круг абарваўся,
А ты так астаўся.

## 891

Петушок, петушок,
Залаты грабянёк!
На саломцы спаў,
Ён рана ўстаў,
Па вадзічку пайшоў,
Маладзічку знайшоў.
Маладзічка дабра
Яму штонікі дала.
Ён і тыя не знасіў
І другія папрасіў.

892

Агурэчак, агурэчак,
Ты не йдзі на той канечак:
Там бабкі жывуць,
Табе ножкі адарвуць.

893

Ой, дыль-дыль,
На паліцы блін,
Не хачу бліна,
Дай чарку віна,
Тады на закуску бліна!

894

Я не бацькаў сын,
Я не маткін сын,
Я на галінцы рос,
Мяне вецер знёс.

895

Цілім-бом, цілім-бом,
Загарэўся Косцін дом.
Ляціць курыца з вядром
Заліваць Косцін дом.
Люлі-люлі, Каціна,
Куды едзеш?
— Да млына!
— Вазьмі разам ты мяне,
Буду я твая слуга:
Я коніка папасу
І вадзіцы прынясу.

## 896

Бом-бом, калім-бом,
Загарэўся кошкін дом.
Белая мышанка з вядром
Патушыла ейны дом.

## 897

Каця, Каця, Кацярына,
Разрысована карціна.
Каця валасы часала,
Афіцэра дажыдала.
— Афіцэрык маладой,
Падвядзі мяне дамой.
Мой дом на гарэ,
Тры акошкі на дварэ.

## 898

Із-пад печкі каціцца
Галубое плацьіца,
На баку зялёны бант,
Цябе любіць лейценант.
Звацьь яго Валодзенька,
Хлопец ён малодзенькі.
Цераз годзік, цераз два
Будзеш ты яго жана.

## 899

Кацілась каляска
Па сінім масту,
Мост праваліўся,
Каляска — ў ваду.
Не жалка каляскі,
Не жалка маста,
А жалка царэўны:
Яна малада.

## 900

Йшла таргоўка міма рынку,
Спатыкнулась на карзінку.
Ў гэтай маленькай карзінцы
Ёсць памада і духі,
Лента, кружава, бацінкі,—
Што угодна для душы.

## 901

Кінь, кінь, перакінь,
Давай далей пабяжым,
Цераз воду і агонь,
Не дагоніць нас і конь.

## 902

Саломіна, яломіна,
Трысцель-свісцель,
Конік кован,
— Чым падкован?
— Золатам бітым,
Навадзітым.
Эч, прэч!

## 903

Цын, перацын,
Па тры кгулі,
Пумакгулі.
— Чым коні папутаны?
— Залатым путам
Пад капутам.
Гэй, мора,
Тры цыбулькі,
Ксёндз!

## 904

— Чые коні на выгоне,
Чым яны папутаны?
— Залатым путцам
Пад капутцам.
Бразь калечка,
Вон, сярдзечка.

## 905

А шлі коні па вуліцы.
Чым яны папутаны?
Залатым путам
Пад капытам.
Зайка йдзець,
Траўку рвець.
Што вырвець,
То ў пучок.

## 906

Беглі коні па выгону,
Падбівалі капыты.
Летачкі, батачкі,
Выйшлі ўсе цвяты.

## 907

Ходзе бусел па балоту,
Заве чарцей на работу —
Дзевяць!

## 908

Хадзіў буська па балоту,
Ён шукаў сабе работу.
Шукаў, шукаў, не найшоў
І заплакаў дый пайшоў.

909

Апанас, Апанас!
Твая жонка ў нас
Увалілась у квас —
Лаві сем год нас!

910

Лічыліся, барыліся, кудой нам прайсці.
— К старому Пётру Пятровічу, чабатовічу.
— Што Пятро дзелае? — Кніжкі чытае.
Кніга ў бога, скок з вярбіцы пад вадзіцу.
Воўк у балоце, пан у злоце.
Цыбулька-дулька, шоўкавая нітка.
Крэст!

911

Мы давайце-ка, рабяты,
Ў валасянку іграць:
Хто пацягнець,
Да не дацягнець,
Таго за ўласы будзем драць.

912

Нуце-ка, рабяты,
Валасень цягнуць.
А хто не дацягнець,
Таго за хахол цягнуць.

913

І скрасенне — дзень,
Панядзелак — дзень,
Аўторак — дзень.
Серада, чацверг,
Пятніца, субота.

## 914

На дубу сядзелі
Два мядзведзі.
Адзін чытаў газету,
Другі мясіў муку.
І раз ку-ку, і два ку-ку,
І оба уваліліся
Ў муку.

## 915

Пайшла курка у аптэку,
Закрычала: — Кукарэку!
Дайце пудры і духоў
На падманку петухоў.

## 916

Чэрці ў возеры купаліс,
Чэрці рожкамі штурхаліс,
Чорт чарцёнка штурхануў,
І чарцёнак патануў.

## 917

Ехала жаба па драбіне
І зляцела прама ў свінні.
— Ой, не ешце мяне, свінні,
Бо я ваша гаспадыня.

## 918

Рэльсы гнуцца, рэльсы гнуцца,
Пад мастом паны дзяруцца.
Адзін маленькі панок
Удзіраець без парток.

А наутра рыбакі
Прывязлі яму парткі.
Ён спасіба не сказаў,
Толькі дулю паказаў.

## 919

Мальчык трубачку курыў,
Вугалёчак ураніў.
Вот і здзелаўся пажар,
Гэты мальчык убяжаў.

## 920

Ішоў жаўнер з бальніцы,
Знайшоў белы рукавіцы.
Думаў, думаў, куды дзеці —
Лепш на ручаньку надзеці.

## 921

Йшла Малання з доўгім носам,
Падыйшла ка мне з вапросам:
— Што мне дзелаць з гэтым носам?
— Ідзі ў магазін,
Купі карасін,
А патом, патом
Адсячы тапаром.

## 922

Ішоў дзед за вадой,
Знайшоў торбу з галавой.
Прынёс ён дамой,
Бабе паказаў.
Баба як падскочыла,
Схапіла чапялу
І дзеду па плячу.

## 923

Дзядзя Коля — велікан,
Уваліўся у стакан.
У стакане малако,
Дзядзя Коля ко-ко-ко.

## 924

На зялёным
На лужку
Пляшэць Танечка
Ў кружку.

## 925

Маці сына радзіла,
На коніка садзіла.
Шаўковыя павады,
Вядзі каня да вады.
Арэхава карыта
Поўна вады наліта.
Там мальчыкі ногі мылі,
А дзевачкі ваду пілі.
А дзевачкі чатыры,
Каб іх чэрці стачылі.
А мальчыкаў пяць, пяць,
У золаце спяць, спяць.

## 926

— Шапачка-татарачка,
Князь, не пячалься:
Твая жана Мар'я спарадзіла сына.
— Як яму імя?
— Цара Канстанціна.
Бубен, бубен,
Аддай дочку
За майго сына!
У майго сына

Трое саней
З казырамі,
Гвоздзем біты,
Шоўкам шыты!
Ключ!

# ГУЛЬНІ

## 927. Мак

Allegretto

Карагод дзяцей:

А на га - рэ мак, мак, на да - лі - не
А вы ма - е ма - ко - вач - кі - за - ла - ты - я

Адно з дзяцей:

так, так. — Ці пас - пеў мак?
га - ло - вач - кі.

Дзеці выбіраюць дзяўчыну або хлопчыка макам, самі становяцца вакол маку, бяруцца за рукі, ходзяць кругом і спяваюць:

А на гарэ мак, мак,
На даліне так, так.
А вы мае маковачкі —
Залатыя галовачкі.
— Ці паспеў мак?

Мак адказвае: «Паехалі араць!»

Пасля гэтага прыпеўка з тым жа пытаннем паўтараецца некалькі разоў, а мак па чарзе адказвае: «Пасеялі!», «Узышоў», «На цвет залажыў», «Расцвітае», «Спее». Як скажа мак, што ён паспеў, усе дзеці падбягаюць да яго і тармосяць.

---

Нотныя прыклады ў гульнях адносяцца да вершаваных тэкстаў.

## 928. Мак




Дзяўчаты ўтвараюць карагод. У сярэдзіне стаіць адна з удзельніц. Усе пяюць:

А на гары мак,
Пад гарой так.
Белы мае маковачкі,
Залатыя галовачкі,
Стойце вы так,
Як зелен мак.

Пасля гэтага пытаюцца ў дзяўчыны, што стаіць у сярэдзіне карагода:

— Кума, кума, ці сеяла мак?

Яна адказвае адмоўна. Зноў усе пяюць песню і зноў задаюць кожны раз новае пытанне:

— Кума, кума, ці палола мак?
— Кума, кума, ці цвёў мак?
— Кума, кума, ці сазрэў мак?
— Кума, кума, ці пара трусіць мак?

Пасля апошняга пытання ўсе бягуць да дзяўчыны ў сярэдзіне круга і трасуць яе за вушы.

## 929. У мак

Удзельнікі гульні мераюцца на пальцы. Хто застанецца з самага верху, таго ставяць у круг, а астатнія, узяўшыся за рукі, ходзяць вакол яго і пяюць:

А пасею я мак да на даліне,
А вы ж мае маковачкі,
Залатыя галовачкі,
Станьце ў рад,
Як быў мак!

Пасля гэтага прыпыняюцца і пытаюцца ў таго, хто ў кругу:

— Ці араў на мак?

— Араў!

Тады зноў пачынаюць хадзіць вакол яго і пець. Праспяваўшы, зноў пытаюцца:

— Ці скародзіў на мак?

— Скародзіў!

Затым, пасля кожнага спявання, паслядоўна задаюць пытанні:

— Ці ўзышоў мак?

— Ўзышоў!

— А ці цвіцеў мак?

— Цвіцеў.

—А ці паспеў мак?

— Паспеў!

Як толькі ён скажа «паспеў!», усе з круга кідаюцца да яго і стараюцца схапіць «за хахол». Пры гэтым крычаць:

— Трасіце мак! Трасіце мак!

Хлопчык з круга ўцякае.

## 930. Верабей

Дзеці бяруцца за рукі і ўтвараюць кола. Пасярэдзіне кола адзін гулец. Усе ходзяць вакол і пяюць:




Да скакаў верабей па шуметнічку,
Да збіраў верабей ўсю сямеечку.
Божа наш, мала нас на печы, на хлебе,
Дайце нам, дайце нам Настуську ў патрэбе.

Названая дзяўчынка ідзе ў сярэдзіну кола. Так пераходзяць многія. Тады прыпеўка мяняецца:

Да скакаў верабей па шуметнічку,
Рассылаў верабей ўсю сямеечку.
Божа наш, многа нас на печы, на хлебе,
Не нада нам, не нада нам Настуську ў патрэбе.

Названыя вяртаюцца на сваё месца.

## 931. Верабей




Дзяўчаткі становяцца ў кола, а пасярод кола пускаюць хлопца — вераб'я і, узяўшыся за рукі, ходзяць і пяюць:

Як пайшоў верабей па шуметнічку,
Сабіраў, дабіраў ўсю сямеечку.
Мала нас, мала нас на печы, на хлебе.

Тут верабей называе, каго ён сабе выбірае. Дзяўчаты пяюць далей:

Яшчэ мне, яшчэ мне Алёначка трэба.

Зноў пяюць спачатку, пакуль верабей не збярэ да сябе большую частку дзяўчат. Тады тыя, што засталіся не выбранымі, круцяцца ў другі бок і пяюць:

Як пайшоў верабей па шуметнічку,
Раскідаў, разбіваў ўсю сямеечку.
Многа нас, многа нас на печы, на хлебе.

Тут таксама верабей называе тую з дзяўчат, якую хоча аддаць, а яны пяюць:

Ужо мне, ужо мне Ганнулькі не трэба.

Так ізноў пяюць далей, пакуль верабей не аддасць усіх, каго ён да сябе выбраў. Тады, каб пачаць гульню, выбіраюць новага вераб'я.

## 932. Верабейка




Ходзіць верабейка
Па сметнічку.
Мала нас, мала нас
На печыве хлеба.

Да і сабірае
Да дружыначку:
Яшчэ к нам, яшчэ к нам
Болей дзевак трэба.

Ой, ляцела птушка
Да і да пшаніцы.
Мала нас, мала нас,
Просімо вас.

Вялікі наш танчык,
Усіх мы не змесцім.
Многа нас, многа нас,
Прэч ад нас.

## 933. Пячэнне хлеба
## (Верабей)




Спачатку двое бяруцца за рукі і, кружачыся, спяваюць:

Паскакаў верабей
Да па сметнічку,
А сабраў верабей
Ўсю сямеечку,
Мала нас, мала нас
Да пячэння хлеба,
А ўжо нам, а ўжо нам
Аўдоська патрэбна.

Аўдоська становіцца ў круг. Усе зноў ходзяць і пяюць разам:

Паскакаў верабей
Да па сметнічку.
А сабраў верабей
Ўсю сямеечку.
Мала нас, мала нас
Да пячэння хлеба,
А ўжо нам, а ўжо нам
Сымонка патрэбен.

Сымонка становіцца ў круг. Так паўтараецца, пакуль усе не будуць у карагодзе.

Тады пачынаецца адваротны працэс. Усе спяваюць:

Паскакаў верабей
Па суметнічку,
Разагнаў верабей
Ўсю сямеечку.
Многа нас, многа нас
Да пячэння хлеба,

А ўжо нам, а ўжо нам
Аўдоська не трэба.

Аўдоська выходзіць з круга, і так паўтараецца, пакуль не застаецца двое тых, што «адбываюць», вядуць гульню.

## 934. Верабей

[ Moderato ]

Мно-га нас, мно- га нас на зям- лі, на хле - бе,
а ўжо ж нам, а ўжо ж нам На-дзеч-ка па- трэ - бна.

Дзяўчаты строяць карагод, ходзяць і спяваюць:

Многа нас, многа нас
На зямлі, на хлебе,
А ўжо ж нам, а ўжо ж нам
Надзечка патрэбна.

Пры ўпамінанні імя дзяўчаты пачаргова выходзяць з кола і становяцца гуськом. Калі ўсё кола выйшла, зноў спяваюць песню:

Многа нас, многа нас
На зямлі, на хлебе,
А ўжо ж нам, а ўжо ж нам
Надзечка не трэба.

Каго называюць, той зусім выходзіць з гульні.

## 935. У вераб'я

Усе дзеці бяруцца за рукі, утвараючы карагод. У сярэдзіне стаяць двое. Карагод рухаецца, усе спяваюць:

Скакаў, скакаў верабей па сметнічку,
Сабіраў, сабіраў усю дружыначку.

Мала нас, мала нас
На булачку хлеба,
Пазвацъ, пазвацъ
Каго яшчэ трэба.

Выбіраюць каго-небудзь з круга і забіраюць у сярэдзіну. А тады зноў спяваюць і ходзяць, пакуль не перабяруць амаль усіх. Калі застанецца з круга двое, яны пераходзяць у сярэдзіну, а астатнія зноў утвараюць карагод. Гульня пачынаецца спачатку.

## 936. Заінька

♩=120

За - інь - ка да ша- ру - сень - кі, за - інь - ка
да бя- лю - сень - кі! Пра- ска-чы, зай - ка, ў дзі -
- рач - ку да вы-ла-мі са - бе да бы- лі - нач - ку.
Пра - ска -чы, зай - ка, ку - ды хош,
вы-бі-рай бы -лін - ку, ка - то -ру-ю хош.

Удзельнікі гульні бяруцца за рукі і ўтвараюць кола. У сярэдзіне адзін водзіць, гэта значыць абазначае зайку. Усе спяваюць:

Заінька да шарусенькі,
Заінька да бялюсенькі!
Праскачы, зайка, ў дзірачку
Да выламі сабе да былінаачку.

Праскачы, зайка, куды хош,
Выбірай былінку, каторую хош.
Заінька, павярніся,
Шэранькі, абраціся.
У нас гарадочкі гарадзецкія,
Усе ў нас зачэпачкі нямецкія.
А пайдзі, наш зайка, ў скокі, ў бокі,
Запляшчы, наш зайка, да ў далоні.

Увесь час зайчык стараецца выскачыць з кола. Пры заканчэнні песні ўсе павінны запляскаць у далоні. Гэтым момантам карыстаецца зайка: ён хапае каго-небудзь з круга і хутка становіцца на яго месца, а той, хто застаўся без месца, павінен вадзіць, гэта значыць абазначаць зайку.

## 937. У садочку

Усе становяцца ў круг, водзяць карагод і спяваюць:

Заінька за садочкам,
Шэранькі за садочкам.
Заінька, выйдзі ў садзік,
Шэранькі, выйдзі ў садзік.

Заінька, які да песні ходзіць за кругам, уваходзіць у круг. Усе пляскаюць у далоні і пяюць:

Заінька, папляшы,
Шэранькі, папляшы.

Заінька танцуе. Потым яму другое заданне:

Заінька, топні ножкай,
Шэранькі, топні ножкай.

Тады ўсе зноў бяруцца за рукі і прапаноўваюць:

Заінька, выбірай,
Шэранькі, выбірай.

Заінька выбірае каго з круга, той становіцца зайчыкам. Гульня паўтараецца.

## 938. Казёл




Дзяўчынкі бяруцца за рукі і ўтвараюць кола. Адна ў сярэдзіне. Усе вядуць карагод і спяваюць, словы прыпеву дэманструюцца адпаведнымі рухамі.

— Пакажы, казелінька,
Павітай, казелінька,
Як бабушкі скачуць?

— Вот і так,
Так і гэтак,
Так бабушкі скачуць.

— Пакажы, казелінька,
Павітай, казелінька,
Як мужчынкі скачуць?

— Вот і так,
Так і гэтак,
Так мужчынкі скачуць.

— Пакажы, казелінька,
Павітай, казелінька,
Як дзевачкі скачуць.

— Вот і так,
Так і гэтак,
Так дзевачкі скачуць.

— Пакажы, казелінька,
Павітай, казелінька,
Як хлопчыкі скачуць?

— Вот і так,
Так і гэтак,
Так хлопчыкі скачуць.

— Пакажы, казелінька,
Павітай, казелінька,
Як казёл скачыць?

— Вот і так,
Так і гэтак,
Так казёл скачыць.

## 939. Яшчур

[ Moderato ]

Ся-дзі, ся-дзі, я - шчур. Ла - ду, ла - ду!
Ся - род ка - ра - го - ду. Ла - ду, ла - ду!

Дзяўчаты становяцца, узяўшыся за рукі, і ўтвараюць кола. Адзін хлопец садзіцца пасярод кола. Усе ходзяць навокал яго і пяюць:

Сядзі, сядзі, яшчур.
Ладу-ладу!*
Сярод карагоду.
Яшчур гарох точыць.
Жаніціся хочаць.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Бяры сабе паню.
Каторую хочаш.
Хоць сабе Алёну.
Яна цябе любіць.
Вянок падаруець.

Тады яшчур выбірае адну з дзяўчат, і яна павінна, зняўшы з галавы хустку, даць яму быццам вянок. Пасля зноў усе пачынаюць хадзіць навокал і пяюць тое самае, пакуль яшчур не пазбірае хусткі ад усіх дзяўчат. Тады ён з хусткамі садзіцца дзенебудзь асобна, а дзяўчаты па чарзе падыходзяць да яго і просяць:

— Панок, панок, аддай вянок!

Яшчур загадвае той, каторая просіць, якую-небудзь работу, напрыклад, паскакаць, прапець што-небудзь, і тады толькі, як яна выканае загад, аддае ёй хустку. І так кожнай дзяўчыне, пакуль не разбяруць усіх хустак.

## 940. Яшчар

Аднаго з дзяцей выбіралі яшчарам. Яшчара садзілі на ўслончыку, на табурэтку або купінку. Дзяўчынкі надзявалі на галаву вянкі з кветак, браліся за рукі з хлопчыкамі і састаўлялі такім чынам кола вакол яшчара. Кола пачынае кружыцца і пець:

Сядзі, сядзі, яшчар.

Лада-ладу,
Лада-ладу.*

У арэхавым кусце.
Арэшачкі лушча.
Бяры сабе панну.
Каторую хочаш.
Панну Марыльку.
За белую ручку.
За русую коску.
За малую ножку.
За золата персцень.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Яшчар накідвае хустку на ўказаную ў песні дзяўчынку і пачынае з ёю кружыцца пад песню. Потым дзяўчынка з пацалункам аддае яшчару свой вянок. Тое ж паўтараецца і з іншымі дзяўчынкамі. Потым першая дзяўчынка выходзіць у круг, пачынае кланяцца яшчару і пяе разам з астатнімі:

Пане яшчару, паночак!
Аддай жа мой вяночак!
Зіму-лета хадзіла,
Ручкі-ножкі сцірала,
Па красачцы збірала,
У вяночак звівала.

Яшчар патрабуе выкуп, якім з'яўляецца ў большасці выпадкаў пацалунак. Дзяўчынка атрымлівае вянок, танцуе і пяе:

Я свой венчык выпрасіла,
Я свой венчык выплакала,
Я свой венчык выенчыла,
Я свой венчык выплясала.

Такім жа чынам разбіраюць усе вянкі. Потым выбіраюць новага яшчара.

## 941. Шастак

[ Allegretto ]







Дзяўчаты становяцца ў кола, трымаючыся за рукі; адна з дзяўчат выходзіць ў сярэдзіну кола, пахаджвае і пяе:

Шэсць дзён малаціла,
Шастак зарабіла.
Сама сабе дзівавала,
Што так мала зарабляла.

Прапеўшы гэта, яна, а за ёй і ўсе дзяўчаты пяюць гэту песню зноў спачатку; дзяўчына, што хадзіла пасярэдзіне, як найхутчэй пачынае перакручвацца цераз руку з тымі, што стаяць у коле. Калі яна перакруціцца з усімі, то на яе месца ідзе другая і зноў пяе:

Шэсць дзён малаціла,
Шастак зарабіла.
Сама сабе дзівавала,
Што так мала зарабляла.

## 942. Грушка




Дзеці бяруцца за рукі, утвараючы круг, у сярэдзіне якога становіцца хлопчык або дзяўчынка. Гэта і будзе грушка. Дзеці ходзяць у карагодзе навокал грушкі, спяваюць песню, называючы імя таго, хто стаіць у сярэдзіне круга.

Мы пасадзім грушку
Усе, усе,
Няхай наша грушка
Расце, расце.

Вырасці ты, грушка,
Вось такой вышыні,
Распусціся, грушка,
Вось такой шырыні!

Расці, расці, грушка,
Ды у добры час.
Патанцуй, Марылька,
Паскачы для нас.

А ўжо наша грушка
Распусцілася,
А наша Марылька
Зажурылася.

А мы тую грушку
Ўсе шчыпаць будзем.
Ад нашай Марылькі
Уцякаць будзем.

Грушка ў сярэдзіне круга павінна рабіць усё, аб чым спяваецца ў песні — танцаваць, кружыцца. Пры словах песні «вось такой вышыні», «вось такой шырыні» дзеці паднімаюць рукі ўверх, разводзяць іх у бакі. Калі спяваюць «а мы тую грушку шчыпаць будзем», усе набліжаюцца да грушкі, каб ушчыпнуць, і хуценька ўцякаюць, а грушка ловіць каго-небудзь з дзяцей, ставіць яго на сваё месца ў сярэдзіне круга, і гульня паўтараецца.

## 943. Ігрушка

Дзеці становяцца ў круг, у сярэдзіне якога знаходзіцца хлопчык або дзяўчынка. Спяваючы, дзеці ходзяць у карагодзе вакол ігрушкі.

Ой, пасаджу грушку
У мосце, у мосце.
Няхай мая грушка
Росце, росце.
Я ж маладзенька,
Плешчу, скочу,
Толькі свае грушкі
Хочу.

Ігрушцы задаюць пытанні, як яна вырасла. Калі, нарэшце, ігрушка адказвае, што яна вырасла і ігрушы на ёй паспелі, усе набліжаюцца, каб ушчыпнуць яе, а потым уцячы. Каго ігрушка зловіць, той становіцца ў сярэдзіне круга. Гульня працягваецца.

## 944. Гусі

Выбіраюць з усіх удзельнікаў ваўка і гуся. Усе становяцца кругам, воўк — у сярэдзіне, а гусь — за кругам. Усе ходзяць і спяваюць:

Дзе вы гусі былі?
Га-га-га!
На сінем моры.
Га-га-га!
Каго вы там відзелі?
Га-га-га!
Шэрага ваўчка.
Га-га-га!
Ах ты, ваўчок, ваўчок,
Га-га-га!
Бярыся за гусёнка.
Га-га-га!
Замест парасёнка.
Га-га-га!

Воўк стараецца злавіць гуся. Калі яму гэта ўдаецца, выбіраюць новага ваўка і гуся. Гульня паўтараецца.

## 945. Воўк




Выбіраюць з гульцоў аднаго ваўком, а другога — пастухом авечак. Усе астатнія — авечкі. Пастух бярэ дзве лучыначкі, затым аддзяляе з грамады аднаго гульца, кладзе яму на галаву канец адной лучынкі і, прытрымліваючы рукой другі яе канец, б'е па лучынцы другой лучыначкай, прыгаворваючы:

Пасу, пасу да вечара,
А ўвечары гнаць нечага.
Стаіць воўк — пад гарой,
Падпёршыся качаргой.

Пасля гэтай прыпеўкі пастух кладзе абедзве лучыначкі на галаву авечкі і кажа:

— Пастой, барашка, пайду табаку нюхаць!

Пастух аддаляецца. Прыходзіць воўк, закідвае лучыначкі і адводзіць авечку ўбок. Варочаецца пастух, глядзіць: няма авечкі. Пастух паднімае лучыначкі, аддзяляе ад грамады яшчэ адну авечку і прыгаворвае як раней, але воўк зноў крадзе авечку і г. д., пакуль не з'ядае апошнюю. Тады пастух бярэ палку і, быццам на кані, едзе на ёй да ваўка на гутарку:

— Воўк, воўк, ці не відзеў маёй авечкі?

— А якая яна?

— Чорненькая.

— Пабегла чорненькай дарожкай.

У гэты момант гульцы ў чорнай вопратцы ўцякаюць ад ваўка і становяцца блізка ад пастуха.

Пастух зноў зварочваецца да ваўка з тымі ж самымі пытаннямі пра беленькую авечку, чырвоненькую, рабенькую і г. д., пакуль усе пакрадзеныя ваўком авечкі не паўцякаюць. Тады пастух едзе на палцы да авечак, ставіць іх у два рады так, каб паміж радамі быў прамежак у шырыню на два метры, затым варочаецца да ваўка і кажа:

— Воўча, воўча, прашу ў лазню.

— А якая ў цябе лазня?

— Драбяная.

— А якая печка?

— Каменная.

— А які палок?

— Конскае рабро.

— А якая конаўка?

— Конская галава.

— А які венік?

— Конскі хвост.

— А які агонь?

— Конскія вочы.

У гэты час авечкі моцна тупаюць нагамі.

— Хто ў цябе стукае?

— Тыя, што дошкі чэшуць.

У гэты час авечкі пляскаюць у далоні.

— А хто ў цябе лопаецъ?

— Тыя, што дошкі забіваюць.

Воўк прыслухоўваючыся:

— А што ў цябе пукчыць?
— Квас кіснець.
— Дай папіць.

Пастух плюе на канец лучыначкі і падносіць ваўку. Як з гэтага жарту ўсе насмяюцца, пастух кажа:

— Ну, воўча, лазня гатова!

Воўк ідзе мыцца, праходзіць паміж радамі авечак, а тыя хустачкамі б'юць ваўка (даюць ваўку лазню, парадь) або тукаюць на ваўка і махаюць рукамі, пакуль ён прабяжыць паміж радамі авечак туды і назад.

## 946. Пасу, пасу авечачкі

♩=120

Па_су, па_су а _ве_ чач_ кі не_да _лё_ ка ад рэ_ чач_ кі.
Воўк за га - ро - ю, а я за дру - го - ю.
Ваў_ка не ба - ю - ся, кі _ем ба _ра - ню - ся.

Пасу, пасу авечачкі
Недалёка ад рэчачкі.
Воўк за гарою,
А я за другою.
Ваўка не баюся,
Кіем баранюся.

## 947. Воўк і авечкі

Moderato

Па- су, па- су а - ве -чач -кі не - да - лёч - ка

ад рэ -чач -кі. Я па -су а - веч - кі ка -ля са -май

рэч -кі. Воўк за га - ро - ю, шэ -ры за кру - то - ю.

Ваў-ка не ба - ю - ся, кі- ем ба -ра -ню - ся,

ка- ча-рэж -кай а -да -б'ю-ся, пай-ду й бу-ду спаць.

Выбіраюць з гульцоў пастуха і ваўка. Усе астатнія — авечкі. Пастух становіцца сярод хаты з качаргой у руках, каля яго навокал садзяцца авечкі, а воўк хаваецца за дзвярыма. Пастух пяе:

Пасу, пасу авечачкі
Недалёчка ад рэчачкі.
Я пасу авечкі
Каля самай рэчкі.
Воўк за гарою,
Шэры за крутою.
Ваўка не баюся,
Кіем баранюся,
Качарэжкай адаб'юся,
Пайду й буду спаць.

Пастух адыходзіць убок і робіць выгляд, што спіць. Воўк кідаецца да авечак, хапае адну і разам з ёю ўцякае за дзверы. Усхапіўшыся, пастух крычыць:

— Ага-ту! Воўк авечку панёс...

Пастух зноў выходзіць на сярэдзіну хаты і пяе сваю песню. Потым зноў ідзе спаць. Воўк зноў хапае авечку і так, аж пакуль не забярэ апошнюю. Тады пастух ідзе шукаць авечак і, стукаючы качаргой то на адзін бок, то на другі, кажа: «Воўчы след, авечы след, воўчы след, авечы след...» Падыходзіць да ваўка і пытаецца:

— Ці не бачыў, панок, маіх авечак?

— Не, не бачыў.

Авечкі пачынаюць паціху шумацець.

— А што ж гэта ў цябе шумаціць?

— Пчолы гудуць.

Пастух варочаецца назад ды ідзе зноў шукаць авечак, авечкі стукаюць.

— А што ў цябе стукае?

— Мае парабкі дровы сякуць.

І гэтак далей, аж нарэшце авечкі пачынаюць блекатаць. Пастух убягае ў тую каморку і крычыць: «Ашкіра дамоў!» Уганяе іх у хату, пасля гэтага кліча ваўка ў лазню. Воўк пытаецца:

— А якія дровы?

— Бярозавыя.

— Не хачу, надта чадзяць.

Пастух кліча другі раз, воўк зноў пытаецца:

— Якія дровы?

— Асінавыя.

Воўк адмаўляецца, што надта дымяць. Ажно за трэцім ужо разам, калі пастух кажа: «Дровы хваёвыя»,— воўк згаджаецца, але, падышоўшы крыху, пытаецца яшчэ:

— А сабак няма?

— Адна ёсць сучка ліхая і тая пад печкай здыхае, а сабака кісялём удавіўся.

Воўк выходзіць на сярэдзіну хаты і прысядае на карачкі, быццам мыецца. Пастух як крыкне:

— Цюцькі, кусіце!

Авечкі кідаюцца на яго. Воўк уцякае, яны даганяюць. Пастух падыходзіць да ваўка і пытаецца:

— А што, воўча, надта яны цябе пакусалі?

— Ой, пакусалі.

— Хадзі ж цяпер будзем іх кусаць.

Кідаюцца ўдваіх на авечак, тыя не даюцца.

## 948. Воўк і авечкі




Выбіраюць пастуха і ваўка, усе астатнія ўдзельнікі гульні— авечкі. Пастух ходзіць каля авечак і пяе:

Пасу, пасу авечачкі
Каля быстрай рэчачкі.
Воўк за гарою,
Я за другою.
Ваўка не баюся,
Палоўнікам адбаранюся.

Прыходзіць воўк і кажа пастуху:

— Пастух, пастух, а табе бацька купіў часы залатыя. Я папасу авечкі, а ты схадзі паглядзі.

Пастух ідзе. У гэты час воўк крадзе авечку. Вяртаецца пастух, бачыць, што няма адной авечкі. Пастух пяе:

А мне бацька часоў не купіў,
Воўк авечачку схапіў.




Калі воўк пацягае ўсіх авечак, пастух ідзе шукаць іх. Ён угля-даецца ў зямлю і гаворыць:

— Тут воўчы след, тут барані, тут воўчы след, тут барані...

Прыходзіць пастух да ваўка. Авечкі ў гэты час ляскаюць зубамі. Пастух пытаецца:

— Што ў цябе такое робіцца?
— Кросны ткуцца.
— Дай мне палатна.
— Нельга.
— Ці прабягалі тут мае авечкі?
— А якія яны?
— Сівенькія.
— Пабеглі па сівенькай дарожцы.

Пастух прыходзіць да ваўка ў другі раз. Авечкі ў далоні плешчуць.

— Што гэта ў цябе шуміць?
— Бліны пякуць.
— Дай мне бліна.
— Гарачыя.

Так паўтараецца некалькі разоў. Нарэшце пастух запрашае ваўка ў лазню. Воўк доўга адмаўляецца, бо яму дровы не падыходзяць. Калі выбярэ дровы, пачынае мыла выбіраць. Прыходзіць воўк у лазню, а там авечкі сядзяць з пастухом. Яны накідваюцца на ваўка і тармосяць.

## 949. Пастух і авечкі






Выбіраюць з удзельнікаў гульні ваўка і пастуха. Усе астатнія — авечкі. Авечкі сядзяць кружком на падлозе, трымаюцца за качаргу, якая стаіць у цэнтры. Пастух таксама трымаецца за качаргу вышэй, ён ходзіць вакол сваіх авечак. У куце сядзіць воўк, там яго хлеў.

Пастух пяе ходзячы:

Пасу, пасу авечачкі
Каля быстрай рэчачкі,
Воўк за гарой,
Я за другой.
Я ваўка не баюся,
Качаргой адбаранюся.

Падбягае воўк і кажа:

— Пастух, пастух, твой бацька на таргу быў, табе чаравікі з капелюшом купіў, ідзі дамоў паглядзі.

Пастух не вытрымлівае, ідзе да бацькі:

— Тата, тата, што ты мне купіў?

— Я на таргу не быў, нічога не купіў. Ідзі авечак глядзець, каб воўк не панёс.

У адсутнасць пастуха воўк сапраўды адлучае адну ці дзвюх авечак, вядзе іх сабе ў хлеў.

Зноў паўтараецца песня пастуха.

Прыдумляючы з кожным разам усё больш цікавыя і спакуслівыя рэчы, воўк перацягвае ўсіх авечак сабе. На пасьбішчы застаецца адна качарга. Пастух бярэ яе і ідзе па слядах, прымаўляючы: «Воўчы след — барання кроў», даходзіць да хлява ваўка. Чуе там нейкі шум. Пастух пытаецца ў ваўка:

— Воўк, воўк, ці відзеў ты авечак?

— Не, не відзеў.

— А што ў цябе ў хляве плешчыцца?

— Бабы палатно палошчаць.

У гэты час авечкі пляскаюць у далоні. Пастух адыходзіць ні з чым. Пасля падыходзіць яшчэ раз. Тут воўк пытаецца, якія ў пастуха былі авечкі, і кажа потым, што яны пабеглі рознымі дарожкамі: сівая — сівой, белая — белай, чорная — чорнай і г. д.

Зноў вяртаецца пастух. Ён чуе, як бляюць яго авечкі. Тады воўк кажа, калі ж гэта яго авечкі, хай яны пяройдуць праз «кладку», пройдуць па качарзе, не трымаючыся ні за што. Тыя, што не пяройдуць,— ваўку.

Пастух мусіць прызнацца бацьку, што не ўсіх авечак упасвіў, і той праганяе яго з дому ў лес.

## 950. Воўк

Дзеці садзяцца ў кружок. Нянька ходзіць каля дзяцей і пяе песеньку:

Дзеткі мае, галубяткі,
Нашто я вас карміла,
Нашто я вас паіла:
Ці на серага ваўчышчу,
Ці на белага звярышчу?
Воўк прыйшоў, дзіця ўкраў,
А я, маладзенька, заснула
Над маленькім дзіцёнкам,
Над красненькім яечкам.

Тады воўк: «Гоўк!»

Выходзіць воўк і забірае аднаго за адным усіх дзяцей; нянька паграsevere яму, а потым пералічвае дзяцей:

— Воўча, воўча, ці не бачыў ты маіх авец?

— Якія твае воўцы: чорныя, белыя, сівыя?

— Белыя.

— Пабеглі па белай дарожцы, па чыстаму па сасоннічку.

Украдзены хлопчык пішчыць за печкаю: Ці, ці, ці!

— Што ў вас сіпіць у печы?

— Квас варыцца.

— Дайце мне пакушаць.

— Мыш увалілася: нельга піць.

Украдзены хлопчык: Кы-кы-кы!
— Што ў цябе трашчыць?
— Гарох пражэцца.
— Дай жа мне пакушаць!
— Сух дужа: зубы паламаеш.
Украдзены хлопчык: Ссс...ссс...ссс!
— Што ў цябе варыцца?
— Піва вару.
— Дай мне пакушаць!
— Таракан уваліўся.
— Ці не тут жа мае кытачкі? Кыць, кыць, кыць!
Дзеці выбягаюць да нянькі з крыкам, бягуць і бляюць.

## 951. Авечачка

У гэтую гульню можа гуляць шмат дзяцей. Выбіраюцца дзве галоўных асобы: пастух і воўк. Пастух становіцца пасярод хаты з качаргой у руках, каля яго садзяцца на зямлі авечкі: хлопцы і дзяўчаты, а воўк хаваецца за дзвярамі. Пастух кажа:

Пасу, пасу авечачкі
Ад рання да вечара,
Воўк за гарой, я за другой;
Я ваўка не баюся,
Качарэжкай абаранюся,
Пайду й буду спаць.

Тут пастух адыходзіць убок і робіць выгляд, што спіць; воўк хапае адну з авечак і ўцякае разам з ёй за дзверы.

Пастух, усхапіўшыся, крычыць: «Ага-ту! Воўк авечку панёс!» Але воўк з авечкай ужо за дзвярамі. Пасля гэтага пастух зноў выходзіць на сярэдзіну хаты і кажа тыя самыя словы: «Пасу, пасу авечачкі!» і г. д. Потым ідзе спаць; воўк зноў хапае авечку і так, аж пакуль не забярэ астатняе. Тады пастух ідзе шукаць авечак і, стукаючы качаргой то на адзін бок, то на другі, кажа: «Воўчы след, авечы след, воўчы след, авечы след». Падыходзіць да ваўка і пытаецца:

— Ці не бачыў, панок, маіх авечак?
— Не, не бачыў,— адказвае той.

Авечкі пачынаюць паціху шумацець.

— А што ж гэта ў цябе шумаціць?

— Пчолы гудзяць,— кажа воўк.

Пастух варочаецца назад і ідзе зноў шукаць авечак і задае ваўку тыя самыя пытанні.

Авечкі цяпер стукаюць. Пастух пытаецца:

— Што ў цябе стукае?

Воўк кажа:

— Мае парабкі дровы сякуць.

І гэтак далей авечкі ўдаюць галасы коней, курэй, гусей, аж наастатак пачынаюць бляяць. Пастух убягае ў тую каморку і, прыказваючы: «Ашкіра дамоў!», уганяе іх у хату, дзе на самым пачатку гулялі. Пасля гэтага пастух кліча ваўка ў лазню. Воўк пытаецца:

— А якія дровы?

— Бярозавыя.

— Не хачу, надта чадзяць!

Пастух кліча другі раз; воўк зноў пытаецца:

— Якія дровы?

— Асінавыя.

Воўк адмаўляецца, што надта дымяць. Ажно за трэцім ужо разам, калі пастух кажа, што дровы хваёвыя, воўк згаджаецца, але, падышоўшы крыху, пытаецца яшчэ:

— А сабак няма?

— Адна ёсць сучка ціхая, і тая пад печай здыхае, а сабака кісялём удавіўся.

Воўк выходзіць на сярэдзіну хаты і, прысеўшы на мыскі, быццам мыецца; але пастух як крыкне: «Цюцькі, кусіце!» — дык усе тыя, што былі авечкамі, кідаюцца на яго. Воўк уцякае, яны даганяюць. Пасля падыходзіць да ваўка пастух і пытаецца:

— А што, воўча, надта яны цябе пакусалі?

— Ой, пакусалі,— кажа той.

— Хадзі ж, цяпер будзем мы іх кусаць.

І кідаюцца ўдваіх на авечак. Тыя не даюцца.

## 952. Авечка

Удзельнікі гульні выбіраюць аднаго ваўком, другога гаспадаром. Астатнія ўяўляюць сабою авечак. Яны садзяцца на зямлю ў кружок. Гаспадар ходзіць вакол іх і прыгаварвае:

Іду за гарой,
Воўк за мной!

Або:

Пасу, пасу да вечара,
А гнаць дамоў нечага.

З гэтымі словамі ён робіць выгляд, быццам збіраецца дадому, а ў гэты час воўк хапае авечку і адводзіць яе ўбок. Гаспадар зноў вяртаецца, бачыць, што няма адной авечкі і з пытаннем: «Беленькай ці рабенькай няма?» — абходзіць сваіх авечак, а потым зноў ідзе дадому з ранейшым прыгаворам. Воўк зноў крадзе авечку, так працягваецца да таго часу, пакуль ён не перацягае ўсіх авечак. Тады гаспадар з палкай у руках пачынае шукаць авечак і нападае на іх след. Ён паказвае палкаю налева і гаворыць: «Барані след!», а направа — «Воўчы!». Такім чынам даходзіць да воўка і пытаецца ў яго:

— Воўк, воўк, ці не бачыў маіх авечак?
— Якія яны?
— Беленькія.
— Пабеглі па беленькай дарожцы.

Авечкі пры гэтых словах плешчуць у далоні.

— Што гэта ў цябе плешча?
— Бабы плацце пяруць.
— Дай мне рубашку.
— Усе ўтапіліся ў вадзе.

Гаспадар ідзе прэч, а потым вяртаецца і паўтарае пошукі ранейшым спосабам (паказваючы направа і налева), але размова з ваўком ужо іншая.

— Якія яны былі?
— Чорненькія.
— Пабеглі па чорненькай дарожцы.

Авечкі зноў плешчуць у далоні.

— Што гэта ў цябе плешчыць?
— Вар грэецца.
— Дай мне рукі памыць.
— Разліўся.

Потым, калі гаспадар зноў вяртаецца, паміж ім і ваўком такая размова:

— Воўк, воўк! Ці не бачыў маіх авечак?
— Якія яны?
— Сінія.
— Пабеглі дарожкай сіненькай.
Цяпер раздаецца грукат нагамі.
— Што гэта ў цябе?
— Коні на стайні.
— Дай мне каня.
— Воўк усіх паеў.
Нарэшце, калі гаспадар прыходзіць у апошні раз, усе авечкі забляялі. Гаспадар задае пытанне:
— Што гэта ў цябе бляець?
— Авечкі.
— Пакажы.
Воўк паказвае авечак, гаспадар пазнае сваіх, ён праганяе ваўка і забірае свой статак. Воўк жа стараецца хоць адну авечку забраць, але гэта яму не ўдаецца. Тым гульня і заканчваецца.

## 953. У ваўкі і авечкі

Збіраецца па магчымасці вялікі натоўп дзяцей — хлопчыкаў і дзяўчынак. Яны выбіраюць аднаго ў пастухі, а другога ў ваўка, астатнія ўяўляюць сабою авечак і сабак. Удзельнік гульні, што выбраны на ролю ваўка, дзе-небудзь хаваецца і чакае, пакуль пастух пагоніць у поле сваіх авечак. Як толькі ён заўважыць, што яны ўжо блізка, ён выбягае з свайго сховішча і кідаецца лавіць авечак. Злоўленую авечку ён цягне к сабе. Тады пастух крычыць: «Ага, ага! Цюцькі, бярыце яго!» Пры гэтых словах сабакі, што ідуць за пастухом ззаду, кідаюцца з гаўканнем да ваўка і хватаюць яго зубамі. Воўк пакідае авечку і ўцякае, а сабакі гоняцца за ім, пакуль ён не схаваецца дзе-небудзь.

## 954. У коршуна

Удзельнікі выбіраюць коршуна і матку, потым становяцца за маткаю ў рад, «у пляцёнку», моцна трымаюцца за матку і адзін за другога. Коршун садзіцца на зямлю і калупае трэскай

ямку, а пляцёнка ходзіць вакол коршуна. Матка, якая ідзе папярэдзе «пляцёнкі», звяртаецца да коршуна:

— Коршун, коршун, што ты робіш?
— Ямачку капаю!
— Нашто табе ямачка?
— Каменьчыкі шукаю!
— Нашто табе каменьчыкі?
— Іголачкі істрыць!
— Нашто табе іголачкі?
— Мяшочкі шыць.
— Нашто табе мяшочкі?
— Каменьчыкі сабіраць.
— Нашто табе каменьчыкі?
— Тваім дзеткам зубкі выбіваць.
— За што, пра што?
— За тое, што яны маю бручку, моркву паелі, капусту паламалі, патапталі.
— А ці закладаў ты жалезнай ступай?
— Закладаў.
— Табе трэба было загарадзіць!
— Ды я гарадзіў!
— А якая твая гарожа?

Коршун паднімае адну нагу і з-пад яе кідае ўверх палачку.

— Вось якая мая гарожа!

Матка таксама паднімае адну нагу і з-пад яе кідае камень вышэй коршуна.

— А табе трэба было вось як загарадзіць! Каторы ж гэта табе нарабіў?
— Да яны ўсе!
— Ну, лаві!

Коршун пачынае лавіць апошняга ў пляцёнцы. Пляцёнка падаецца ў бок. Матка з растапыранымі рукамі і крыкам: «Кыш! Кыш!» не падпускае коршуна к канцу пляцёнкі. Хапаць іншага дзіцёнка, не апошняга, коршун не мае права. Нарэшце ад доўгай бегатні ў розныя бакі пляцёнка дзе-небудзь разарвецца, і тады коршун лёгка ловіць сваю здабычу.

Гульня працягваецца, пакуль ад маткі будуць адарваны ўсе дзеці.

## 955. У крука

Гульня ў крука тая ж, што і ў коршуна. Крук сядзіць і калупае зямлю трэсачкай. Матка пытае:

— Крук, крук! Што ты робіш?
— Ямачкі капаю.
— Нашто табе ямачкі?
— Іголачкі збіраць!
— Нашто табе іголачкі?
— Мяшэчкі шыць!
— Нашто табе мяшэчкі?
— Камушкі збіраць!
— Нашто табе камушкі збіраць?
— Тваім дзецям зубы выбіваць!
— За што?
— За тое, штоб не хадзілі ў мае ні ў вішні, ні ў грушы, ні ў боб, ні ў гарох, ні ў мак, ні ў яблыкі, ні ў бульбу, ні ў моркву, ні ў бручку, ні ў рэпу.

Калі крук пачынае лавіць дзяцей, яны крычаць яму:

— Крук, крук, сыр еш!

А ён адказвае:

— Мяса хачу!

Калі ён пераловіць усіх, тады матка і крук садзяцца на зямлю і перацягваюцца на палцы. Пераможанаму дрэнна: усе ўдзельнікі гульні становяцца ў два рады тварам адзін да другога і трымаюць у руках паскі або жгуты (большай часткаю з саломы). Пераможаны павінен прабегчы «скрозь строй» тры разы. Усе б'юць яго жгутамі.

На гэтым гульня канчаецца.

## 956. У ворана

Перад пачаткам гульні выбіраюць, каму быць воранам і каму гусаком. Потым удзельнікі становяцца за гусаком адзін за другім і моцна трымаюцца. Усе стаяць. Воран жа адыходзіць ад гусака на крок, на два, бярэ трэсачку і пачынае капаць ямку. Гусак пытаецца ў ворана:

— Воран, воран, што ты робіш?
— Ямачкі капаю!

— Нашто табе ямачкі?
— Каменейка сабіраць.
— Нашто табе каменейка?
— Іголачкі істрыць?
— Нашто табе іголачкі?
— Мяшэчкі шыць!
— Нашто табе мяшэчкі?
— Каменейка сабіраць!
— Нашто табе каменейка?
— Тваім дзеткам зубкі выбіваць!
— За што, пра што?
— За тое, што яны маю капусту паелі!
— Было гарадзіць!
— Я гарадзіў каменнем, паленнем, карчэўямі, баранкамі, пірагамі, куханамі, цукеркамі.
— Ай, воран, воран: твая лазня гарыць!
— Няхай гарыць, будзем піва варыць!

І кідаецца на гусёнка, які стаіць у канцы пляцёнкі. Гусак не пускае ворана, пляцёнка адбягае ўбок.

Калі ж воран зловіць гусёнка, то падзярэ яго, падзярэ і кіне. Гусёнак павінен ляжаць на зямлі, быццам задраны воранам. Воран жа ловіць такім чынам і другіх.

Калі воран пераловіць усіх, тады гусяняты паднімаюцца і пачынаюць лавіць гусака і караюць яго:

— Чаму ты аддаваў нас ворану?! Чаму аддаваў?!

## 957. Шуляк

Гэту гульню любяць і хлопчыкі, і дзяўчынкі. Пасля вясёлых і працяглых крыкаў: «Хлопцы, граймо ў шуляка!»— дзеці супакойваюцца і выбіраюць са свайго асяроддзя матку і шуляка — звычайна найбольш спрытных з дзяцей. Матка становіцца спераду, а за ёю ў лінію дзеці і моцна трымаюцца за пояс адзін у аднаго. Такім чынам стаяць да пачатку гульні. Тады шуляк садзіцца на кортачкі перад маткаю, капае ямку і гаворыць:

— Капаю, капаю ямачку!
— Нашто табе ямачка?
— Агонь паліці.
— Нашто табе агонь?

— Мяса варыці.
— Нашто табе мяса?
— Дзяцей карміці.
— А дзе ж ты мяса возьмеш?
— У цябе за поясам.
— А я не дам!
— А я вазьму.

І з крыкам: «А я вазьму!» — шуляк кідаецца лавіць апошняга хлопчыка. Матка ж імкнецца не дапусціць гэтага. Прыемна глядзець, як уся гэта чарада кідаецца з боку ў бок і як усе дзеці з напружаннем сочаць за рухамі шуляка. Нарэшце, пасля некалькіх няўдалых спроб яму ўдаецца злавіць апошняга хлопчыка. Злоўлены хлопчык адыходзіць убок і ўжо не ўдзельнічае да канца гульні, а шуляк такім жа чынам стараецца пералавіць усіх.

## 958. Груган

Адзін хлопчык становіцца спераду; таварышы трымаюць адзін другога за пояс, утвараюць доўгую чараду і становяцца за першым. Гэта — курыца з куранятамі. Другі хлопчык — груган — стаіць асобна. Ён падыходзіць да курыцы і гаворыць:

— Капаю, капаю ямачку.
— Нашто табе ямачка?
— Камяшкі збіраць.
— Нашто табе камяшкі?
— Тваім дзеткам зубы выбіваць.
— Нашто ж табе мае дзеткі?
— Мяса пажыраць.

Сказаўшы «грум! мяса хачу!», кідаецца на куранят. Маці адказвае яму: «З'еш жабу на карчу!» — і стараецца адбіць гругана. Уся ўвага гругана накіравана на тое, каб адцягнуць увагу маткі і кінуцца на куранят, якія стаяць за ёю. Маці пільна сочыць за груганом і куранятамі. Кураняты ж павінны быць яшчэ болей пільнымі: яны не павінны адставаць ад маткі, а рухацца ўслед за ёю і назіраць за груганом, каб ўратавацца ад яго нечаканага нападу. Груган робіць хуткія і нечаканыя павароты з аднаго боку ў другі, стараецца адарваць каго-небудзь з доўгай чарады, якая не паспявае за ім паварочвацца так хутка. Адарванае куранё лічыцца з'едзеным і таму болей

не ўдзельнічае ў гульні. Паляванне за куранятамі і барацьба курыцы з груганом працягваюцца да тых часоў, пакуль ён не ўхопіць апошняе кураня. Гэта гульня асабліва цікавая тады, калі начапляецца вялікая чарада дзяцей і калі груган непаваротлівы. Ён выб'ецца з сіл і пакідае гуляць. Цікавасць залежыць таксама ад выбару маткі, якая ўдала кіруе ўсёй чарадой.

## 959. У каршуна

Хлопчыкі і дзяўчынкі бяруцца за рукі і ўтвараюць кола. Адзін з іх — каршун — садзіцца на зямлю ў сярэдзіне кола і пачынае капаць ямку, а астатнія пытаюцца ў яго:

— Каршачок, каршачок! Што ты робіш?
— Ямачку капаю.
— Нашто табе ямачка?
— Каменьчыкі збіраць.
— Нашто табе каменьчыкі?
— Тваім дзеткам зубкі выбіваць.
— За што, пра што?
— А што маю капусту парвалі і пакапалі.
— А трэба было табе, каршачок, высокі агарод гарадзіці.

Пры гэтых словах дзеці праганяюць каршуна ў балота есці жаб і хорам крычаць:

— А ну ў балота, жаб есці!

Пасля гэтага каршун хутка ўстае з зямлі і пачынае ўсіх лавіць. Яны разбягаюцца, але каршун ганяецца за імі, пакуль не пераловіць ўсіх. Заканчваецца гульня тым, што ўсе ўдзельнікі кідаюцца на каршуна, які ўжо ад іх уцякае, і кожны стараецца яго ўшчыпнуць.

## 960. Арол

Выбіраецца з усёй грамады дзяцей большая дзяўчынка маткай птушанят і больш моцны хлопчык арлом — хапаць птушанят. Дзеці становяцца за маткай у рад і трымаюць адзін аднаго рукамі за плечы, а арол становіцца ўбаку. Цяпер матка бярэ кій у рукі і, размахваючы ім на бакі, крычыць: «Акыш, арол! Акыш, арол»,— а арол хапае апошняе птушанё, тузае туды-сюды і адрывае, затым адрывае такім жа спосабам дру-

гое, трэцяе, пакуль не застанецца адна матка. Тады матка хаваецца сярод дзяцей і адтуль крычыць: «Арол, арол, на куку. Арол, арол, на куку». Дзеці ў гэты час хутка становяцца кругом маткі парамі, сцэпліваюць між сабой рукі накрыж, замыкаюць подступы да маткі. Арол, налягаючы грудзьмі і рукамі, рве гэтыя замкі, і, як парве іх, гульня канчаецца.

## 961. Гусі

Удзельнікі гульні вылучаюць двух хлопчыкаў, па магчымасці аднолькавых па ўзросту і сіле. Адзін з іх — воўк, другі — гусак. Усе астатнія з'яўляюцца гусямі, таму гульня мае такую назву. Мэта ваўка ў тым, каб пералавіць усіх гусей. Гусак жа стараецца перашкодзіць гэтаму.

Гусі становяцца адзін за другім і ўтвараюць доўгі рад. Яны хаваюцца за гусака. Воўк капае ямачку. Пачынаюцца перагаворы паміж ваўком і гусаком.

— Што ты робіш?

— Ямачку капаю.

— Нашто яна?

— Гусей лавіць і хаваць.

— Якіх гусей?

— Што ў цябе за плячыма.

— За што?

— У маім агародзе авёс паелі.

— Абгарадзі.

Воўк адказвае: «Я есці хачу!» — і кідаецца на гусей, але гусак абараняе іх. Перамагае той, хто мацнейшы фізічна і больш вёрткі. Калі ваўку не ўдасца схапіць гуся, гусак дазваляе сваім гусям «шчыпаць ваўка». Калі ж ваўку ўдаецца пералавіць усіх гусей, тая ж кара напаткае тады гусака.

## 962. У гусі

Выбіраюць ваўка і матку, усе астатнія — чарада гусей. Гусі бяруцца за матку і адзін за другога ланцужком. Воўк капае ямку. Паміж маткаю і ваўком адбываецца размова:

— Воўк, воўк, нашто табе ямка?

— Гліну даставаць.

— Нашто табе гліна?
— Печ мураваць.
— Нашто табе печ?
— Ваду грэць.
— Нашто табе вада?
— Ножыкі мыць.
— Нашто табе ножыкі?
— Гусей рэзаць.
— Чыіх гусей?
— Тваіх.

Усе бягуць, а воўк павінен злавіць гусака і правесці рукой па шыі. Хто пры гэтым засмяецца, таго ў пекла. А хто не засмяецца, той ідзе ў рай. Калі ўсіх пераловяць, выбіраюць новых ваўка і матку.

## 963. У гусі

Удзельнікі выбіраюць матку і ваўка, потым становяцца парамі ў рад, адна пара за другой. Па ўмовах гульні гэта гусі. Воўк хаваецца, а матка ідзе паперадзе гусей і крычыць:

— А вы, гусачкі, а вы, шэрыя,
Гы-гы-гы-гы!
Дзе ж вы бывалі?
Гы-гы-гы-гы!
Што ж вы відалі?
Гы-гы-гы-гы!

Гусі адказваюць:

— За гарою ў аўсе,
Гы-гы-гы-гы!
А там за гарою
Гы-гы-гы-гы!
Воўк з барадою,
Гы-гы-гы-гы!

Матка потым крычыць:

— А калі ты воўча,
Гы-гы-гы-гы!
Бяры гуску моўча,
Гы-гы-гы-гы!

Воўк выбягае, хапае апошнюю пару і ўцякае з ёю. Матка зноў пачынае спачатку:

— А вы гусачкі, а вы шэрыя...

пакуль воўк перацягае ўсіх гусей.

Тады матка бярэ кій у рукі і ідзе шукаць гусей. Абапіраючыся на палку, яна гаворыць сама з сабою:

— Тут воўчы след, тут гусіны след! Тут воўчы след, тут гусіны след!

І прыходзіць да ваўка.

— Добры дзень табе!

— На здароўе!

— Хазяін, ці не відзеў ты тут маіх гусей?

— А якія твае гусі?

— Шэрыя!

— Э! Пайшлі ж яны па шэрай дарозе.

Матка адыходзіць, а потым зноў ідзе за гусямі.

— Тут воўчы след, тут гусіны след! Тут воўчы след, тут гусіны след!

Цяпер яна называе гусей бялявымі, а воўк адказвае, што гусі пайшлі па бялявай дарозе. У трэці раз матка гаворыць ваўку, што яе гусі белабокія. Воўк адказвае, што яны пайшлі па белабокай дарозе.

Але ў гэты час гусі пачынаюць шыпець па-гусінаму. Матка пытаецца:

— А што гэта ў цябе шыпіць?

— Капуста ў катле!

Тады матка хапае жменямі пясок і сыпле на гусей. Гусі з шыпеннем кідаюцца на яе і пачынаюць яе шчыпаць і паступова ўцякаюць усе ад ваўка.

## 964. У гусі

Усе гусі. Выбіраюць ваўка і матку. Гусі стаяць насупраць маткі, а воўк паміж імі трохі збоку.

Паміж маткай і гусямі дыялог:

— Гусі, гусі!
— Га-га-га.
— Есць хаціце?
— Да-да-да.
— Ну ляціце.
— Нам нельзя.
— Пачаму?
— За гарою шэры воўк.
Не пускае нас дамоў.
— Ну, ляціце, як хаціце,
А к ваўку не падхадзіце.

Гусі бягуць да маткі. Воўк ловіць. Калі зловіць каго, той пераходзіць да ваўка і разам з ім ловіць гусей пасля чаргавага дыялогу. Так працягваецца, пакуль не будуць злоўлены ўсе гусі.

## 965. Гусак
### (Воўк і гусі)

Пастушкі, пабраўшыся за рукі, становяцца ў кола, у сярэдзіне ў коле застаецца воўк і старая гуска. Гусяняты танцуюць наўкола і крычаць: «Дэр! Дэр! Дэр!»

Тым часам воўк са старою гускаю тармосяцца ў коле. Воўк хоча хватаць гусянятак, гуска не дае. Як воўк ухопіць гусяня, гуска мусіць выкупліваць яго (дае яйкі, грушкі, арэхі, хлеб; спявае, танцуе, быдла пераймае ад шкоды).

## 966. У шчуку

Дзеці лічацца і выбіраюць шчуку і матку. Шчука адыходзіць убок, а ўсе становяцца за маткай і моцна трымаюцца за яе і адзін за другога. Шчука кідаецца то ў адзін бок, то ў другі і стараецца схапіць самага задняга з дзяцей. Тыя доўгім хвастом стараюцца ўвільнуць ад шчукі. Гульня працягваецца, пакуль будуць схоплены ўсе, хто стаяў за маткаю.

## 967. Рэдзька

Удзельнікі выбіраюць бабу і дзеда, потым бяруцца адзін за другога (за пояс або так вакол тулава). Баба становіцца ззаду ўсіх, а дзед з кіем у руках ідзе каля гэтага ланцуга, пастуквае кіем і гаворыць:

— Стук, стукоста.

— А хто там?

— Сам пан.

— Чаго нада?

— Прыехалі госці з чужой валосці, зажадалі рэдзькі са млосці.

На гэта баба адказвае:

— Толькі паарана.

Дзед уходзіць, але скора вяртаецца і аднаўляе размову з бабай, прыбаўляючы наступныя словы:

Звалілася паня з печы,
Разбіла грудзі, плечы,
Радзіла сына Мартына,
На колічку пасадзіла,—
Колічак зламіўся,
Сын Мартын зваліўся.

Цяпер баба адказвае: «Паскарожыла».

Дзед зноў ідзе ўздоўж ланцуга, пастуквае палкай і паўтарае: «Стук, стукоста» і г. д., але не дадае апошняга прыгавору. Баба адказвае: «Пасеяна». Калі дзед зноў прыходзіць са сваім пытаннем, баба, нарэшце, адказвае: «Вырасла». А дзед, як быццам устрывожаны, крычыць раптам:

— Баба, баба! Свінні ў гародзе!

— Ну, дык выгані,— гаворыць баба,— і рэдчыну вырый.

Дзед робіць выгляд, быццам выганяе палкаю свіней, а потым рве рэдчыну, г. зн. першага, хто стаіць у ланцужку, і адводзіць яго ўбок. Потым прыкладае палку бліжэй к губам, робіць выгляд, быццам спрабуе рэдзьку, і перадае другім, гаворачы: «Паспытайце! Салодкая?» Усе па чарзе каштуюць і выплёўваюць: «Горка!» Затым дзед зноў звяртаецца да бабы:

— Баба, баба! Проша ў лазню!

— Сабак баюся.

Сабакі, г. зн. былыя рэдчыны, бяруцца папарна за рукі, спераду іх дзед кладзе палку і гаворыць:

— Я сабак замкнуў, калодай прываліў і па баранку даў.

Баба супакойваецца і пытае:

— Якая твая лазня?

— Дзеравянная.

— Якая твая печка?

— Каменная.

— Які твой палок?

— Жалезны.

— Я спякуся.

— Я саломкі падсцялю і вадзіцы налью.

— Які твой дух?

— Малінавы.

— Які твой венік?

— Шаўковы.

— Якая твая кавашка?

— Медзяная.

— Я руку папяку.

— Я анучкай абярну.

Пасля такіх перагавораў баба ідзе ў лазню. Сабакі вырываюцца, кідаюцца на бабу і рвуць яе. Яна адбіваецца ад іх скручаным поясам або папругаю і ўцякае, пакінуўшы свае рэчы. Гаспадар праганяе сабак, ідзе да бабы і гаворыць:

— Гэй, баба, баба! Платок забылася.

— Я сабак баюся.

і г. д.

Нарэшце яна ідзе ў лазню, а там замест хусткі і іншых рэчаў накіданы палачкі. Баба хапае палачку, пагражае сабакам, тыя кідаюцца да яе і рвуць. Потым яна зноў ідзе ў лазню за абуткам і іншымі рэчамі, пакуль іх не забярэ ўсе — і гісторыя з сабакамі паўтараецца кожны раз. Тым гульня і канчаецца.

## 968. У рэдзьку

Збіраецца шмат дзяцей, і перш за ўсё выбіраюць матку. Потым усе садзяцца ў рад адзін другому на ногі і трымаюцца адзін за другога рукамі. Калі ўсе пасядуць, матка бярэ чапялу або кіёк і аблятае на ім тры разы вакол усіх, хто сядзіць, потым стукае ў зямлю і крычыць:

— Стуку-груку пад вакно!
— Хто там?
— Сам пан.
— Чаго?
— Паня сына радзіла, на стаўпе пасадзіла. Сын зваліўся, на барану прабіўся. Сама здыхаець, рэдзькі жадаець. Ці вяліка ваша рэдзька?
— Яшчэ толькі пааралі!
Аб'ехаўшы яшчэ тры разы вакол сядзячых, матка зноў крыкне:
— Стуку-груку пад вакно і г. д.
Ей адказваюць, што рэдзьку толькі паскародзілі. У трэці раз: рэдзьку пасеялі. Потым рэдзька ўзышла. Рэдзька па курынай галаве. Па казінай галаве. Па конскай галаве. Па таўкачу. Па ступе.
— Стуку-груку пад вакно!
— Хто там?
— Сам пан.
— Чаго?
— Паня сына радзіла, на стаўпе пасадзіла. Сын зваліўся, на барану прабіўся. Сама здыхаець, рэдзькі жадаець. Ці вяліка ваша рэдзька?
— А ўжо яна паспела!
— Кума, кума, свінні ў гародзе!
— Выгань, кумок!
— А-юса! а-юс! А ці можна мне рэдчыну паспытаць?
— Можна, кумок!
Матка падыходзіць к кожнаму і зубамі грызе за галаву. Потым пытае:
— А ці можна мне трохі рэдзькі вырваць?
— Вырві, кумок!
Матка пачынае вырываць з рук таго іграка, які сядзіць апошнім, затым наступнага і г. д. Калі павырывае ўсіх, сама ўцякае. Яе даганяюць і караюць.

## 969. У дзеда і бабу

Ігракі выбіраюць дзеда і бабу. Дзед садзіцца вярхом на палку, а баба з сваімі дзецьмі садзіцца на падлогу так, што баба

ззаду, а дзеці наперадзе ў адзін рад, і ўсе моцна трымаюць адзін аднаго падпахі. Дзед пачынае аб'язджаць сядзячых з песняй:

Еду, еду кала дзеда,
Еду, еду кала бабы,
Кала бабы, кала старэнькай!

Заязджае наперад, прыпыняецца і, стукаючы палкай, пытае:

— Ці ёсць хазяін у двары?
— А што табе?
— Свінні ў гародзе!
— Ну, выгань, кумок!
— А ці пазволіце там рэпінку вырваць?
— Да рві сабе, толькі выгань!

Тады дзед б'е ціхенька палкай па галаве хлопчыка, што сядзіць першым, і гаворыць:

— Юс вон! юс вон! Мне пакіньце хоць адну!

Потым кідае палку, хапае першага за рукі і цягне к сабе. Другія яго не пускаюць. Калі дзед вырве ўсё ж гэту «рэпінку», ён садзіць яе асобна, а сам зноў пачынае аб'язджаць сядзячых з той жа песняй. Яго пасылаюць выгнаць свіней з агароду.

— А ці пазволіце там рэпінку вырваць?
— А дзе ж ты тую падзеў?
— А вот, як ехаў я цераз масток, чорт ухваціў маю кабылку за хвасток, тады я яму рэпіну і кінуў!
— Ну, вырві сабе!

Дзед пачынае цягнуць другога хлопчыка і калі не зможа, то кліча на дапамогу таго, якога выцягнуў раней, і разам выцягваюць другую «рэпінку». Так працягваецца гульня не толькі да таго часу, пакуль дзед перацягне ўсіх удзельнікаў, але і пакуль усе пабудуць у ролях дзеда і бабы.

## 970. У рэдзьку

Для гэтай гульні чым больш дзяцей, тым лепей. Могуць удзельнічаць да трыццаці чалавек. Перш за ўсё з удзельнікаў выбіраецца матка. Потым адзін хлопчык садзіцца на зямлю, другі садзіцца ў яго паміж кален, у гэтага наступны і г. д., і ўсе трымаюцца адзін за другога рукамі. Матка, узяўшы палку, бегае

на ёй верхам вакол гэтага шэрагу дзяцей — стана — і гаворыць:

— Дзілінь-дзілінь! Прасіла пані рэдзькі!

А тыя адказваюць ёй:

— А шчэ толькі пасадзілі!

Тады матка зноў пытае:

— Дзілінь-дзілінь! Прасіла паня рэдзькі!

Дзеці адказваюць:

— Шчэ толькі ўзышла!

Потым на просьбы маткі гавораць:

— Толькі яшчэ паскародзілі!

— Яшчэ не паспела.

Нарэшце, на пятую просьбу гавораць:

— Вырві сабе адну!

Тады матка пачынае вырываць з раду крайняга хлопчыка, таго, які садзіўся апошнім. Таварышы моцна трымаюцца адзін за другога, і матцы вельмі цяжка вырваць сабе рэдзьку з стану. Вырваўшы рэдзьку, матка адводзіць яе ўбок і зноў прыязджае да стану.

— Дзілінь-дзілінь! Прасіла паня рэдзькі!

— А дзе тую падзела?

— А ехала цераз масцішча, сустрэла ваўчышча, узяла да й кінула!

— Ну, вырві сабе адну.

Так гульня паўтараецца да таго часу, пакуль на стану застанецца адзін хлопчык, той, што садзіўся першым.

## 971. У рэпку

У гульні ўдзельнічаюць восем хлопцаў ці дзяўчат. Усе садзяцца на зямлі адзін другому паміж ног. Старэйшы садзіцца з краю і называецца маткаю. Адзін з удзельнікаў гульні бярэ кій паміж ног і аб'язджае навокал сядзячых, гаворачы:

Ехаў Ясь кала ляс,
Вёз пас пасрэбраны,
А мосце гругу-стуку! Груку-стуку!

Сказаўшы гэта, становіцца і стукае кіем у зямлю. Потым зноў кажа:

Упала баба з печы
І пабіла плечы.
Нарадзіла сына Марціна,
Зажадала рэдзькі.
Ці пазволіце капаць?

А маці кажа:

— Э, яшчэ ў нас не сеяна!

За другім разам, як пытаецца, адказвае: «Яшчэ не баранавана», потым «Не паўсходзіла», «Не паспела», аж нарэшце кажа: «Можна».

Хто сядзіць з краю, бярэцца за кій, і яго стараецца выцягнуць гулец, які прасіў рэдзьку. Так ён выцягвае ўсіх. Але як прыйдзецца цягнуць матку, то часамі перацягнуць не дасць рады, бо яна большая за яго. Тады ён кажа:

— Шчыкайце яе!

Усе пачнуць шчыкаць (шчыпаць) матку, чыста заскубуць яе, і мусіць яна сама ўставаць.

Тады на кію гулец едзе, потым зноў прыязджае і кажа да іх:

— Прасіла наша дзядзіна на вяселле!

А яны:

— Э-э, калі вашы сабакі вельмі ліхія.

— Далі па булцы хлеба і пазачынялі ў хлеў. Ідзем!

Ідуць, ідуць, а потым самі з сабою як стануць гыркацца, рвацца, так рвуцца доўга. На тым і канец.

## 972. Рэдзька

Удзельнікі гульні садзяцца ўздоўж хаты на зямлю, трымаючы адзін другога каленямі. Атрымліваецца адзін нераздзельны рад. Калі ўсе зоймуць свае месцы, адзін з удзельнікаў, каму лёс выпадзе быць дваранінам, абыходзіць рад і пастуквае кіем, які трымае дзвюма рукамі. Паміж дваранінам і адным з тых, што сядзяць, завязваецца размова:

— А хто там?

— Дваранін.

— А чаго?

— Упала пані з печы і пабіла плечы, нарадзіла сына Максіма і зажадала рэдзькі.

— Яшчэ рэдзька ледзь зачынае ўзыходзіць,— у адзін голас крычаць усе гульцы.

Атрымаўшы такі адказ, дваранін выходзіць на хвілінку, але і за другім разам яго тое ж спатыкае.

За трэцім разам зноў адбываецца тая ж размова, але ўжо нехта крычыць і іншае:

— Вырві сабе з канца, толькі не сарві каранца!

Тады дваранін падыходзіць да аднаго з удзельнікаў, што сядзіць з краю, і цягне яго, каб падняць. Але ўсе моцна трымаюць яго, не даючы вырваць з раду. Пасля дарэмных намаганняў уся грамада зрываецца з месца, абкружае двараніна і, ухваціўшы яго як хто можа, цягне да пані (выбраная раней дзяўчынка, якая сядзіць асобна). Прывёўшы двараніна, усе крычаць:

— Што гэта будзе! Пані такога дурнога чалавека прыслала! Ён не ўмее рэдзькі капаць! Цэлы загон нам змарнаваў.

Каб кампенсаваць страту, пані дае ад імя слугі якія-небудзь шкарлупкі або фант, які ён павінен выкупіць пасля заканчэння гульні.

## 973. Рэдзька

Дзеці садзяцца так, што кожны змяшчаецца паміж ног таварыша, чым утвараюць выгляд моцна ўкаранёнай рэдзькі і абдымаюць адзін другога рукамі. Да іх падыходзіць хлопчык і гаворыць:

— Стук, стук у ваконца!

— А хто там?

— Я сам пан.

— А чаго?

— Прыехала паня з вяселля, зажадала рэдзькі з пахмелля.

— Яшчэ не сеяна.

На другое пытанне яму адказваюць, што яшчэ не палолі, потым што рэдзька яшчэ па «пупёлачку» (маленькая завязь) і, нарэшце, дазваляюць вырваць спелую рэдзьку. Хлопчык пачынае за рукі выцягваць сваіх таварышаў.

## 974. У рэпу

Выбіраюцца матка і пан. Матка садзіцца на зямлю, перад ёю садзіцца адзін гулец, перад ім наступны і г. д. да апошняга.

Усе яны моцна трымаюць адзін другога, абхапіўшы рукамі падпахамі. Прыходзіць пан і кажа:

— Матка, матка, свінні ў рэпе!

— Ідзі выгань!

— А дазволіш рэпку вырваць?

— Вырві, толькі з карэньчыкам!

Пан бярэ за рукі пярэдняга хлопчыка і стараецца яго вырваць з рук наступнага. Вырваўшы, ён зноў ідзе да маткі і гаворыць, што свінні ў рэпе і г. д.

Так ён вырывае ўсіх. Калі застанецца адна матка, яе паднімаюць на рукі ўсе ўдзельнікі гульні і нясуць.

## 975. Слепа бабулечка




Усе дзеці ходзяць па кругу. Выбіраецца слепа бабулечка. Ей завязваюць вочы. Яна ходзіць у сярэдзіне круга. Усе пяюць:

Наша слепа бабулечка
Па вошчупу ходзіць,
Шукае каго-небудзь,
Хто яе асвабодзіць.
Бабулечка, хадзі бліжэй,
Усе цябе просяць.
Даткні каго, угадай, хто ён,
А мы асвабодзім.

Яна падыходзіць да каго-небудзь, датыкаецца, адгадвае, хто гэта. Калі адгадае, той становіцца слепай бабулечкай.

31. Зак. 18

## 976. Маша

Усе становяцца ў круг, пасярэдзіне Маша з завязанымі вачыма. Усе прыгаварваюць:

Маша, ты пацеша наша,
Ручкі зладжы, на імя ўкажы.

Маша хапае каго-небудзь з круга і павінна адгадаць, хто гэта. Калі адгадае, той становіцца Машай. Гульня паўтараецца.

## 977. Адгадай хто?

Аднаму ўдзельніку гульні завязваюць хустачкай вочы, хуценька кружаць яго, потым нехта лёгенька б'е яго па плячах. Жмурка павінен адгадаць, хто яго выцяў. Калі адгадае, яны мяняюцца ролямі. У адваротным выпадку ён выконвае сваю ролю, пакуль не адгадае.

## 978. Сляпы музыка

Усе дзеці становяцца ўкола, а аднаму завязваюць вочы і даюць у рукі палачку. Пасля ўсе пачынаюць, узяўшыся за рукі, круціцца вакол сляпога музыкі, а ён датыкаецца да каго-небудзь палачкай і той падае голас: пісне ці загудзіць, стараючыся, каб музыка не ўгадаў, хто ён. Калі музыка ўгадае, хто падаў голас, то той ідзе ў сярэдзіну кола замест музыкі. Усё пачынаецца спачатку.

## 979. У сляпца

У час пасьбы коней пастушкі збіраюцца разам і лічацца, каму быць сляпцом. Сляпцу завязваюць вочы, выводзяць яго на чыстае месца і ставяць на карачкі. Потым кожны падыходзіць да сляпца і кідае з-пад яго сваю шапку — усе ў адным напрамку. Калі ўсе шапкі будуць кінуты, тады сляпец з завязанымі вачамі поўзае і шукае іх. Як толькі ён ухопіць якую-небудзь шапку, то паднімаецца, развязвае вочы і ўцякае. Гаспадар шапкі гоніцца за ім і адбірае сваю шапку. Калі ж яму гэта не ўдаецца, ён сам становіцца сляпцом.

## 980. У жутку

Удзельнікі гульні перш за ўсё выбіраюць сабе бабу. Баба садзіцца на лаўку і кліча да сябе каго-небудзь. Той нахіляецца тварам у калені бабы, а яна накрывае чым-небудзь яго галаву. Тады ўсе падыходзяць па аднаму і злёгку б'юць яго жгутом. Калі ўсе падыйдуць, баба адкрывае яму галаву і пытае, хто біў першы. Калі ён не адгадвае і пакажа на іншага, усе крычаць:

— Мышку з'еў! Мышку з'еў!

І зноў накрываюць яму галаву і трымаюць да таго, пакуль адгадае, хто выцяў першым.

Тады накрываюць галаву і таму хлопчыку, які біў першым, і гульня працягваецца.

Біць накрытага мае права і баба, і калі накрыты не пазнае, што гэта яна, то яму крычаць:

— Старая баба на соль узяла!

Баба не мяняецца да канца гульні. Яе выбіраюць з большых хлопчыкаў, яна павінна пацвердзіць, хто біў першым.

## 981. Ляскаўкі

Адзін гулец садзіцца і кладзе на свае калені чыстую хустку. Другі гулец кладзе свой твар на паложаную хустку, каб нікога не бачыць, і на спіну кладзе руку далонню ўгару. Гульцы, што стаяць навакол, б'юць па гэтай далоні сваімі далонямі па чарзе. Пасля кожнага ўдару той, каго б'юць, паднімае галаву і адгадвае, хто ўдарыў. Калі не згадае, зноў кладзе галаву ў хустку, а калі згадае, дык згаданы становіцца на яго месца.

## 982. Гарбуз гнілы

У гэтай гульні ўсе дзеці дзеляцца на пары: хлопец і дзяўчынка. Хлопчыкі выходзяць за дзверы і чакаюць там, пакуль дзяўчынкі, што засталіся ў хаце, выберуць кожная сабе да пары аднаго з выйшаўшых хлапцоў. Якая-небудзь дзяўчынка абыходзіць усіх і пытаецца, хто каго сабе выбраў да пары, і сама кажа, каго яна сабе выбрала; пасля кліча тых, хто за дзвярыма, каб ішлі па чарзе адгадваць сваю пару.

Першы хлопец прыходзіць, падыходзіць да тае, якая, як яму здаецца, яго выбрала. Калі ён адгадаў, то застаецца тут, а калі не, то яму крычаць усе: «Гарбуз гнілы!» — і ён ідзе зноў за дзверы, а адгадвацъ ідзе наступны. Так гуляюць далей, пакуль кожны не адгадае свае пары. Пасля йдуць за дзверы дзяўчаты. Гульня пачынаецца спачатку, толькі цяпер адгадваюць сваю пару дзяўчынкі.

## 983. Почта

Кожны з гуляючых выбірае сабе назву горада ці вёскі, і ўсе становяцца ўкола, не трымаючыся за рукі. Аднаму з гуляючых завязваюць вочы, ён выходзць на сярэдзіну кола і называе два гарады, якія павінны змяніцца месцамі, ступаючы ціха, каб той, хто ловіць, не чуў, дзе яны перабягаюць, і не злавіў іх. Калі ён зловіць аднаго з перабягаючых, то становіцца на яго месца, а злоўленаму завязваюць вочы, і ён становіцца пасярэдзіне кола. Усё пачынаецца спачатку.

## 984. У сяло

Удзельнікі гульні выбіраюць гаспадара, анёла і чорта. Потым анёл і чорт ідуць убок, а гаспадар дае ўсім назвы якіх-небудзь вёсак, населеных пунктаў. Падыходзіць чорт.

— Бум-бум!
— Хто ідзе?
— Сам чорт!
— За чым?
— За сялом!
— За якім?
— За такім і такім!

Называе пэўную назву. Калі сярод ігракоў ёсць з такой назвай, ён замяняе чорта, а чорт садзіцца на яго месца. Калі ж чорт не адгадае, тады падыходзіць анёл і звоніць.

— Дзінь-дзінь!
— Хто ідзе?
— Анёл!
— За чым?
— За сялом

і г. д.

## 985. Неба

Для гэтай гульні выбіраецца месца каля якой-небудзь будыніны. Палкаю на зямлі абводзіцца палавіна круга. Месца ў ім называецца небам. Перад пачаткам гульні выбіраюцца анёл і чорт, які інакш называецца Джынджылаем. Астатнія дзеці садзяцца ў рад. Кожнаму ўдзельніку анёл дае назву якой-небудзь птушкі. Пасля гэтага анёл становіцца на лінію паўкруга, да яго падыходзіць чорт, стукае кулаком у плечы і гаворыць:

— Стук, стук!
— А хто там?
— Джынджылай.
— Чаго патрабуеш?
— Птаства.
— Якога?
— Сароку (або якую іншую птушку).

Калі названай птушкі няма, то анёл так і адказвае. Калі ж ёсць, то птушка ўцякае, а чорт стараецца злавіць яе. Птушкі, якіх зловіць чорт, яму і належаць, нязлоўленыя належаць анёлу. Кожная названая птушка не ўдзельнічае да канца гульні, г. зн. да таго часу, пакуль усе будуць вызваны. Гульня заканчваецца так: за анёла і чорта ззаду бяруцца птушкі, якія да іх адышлі ў час гульні.

Паміж анёлам і чортам кладзецца некалькі паленцаў, якія абазначаюць агонь. Праз гэты агонь анёл з чортам імкнуцца, пры дапамозе іншых дзяцей, перацягнуць адзін другога. Калі анёл перацягне, то ўсе гоняцца за чортам, а калі чорт перацягне, усе нападаюць на анёла, чаму ён дазволіў гэта. Пры гэтым хлопчыкі стараюцца, каб перамог анёл.

## 986. У краскі

Удзельнікі гульні выбіраюць анёла, чорта і матку. Анёл і чорт адыходзяць, а матка садзіць дзяцей у рад і дае ім назвы розных красак. Тады падыходзіць анёл і стукае:

— Стук! стук!
— Хто там?
— Анёл!

— Чаго ты?
— За краскай!
— За якой?
— За рамонкай!

Калі сярод гульцоў ёсць такая кветка, той устае і ідзе да анёла, а калі няма, анёл ідзе адзін.

Тады падходзіць чорт.
— Стук! стук!
— Хто там?
— Чорт!
— Чаго?
— За краскай!
— За якой?
— За розай.

Так гуляюць, пакуль не адгадаюць усіх удзельнікаў.

Тады матка кладзе доўгую палку і прымушае прайсці па ёй чорта і анёла, а потым і ўсе краскі. Якая пройдзе палку, тая анёлава краска, што паслізнецца — чортава.

Часам даюць назвы не толькі кветак, але жывёл, птушак, насякомых. У некаторых месцах дзеці анёла і чорта перацягваюцца на палцы. І тады слабейшага гоняць праз строй.

## 987. У вугалькі

Матка аддае вугольчык удзельнікам гульні, а чорт адгадвае, каму вугольчык аддала матка. Калі адгадае, бярэ таго хлопчыка ці дзяўчынку сабе, а не — той застанецца з маткаю. Калі з маткаю застанецца толькі адзін удзельнік, матка гаворыць: «Адгадай, ці ў маткі, ці ў дзіцяткі?» А калі яна застанецца адна, яна бярэ два вугалькі: адзін вялікі, які называецца маткаю, другі меншы, які называецца дзіцяткам. Матка бярэ адзін у правую руку, другі ў левую — і пытаецца ў чорта: «Дзе матка, дзе дзіцятка?»

Пасля чорт і матка садзяцца на зямлю і ўпіраюцца нагамі адзін у аднаго. Бяруць у рукі палку і перацягваюць адзін другога да трох разоў. Часта ў гэтым перацягванні ўдзельнічаюць дзеці маткі і чарцяняты. Пераможца ставіць сваіх дзяцей у два рады; яны бяруць у рукі якую-небудзь анучу або ручнік, пояс, шапку або вяроўку, а пераможаныя павінны тры разы прабегчы паміж радоў пераможцаў, якія б'юць іх вяроўкамі, шапкамі і г. д.

## 988. У вугалькі

Для гэтай гульні выбіраюцца чорт і матка. Дзеці садзяцца ў рад, чорт становіцца да іх спіною на некаторай адлегласці, а матка ў гэты час хавае вугалёк. Гульня працягваецца да тых пор, пакуль усе дзеці будуць адгаданы. Тады матка ідзе лазню тапіць. Насыпле з дзецьмі невялікі курганчык з пяску, паставіць дзяцей у абмаляваны круг і ідзе клікаць чорта ў лазню:

— Чорт, чорт, хадзі ў лазню парыцца!

— Не пайду я: я тваіх сабак баюся!

— Мае сабакі на замках!

Чорт ідзе глядзець сабак, а яны ўсе ў кругу. Тады ён ідзе ў лазню і кладзецца на пясчаны курганчык. Матка выпускае сабак з круга; яны кідаюцца на чорта і праганяюць яго з лазні.

## 989. Вугалькі

Дзеці выбіраюць сабе матку і чорта. Усе садзяцца ў рад, а матка абыходзіць усіх і кажа кожнаму: «На табе»,— а вугалёк дае абы-каму. Чорт адгадвае, каму матка дала вугалёк. Калі чорт адгадае, у каго вугалёк, то бярэ яго сабе, калі не, то той застаецца матчыным. Далей матка ізноў раздае вугалёк, а чорт адгадвае. Калі сядзець застанецца толькі адзін, матка пытаецца чорта: «Адгадай, ці ў маткі, ці ў дзіцяткі!» Пасля бяруць пояс ці палку і з аднаго боку за палку бяруцца матка з дзецьмі, а з другога — чорт з сваімі дзецьмі і перацягваюцца. Чый бок перацягне, таго верх.

## 990. У чорта і матку

Дзеці выбіраюць сабе матку і чорта. Для гэтага звычайна мераюцца на палцы, абхватваючы яе па чарзе рукамі. Чыя рука прыйдзецца на верхні канец палкі — той матка, чыя рука ў самым нізе — той чорт. Затым астатнія ўдзельнікі гульні садзяцца адзін каля другога ў рад і кладуць рукі на калені з раскрытымі далонямі. Чорт адыходзіць убок і становіцца спіною да ўсіх ігра-

коў. Матка бярэ вугаль, абыходзіць рад і ў гэты час кладзе яго ў рукі каму-небудзь. Тады ўсе ўдзельнікі гульні закрываюць далоні, а матка гаворыць чорту:

Чорт, чорт, хадзі на дзіва,
На салодкае піва!

Чорт падыходзіць і па тварах дзяцей і іх руках стараецца адгадаць, у каго вугаль. Калі не адгадае, яго праганяюць, і матка перахоўвае вугалёк. Калі ж чорт адгадае, то ўладальнік вугалька становіцца чарцёнкам і выходзіць з раду. Потым чорт зноў адыходзіць, а матка зноў хавае вугалёк і заве чорта адгадваць. Так гульня працягваецца, пакуль чорт не выбярэ сабе палавіну дзяцей. Тады бяруць палку, і дзеці маткі хапаюцца за яе з аднаго боку, а чарцяняты — з другога і перацягваюцца. Калі перацягне партыя маткі, то ўсе ўдзельнікі будуць «маткіны дзеці», у адваротным выпадку ўсе стануць «чортавымі дзецьмі».

## 991. Золата

Дзеці і нават дарослыя хлопцы і дзяўчаты часта гуляюць у гэту гульню, сабраўшыся дзе-небудзь у хаце, а ў цёплы час — на двары ў каго-небудзь, часцей за ўсё ў святочныя дні.

Адна або адзін з удзельнікаў гульні бярэ пярсцёнак, так званае золата, падыходзіць да кожнага з сядзячых, стараецца нябачна пакласці яго каму-небудзь у рукі. Пры гэтым гаворыць: «З куту іду, золата нясу, угадайце, баяры, дзе золата ўпала? — На куце ў паліцы, у красным, у ясным, у няшчасным», а хто-небудзь з удзельнікаў гульні адгадвае, каму пакладзена золата. Калі не адгадае, усе над ім пачынаюць смяяцца, і, акрамя таго, ён выконвае гэты абавязак да тых часоў, пакуль не адгадае, дзе схавана золата. Пасля кожнай няўдачы ў адгадванні пярсцёнак перахоўваецца, у іншых выпадках пярсцёнак (золата) перадаецца ўгадчыку, які і далей раздае пярсцёнак. Па жаданню ўдзельнікаў гульні названыя асобы могуць быць заменены новымі.

## 992. У золата

Усе дзеці садзяцца ў рад. Адзін гулец дзеліць золата, непрыкметна хаваючы яго ў руках каго-небудзь. Потым гэты вядучы адыходзіць і крычыць:

— Золата, ка мне!

Той, у каго схавана золата, павінен ускочыць і бегчы да вядучага. Але ўсе пільна сочаць кожны за сваім суседам і стараюцца затрымаць гульца з золатам. Калі яму не ўдаецца выскачыць з раду, гульня пачынаецца спачатку, кожны застаецца на сваім месцы. Калі ж гульцу з золатам удаецца вырвацца, ён становіцца вядучым, а вядучы займае яго месца. Гульня працягваецца,

## 993. У Мазаля

З удзельнікаў гульні выбіраюць Мазаля. Усе астатнія ўдзельнікі адыходзяць ад Мазаля і згаворваюцца, што будуць яму паказваць. Пасля ідуць да Мазаля і гавораць:

— Здраствуй, дзедушка Мазоль,
З даўгай белай барадой,
З карымі глазамі,
З белымі вусамі.

Мазоль у адказ:

— Здраствуйце, дзеткі,
Дзе вы былі,
Што рабілі?
— Дзе мы былі, вам не скажам,
Што рабілі — мы пакажам.

Усе робяць пэўныя рухі, кожны сваё, аб чым згаварыліся раней. Каго дзед Мазоль адгадае, той уцякае, дзед яго ловіць. Каго зловіць, той становіцца Мазалём. Гульня пачынаецца спачатку.

## 994. Князь-князевіч

Выбіраецца князь. Князь садзіцца і чакае дзетак. Дзеці, адышоўшы ўбок, згаворваюцца паміж сабой, што будуць рабіць, напрыклад, згаворваюцца ягады збіраць, ці чытаць, ці пісаць і інш.

Тады яны ідуць да князя і кажуць:

— Добры дзень, князь-князевіч!

Князь адказвае:

— Добры дзень, мілыя дзеткі! Дзе вы былі?

Дзеці адказваюць:

— У лясу! — і пачынаюць паказваць, што яны згаварыліся рабіць.

Дзеці паказваюць, а князь павінен адгадаць. Калі адгадае, дзеці ад яго ўцякаюць, а ён ловіць іх. Каго зловіць, той робіцца князем, а ранейшы князь ідзе к дзецям. Гульня пачынаецца спачатку.

## 995. Курнаціца




У хаце ці на дварэ дзеці становяцца адзін за адным у рад. Хто стане наперадзе, той лічыцца правадыром. Ён бярэ ў адну руку кій, а ў другую — скручаны шалік ці жгут з хустачак. Кожны гулец у радзе трымаецца абедзвюма рукамі за вопратку папярэдняга гульца. Рад дробным крокам пасоўваецца наперад і спявае.

Вышы, ніжы, Курнаціца,
Набок шапка-вушаціца.

Тады правадыр крычыць: «Шапку набок!» — і паварочвае сваю шапку набок. На гэты загад хлопцы, гледзячы на правадыра, паварочваюць свае шапкі набок, а дзяўчаты хусткі. Хто не паслухае, правадыр падыходзіць да яго і б'е жгутом па

плячах. Выконваць загад павінны ўсе дзеці, як салдаты, усе разам так дакладна, як правадыр сам паказвае. Пасля гэтага па знаку правадыра рад пасоўваецца далей наперад з той жа самай прыпеўкай, у канцы якой правадыр ізноў крычыць: «Кулак угару!» або: «Рукі ў бок!», «На бок легчы», «Язык высунуць!» і г. д.

Правадыр паварочвае часам увесь рад у паўкола, каб лепш бачыць, як хто выконвае яго загады.

## 996. Гусі ляцяць

Калі маленькія дзеці застаюцца дома з падлеткам, іх забаўляюць такою гульнёю: усе ставяць указальныя пальцы на стол, у адно месца. Тады старшы кажа:

— Гусі ляцяць! —

і паднімае руку ўверх, паказваючы, як гусі ляцяць.

Дзеці адказваюць: «Ляцяць!» — і таксама паднімаюць рукі.

— Вуткі ляцяць!

— Ляцяць!

— Вераб'і ляцяць!

— Ляцяць!

— Мухі ляцяць!

— Ляцяць!

— Шчупакі ляцяць!

Захапіўшыся, дзеці часта адказваюць:

— Ляцяць! —

і паднімаюць рукі.

Старшы б'е іх па руках і крычыць:

— Не ляцяць, не ляцяць!

Потым зноў спачатку:

— Гусі ляцяць! Вароны ляцяць! Сарокі ляцяць! Каровы ляцяць!

Але навучаныя вопытам дзеці ўжо не паднімаюць на карову рук і маўчаць. Тады зноў:

— Гусі ляцяць! Лебедзі ляцяць! Салаўі ляцяць! Дубы ляцяць! і г. д.

Гэты своеасаблівы ўрок прыродазнаўства канчаецца тады, калі ўвага малых стамляецца і яны пачынаюць абы-калі паднімаць рукі.

## 997. Зелена

Усе становяцца ў круг, бяруцца за рукі і гавораць:

Зелена, зелена, гоп,
Царыца зелена,
Абярніся, Маруся, ты.

Пры слове «гоп» прысядаюць. Маруся пасля апошніх слоў паварочваецца спіной у круг. Так прыгаворваюць кожнаму. Гульня працягваецца, пакуль усе не павернуцца спіною да цэнтра круга.

## 998. Явар

Allegretto

—Я - вар, я - ва - ра - вы лю - дзі, што вы тут ра -
- бі - лі? —Мы ра - бі - лі мос - та на па - на ста -
- рос - та, це - шыч - ка - мі за - пус - ка - лі, ад - на - го нам
ас - таў - ля - лі. Пер - ша ка - пус - та, дру - га рас -
- пус - та. Пер - ша ма - ля - ва - на, дру - га за - тры - ма - на.

Збіраюцца дзеці 8—11 год гуртом, выбіраюць дваіх «на вароты». Усе бяруцца за рукі, як у карагодзе, і ходзяць васьмёркай, паднімаючы рукі ўгару, каб можна было прайсці. Пры гэтым спяваюць:

Явар, яваравы людзі,
Што вы тут рабілі?
— Мы рабілі моста
На пана староста,

Цешычкамі запускалі,
Аднаго нам астаўлялі.
Перша капуста,
Друга распуста.
Перша малявана,
Друга затрымана.

На слове «затрымана» запыняюць апошняга і пытаюцца: «Ты куды ідзеш — управа ці ўлева?» (або на выбор два розныя колеры, два дрэвы і г. д.). Затрыманы ў залежнасці ад адказу становіцца за тым ці іншым на варотах. Потым дзве групы, якія атрымліваюцца ў выніку апытання, мераюцца сілаю. На гэтым гульня канчаецца.

### 999. Залатыя варата

З усіх удзельнікаў гульні выбіраюць дваіх, якія бяруцца за рукі, паднімаюць іх угару, утвараючы вароты. Папярэдне двое на варотах згаворваюцца, хто кім будзе (вішня — яблыня, рамонка — васілёк, дуб — бяроза і г. д.). Усе, пабраўшыся за рукі, ланцужком праходзяць праз вароты і пяюць:

Залатыя варата,
Прахадзіце, гаспада.
Першы май прайшоў,
Усіх дзяцей правёў.
Першы раз прашчаецца,
Другі забараняецца,
А на трэці раз
Не прапусцім вас.

Апошняга ў ланцужку затрымліваюць. Ён выбірае адну з прапаноў і адыходзіць у той бок, дзе стаіць на варотах абраны ім удзельнік. Так апытваюць усіх. Застаецца адзін чалавек, яму спяваюць:

Ходзіць маць па берагу,
Ішчыць сваіх дзетак.
Ішчыць, ішчыць, не найдзе,
Сама ў клетку пападзе.

Апошні таксама ў залежнасці ад адказу далучаецца да адной з каманд, якія пасля гэтага дужаюцца. Хто падужае, той перамог.

## 1000. У мядзведзя на бару




З удзельнікаў гульні выбіраюць або прызначаюць аднаго мядзведзем. Мядзведзь ходзіць па сваім лесе, шукае, хто яму робіць шкоду. Дзеці прыходзяць у лес за ягадамі, грыбамі. Яны ходзяць і разам спяваюць песню:

У мядзведзя на бару
Грыбы, ягады бяру.
Мядзведзь рычыць,
На нас глядзіць.

Дзеці могуць некалькі разоў праспяваць сваю песню. Мядзведзь выбірае зручны момант, каб кінуцца на іх. Ён бяжыць за дзецьмі, стараецца каго-небудзь злавіць. Хто будзе злоўлен першы, той становіцца мядзведзем. Так працягваецца, пакуль дзецям не надакучыць бегаць.

## 1001. У мядзведзя на бару






З удзельнікаў гульні выбіраюць мядзведзя. Усе астатнія робяць выгляд, што збіраюць грыбы, ягады. Мядзведзь стаіць збоку. Дзеці пяюць:

У мядзведзя на бару
Грыбы, ягады бяру.
А мядзведзь на нас глядзіць
І вурчыць.

Мядзведзь бяжыць за дзецьмі і каго-небудзь ловіць. Каго зловіць, той становіцца мядзведзем. Гульня працягваецца.

## 1002. У Бабу Ягу

З удзельнікаў гульні выбіраюць Бабу Ягу. На зямлі праводзяць лінію. Усе стаяць па адзін бок лініі, Баба Яга—насупраць. Дзеці хорам прыпяваюць:

Бабы Ёшкі не баюся,
Чапялой адбаранюся.

Потым бягуць насустрач бабе. Баба Яга ловіць. Каго зловіць, той становіцца Бабай Ягой. Гульня працягваецца.

## 1003. Баба Ёшка

Удзельнічае ў гульні неабмежаваная колькасць дзяцей. Выбіраюць Бабу Ёшку. У яе два сабакі—Байкал і Мухтар. На зямлі абводзяць круг. Гэта сад. Баба Ёшка і сабакі ў кругу. Усе ўдзельнікі гульні бегаюць навокал і крычаць:

— Баба Ёшка, касцяная ножка!

Баба пасылае сабак лавіць дзяцей. Усе ўцякаюць. Каго сабакі зловяць, той становіцца на месца бабінага сабакі.

## 1004. Слепа кура
## (У куры)

Аднаму з удзельнікаў насоўваюць шапку на вочы або завязваюць вочы, адводзяць яго да дзвярэй (да клямкі) і пытаюць:

— На чом ты стаіш?

— На галках, на шпільках, на жалезных падкоўках!

— А што п'еш?

— Бабін квас!

— Лаві, дурню, нас!

Усе ўцякаюць, а ён ловіць, а калі каго ўхваціць, то пытае: «Хто? Крук чы качан?» Як той адкажа «качан», то звальвае яго на зямлю, а як «крук», тады кажа:

Крук, крук,
У галаў стук,
Пайшоў вон
З маіх рук.

Крук заступае яго месца.

## 1005. Лавіць куры

У гульні можа прымаць удзел вялікая колькасць дзяцей. Адзін з удзельнікаў пятух, астатнія куры. Петуху завязваюць вочы хустачкай. Ён расстаўляе рукі і гоніць курэй пад печ:

— Кыш пад печ, кыш пад печ...

Потым пятух пытае:

— А колькі вас ёсць?

— Колькі ў лесе дроў!

Куры разбягаюцца, а пятух ловіць іх з завязанымі вачыма. Кожную курыцу мусіць злавіць тры разы. Пасля ўсе садзяцца на лаву, пятух скручвае пытку з хусткі або ручніка. З кожнай курыцай у яго адбываецца размова:

— На чым сядзіш?

— На ганачку.

— За што трымаешся?

— За клямачку.

— А што гэта збоку?

— Бочка.
— А што ў бочцы?
— Мёд.
— А каму есці?
— Пану і мне, а петуху нос у смале.

Тады пятух б'е пыткай курыцу, тая ўцякае і хаваецца. Калі ж курыца на пытанне «Каму есці?» адказвае: «Петушок, для цябе мядок»,— пятух яе не чапае, а пераходзіць да наступнай.

## 1006. Куры

У гэтай гульні адно дзіця выбіраецца курыцай, а ўсе іншыя лічацца курчатамі. Дзіця, якое абрана на курыцу, завязвае вочы хусткай, становіцца пасярод хаты і ловіць дзяцей. Хто з дзяцей пападзецца курыцы ў рукі, становіцца ўбаку. Як усе дзеці палоўлены, тады курыца ловіць іх нанова, як спачатку, і тое дзіця, якое будзе злоўлена першым, становіцца на месца курыцы.

Калі гуляюць на дварэ, дык вытыкаюць галінкамі круг і гуляюць, не выходзячы з яго.

## 1007. У жмуркі

Удзельнікі гульні лічацца або мераюцца на палцы, і на каго прыйдзецца апошняе слова або хто возьме верх палкі, таму завязваюць вочы. Перад гэтым ён заганяе ўсіх «пад печ», у выніку чаго ўсе збіраюцца ў пэўнае месца, а той, каму завязваюць вочы, ідзе потым туды лавіць іх. Дзеці разбягаюцца адтуль і сляпому даводзіцца лавіць іх па ўсёй хаце. Першы, каго зловяць, замяняе сляпога і сам пачынае лавіць, а былы сляпец становіцца ў лік тых, хто хаваецца.

Гэта гульня называецца яшчэ і гульнёй у ката. Гуляюць у гэту гульню звычайна ў пакоі, таму дзеці лічацца, а не мераюцца. Калі выберуць ката, завязваюць яму вочы і вядуць (абавязкова ўсе) да дзвярэй. Кот бярэцца за ручку дзвярэй, а ўдзельнікі задаюць яму пытанні:
— Кот, кот, на чым стаіш?
— На дубе!
— За што трымаешся?

— За сук!
— Што на суку?
— Вуллі!
— Што ў вуллях?
— Пчолы!
— Што ў пчолах?
— Мёд.
— Каму да каму?
— Пані да пану!
— А нам што?
— Смала на лапаце!

Тады ўсе б'юць ката па спіне пад такт песенькі:

Апанас, Апанас,
Твая жонка ў нас.
Увалілась у квас.
Лаві сем год нас!

За апошнімі словамі стрымгалоў кідаюцца ад ката ў розныя бакі. «Па закону» ў цырымоніі праводзін ката да дзвярэй павінны ўдзельнічаць усе, але звычайна баязліўцы хаваюцца заўчасна хто пад стол, хто ў качарэжнік.

Замяняе ката першы, каго ён зловіць. Цырымонія праводзін ката паўтараецца над кожным катом.

## 1008. Жмуркі

У жмуркі гуляюць на двары, у полі, у лесе. Спачатку лічацца, каму жмурыцца.

Цынцу-валынцу,
Пятаму-ладаму,
Сікус-брыкус,
Радзівон, выйдзі вон!

Або:

Ходзіць кошка
Ля вакошка,
Маніць дзетак
Каля клетак:

— Ах вы, дзеткі,
Многа вас,
Красна шапка,
Проч ад нас!

Той, на каго прыйдзецца апошняе слова, выходзіць; хто застаецца апошнім, жмурыцца, стаўшы так, каб нічога не бачыць. Усе хаваюцца. Праз некалькі хвілін жмурка пытае:

— Ці ўжо?

Яму адказваюць:

— Ужо!

А калі хто-небудзь не паспеў яшчэ схавацца, то крычыць:

— Не шчэ! Не шчэ!

Калі ўсе схаваюцца, жмурка ідзе іх шукаць. Як толькі ён адыдзе ад месца, дзе жмурыўся, усе стараюцца заняць гэтае месца і «запляваць», гэта значыць плюнуць тут. Жмурка стараецца ў гэты час каго-небудзь злавіць і «зачурыць» (схапіць яго або дакрануцца і сказаць «чур!»). Тады жмуркай робіцца злоўлены.

## 1009. Кулюкушкі

Удзельнікі мераюцца на палцы і выбіраюць кулюкуванніка. Ён садзіцца ў пэўным месцы і зажмурвае вочы або іх яму завязваюць хустачкай. Астатнія ў гэты час хаваюцца ў двары або ў свірне, сене, саломе і г. д. Праз некалькі хвілін кулюкуваннік крычыць:

— Ці год?

Калі хто не паспеў схавацца, адказвае:

— Яшчэ не!

У адваротным выпадку ўсе маўчаць, каб не выдаць, хто дзе схаваўся.

Тады кулюкуваннік знімае хустку з вачэй і ідзе шукаць. Калі каго знойдзе, вядзе на тое месца, дзе кулюкуваў. Той павінен там плюнуць і застацца. Ён называецца забітым. Кулюкуваннік шукае астатніх і калі знойдзе, то кулюкуваць застаецца той, каго знайшлі першым. Гульня працягваецца.

## 1010. У палачку-булавачку

Збіраецца некалькі хлапчукоў і мераюцца на палцы: адзін абхватвае рукою палку на ніжнім канцы, наступны шчыльна над ім і г. д. Калі ўсе возьмуцца за палку, а верхні канец яе яшчэ свабодны, тады першы хлопчык прымае руку знізу і абхватвае палку вышэй. Тое ж робяць і іншыя, пакуль не застанецца свабоднага месца. Той, чыя рука будзе наверсе, павінен «ісці ў поле». Гэта значыць, яму кідаюць далёка па вуліцы палку, і ён павінен бегчы за ёю і прынесці «да агня» — звычайна да таго месца, адкуль палку кідалі. Пакуль палявы бегае за палкай, астатнія ўдзельнікі гульні павінны схавацца хто куды. Палявы прыносіць палку да варот, «адстукваецца» і гаворыць:

Палачка-булавачка дамой прыйшла,
Дома нікога не знайшла.
Каго першага знойдзе,
Той за палачкай пойдзе!

Палявы падкідвае тут палачку і ідзе шукаць таварышаў, якія схаваліся, а тыя стараюцца скарыстаць момант, схапіць палку і «адстукацца». Калі ім гэта ўдаецца, палявому зноў даводзіцца «ісці ў поле», а астатнія зноў хаваюцца. Калі ж палявы заўважыць каго-небудзь раней і сам адстукаецца, тады «ў поле» ідзе знойдзены ім хлопчык.

Умовы гульні ўскладняюцца тым, што палявога прымушаюць знайсці або застукаць усіх удзельнікаў. А гэта даволі цяжка, калі ўдзельнікі хаваюцца далёка ад палкі. Калі мераюцца на палцы, можа застацца свабодным маленькі кончык палкі, які нельга абхапіць усёй далонню, а толькі адным-двума пальцамі. Тады апошні хлопчык, чый палец наверсе, пратэстуе, і адбываецца «суд». На «суд» ідуць хлопчык, чый палец зверху, і яго сусед. Апошні бярэ ў руку палку за гэты маленькі кончык, а той, хто скардзіцца, павінен выбіць у яго з рукі палку сваёй шапкай або паскам. Калі гэта яму ўдаецца, «у поле» ідзе яго сусед, у адваротным выпадку ў поле ідзе той хлопчык, што скардзіўся ў «суд».

## 1011. Палачка-шукалачка

Збіраецца група дзяцей, якія выбіраюць аднаго, які будзе ўсіх шукаць (шукальнічак). Рэшта хаваюцца хто куды. Калі ўсе схаваюцца, шукальнічак на ўмоўленым месцы стукае палачкай і голасна гаворыць:

Палачка-шукалачка,
Я йду шукаць.
Каго я першага знайду,
Таго за палачкай пашлю!

Каго першага знаходзіць, той пасля таго, як усе знойдзены, становіцца на месца шукальнічка.

## 1012. Палачка-баровачка (Прыбіты)

Дзеці выбіраюць каго-небудзь вартаўнікoм палачкі. Вартаўнік бярэ дошчачку (палена або кавалачак дрэва), кладзе яе на панадворку і, узяўшы ў руку палачку, крычыць: «Хавайцеся!» Сам вартаўнік закрываецца хусткай або шапкай, каб не бачыць, куды хто хаваецца. Калі ўсе схаваюцца, вартаўнік кладзе палачку на дошку, ходзіць, прыгаворваючы:

Палачка-баровачка прыйшла,
Нікога дома не знайшла.
Каго першага знойдзе,
Той да палачкі пойдзе.

Пасля ідзе шукаць. Як заўважыць каго-небудзь, падбягае да палачкі і б'е ёю па дошцы, называючы голасна імя знойдзенага. Той становіцца каля палачкі збоку і называецца «прыбітым». Калі вартаўнік «пры б'е» такім спосабам усіх гульцоў, тады першы «прыбіты» становіцца на месца вартаўніка. Але калі каму-небудзь удасца ўкрасці палачку, гэта значыць дабегчы да яе раней вартаўніка і стукнуць ёю па дошцы, сказаўшы: «Палачка ўкрадзена!», тады ўсе «прыбітыя» перад тым гульцы вызваляюцца і ідуць хавацца, а вартаўнік зноў пачынае гульню.

## 1013. Татарская палачка

Дзеці лічацца, каб абраць старасту. Звычайна ўжываюць лічылкі (гл. 741, 762, 926).

На каго прыйдзецца апошняе слова прыгавораў, той і староста. Тады пачынаюць лічыцца спачатку, каб вырашыць, каму «ісці ў поле». Каму гэта выпадае, таму завязваюць вочы хусткаю або насоўваюць на вочы шапку, а потым бяруць палачку, якая называецца татарскай, і закідваюць яе ў поле. Потым адкрываюць палявому вочы, і ён павінен ісці шукаць палку. Усе ж у гэты час хаваюцца. Калі палявы знойдзе палку, ён вяртаецца з ёю на тое месца, адкуль яе кідалі, пастукае палкаю і ідзе шукаць, хто дзе пахаваўся. Як толькі ён заўважыць каго-небудзь, ён называе яго па імені: «А Іванька, Іванька, выхадзі!» — і бяжыць стукаць палкаю. Іванька выходзіць. Тады палявы шукае і астатніх. Калі хто-небудзь з удзельнікаў падкрадзецца да палкі і пастукае ёю, палявому зноў завязваюць вочы і пасылаюць шукаць палку. Калі ж ён знойдзе ўсіх, то ў поле ідзе той, каго ён знайшоў першым.

## 1014. Жмуркі

Жмуркі — тое ж, што ў іншых месцах хованкі.

Зімою збіраюцца хлопчыкі і дзяўчынкі ў хату. Аднаго з іх закрываюць зіпуном, каб ён нічога не бачыў, а ўсе хаваюцца. Калі ўсе схаваюцца, адзін закрычыць: «Год!» Той, хто жмурыцца, устае і пачынае шукаць; каго першага знойдзе, той павінен шукаць, як і першы. Летам гэта гульня бывае і на двары.

## 1015. Сляпец

Аднаму з дзяцей завязваюць вочы. Гэта сляпец. Усе бегаюць вакол сляпца, а ён стараецца каго-небудзь злавіць. Калі сляпец ідзе на сцяну, стол або іншы прадмет, яму крычаць:

— Гарыць, гарыць!

Калі сляпец зловіць каго-небудзь, той становіцца на яго месца. Гэтак гульня ідзе далей.

## 1016. Скукуйда

Удзельнікі гульні выбіраюць двух бацек; адзін з іх адыходзіць убок, а другі саджае гульцоў у рад, бярэ трэсачку або вугаль, ходзіць уздоўж раду і працягвае ў прыпол ім руку з трэсачкай. Так абыходзіць ён некалькі разоў і пры гэтым нябачна дае трэсачку аднаму з удзельнікаў. Потым гэты бацька становіцца збоку, а падыходзіць другі і пачынае ўгадваць, у каго схавана трэсачка. Хлопчыкі ж, што сядзяць, стараюцца мацней сціснуць кулакі, каб падмануць чужога бацьку. Калі бацька пройдзе некалькі разоў уздоўж раду, ён адкрывае ў аднаго з хлопчыкаў руку, спадзеючыся знайсці ў ім трэсачку. Калі знойдзе, то бярэ сабе палавіну дзяцей, і гульня працягваецца з астатнімі, калі ж не знойдзе, то першы бацька зноў хавае трэсачку. Гульня працягваецца да таго часу, пакуль трэсачка будзе знойдзена ў кожнага з удзельнікаў. Тады дзеці становяцца ў рад за сваім бацькам і моцна трымаюцца адзін за другога. Чужы бацька пачынае іх лавіць, стараецца адарваць апошняга хлопчыка. Родны бацька пытаецца ў чужога:

— За што ты іх ловіш?

— Яны ў мяне масла пакралі!

— А чаму ты яго не накрыў?

— Я накрываў жалезнай ступай, а яны ступу адвярнулі і масла пакралі.

— А чаму ты не зрабіў агароджы?

Чужы бацька падкідае ўверх палачку і гаворыць:

— Я зрабіў агароджу во якую, ды яны пералезлі і масла пакралі.

І пасля гэтага кідаецца на дзяцей і крычыць:

— Грук, грук, есці хачу!

Тыя ўцякаюць за свайго бацьку, моцна трымаюцца адзін за другога і крычаць у адказ:

— З'еш жабу ў балоце!

Гульня заканчваецца тады, калі ўсе дзеці будуць адарваны ад свайго бацькі.

## 1017. Калім-бам-ба

Дзеці падзяляюцца на дзве групы і становяцца насупраць ланцужком, пабраўшыся за рукі. Паміж двума радамі адбываецца дыялог:

— Калім-бам-ба.
— Прышыць рукава.
— На чые рукава?
— Чэраз пятае — дзесятае (імя) сюда.

Названы бяжыць да другога і павінен разарваць ланцужок. Калі не разарве, то застаецца ў супрацьлеглай групе. Гуляюць, пакуль нехта не перацягне ўсіх з другой групы.

## 1018. У здагонкі

Усе становяцца так, каб утварыць кола, і пачынаюць лічыцца (гл. 807, 863, 888—890, 891, 902). Лічацца да таго часу, пакуль застаецца адзін чалавек. Ён і павінен лавіць усіх гульцоў. Часам ён ловіць адзін усіх. Можа быць і другі варыянт, калі яму на падмогу прыходзяць усе, каго ён зловіць раней. Для адпачынку ўцекачоў адводзіцца асобнае «гарачае» месца, дзе нельга лавіць.

## 1019. Шчыткі-быткі

Натоўп дзяцей збіраецца ў круг і выбірае сабе шчыта. Яго абавязак — лічыць удзельнікаў, паказваючы на кожнага з іх па чарзе. Пры гэтым ужываюцца розныя лічылкі:

Шчыткі-быткі,
У варонкі,
У какошкі,
Сам варанец,
Выйдзі вон наканец!

Або:

Саломіна-яломіна,
Берасцень-пасвісцень,
Радзівон, ідзі вон!

Той, на каго прыйдзецца апошняе слова, выходзіць. Лічэнне працягваецца далей, пакуль застанецца адзін. Яму трэба злавіць усіх. Калі ён зловіць першага, пытае яго:

— Чый ты сын?
— Гаршаў.
— Ну, ступай са мной у таварышы.
І ловяць ужо ўдваіх, потым утраіх і г. д.

## 1020. Рагадан

Усе жадаючыя прыняць удзел у гульні становяцца ў круг, і адзін з іх «загадвае»:

Рагадан, рагадан,
На чатыры загадан.
Кацярынін нос
На пятнаццаць вёрст.
Шалдэ-балдэ,
Бушмак барада!

Пры кожным слове ён паказвае пальцам на кожнага ўдзельніка па чарзе, і на каго выпадае слова «барада», той пачынае лавіць астатніх, а яны ад яго ўцякаюць. Калі зловіць каго, задае яму пытанне:
— Чый ты?
— Цароў!
— Ну, памажы мне коней лавіць!
І пачынаюць лавіць удваіх, потым утраіх і г. д.

## 1021. Барада

Гуляюць звычайна дзеці на двары. Чым болей дзяцей прымае ўдзел у гульні, тым весялей яна праходзіць. З ліку ўдзельнікаў выбіраюць бараду. Гэты гулец павінен лавіць усіх. Прызначаюць пэўнае месца, дзе барада не ловіць. Гэта дом. Дзеці з крыкам разбягаюцца, а барада ловіць. Каго зловіць, той памагае барадзе лавіць нязлоўленых.

Калі ж гуляць даводзіцца ў хаце, дзе мала месца, тады барадзе завязваюць хусткай рукі назад. Барада стараецца схапіць каго-небудзь завязанымі рукамі.

У час гульні іншы раз барадой становіцца той, каго раней-шы барада першым ударыць.

У гэтай гульні дзецям трэба ўвесь час звяртаць увагу, хто ў кожны момант барада, бо ролі мяняюцца хутка. Гэта робіць гульню цікавейшай. Дзеці бегаюць бесперастанку.

## 1022. Гуж

Хлопчыкі і дзяўчынкі збіраюцца дзе-небудзь на вуліцы. Двое з іх становяцца на месцы, якое раней было абведзена кругавою лініяй, а астатнія стаяць далей ад лініі. Адзін з удзельнікаў, што стаіць у кругу, трымае другога, пакуль усе падрыхтуюцца да гульні, а потым штурхае яго ад сябе са словам «гуж». Гэты хлопчык ці дзяўчынка выбягае з-за лініі і пачынае лавіць іншых. Усе дзеці ўцякаюць за лінію круга. Калі гуж каго-небудзь зловіць, то злоўлены ідзе ў круг, замяняе лаўца, а той ідзе ў натоўп. У іншым выпадку ён застаецца на сваім месцы і бегае за дзецьмі, пакуль не зловіць і не паставіць каго-небудзь на сваё месца.

Калі ўсе дзеці збягуцца ў круг, пагоня за імі спыняецца. Калі гульня канчаецца, дзеці танцуюць і спяваюць:

Хто выскача галубца,
Той будзе малайца.
А ў Кіеве заказалі,
Штоб ў магерках не скакалі.
Семсот заплачу,
А ў магерцы-такі паскачу.
Ішоў мужык багаты,
Найшоў чэрань шчарбаты:
Шырокая барада...

Ішлі бабы па грыбы,
А дзед — па апенькі;
Дзедавы ў лесе пасохлі,
А бабіны — сырэнькі.
За дубамі, за лугамі
Ішлі дзеўкі за грыбамі.
Там лужочак быў,
Там лужочак, беражочак,
На цераме церамочак.
Там мой мілы быў,

Цвет калініцы ламаў,
На красавіцу брасаў —
Дзеўцы на платок.
Запалі-ка свячу з сала,
Пакажы-ка свайго пана,
Сашанька мілой!
Запалі-ка васкавую,
Што я сем раз пацалую
Пана свайго.

(Усе хлопчыкі і дзяўчынкі цалуюцца).

Скакаў цыркун па сцяне,
Зламаў ножку — ох-це мне!
Цыркуніха скача
Да й па ножцы плача.
Верабей, верабей,
Не клюй маіх канапель:
Ні маіх, ні сваіх,
Ні суседа майго!
Я таму вераб'ю
Кіем ножку пераб'ю.
Верабейка скача
Да й па ножцы плача.
Сядзіць мядзведзь на калодзе
Да й ў дудачку грае,
Забіў нагу аб ламаку
Да й калоду лае.

## 1023. Блін гарыць

З грамады гульцоў выбіраюць аднаго лаўцом. Усе астатнія становяцца адзін каля аднаго даволі шчыльна. Вакол гэтай групкі лавец абводзіць на зямлі круг. Стаўшы спіною да круга, ён крычыць: «Блін гарыць!» Усе выбягаюць з круга і зараз жа стараюцца забегчы ў круг назад, каб не папасціся лаўцу. Каго лавец зловіць, той выходзіць з круга, а лавец ідзе ў круг. Тады новы лавец пачынае гульню.

## 1024. Стралец

Удзельнікі гульні мераюцца і выбіраюць стральца і двух або трох сабак. Усе астатнія робяцца зайцамі. Зайцы хаваюцца за кустамі, у ямах, у лесе — гледзячы, дзе пасвяць хлопчыкі коней. Тады выходзіць стралец і крычыць: «Бах, бах!» (гэта значыць страляе). Сабакі бягуць ва ўсе бакі, знаходзяць зайцаў і выганяюць іх на адкрытае месца. На кожнага з іх стралец павінен крыкнуць: «Бах, бах!» Інакш заяц зноў схаваецца і яго прыйдзецца зноў шукаць.

## 1025. Мальчык-пальчык

Некалькі хлопчыкаў збіраюцца на адкрытае роўнае месца. Адзін з іх садзіцца на зямлю і паднімае калена правай ці левай нагі так, каб ступня стаяла на зямлі. Астатнія хлопчыкі акружаюць яго і, нагнуўшыся або седзячы, кладуць кожны на яго калена ўказальны палец. Хлопчык, што сядзіць пасярэдзіне, гаворыць наступны вершык:

Мальчык-пальчык памагуле!
Выляцела па тры крулі.
  Ой ты, пане-капытане,
Чаму не йграеш на варгане?
Сядзіць заяц на прыпечку,
Мувіць пацер па-нямецку:
Эва, дэва, рэс,
Гвінта, заяц, пес.

Пры кожным слове хлопчык датыкаецца сваім указальным пальцам па парадку да пальцаў таварышаў. Хлопчык, на палец якога прыйшлося слова «заяц», павінен уцякаць, а другі, на каго прыйшлося «пес», даганяе яго. Калі дагоніць, прыводзіць яго назад, і гэты хлопчык атрымлівае «лапу» ад хлопчыка, што ў цэнтры круга, за тое, што не змог уцячы. Гульня працягваецца ў тым жа парадку.

## 1026. Пінкі

Гульня ў пінкі, або перагонку, заключаецца ў тым, што адзін хлопчык уцякае, а другі стараецца злавіць яго.

Перад гульнёю дзеці выбіраюць матку. Матка садзіцца дзе-небудзь на камені, а на калені дзеці кладуць па ўказальнаму пальцу. Матка пералічвае іх і прыгаворвае:

Пінкі, пінкі,
Людавінкі!
Глем кляс
Купарвас.
Ого — заенц,
Далей — пяс.

Або:

Седзі заенц
На прыпечку,
Муві пацеж
Па-нямецку:
Гом кляс
Купарвас,
Ото — заенц,
Далей — пяс.

Той хлопчык, якога матка назвала зайцам, хутка ўцякае; другі ж, на каго выпадзе слова «пяс», даганяе яго. Калі сабака не зловіць зайца, тады матка звяртаецца да сабакі:

— Дзе быў?
— За гарамі.
— Што бачыў?
— Ваўка з пазурамі.
— А злавіў?
— Не.

За гэта ён атрымлівае «лапу». Калі заяц не ўцячэ, то тады матка ў яго пытаецца:

— Дзе быў?
— За гарамі?
— Што бачыў?
— Сабаку з пазурамі.
— А ўцёк?
— Не.

За што таксама атрымлівае «лапу».

## 1027. Харты і зайцы

Дзеці выбіраюць адну матку, а каб зрабіць каго хартом, бяруць столькі саломінак ці палачак, колькі гуляе дзяцей. Адна палачка даўжэйшая. Палачкі хаваюць у жменю і даюць усім цягнуць. Хто выцягне даўжэйшую палачку, той застаецца хартом. Матка хавае галаву харта сабе ў калені, а зайцы разбягаюцца і хаваюцца. Калі ўсе пахаваюцца, матка крычыць:

— Хорт, у поле! Зайцы, дамоў!

Хорт бяжыць лавіць зайцаў, а яны ўцякаюць і стараюцца дабегчы да маткі. Каго хорт першага зловіць, той становіцца хартом. Гульня працягваецца.

## 1028. У зайца

Дзеці збіраюцца ў цесны кружочак. Адзін з хлопчыкаў, больш шустры, становіцца пасярэдзіне і, паказваючы на кожнага таварыша, чытае па слову:

Мурашка, букашка,
Слонца, месяц...
— Дзе ты быў?
— У балоце.
— Што рабіў?
— Траву жаў.
— Дзе падзеў?
— Пад калодай.
— Хто ўкраў?
— Заяц.
— Хто злавіў?
— Хорт.

Пры апошнім слове ўсе зайцы разбягаюцца. Зайцам вызначаецца месца, за межы якога яны не бегаюць. Галоўная задача харта — злавіць усіх зайцаў, якія ўцякаюць ад харта ва ўмоўленае месца. Хорт не павінен лавіць зайцаў на адлегласці трох крокаў ад умоўленага месца, зайцы таксама не павінны бегаць паблізу ад яго, каб хутчэй схавацца там. Калі ўмовы

гульні парушаюцца хартом ці зайцамі, віноўнага караюць «пыткаю» (скручаная хустка). Хорт павінен пералавіць большую частку зайцаў, у адваротным выпадку ён можа быць выведзен з гульні: яго на час прывязваюць у тым месцы, куды збягаюцца ўдзельнікі гульні. Акрамя таго, за нязлоўленых зайцаў хорт атрымлівае ўдары «пыткаю», колькасць якіх назначае кожны ўцёкшы заяц.

Часам выбар харта праводзіцца не лічэннем, а іншым спосабам. Адзін з хлопчыкаў бярэ ў руку некалькі тонкіх трэсачак рознай даўжыні. Каму пападзецца даўжэйшая трэсачка, той хорт.

## 1029. У зайца

Збіраецца шмат дзяцей. Усе бяруцца за рукі і ўтвараюць кола. Два хлопчыкі стаяць асобна. Гэта хорт і заяц. Хорт павінен лавіць зайца. Дзеці, якія ўтвараюць кола, пускаюць зайца ў сярэдзіну, падняўшы рукі ўверх, калі ён уцякае ад харта, а харта затрымліваюць, апусціўшы рукі ўніз, калі хорт гоніцца за зайцам. Калі хорт зловіць зайца, усе ўдзельнікі гульні разрываюць круг, кідаюцца да харта, які, паваліўшы зайца на зямлю, душыць яго. Тут смех, гуканне, бегатня. Потым выбіраюць новага зайца і харта. Гульня пачынаецца спачатку.

## 1030. У рыбака і рыбку

Гэта гульня ў вадзе. Адзін з удзельнікаў — рыбак, усе астатнія — рыбкі. Рыбак нырае і пад вадой ловіць каго-небудзь (рыбку). Калі пераловіць усіх, рыбаком становіцца той, каго злавілі першым. Гульня пачынаецца спачатку.

## 1031. Мурашачка

У гумне ці на полі дзеці малююць на зямлі круг, які называецца маткаю. Каб круг бачыць здалёку, у яго кладуць шапку або якую-небудзь рэч. Далей у іншым месцы дзеці становяцца або садзяцца так, каб утварыць кола, і выбіраюць аднаго з гульцоў, хто будзе лічыльшчыкам. Ён пачынае лічэнне:

Мурашачка, букашачка,
Няверная кукушачка.
Заяц, месяц, дзе быў?
— У лесе.
— А што рабіў?
— Сена касіў.
— Чым жа накрыў?
— Скаварадою.
— Хто ўкраў?
— Турнас.

Пасля гэтага ўсе дзеці разбягаюцца, а каму выпала быць турнасам, лавіць іх. Каго турнас зловіць, той памагае яму лавіць астатніх. Нейкі час можна аддыхнуць, калі схавацца ў круг, але доўга затрымлівацца там нельга. Як усе дзеці злоўлены турнасам і яго памагатымі, гульню паўтараюць спачатку.

## 1032. Проса

У гэтай гульні ўдзельнічаюць хлопчыкі і дзяўчынкі. Сабраўшыся дзе-небудзь на вуліцы, яны бяруцца за рукі і складаюць просталінейны ланцужок. Потым хто-небудзь з удзельнікаў па жэраб'ю або агульнай згодзе выбіраецца ў войты. Войт выходзіць з ланцужка, становіцца супраць адной з дзяўчынак (па выбару), і паміж імі адбываецца такая размова:

— Прыйдзі ка мне проса палоць.
— Не хачу.
— А замуж?
— Хоць і зараз.

Пры гэтых словах войт робіць рух, каб схапіць яе, і прыгаворвае:

— Проса не хочаш яшчэ палоць, а замуж хоць зараз!

Але яна ўцякае і бяжыць туды, дзе ўсе стаяць, а войт ганяецца за ёю, пакуль не зловіць. Цяпер ужо злоўленая становіцца войтам, а былы войт становіцца ў рад.

## 1033. У каноплі

Лік удзельнікаў не абмежаваны. Мераюцца на палцы і выбіраюць дзедзьку. Дзедзька бярэ чапялу, а ўсе астатнія садзяцца. З чапялою дзедзька ходзіць вакол тых, што сядзяць, грукае ў зямлю і гаворыць аднаму з гульцоў:

— Брала б я каноплі, брала б шчэ болі, кіткі-снопкі невялічкі, да таварышаў мала. Ты, Мар'янка, прыстань ка мне! Калі не прыстанеш, вялю кіем даці, за вароты прагнаці, сабакамі заскуваці! Пайдзі, дзеўка, замуж: не будзеш ні палоць, ні малоць, ні су гор ваду насіць: су гор вада сама цякла. Каромысел залаты, сам князь малады,— пайдзі, дзеўка, замуж!

Тая ўстае, падыходзіць да дзедзькі і трымаецца за яго ззаду.

Дзедзька з такім жа звароткам падыходзіць да другой, трэцяй, да ўсіх удзельнікаў гульні. Усе яны становяцца за ім і складаюць пляцёнку, трымаюцца адзін за другога.

Тады дзедзька пачынае кашляць: «А-кхі! А-кхі!» Самы апошні ў пляцёнцы пытае:

— Чаго ты, дзедзька, кашляеш?

— Як жа мне не кашляць, маё дзіцятка! Набраў жонак маладых: не хочуць ні палоць, ні малоць, ні су гор ваду насіць!

Затым хоча біць апошняга ў пляцёнцы чапялой:

— Чаго ты ішла за мяне замуж!

А калі той уцячэ, дзедзька такім жа чынам праганяе і наступных. Застаецца толькі той, каго дзедзька выбраў першым. Яны ўдваіх пачынаюць круціцца, танцаваць, пры гэтым дзедзька пяе.

— Мы з табой, бабка, век векавалі, з аднае лыжкі крупкі клювалі.

На гэтым гульня канчаецца.

## 1034. Ноч і дзень

Дзеляцца ўсе на дзве групы — ноч і дзень. Ноч даганяе дзень. Каго зловяць, бяруць у ноч. І так трэба пералавіць паболей. А потым дзень даганяе ноч. Хто болей перацягне, той перамог.

## 1035. У ката і мышку

Дзеці выбіраюць ката і мышку, бяруцца за рукі і становяцца ў круг. Мышку пускаюць у круг, кот застаецца за кругам. Калі ж кот уварвецца ў круг, дзеці выпускаюць мышку з круга, а ката стараюцца затрымаць у кругу. Калі ж кот зноў вырвецца з круга, тады пускаюць мышку. Гуляюць да таго часу, пакуль кот зловіць мышку.

## 1036. У ружу

Дзяўчынкі садзяцца адна другой на калені. Адна дзяўчынка застаецца ўбаку, а потым падыходзіць па чарзе да кожнай і пытаецца: «Дзе ружа?» Кожная адсылае яе далей. Нарэшце, адна з дзяўчынак прызнаецца, што яна ружа, ускоквае і ўцякае. Усе становяцца ў круг, пабраўшыся за рукі. Ружу дзяўчынкі пускаюць у круг і выпускаюць. Тая, што даганяе, не мае такога права. Гульня працягваецца, пакуль ружа не будзе злоўлена. Калі ружу зловіць дзяўчынка, яны мяняюцца месцамі, і гульня пачынаецца спачатку.

## 1037. Гулачка

Для гульні выбіраецца роўнае месца. Двое з дзяцей па ўмове становяцца на калені на адлегласці двух крокаў адзін ад другога. Астатнія становяцца адзін за другім і па чарзе бягуць паміж імі. Дзеці, што стаяць на каленях, ловяць іх. Злоўлены становіцца на калені, а той, каго ён замяняе, бяжыць разам з іншымі.

## 1038. Удавец

Сабраўшыся, дзеці дзеляцца на пары і становяцца адна пара за другой у рад. Адзін лішні застаецца ўдаўцом, ідзе ўперадзе ўсіх і лічыць да трох. Калі ён крыкне: «Тры!» — задняя пара бяжыць уперад: правае дзіця з правага боку ўсіх гульцоў, а левае з левага. Удавец кідаецца іх пераняць і разлучыць, каб злавіць каго-небудзь з гэтых двух сабе да пары. Тыя ўцякаюць ад яго і стараюцца бегчы адзін да аднаго, каб злучыцца.

Калі яны злучаюцца, то становяцца ў першай пары ззаду ўдаўца, які крыкнуўшы ізноў: «Раз, два, тры!» — пачынае лавіць новую заднюю пару. Калі ўдаўцу ўдаецца злавіць сабе пару, тады ідзе лавіць той, хто застаўся без пары — удаўцом.

## 1039. У гарэлыша

Удзельнікі гульні становяцца пара за парай, а ўперадзе, спіною да іх, стаіць гарэлыш. Ён павінен стаяць прама і ні ў якім выпадку не азірацца.

Калі ўсе пастануць, гарэлыш гаворыць: «Гару!» Яму адказваюць: «Гары, гары ясна, штобы не пагасла. Пых!» Тады апошняя пара раздзяляецца, абягае вакол усіх удзельнікаў і гарэлыша і стараецца зноў уз'яднацца. Гарэлыш стараецца злавіць аднаго з іх. Калі зловіць, тады становіцца з другім парою ўперадзе іншых, а гарэлышам становіцца той, хто адбіўся ад сваёй пары. Тое ж і з наступнымі парамі і г. д. Часам першая пара стараецца шумець, каб гарэлыш не пачуў, як бяжыць апошняя пара, або, наадварот, крычаць яму: «Бягуць, бягуць!» Той зрываецца з месца, калі апошняя пара яшчэ стаіць, што выклікае агульны смех.

Гуляюць тады, калі можна бегаць без абутку, «таму што басаною лепей бегаць».

## 1040. Мост

Збіраюцца дзеці, становяцца пара за парай і спяваюць якую-небудзь песню. Той, хто застаецца лішнім, ідзе пад мост, гэта значыць пад выцягнутыя рукі гуляючых, і адтуль з якой-небудзь пары выцягвае ўдзельніка, цягне яго праз увесь мост і становіцца з ім ззаду. А той, хто застаўся без пары, у сваю чаргу ідзе праз мост і цягне з сабой каго-небудзь зноў.

## 1041. У дзяцей

Усе ўдзельнікі гульні падзяляюцца на пары. Адзін застаецца без пары. Усе садзяцца парамі так, каб утварыць кола. Спераду сядзяць дзеці, за імі маткі. Пасярэдзіне ходзіць гулец без пары і звяртаецца да кожнай маткі:

— Кума, кума, прадай дзіця!

— Не, яно не прадажнае, ідзі далей!

Так працягваецца да тых часоў, пакуль якая-небудзь матка не адкажа:

— А якая ж твая плата?

— На — бобу лапата!

Тут кожная матка зрываецца з месца і бяжыць вакол дзяцей, стараючыся дабегчы як найхутчэй да пакінутага дзіцяці. Калі яе месца раней займае пакупнік дзіцяці, то такая матка замяняе яго ў коле. Гульня ідзе далей.

## 1042. У рэшата

Усе гульцы становяцца адзін за адным у рад. Пярэдні гулец бярэ кій і аберуч трымае яго наперадзе, а ўсе іншыя гульцы абшчэпліваюць адзін аднаго рукамі, як у гульні «Рэпка». Адзін з гульцоў не становіцца ў рад, ён бярэ насоўку, скручвае яе ў трубачку і на адным канцы завязвае вузел. Зрабіўшы гэткім спосабам лёгенькі жгуцік, ён б'е ім па плячах апошняга гульца. Але апошні гулец не чакае гэтага, ён зрываецца з свайго месца, бяжыць к пярэдняму гульцу, хапае ад яго кій і становіцца да яго плячыма. Калі гэты гулец у момант хапання за кій атрымлівае жгутом па плячах, ён павінен пакінуць кій у трымальніка яго і хутка бегчы кругом рада ізноў да пярэдняга гульца, каб паспець схавацца за кій, не атрымаўшы па плячах. Як толькі гэта яму ўдасца, гулец са жгутом падбягае да іншага гульца, які стаў апошнім, і гуляе з ім так, як з папярэднім гульцом. Так гуляюць да той пары, пакуль не дойдзе чарга бегчы гульцу, які быў з самага пачатку наперадзе з кіем. Тады жгут перадаецца гэтаму гульцу, а хто быў са жгутом, становіцца наперадзе з кіем, і гульня працягваецца далей або са згоды ўсіх заканчваецца.

## 1043. Шавец

У гэтай гульні некалькі асоб становяцца ў рад адзін за адным. Самы задні стаіць з ручніком у руках і пытаецца:

— А дзе шаўцы?

— На тым канцы! — кажуць яму.

Той бяжыць у другі канец (наперад), а самы першы адтуль уцякае. Калі гэты справіцца ўдарыць яго ручнікам, пакуль той уцякае на другі канец рада, дык той, каго ўдарылі, становіцца з ручнікам, а каторы біў — самым першым у радзе. Калі той, хто лавіў, не злавіў нікога, ён зноў становіцца апошнім у радзе і пачынае гульню.

## 1044. У гарлачыкі

Дзеці выбіраюць матку і ката. Потым усе садзяцца на зямлю, а матка гаворыць кату:

— Глядзі ж, кот: я пайду ў поле на работу, а ты вартуй тут гарлачыкі, каб, божа барані, ніхто іх не перакуліў.

Матка адыходзіць, а кот абходзіць сядзячых дзяцей і гаворыць на аднаго: «Гэта смятанка!», на другога: «Гэта сываратка!», на трэцяга: «Гэта тваражок!» і г. д. І пачынае іх перакульваць. У гэты час прыходзіць матка, бачыць перакуленыя гарлачыкі і ловіць ката. Калі зловіць, карае яго: «Не чапай смятанкі! Не бі гарлачы!» Кот стараецца вырвацца і ўцячы.

## 1045. Гла́дышкі

Перад пачаткам гульні дзеці выбіраюць аднаго хлопчыка катом, а дзяўчынку гаспадыняй, усе ж астатнія садзяцца на зямлю, утвараючы кола. Яны гладышкі. Гаспадыня абходзіць усіх, садзіць роўненька, калі хто сядзіць нядобра, потым бярэ ў кожнага хустачку і накрывае галовы, гэта значыць яна накрывае гладышкі. Кот у гэты час недзе хаваецца і пільна сочыць, калі гаспадыня адыйдзе ад гладышкаў. Яна ідзе ўбок і робіць выгляд, што не звяртае на іх увагу. Кот выбягае з свайго сховішча і з мяўканнем куляе гладышкі. Гаспадыня, заўважыўшы гэта, бяжыць праганяць ката. Пры гэтым яна крычыць:

— Каб ты здох, пачвара, чаму на цябе дохліца не найдзе?

Гладышкі таксама паднімаюцца і пачынаюць лавіць ката, а злавіўшы, усе стараюцца ушчыпнуць яго, прыгаворваючы:

— Вось табе малако! У чужое проса не суй носа.

## 1046. Гарлачыкі

Збіраюцца дзеці і садзяцца кружком. Выбіраюцца дзеючыя асобы: матка, дачка і кот. Матка ідзе ў поле жаць, а дачка пільнуе ад ката гарлачыкі (гаршчэчкі). Кот падкрадваецца і куляе ўсе гарлачыкі. Прыходзіць дадому матка, бачыць перакуленыя гарлачыкі і гаворыць:

— Божа мой, хто гэта пабараціў гарлачыкі? А знаць жа, гэта прыходзіў кот?

Потым матка лае дачку:

— А ты куды глядзела, куды глядзела?

І б'е дачку. Гульня працягваецца такім чынам да трох разоў. Матка ідзе ў поле, кот куляе гарлачыкі, а матка карае дачку. За трэцім разам матка кідаецца шукаць ката, які ўцякае. Матка, дагнаўшы ката, карае яго для віду.

## 1047. Гладышкі

Вылучаюць з удзельнікаў гульні ката і маці. Усе астатнія дзеці гладышкі. Дзеці-гладышкі садзяцца ў адзін рад, кожны аб'яўляе, што ў гладышку: смятана, мёд, цукеркі. Калі маці ў полі, кот тройчы падыходзіць да гладышоў, але не чапае іх. Потым кот крадзе гладыша. Маці прыходзіць з поля і пытаецца, дзе гладышы. Кот не прызнаецца, што браў. У гэты час гладышы падаюць голас: шыпяць, як сала на патэльні, як бульба кіпіць і г. д. Маці просіць ката даць ёй тое, што варыцца, смажыцца. Кот адмаўляе, бо яшчэ не гатова. Маці кідаецца ў круг гладышоў і стараецца расчапіць каму-небудзь рукі. Каму расчэпіць рукі, той яе.

## 1048. У колічкі

У гульні ўдзельнічаюць двое. Яны робяць сабе па тры калочкі, адзін — белыя без кары, другі — з карою, і колюць імі ў зямлі дзевяць дзірачак, па тры ў рад. У першыя тры ставіць свае калочкі той, хто гуляе белымі, у другія тры ставяцца чорныя. Апошнія тры застаюцца парожнімі. Тады першы хлопчык перастаўляе адзін колік у свабодную дзірачку, другі робіць тое ж, але так, каб перашкодзіць таварышу паставіць свае калочкі

ў рад у любым напрамку — гарызантальным, вертыкальным або нахіленым. Хто з удзельнікаў гульні паспее гэта зрабіць, той дае прайграўшаму ўмоўленую колькасць пстрычак. Тая ж гульня, што ў гімназістаў у крыжыкі і нулі пры 16 прамых вуглах.

### 1049. У свінню

Некалькі хлопчыкаў з палкамі і драўляным шарам збіраюцца разам, выкопваюць невялікую ямачку ў зямлі, куды трэба загнаць драўляны шар («загнаць свінню ў хлеў»). Кожны з удзельнікаў гульні абапіраецца канцом палкі на раней абранае месца, якое называецца «масла». Перад пачаткам гульні дзеці па жэраб'ю вырашаюць, каму пасвіць «свінню» (драўляны шар). Пры гэтым бяруцца па чарзе рукою за палку. Чыя рука акажацца зверху, на самым канцы палкі, той і павінен пасвіць «свінню». Мэта гульні ў тым, каб загнаць шар у ямачку ў зямлі, вакол якой стаяць усе хлопчыкі. Хлопчыкі ж як мага імкнуцца не дапусціць гэтага. Яны б'юць па шару сваімі палкамі і тут жа ставяць іх назад у «масла». Той жа, хто пасе «свінню», стараецца папасці канцом сваёй палкі ў «масла» таго хлопчыка, які б'е па шару. Калі яму гэта ўдаецца, то ён сваю ролю пастуха перадае таму хлопцу, які празяваў сваё «масла». Увесь час гульні ўсе насміхаюцца над тым, хто пасе «свінню», нярэдка даводзяць яго да слёз.

### 1050. Ганяць свінку

Удзельнікі гульні (пяць-восем дзяцей) капаюць «бровар» — вялікую ямку пасярод пляца, дзе адбываецца гульня. Кожны ўдзельнік капае меншую ямку на адлегласці 5—6 крокаў ад бровара навокал яго. Усе маюць у руках па кіёчку. Пачынаецца гульня так. Усе стаяць вакол бровара і трымаюць у ім свае кійкі. Па камандзе «тры» кожны гулец бяжыць да маленькай ямкі і займае яе сваім кіем. Аднаму ямкі не хапае. Той, хто застаецца без сваёй ямкі, мусіць гнаць «свінку» ў бровар («свінка» — бурвалачак дрэва). Усе ўдзельнікі стараюцца не дапусціць гэтага. Яны кіямі адганяюць «свінку». А калі той, хто гоніць «свінку», зойме свабодную ямку, на яго месца стано-

віцца яе былы ўладальнік і сам гоніць «свінку» ў бровар. Калі каму-небудзь удасца загнаць «свінку» ў бровар, усе мяняюцца месцамі, а гульня пачынаецца з самага пачатку.

## 1051. У булу

Була — пераважна зімовая гульня, захапляючая асабліва на голым лёдзе ракі або возера, пакуль ён яшчэ не пакрыты снегам.

Удзельнікі гульні адшукваюць драўляны шар або самі робяць хоць падобны на яго і называюць яго булою. Узяўшы булу і спецыяльныя палкі з загнутымі ніжнімі канцамі, якія называюцца качарыжкамі, ігракі ідуць на лёд, там выбіраюць матку і потым падыходзяць да яе папарна пад выдуманымі імёнамі.

— Маці, маці! Што табе даці: ці снегу, ці лёду?

— Лёду!

Той, што назваўся лёдам, застаецца з маткай, а снег ідзе ў другую групу.

— Маці, маці! Што табе даці: ці гароху, ці бобу? Ці дзень, ці ноч? Ці зіму, ці лета? Ці сасну, ці бярозу? Ці розу, ці гваздзіку? і г. д., пакуль усе перабудуць.

Калі такім чынам падзяляюцца на дзве партыі, партыя маткі застаецца на месцы, дзе праводзіцца мяжа горада, а другая ідзе ў поле. Матка з усіх сіл б'е па буле качарыжкай і гоніць яе ў поле; дзеці яе падхватваюць булу па дарозе і гоняць яшчэ далей, а супрацiўная партыя стараецца затрымаць шар і вярнуць яго назад у гарадок. Пры гэтым адбываюцца сапраўдныя баталіі. К шару звычайна падбягаюць двое, па аднаму з кожнай партыі. Адзін размахваецца качарыжкай, каб ударыць шар і пагнаць яго ў свой бок; другі лоўка парыруе размах, падстаўляючы пад удар сваю качарыжку, і сам б'е шар; далей яго падхоплівае другая пара і г. д. Адлегласць, якую займае була, часам вельмі вялікая, гульня можа працягвацца увесь час пасля абеду да вечара — зразумела, у святочныя дні. У гульні прымаюць удзел і дарослыя хлопцы.

## 1052. У пікера

Пікер — гэта кій, убіты ў зямлю, пры якім стаіць адзін з удзельнікаў гульні са сваім кіем. Усе дзеці таксама з кіямі

стаяць воддаль. Па камандзе вартаўніка пікера яны кідаюць свае палкі ў пікер, каб збіць яго. Той, хто стаіць пры пікеры, павінен падняць яго і зноў убіць у зямлю, а сваім кіем даткнуцца да аднаго з атакуючых. Калі гэта яму ўдаецца, то ўжо той яго замяняе. У той час, калі пікершчык імкнецца паставіць пікер, усе ўдзельнікі атакуюць яго і стараюцца зноў паваліць пікер. Пікершчык абараняе пікер, датыкаючыся сваёй палкай да дзяцей. Але важна, каб ён даткнуўся ў час, калі пікер убіты ў зямлю.

## 1053. У куля́

Для гульні неабходна мець плоска завостраны кій каля метра даўжынёй і куль — палачку сантыметраў пятнаццаць. На зямлі ачэрчваецца квадрат са стараной прыкладна 70 сантыметраў. Пасярод робіцца невялікая ямка.

Гуляць у куля можна ўдваіх. Найбольш падыходзячая колькасць гуляючы чатыры-пяць. Можна больш.

У гульні трэба набраць 21 ачко. Каб вызначыць парадак гульні, усе ўдзельнікі мераюцца на палцы, беручыся за яе знізу ўверх адной рукой. Той, чыя рука акажацца зверху, пачынае гульню. Пры гэтым, калі яму застаецца невялікі кончык палкі, за які ледзь удаецца ўзяцца, перад гульцом ставіцца ўмова: звычайна перакінуць палку праз сябе на пэўную адлегласць. Калі перакіне, то пачынае гульню, а не перакіне — застаецца апошнім.

Першы гулец кладзе куль на ямачку ў сярэдзіне квадрата і адкідае або адбівае яго як мага далей. Куль можна проста адкінуць палкай («адзінуць»). За гэта залічваецца адно ачко. Можна падкінуць уверх і адбіць («двайнуць»), за што залічваецца два ачкі. Можна пакруціць завостраным канцом, каб куль ускаціўся на палку, і адбіць («трайнуць»), за што залічваецца тры ачкі. У апошнім выпадку куль можна яшчэ падбіць палкай уверх адзін раз («чатырнуць») або два разы («пяцярнуць»). Найбольш спрытным удаецца нават «шасцярнуць» і «семярнуць».

Адбіўшы куль, гулец палкай паказвае квадрат, а той, хто ў чарзе аказаўся ніжэй, бяжыць за кулем. Ён павінен укінуць куль у квадрат. Калі патрапіць у квадрат, пачынае сам гуляць, а не патрапіць, то гуляе першы ўдзельнік. Так можа працягвацца, пакуль першы гулец не набярэ 21 ачко. Тады ён выбывае з гульні, а яго месца займае той, што бегаў за кулем, быў «пад нізом». Калі часам таму, што быў «пад нізом», удаецца злавіць

куль, яму пераходзяць усе ачкі першага гульца. Гульня працягваецца да тых пор, пакуль не набярэ 21 ачко прадапошні яе ўдзельнік. Потым гульня пачынаецца спачатку.

Пры гэтым, калі на палцы працяглы час мераецца адна і тая ж колькасць удзельнікаў гульні, а значыць можна загадзя ведаць, дзе трэба брацца, каб пачынаць гульню, тады палку перакідаюць адзін другому і ловяць. Мерацца пачынаюць з таго месца, дзе палка злоўлена. Часам мераюцца на іншую палку, рэмень, вяровачку, прут ці нават доўгую травіну.

## 1054. У казіны рог

Гуляць можна партыямі і ўдваіх. Бяруць круглую або кубічную чурку або нешта падобнае на шар — кулю, кожны бярэ сабе палку, якая называецца падцурам. Адмерваюць пэўную адлегласць паміж партыямі, адна з іх пачынае каціць або проста кідае да другой шар, а тая адбівае яго назад або ловіць на сваёй мяжы і вяртае першай партыі. Калі шар прарвецца скрозь мяжу, праіграўшая партыя адступае да таго месца, куды шар закаціўся. Тады пра яе гавораць: «Загналі ў казіны рог!», і гульня лічыцца прайгранай.

## 1055. Катанне кулі

Удзельнікі гульні падзяляюцца на дзве групы і становяцца адна супраць другой на пэўнай адлегласці з палкамі ў руках. Адзін з першай групы кідае з усёй моцы па зямлі кулю (драўляны шар) у напрамку да другой групы. Тыя б'юць па ёй палкаю і не дапускаюць яе каціцца далей. З таго месца, дзе куля апынулася, другая група накіроўвае яе да супраціўніка. Першыя таксама стараюцца прытрымаць яе і зноў коцяць у супрацьлеглы бок і г. д. Кулю не заўсёды ўдаецца ўдала сустрэць палкаю, і бывае, што адна з партый далёка адгоніць другую. Калі ёй удасца заняць месца супрацьлеглай, яна лічыцца пераможцай. Гэта гульня патрабуе спрыту і сілы. Хто хутчэй пакоціць кулю, удала пяройме яе палкаю, той і застанецца пераможцам.

## 1056. Качаць скрытулку

Шэсць-восем хлопцаў дзеляцца на дзве групы. Кожны хлопец мае кароткі калок — адбой. Гульню вядуць на гумнішчы, дзірване ці сенажаці. Ад жэрдкі адразаюць скрытулку (часцей ад бярозы, клёну, каб моцная была). Скрытулка гэта мае 8—12 см у разрэзе. Партыя ад партыі становяцца на адлегласці 20—25 м. Адна партыя кідае скрытулку, другая «адбоямі» б'е па ёй. Калі супрацiўная партыя не адаб'е скрытулку, гэта лічыцца, што «далі кілу». «Кілы» гэтыя лічаць і запісваюць крэскамі на зямлі.

Пры гэтай забаве бывае, што скрытулка дастаецца і ў лоб. Калі скрытулка ляціць гарой і бурчыць, вые, тады лічаць кілу «бурцонцай».

## 1057. У лапту ці шпуляк

З ліку ўдзельнікаў выбіраюць дзвюх матак. Кожная матка бярэ сабе па роўнай колькасці гульцоў. Пасля на полі робяць ямачку — «масла». На роўнай адлегласці ад масла каманды становяцца насупраць адна другой. Удзельнікі адной каманды б'юць па чарзе палкай шпуляк, другая каманда ловіць яго. Хлопец, што біў у шпуляк, бяжыць да масла, а той, хто злавіў яго, стараецца ў гэты час папасці ў яго шпуляком. Калі гэта яму ўдасца, каманды мяняюцца месцамі. Так ідзе гульня ўвесь час.

## 1058. У салаўя

Удзельнікі гульні дзеляцца на дзве партыі і кожная выбірае сабе матку. Маткі «перабіваюцца» на мячыку палкамі і хто болей ударыць па мячыку знізу, не дазваляючы яму ўпасці на зямлю, таго партыя застаецца ў горадзе, а другая ідзе ў поле. Паміж партыямі праводзяцца дзве лініі на адлегласці 30—40 крокаў, і каля першай лініі праводзіцца яшчэ адна на адлегласці 3—5 крокаў ад яе. Адлегласць паміж імі і называецца гарадком.

Матка гарадской партыі падкідвае сваім дзецям мячык, а тыя павінны па чарзе біць па ім палкай так, каб ён падняўся ўверх і заляцеў у поле. Палявая партыя стараецца схапіць мячык на

ляту. Тады яна ідзе ў горад, а гарадская — у поле. Калі ж мячык не зловяць на ляту, то палявая партыя хапае мячык з зямлі і бяжыць да сваёй лініі, куды павінен прыбегчы той, хто біў мячык. Калі ж ён адважыцца бегчы ад лініі назад у горад, яго стараюцца ўдарыць мячыкам, і тады ў поле ідзе гарадская партыя. Але калі ўдараць ужо ў горадзе, гэта значыць у акрэсленай для горада адлегласці, то ўдар не залічваецца, і гульня працягваецца па-ранейшаму.

Кожны хлопчык гарадской партыі мае права ўдарыць па мячыку толькі адзін раз. Калі ён прамахнецца, то адыходзіць убок і чакае, пакуль ударыць наступны, і тады бягуць разам. Калі ж усе прамахнуцца, тады паддае мячык сама сабе матка да трох разоў. Калі ж і яна прамахнецца, то гарадская партыя ідзе ў поле і яе месца займае палявая партыя. Калі ўдар будзе слабы і мячык не даляціць да палявой лініі, удар лічыцца прайграным. Калі мячык ад удара заляціць надта далёка, яго паступова перакідваюць палявой матцы, якая стаіць звычайна каля лініі, і ўжо яна падсякае ім гарадскую партыю.

Гульня захапляючая, і многія хлопчыкі робяць для яе спецыяльныя палкі з круглаю ручкаю і пляскатым канцом, каб ямчэй было біць па мячыку. Часта палкі фарбуюць балотнай рудой, чарніцамі, крушынай, ажынай і г. д.

Калі ўмова змены партый за злоўлены на ляту мячык адмяняецца, што ўласна і называецца салаўём, то гульня атрымлівае назву ілкі. Ілкаю ж называецца і палка, якою б'юць мячык.

## 1059. Кукушка

У гульню «Кукушка» гуляюць ад пяці да васьмі хлапцоў. Калі хлапцоў збярэцца больш за гэту норму, дык дзеляцца на дзве групы. Кожная такая група, выбраўшы сабе месца ў гумне ці ў полі, праводзіць па зямлі чым-небудзь вострым доўгую лінію. Па адзін бок гэтай лініі малюецца квадрат з бакамі не менш як у 1,5 метры. У сярэдзіну квадрата ставяць цурку (адрэзак дрэва) таўшчынёй як абхапіць пальцамі рукі і вышынёй больш за пядзь. Цурка ў гульні называецца кукушкай, а квадрат, у якім яна ставіцца,— гняздом кукушкі. Пасля гэтага ўсе гульцы бяруць палкі даўжынёй 1/2 метра і таўшчынёй як цурка і па чар-

зе становяцца на лініі супраць пастаўленай цуркі і кідаюць свае палкі ў напрамку ад лініі. Кіданне палкі робіцца так: ставяць палку на пальцы правай нагі і двума пальцамі правай рукі прытрымліваюць яе зверху, а затым, стаўшы на адной левай назе і раскачаўшы правую нагу, кідаюць ёю палку наперад як мага далей. Як перакідаюць усе палкі, дык той, чыя палка лягла бліжэй, называецца кукушкіным і прызначаецца быць пры гняздзе кукушкі, а ўсе іншыя гульцы ў тым парадку, як ляглі іх палкі, будуць з другога боку лініі выбіваць кукушку з гнязда. Дзеля гэтага, адступіўшы тры крокі ад квадрата на супрацьлеглым баку, праводзяць на зямлі кароткія лініі так, каб лінія ад лініі была на адзін значны крок. Потым першы гулец з найдалей вызначанага месца, за ім другі бліжэй на крок і г. д. па парадку кідаюць палкі ў гняздо кукушкі, стараючыся выбіць кукушку з гнязда далёка за лінію. У тых выпадках, калі першы гулец выб'е кукушку з гнязда, ён бяжыць як мага хутчэй па кінутую сваю палку і стараецца вярнуцца з ёю на свой бок за лінію. Кукушкін жа з свайго боку стараецца хутчэй схапіць выбітую з гнязда кукушку, вярнуцца і паставіць яе ў гняздзе, адзначыўшы гэты момант выгукам «ку-ку!» Калі першы гулец паспее вярнуцца на свой бок да кукавання кукушкіна, ён зноў кідае палку са свайго месца ў кукушку, а калі не, дык становіцца на месца кукушкіна, а кукушкін займае яго месца.

Калі першы гулец не трапіў палкай у кукушку або толькі паваліў яе ў гняздзе, тады ён падыходзіць да доўгай лініі і чакае, пакуль наступны за ім гулец не выб'е кукушкі. Як другі гулец выб'е кукушку, тады ён і першы гулец, які прамахнуўся, стараюцца дабегчы да сваіх палак і з імі вярнуцца на свой бок. Хто з іх не паспее гэтага зрабіць да моманту, калі кукушкін закукуе, ставячы кукушку, той становіцца на месца кукушкіна.

Калі ж і самы апошні гулец, якога называюць выкупалам (ад слова выкупаць), не выб'е кукушкі, тады нанава варожаць, каму быць кукушкіным, а каму ў гульцах.

У часе гульні, калі кукушкін бачыць, што не паспее паставіць кукушку ў гняздо раней, чым апошні гулец перабяжыць доўгую лінію, ён кідае кукушку ў гняздо здалёку і кукуе. Калі кукушка трапіць у гняздо ці ляжа на мяжы гнязда больш у сярэдзіну, дык кукушкін гэтым выйграе права заняць месца гульца, з-за якога ён кідаў кукушку, і гэты апошні гулец становіцца кукушкіным.

## 1060. У перагона

Праводзяцца дзве рысы на адлегласці 30—40 крокаў адна ад другой. Потым удзельнікі гульні выбіраюць дзвюх матак і падзяляюцца на дзве партыі. Адна з іх становіцца з палкамі ля першай рысы, другая, таксама з палкамі, ля другой. Першая партыя робіць ля сваёй рысы (лініі) чучала бабы з адзення і бярэ перагон. Перагонам можа быць мячык або драўляны невялічкі шарык ці абрубак. Другая партыя ідзе ў поле да другой рысы. Тады першая партыя б'е палкай перагон і стараецца, каб ён адляцеў як мага далей. Другая партыя на ляту адбівае перагон назад. Калі ж гэта не ўдасца, тады паднімаюць перагон з зямлі, падыходзяць да сваёй лініі і стараюцца папасці ім у чучала бабы. Першая партыя павінна адбіваць перагон палкамі, каб ён не зачануў бабу. Калі ж бабу не абароняць, і шар пападзе ў яе, партыя лічыцца пераможанай і ідзе ў поле, а яе месца займае палявая партыя.

## 1061. У гарадкі

Двое хлопчыкаў бяруць раней прыгатаваныя роўна адпіленыя 24 калодачкі даўжынёю каля 3 вяршкоў кожная і 4 палкі даўжынёю каля 3/4 аршына кожная. Калодачкі і палкі дзеляць паміж сабою, потым выбіраюць роўнае месца, становяцца адзін ад другога на адлегласці 20 крокаў і чэрцяць палкамі на зямлі два квадраты, якія называюцца гарадкамі. На тым баку квадрата, які бліжэй да таварыша, яны расстаўляюць 12 калодачак на роўнай адлегласці адна ад другой, пасля кожны з іх становіцца за сваім гарадком і адзін з іх кідае спачатку адну, а потым і другую палку ў калодачкі гарадка таварыша. Калі яму ўдаецца выбіць з гарадка або перакуліць некалькі калодачак, то ён атрымлівае права выбіваць калодачкі да канца гульні з сярэдзіны адлегласці паміж гарадкамі. Тыя калодачкі, якія нейкім чынам не выкаціліся з гарадка, а засталіся пасярэдзіне яго або на лініі квадрата, лічацца не выбітымі. Ставіць іх нельга, акрамя тых, што на мяжы гарадка, і трэба шмат спрыту, каб выбіць іх з гарадка. Галоўная мэта кожнага хлопчыка заключаецца ў тым, каб выбіць усе калодачкі гарадка таварыша. Калі хто-небудзь з хлопчыкаў раней выб'е калодачкі з гарадка таварыша, то той гарадок лічыцца заваяваным, і былы гаспадар яго павінен пакорліва ісці ў гарадок пераможцы, браць таварыша на плечы

і несці ў свой гарадок, дзе ён становіцца гаспадаром. Яму ўжо там прыгатаваны і пастаўлены калодачкі. Сам жа ён ідзе ў гарадок супраціўніка. Права біць першым мае пераможца.

## 1062. У пыжа

Гуляюць двое. На зямлі малюецца чатырохвугольны гарадок. На адлегласці трох крокаў ад яго праводзіцца лінія, якая называецца «агонь». У дзесяці кроках ад гарадка праводзіцца другая такая ж лінія «кон», каля якой становяцца ўдзельнікі і пачынаюць «перабівацца». Для гэтага яны па чарзе бяруць пыж (тая ж крэгля) у адну руку і, злёгку падкінуўшы яго, другою рукою ловяць на ляту палкаю, не дапускаюць, каб ён упаў на зямлю. Хто болей падкіне пыж палкаю, той застаецца ля кона, а хто меней — той ідзе «ў поле». Тут ён ставіць у гарадку пыж і становіцца непадалёку ад гарадка вартаваць; той, хто ля кона, стараецца адтуль выбіць пыж з гарадка як мага далей.

Вартавы кідаецца за пыжам, хапае яго, ставіць зноў у гарадок і перабягае праз агонь. У той жа час і ўдзельнік, што збіў пыж, бяжыць за сваёю палкаю, хапае яе і таксама перабягае праз агонь. Хто зробіць гэта раней, той ідзе на кон, а другі ў поле. Калі ж пры гэтым вартавы паставіць пыж так, што ён зваліцца, то гэта лічыцца пройгрышам, і ён зноў ідзе ў поле. Калі той, хто збівае пыж, прамахнецца або зачэпіць яго і ён хоць паваліцца, але застанецца ў межах гарадка, тады палявы бярэ пыж і, адмераўшы тры крокі ў напрамку да палкі коначнага, стараецца папасці ў яе пыжом. Калі пападзе, коначны становіцца палявым, а той ідзе на кон. У адваротным выпадку ўсё застаецца па-ранейшаму.

## 1063. У крэглы

Робяцца два квадратныя гарадкі на адлегласці 20—30 крокаў, а паміж імі выкопваецца ямка — масла. Крэглы ў гарадках або становяцца ў рад на лініі, або з іх робіцца гарадок.

Для ўладкавання гарадка дзве крэглы кладуцца плазам ўпоперак пярэдняй лініі квадрата, на іх кладуцца другія дзве ўдоўж лініі, а зверху іх ставіцца вертыкальна пятая. У кожным квадраце бывае па пяць крэглаў. Удзельнікі падзяляюцца на дзве партыі і кідаюць жэрабя, якой партыі першай пачынаць «біць крэглы». Для гэтага бярэцца трэсачка з карою, і кожная

партыя выбірае сабе які-небудзь бок: або гладкі, або пакрыты карою. Потым падкідаюць трэску ўверх, і чыім бокам яна ляжа зверху, таму і пачынаць збіваць крэглы.

Збіваць іх пачынаюць ад процілеглага гарадка, але як толькі будзе выбіта з гарадка хоць адна крэгла, іракі пераходзяць к маслу і ўжо адсюль выбіваюць апошнія. Калі ж не выб'юць, тады другая партыя пачынае выбіваць крэглы з другога гарадка. Хто раней выб'е, тых нявыбіўшая партыя носіць на плячах ад аднаго гарадка да другога столькі разоў, колькі засталося нявыбітых крэглаў.

## 1064. У кеглі

Чэрцяць на зямлі два квадраты, кроках у дваццаці адзін ад другога; на процілеглых баках абодвух квадратаў ставяць па сем цыліндрычных драўляных абрубачкаў, кожны вышынёю ў чатыры або пяць вяршкоў, а таўшчынёю ў вяршок або два. Дзеці падзяляюцца на дзве роўныя групкі, і кожная група выбірае сабе т. зв. галаву, або матку. Апошняя па свайму жаданню дае кожнаму ў сваёй групе назву старшага, сярэдняга і малодшага сыноў, што дае права ўдзельніку гульні быць першым. Абедзве групы дзяцей, узброеныя палкамі, становяцца ў дзесяці кроках ад свайго квадрата. Матка пачынае гульню: кідае палку ў цыліндрычныя абрубачкі, стараецца выбіць іх з квадрата; за маткай працягваюць гульню яе сыны ў строгім парадку, у залежнасці ад правіл, якія ўстанаўлівае матка. Тая група, якая першая закончыць сваю партыю, лічыцца пераможцай. Пераможаную групу караюць так: пераможцы залазяць на плечы супраціўніку і прымушаюць насіць на сабе вакол квадратаў і прыгаворваюць:

— Твой дзед на маім ездзіў.

У гэту гульню ў святочныя дні часта гуляюць і дарослыя.

## 1065. У крэглі

Гуляюць чацвёра. На адлегласці дзесяці сігней (вялікіх крокаў, як можна ногі расставіць) малююць квадратныя «кругі». У іх у кутках і ў цэнтры ставіцца на пяць крэгляў (кароткіх цыліндрычных слупкоў). Тады два ўдзельнікі гульні адыходзяць у бок чужога гарадка і адтуль пачынаюць кідаць палкі ў свой гарадок, каб выбіць адтуль крэглі. Пры гэтым паваленая крэгля, але так, што яна застаецца ў гарадку або нават на яго рысе, не

лічыцца выбітаю. Калі першая партыя перакідае свае палкі, да яе гарадка падыходзіць другая партыя і адсюль пачынае збіваць свае крэглі. Такое пачарговае збіванне, па ўмове, праводзіцца ў два, тры прыёмы. Калі пасля гэтага ў якой-небудзь партыі застануцца нявыбітыя крэглі, яна павінна перанесці пераможцаў ад гарадка да гарадка столькі разоў, колькі засталося нявыбітых крэгляў.

## 1066. У косці

Кожны з удзельнікаў гульні запасаецца дзесяткам або двума костачак ад валовых ног. Гэтыя костачкі расстаўляюцца папарна ў доўгі рад; потым усе дзеці бяруць па адной костачцы і па чарзе кідаюць іх на адлегласці крокаў дваццаці ад раду касцей. Чыя костка ўпадзе далей, той першы пачынае гульню. Хлопчык, што атрымлівае права першай чаргі, робіць два крокі наперад і кідае сваю костку ў рад. Колькі костачак ён выб'е, усе яны становяцца яго ўласнасцю. Але не заўсёды першым гуляе той, хто далей кіне сваю костку. Важную ролю тут адыгрывае і тое становішча, у якім знаходзіцца кінутая костка. У кідальнай косцы адрозніваюцца тры розныя бакі, якія маюць розныя назвы: «клец», «жог», «ніка». Калі костка падае на бок «клец», гэта дае перавагу яе кідальніку перад тымі, чые косці ўпалі хоць і далей, але бакамі «жог» або «ніка». Больш лоўкія і дурасліўыя хлопчыкі, якія жадаюць заўсёды быць першымі, часам падрабляюць кідальную костку. Бок косткі «клец» абтачваецца на кавальскіх тачылах, а на ўнутраную частку гэтага боку наліваюць праз прабураўленую дзірачку расплаўленае волава. Дзірка добра замазваецца, і хлопчык карыстаецца такой фальшывай косткай. Здараецца, што такая падробка застаецца незаўважанай, але гора лгуну, калі таварышы ў час заўважаць хлусню: дзеці яго б'юць, а косці, выйграныя шляхам хлусні, забіраюць і дзеляць паміж пацярпеўшымі.

## 1067. У цуркі

Гуляюць двое. Яны бяруць па палцы і цурку, г. зн. кароткую, у 4—6 вяршкоў даўжыні, палачку, і перабіваюцца: хто болей падкіне сваёй палкай цурку на паветры, не дапусціць, каб яна ўпала на зямлю, той застаецца ў горадзе, а другі ідзе ў поле.

Хто застаецца ў горадзе, абводзіць палкай вакол сябе кола, становіцца ў цэнтр яго і б'е палкай у цурку так, каб яна заляцела як мага далей. Той, што ў полі, паднімае цурку і, зрабіўшы на тры крокі «прыступ» да горада, кідае туды цурку, каб яна аказалася ў коле. Калі гэта яму ўдаецца, ён уваходзіць у горад, а гарадскі ідзе ў поле; калі не, абое застаюцца на месцах і цурку зноў б'юць у поле. Калі кінутая з поля цурка ляжа на рысу акружнасці, тады гарадскі б'е яе палкай па адным канцы, каб яна падкінулася ўверх. Як толькі цурка апынецца ўнутры кола, у горад уступае палявы. У другім выпадку ён зноў ідзе ў поле.

## 1068. У чыжыка

Гуляюць двое, абодва з палкамі, якія называюцца лаптою. Акрамя таго, робяць яшчэ кароценькую палачку, у чвэрць аршына, і завастраюць у яе канцы. Гэта палачка завецца чыжыкам. Затым на зямлі чэрцяць круг або квадрат і адзін з ігракоў, каму прыйдзецца верх на палцы, становіцца з чыжыкам у круг, а другі ідзе ў поле. У кругу чыжык кладзецца на зямлю; ігрок б'е лаптой па вострому канцу яго, і чыжык падскоквае ўверх. У гэты час ігрок павінен ударыць яго так, каб ён паляцеў далёка ў поле. Калі ігрок прымусіць чыжык падскокнуць тры разы і не здолее загнаць яго ў поле, ён прайграў і сам ідзе з круга ў поле, а на яго месца становіцца палявы. Калі ж ён выганіць чыжыка ў поле, палявы павінен пераняць яго на ляту сваёй лаптой. Тады ён ідзе ў круг. Калі ж гэта яму не ўдасца і чыжык упадзе на зямлю, тады ён паднімае яго з зямлі і кідае ў круг. Калі пападзе, сам ідзе ў круг і выбівае чыжыка ў поле.

Дагаворваюцца звычайна на 50 удараў. Хто першы выканае такі лік, ён мае права прымусіць прайграўшага праскакаць на адной назе адлегласць ад поля да мяжы столькі разоў, колькі не выканана ім удараў.

## 1069. У транпыжа

У транпыжа можна гуляць утраіх. Робяць два транпыжы — невялікія значаныя палачкі. Адзін з удзельнікаў, па ўгавору, кідае іх далёка ўбок, у той час як другія кладуцца на зямлю, каб не бачыць, куды ўпадуць транпыжы. Калі палачкі будуць закі-

нуты, той, хто кідаў, крычыць: «Уставайце!» — і махне ў той бок, дзе палачкі. Усе ўскакваюць і ідуць шукаць палачкі. Хто знойдзе палачку раней, той едзе вярхом на другім ад месца знаходкі да кона, гэта значыць да таго месца, адкуль транпыжы кідаліся.

## 1070. Транпыж

Гуляюць двое з палкамі. Гульня заключаецца ў тым, што кожны кідае па чарзе сваю палку вертыкальна так, каб яна, упіраючыся канцом у зямлю, падскоквала, зноў упіралася і зноў падскоквала. У той час, калі адзін з удзельнікаў гульні кідае палку, другі павінен падсекчы яе сваёю палкаю. Калі яму гэта ўдасца, яны мяняюцца ролямі (хто кідаў палку — падсякае і наадварот). Калі ж ён не здолее закрануць палку супраціўніка, то абодва застаюцца ў тых жа ролях.

## 1071. Вільна

На роўным месцы дзеці капаюць ямачку вяршкі тры глыбінёю і столькі ж у дыяметры. Гэту ямачку называюць «Вільнай». У розныя бакі ад «Вільны» для кожнага з удзельнікаў гульні адмерваецца пэўная адлегласць. Потым бяруць драўляны цвік даўжынёю вяршкоў у пяць, і адзін з удзельнікаў ставіць яго вострым канцом у зямлю і б'е палкаю. На колькі цвік увойдзе ў зямлю, на столькі гулец памяншае сваю адлегласць ад «Вільны». Калі ж хлапчук прамахнецца, то губляе права стукнуць другі раз, а перадае цвік іншаму. Той б'е па цвіку і ў залежнасці ад таго, papадзе ці не па цвіку, памяншае сваю адлегласць ці перадае палку суседу і г. д. Хто першы дастане «Вільны», той лічыцца яе заснавальнікам і атрымлівае права назначаць пакаранне тым, хто не дойдзе да «Вільны». Пакаранне можа быць дваякае: прымушаюць прынесці кінуты з усёй сілы драўляны цвік да месца, адкуль ён кінуты, пры гэтым нельга пераводзіць дыханне (для праверкі даюць цягнуць нейкі гук). Калі ж і тут напаткае выканаўцу няўдача, ён павінен тое ж выканаць другі раз. Для тых жа, хто зусім не скрануўся з месца, пакаранне больш сур'ёзнае: яны абавязаны выцягнуць рукамі зусім забіты ў зямлю цвік.

## 1072. У масла

Па ліку ўдзельнікаў гульні капаюць невялікія ямкі ў кругавую лінію, а пасярод іх у цэнтры выкопваецца вялікая ямка, якая называецца маслам. Потым мераюцца на палцы, каму быць маткай, а каму ісці ў поле пасвіць свінню. Дзеці для маткі насыпаюць невялікі курган і ставяць на яго свінню — некаторае падабенства драўлянага шара. Матка з усіх сіл б'е сваёю палкаю па шару, каб ён заляцеў як мага далей. Палявы знаходзіць яго ў полі і гоніць да масла. Дзеці і матка стаяць, упёршыся сваімі палкамі ў ямкі, і вартуюць масла. Як толькі палявы падгоніць свінню блізка, хто-небудзь з дзяцей або матка адбіваюць яго палкаю. Але калі ў час гэтага ўдару палявы зойме сваёю палкаю ямку, што апусцела, яе гаспадар робіцца палявым, а палявы займае яго месца.

Калі ж палявому, нягледзячы на вартавых, удаецца загнаць свінню ў масла, то ў поле ідзе матка або гульня пачынаецца спачатку.

## 1073. У шлякі

Шляк — гэта бабка з нагі каровы. Шлякамі гуляюць у кона, у плоца, у сценку і на грошы. Пры гульні ў кона кожны з удзельнікаў ставіць па стуленай пары шлякоў на кон у рад, злева направа або спераду назад, на адлегласці 1—1,5 вяршка пара ад пары. Затым праводзяць рысу ў 3—5 кроках ад кона і заганяюць біткі.

Біткамі могуць быць камні, зручныя для кідання, а таксама пліткі, чыгунныя ядры, шкляныя шары і нават асколкі ніжняй юшкі печы. Заганяць бітку — г. зн. кідаць яе на такую адлегласць ад кона, каб можна было збіць шлякі, што стаяць на кану. Чыя бітка ляжа далей, той б'е шлякі першым, чыя бліжэй да кона — той апошнім, Бліжэй рысы бітку заганяць нельга. Прыступ дазваляецца толькі на адзін крок. Калі бітка пападзе ў кон, удзельнік бярэ столькі шлякоў, колькі саб'е яго бітка, хаця гэта залежыць ад узаемнай умовы. Калі ж ён прамахнецца, то ставіць у кон яшчэ пару.

У плоца кон робіцца такі ж, але шлякі могуць ставіцца па аднаму. Біткамі з'яўляюцца выключна шлякі, хоць бы і налітыя свінцом — свінчаткі, або літыя з чыгуну. Праводзіцца таксама і рыса на адлегласці 2—3 крокаў. Першым б'е не той, чыя бітка

ляжа далей, а той, чыя ляжа плоскім бокам — плоцам. Пасля плоца б'е жог, г. зн. той, чый шляк ляжа спінкай уверх, а пасля ўсіх б'е да́ла — той, чый шляк ляжа спінкай уніз. Хто пападзе ў кон, бярэ, колькі выб'е, хто прамахнецца — удвоіць стаўку.

У сценку гуляюць удваіх. Адзін б'е аб сценку шлякам, часцей двума, так, каб яны далей адляцелі. Другі б'е следам за ім, стараецца, каб яго шлякі леглі як мага бліжэй да першых — не далей 1/4 аршына. Тады ён выігрывае. У іншым выпадку першы ігрок паднімае свае шлякі і стараецца, каб пры біцці аб сценку яны ўпалі да шлякоў другога і г. д.

На грошы ў шлякі гуляюць дарослыя. Звычайна яны бяруць пару шлякоў і кідаюць іх на зямлю. Калі абодва шлякі ляглі ў адной позе плоцамі, жогамі або да́ламі, астатнія ўдзельнікі плоцяць па капейцы; калі ж у розных позах, то выйгрыша няма і гуляць пачынае наступны ўдзельнік.

## 1074. У яркі

Для гульні расчышчаюць гладкую пляцоўку і на ёй робяць пяткамі навялікія ямачкі, якія і называюцца яркамі. Яркі размяшчаюцца ў адзін рад, і лік іх залежыць ад ліку ўдзельнікаў. На адлегласці трох крокаў ад ярак праводзіцца «агонь» — лінія. Потым кожны па чарзе павольна коціць па ярках мячык. Як толькі мячык упадзе ў чыю-небудзь ярку, усе стрымгалоў кідаюцца бегчы ад іх. Гаспадар яркі хапае з яе мячык, падбягае да агню і стараецца «застукаць» каго-небудзь мячыкам.

Каго застукае, таму залічваецца ярка; у адваротным выпадку ярка лічыцца таму, хто кідаў мячык. Калі такіх штрафаў збярэцца столькі, колькі ярак у радзе, тады штрафнога ставяць тварам да сценкі і караюць яго ўдарамі па спіне кулакамі, канешне, не моцнымі пад такт песенькі:

Ярка, палка!
Каралёва жонка!
Лезь на палаці,
Стань казыраці,
Будзем у карты грацi,
І вечара дажыдаці.

Б'юць мацней і разбягаюцца. Калі прайграўшы каго-небудзь зловіць, гульня пачынаецца зноў з самага пачатку.

## 1075. У кісценя

Удзельнікі гульні дзеляцца на дзве партыі: адна ідзе ў кон, другая бярэ мячык. Конам называецца вялікі круг, сажэняў пяць у дыяметры.

Партыя, у якой мячык, лічыцца, каму біць. Потым яна падыходзіць да аднаго краю круга, а партыя, што ў кругу, ідзе к другому краю. Хлопчык, якому дастаўся мячык, павінен папасці ў каго-небудзь з конавых. Тады гэта партыя зноў лічыцца і ў другі раз б'е ў конавых. Калі ж не пападзе мячыкам у каго-небудзь з конавых, то гэта партыя ідзе ў кон, а ранейшая конавая пачынае «дзяліць мячык».

## 1076. Грахі

Для гэтай гульні выбіраюць гладкае месца і робяць у зямлі столькі копак (ямак), колькі дзяцей гуляе. Копкі робяцца ў рад; кожны выбірае сваю копку і становіцца каля яе. З канцоў рада становяцца дзве маткі, якія качаюць кулю (мяч), мяркуючы так, каб куля папала ў чыю-небудзь копку. Калі яна пападзе ў копку, то пакуль той, чыя копка, нагнецца падняць кулю, усе разбягаюцца як найбарджэй, бо, як той падніме кулю, усе павінны спыніцца на месцы. Той, хто трымае кулю, кідае яе ў каго-небудзь з стаячых бліжэй, а калі не пападзе, то кладзе ў сваю ямку грэх — маленькі камянёк, а калі ўдасца папасці куляй, то грэх кладзе той, у каго папала куля. Калі ў аднаго з удзельнікаў гульні набярэцца тры грахі, то яго прысуджаюць да расстрэлу і вядуць ставіць да сцяны. Тады кожны можа ўдарыць яго ля сцяны куляю тры разы, калі ў яго ямцы няма ніводнага грэху. Тыя ж, у чыёй ямцы ёсць грахі, б'юць прайграўшага два ці раз — столькі разоў, колькі ў іх не хапае грахоў да трох. Той, што стаіць ля сцяны, не можа сходзіць з свайго месца, а можа толькі адхінацца ўбок.

Пасля гульню пачынаюць зноў, як і раней.

## 1077. Цар

Чэрцяць на зямлі вялікі круг, у сярэдзіне робяць маленькую ямку для мяча. У ямку кладуць мяч. Аднаго з гульцоў выбіраюць царом. Цар назначае, каму выбіваць мяч. Той выбівае мяч і стараецца ў каго-небудзь папасці. У каго пападзе, той выходзіць з круга. А цар забірае мяч і зноў кладзе ў ямку, назначае новага біць. Цар можа пяць чалавек назначыць, а тады яго перавыбіраюць. Робяць гэта так. Цар адну руку кладзе на мяч, другую сабе на спіну. Па руцэ, што на спіне, нехта б'е. Цар адгадвае. Калі адгадае, то зноў будзе царом, а не, то другога назначаюць. Гульня працягваецца.

## 1078. У лапту

Усе ігракі чэрцяць кругі і бяруць лапаткі (ракеткі). Адзін без круга. Ён кідае мяч, а другія адбіваюць лапатачкамі. Яны стараюцца пры гэтым не выйсці з свайго круга, бо гулец без круга імкнецца заняць пусты круг. Хто застаўся без круга, кідае мяч, і гульня працягваецца.

## 1079. У мяч — у выбівала

На зямлі малююць вялікі круг. Усе гульцы стаяць у сярэдзіне круга. Двое з мячом — за кругам. Гульцы ў кругу бегаюць, а тыя, што з мячом, стараюцца выбіць каго-небудзь з круга.

## 1080. Штандар, стой!

Адзін бярэ мяч — ён штандар. Усе астатнія стаяць вакол. Гулец з мячом падкідае мяч і крычыць: «Валя, табе!» Валя ловіць мяч і крычыць: «Штандар, стой!» Усе астанаўліваюцца. Валя кідае ў каго-небудзь мячом, стараецца папасці ў яго. Калі пападзе, той ловіць мяч і сам крычыць: «Штандар, стой!». Калі гулец з мячом не пападзе мячом ні ў кога, яму залічваюць ачко і г. д. Гульня ідзе да пяці ачкоў.

## 1081. У казла

Хлопчыкі становяцца кругам і гуляюць у мячык. У каго мячык упадзе, той працягвае рабіць тыя рухі, якія пачаў і так да тых часоў, пакуль нехта засмяецца. Таму, хто засмяяўся, запісваюць літару «к». Так гуляюць, пакуль хто-небудзь з удзельнікаў не атрымае ўсе літары слова «казёл» і кропку. Тады «казёл» становіцца нагнуўшыся пасярод поля, а праз яго ўсе скачуць.

## 1082. У пяць дзевак

Могуць прымаць удзел у гульні ўсе жадаючыя. Адзін бярэ мяч і гаворыць:

— Я знаю пяць дзевак:

Маня — раз,
Таня — два,
Люда — тры,
Света — чатыры,
Тома — пяць.

Я знаю пяць хлопцаў: (называе імёны).
Я знаю пяць гарадоў (назваць).
Я знаю пяць рэк (назваць).
Я знаю пяць красак (назваць).

Потым па чатыры, па тры, па два, па аднаму. Калі мяч упадзе, гулец выходзіць з гульні, пачынае другі. Пераможца той, хто давядзе гульню да канца.

## 1083. У сабачку

З ліку ўдзельнікаў выбіраюць сабачку. Гэта робіцца так: усе паднімаюць угару па аднаму пальцу, стуліўшы іх разам. Нехта накрывае пальцы далонькай. Усе разам гавораць:

Баба — жаба — цап!

Пры апошнім слове трэба цапнуць каго-небудзь за палец. Хто папаўся ў далонь, той сабачка. Тады бяруць мяч і перакідваюць яго з рук у рукі.

Сабачка павінен перахапіць мячык, злавіць яго. Калі мяч злоўлены, такім жа чынам выбіраюць сабачкам другога.

### 1084. Гульня з мячом

Кожны робіць сабе кружок і садзіцца перад ім.

Апошні ў радзе пракатвае мяч. На чый кружок трапіў мяч, той цаляе мячом у каго-небудзь, усе ўцякаюць. У каго пападуць мячом — таму ачко. І так да 5 ці 10 разоў, як дамовяцца. Хто больш назбірае ачкоў, таго ставяць каля сцяны, і кожны з гуляючых б'е яго адзін раз.

### 1085. Гульня з мячыкам (Аддзелвацца)

Гэта гульня з мячыкам. Прымаць удзел у гульні можа некалькі чалавек. Колькасць фігур у гульні адвольная, але звычайна іх бывае пяць. Кожная фігура «аддзелваецца» (адрабляецца) тры разы:

1. Сценка. Удзельнік гульні б'е мячыкам аб сценку і ловіць яго так, каб мячык не ўпаў на зямлю. Гэта сценка. Тая ж сценка апусканая, г. зн. мячык апускаецца на зямлю; але калі ён ад зямлі падскочыць уверх, удзельнік павінен злавіць яго. Тая ж апусканая сценка — прыбіваная, калі мячык стукнецца аб зямлю, падскочыць, хлопчык ці дзяўчынка зноў б'юць яго далонню ўніз і ловяць ужо тады, калі ён падскочыць у другі раз.

2. Пад ручку. Удзельнік гульні ўпіраецца левай рукою ў сцяну і падкідае з-пад яе правай рукою мячык уверх, дзе і ловіць яго праваю ж рукою. Тая ж фігура апусканая: мячык ловіцца правай рукою тады, калі, стукнуўшыся аб зямлю, падскочыць уверх.

3. Пад ножку. Удзельнік упіраецца ў сценку левай нагою, падкідвае з-пад яе мячык уверх правай рукою і на ляту ловіць. Тая ж фігура апусканая, у якой мячык ловіцца тады, калі, стукнуўшыся аб зямлю, падскочыць уверх.

4. Удзельнік гульні становіцца спіною да сцяны і ўпіраецца ў яе цемем, б'е мячык аб сценку і ловіць, не адхіляючыся галавою ад сцяны.

5. Свяча. Мячык падкідаюць уверх і ловяць на ляту. Тая ж фігура апусканая: мячыку даюць упасці на зямлю і ловяць яго тады, калі ён, стукнуўшыся, падскочыць уверх. Апусканая свяча з аддачай. Калі мячык, стукнуўшыся аб зямлю, падскочыць, яго зноў б'юць рукою ўніз. Чым болей паўтараецца такая аддача,

тым болей шанцаў на выйгрыш. Прайграе той, хто «аддзелаецца» пасля іншых. А калі ўсе аддзелаюцца адразу, то той, у каго менш будзе аддачы ў апусканай свячы. Праіграўшы становіцца ля сценкі і працягвае руку з раскрытаю далонню. Усе з адлегласці ў 5—6 крокаў стараюцца ўдарыць па далоні мячыкам столькі разоў, на колькі будуць заключаны ўмовы ў пачатку гульні. Калі пераможца прамахнецца, удар усё роўна залічваецца. Калі пераможаны зможа схапіць мячык далонню ў час удару, яму дазваляецца пасля адбыцця пакарання паставіць ля сценкі пераможцу і ўдарыць яго па далоні мячыкам столькі разоў, колькі той схапіў мячык.

## 1086. Гульня са скакалкай

Двое круцяць вяроўку, астатнія па чарзе скачуць пад лічылку:

Роза, бяроза, лілія, мак,
Табак, васілёк.

Хто на якім слове спатыкнецца, будзе той кветкай. Далей чарга ўстанаўліваецца так. Скачуць зноў пад лічылку, на якой кветцы хто спатыкнецца, той ідзе скакаць.

## 1087. Дзікуны і рускія

Адмерваюць дзве лініі на адлегласці дзесяці сажняў адна ад другой: за адной лініяй становіцца матка-дзікун, за другой — рускія. Адлегласць паміж лініямі называецца полем.

Рускія стаяць некаторы час за лініяй, потым ідуць на поле і пачынаюць здзекавацца над дзікуном:

— Шэра, бела, ці не ты? Шэра, бела, ці не ты?

Раз'юшаны дзікун кідаецца на рускіх і стараецца каго-небудзь з іх схапіць, але толькі на полі, за лінію переступаць ён не можа. Калі дзікун нікога не зловіць, то вяртаецца назад за лінію, а рускія зноў выходзяць на поле і пачынаюць дражніць дзікуна:

— Шэра, бела, ці не ты?

Дзікун зноў кідаецца на рускіх і калі каго-небудзь зловіць, то вядзе за сваю лінію; злоўлены робіцца ўжо дзікуном і дапамагае матцы лавіць рускіх. Калі застанецца толькі адзін рускі,

тады ўсе дзікуны, сыны і дочкі маткі, кладуцца спаць. Каля іх кладзецца і матка. У гэты час падкрадваецца рускі і хапае каго-небудзь з захопленых раней дзікуном рускіх і ўцякае з ім за сваю лінію. Матка ўскоквае і гоніцца за імі, не даганяе і вяртаецца назад, галосячы, што ўкралі ў яе сына або дачку. Потым яна кладзецца зноў каля дзяцей. Рускія падкрадваюцца ўжо ўдваіх і ўводзяць двух палонных. Матка зноў гоніцца за імі і г. д., пакуль будуць выкрадзены ўсе палонныя, тады ўсім натоўпам ідуць яны к дзікуну, бяруць яго хто за нагу, хто за галаву і нясуць на рускую зямлю. Потым выбіраюць новага дзікуна, і гульня пачынаецца спачатку.

### 1088. Піянеры, піянеры, дайце нам важатага!

Дзяўчаты стаяць у два рады, рад супраць рада, і трымаюцца за рукі. Адна дзяўчынка пачынае: «Піянеры, піянеры», а ўвесь рад падхоплівае: «дайце нам важатага». З другога раду вылучаюць адну дзяўчынку, якая бяжыць і імкнецца разарваць супрацьлеглы рад. Калі гэта ўдаецца, то яна забірае аднаго чалавека і вяртаецца назад. А не разарве — застанецца там. Перамагаюць тыя, у каго ў выніку будзе больш людзей.

### 1089. У пекла

Загадзя выкопваюць ямку шырынёю каля паўтара аршына і глыбінёю аршын. Вакол ямкі садзяцца дзеці, спускаюць у ямку ногі і пачынаюць абы-што крычаць, быццам яўрэі ў сінагозе; у гэты ж час адзін з хлопчыкаў (большы і мацнейшы за іншых) з запэцканым сажаю тварам, які выконвае ролю д'ябла, выходзіць з будкі, якая хавае яго ад іншых, хапае аднаго хлопчыка і вядзе да сябе ў будку. Будка гэта і называецца пеклам. Хлопчык, якога завялі ў будку, больш не прымае ўдзел у гульні.

### 1090. У лыкі

Два хлопчыкі садзяцца на зямлю і ўпіраюцца ступнямі адзін у другога. Іншыя хлопчыкі павінны пераходзіць праз іх ногі. Усіх пытаюць:

— Куды ідзеш?

— У лыкі!
— Ну, ідзі!
Калі ўсе перайдуць у лыкі, тады пачынаюць пераскокваць праз ногі назад, ідучы «з лык». Хлопчыкі, што сядзяць, не мяняючы позы, павінны іх лавіць. Чым вышэй і спрытней хлопчык скокне, тым цяжэй яго злавіць. Калі ж хто будзе злоўлены, ён садзіцца на месца злавіўшага і сам пачынае лавіць іншых.

## 1091. У пераскочкі

Удзельнікі гульні здымаюць шапкі і кладуць іх адна на другую слупікам. Потым у тым жа парадку, як складзены шапкі, пачынаюць скакаць цераз іх, каб не зачапіць шапак нагамі. Калі хто-небудзь зачэпіць шапкі, яго гоняць «скрозь строй». Робіцца гэта так. Усе становяцца адзін за другім і шырока расстаўляюць ногі, а вінаваты паўзе ў іх пад нагамі. Яго ў гэты час б'юць шапкамі.

## 1092. Белку трасці

Гульцы становяцца ў рад адзін за адным нагнуўшыся, і затым кожны абнімае паясніцу папярэдняга гульца. Як усе так пасталі, апошні гулец садзіцца на папярэдняга як на каня, і стараецца хутка пры дапамозе рук пералезці далей на папярэдняга, з таго яшчэ далей, пакуль не перапаўзе так усіх да канца, а гульцы стараюцца гэтага пералазчыка трасці, каб скінуць. Калі адзін гулец перапаўзе ўсіх, ён становіцца наперадзе, а той, хто цяпер апошні, пачынае рабіць тое самае. Так працягваецца, пакуль кожны не паспрабуе перапаўзці па ланцужку.

## 1093. У чакерду

Перш за ўсё лічацца або мераюцца па палцы, потым адзін ідзе да сценкі «за кабылу» і становіцца там у паўсагнутым стане. Адзін з гульцоў скача яму на плечы і калі не ўскокне або не ўтрымаецца, то становіцца пры ім у такім жа выглядзе. Астатнія скачуць ужо на іх. Хто не ўскокне або зваліцца, прымыкае да кабылы, усё павялічваючы яе. Калі ўсе ўдзельнікі выканаюць скокі, кабыла вязе тых, хто змог ускочыць на спіну. Калі ж ка-

была зваліцца пад цяжарам, тады ўсе кідаюцца на ўпаўшых з крыкам:

— Мала куча, невяліка! Мала куча, невяліка!

Упаўшыя вызваляюцца, гульня пачынаецца зноў.

## 1094. Кавалькі

Робяць з дрэва два каваддлы і каля кожнага з іх па ўстою прыладжваюць лёгкі драўляны малаток з прывязанай да яго ручкі ніткай.

Затым два гульцы паасобку торгаюць за ніткі, каб малаткі без перапынку білі па кавадлах, а трэці гулец падстаўляе пальцы то адной рукі, то другой якраз у тыя месцы, дзе б'юць малаткі. Калі ён здолее падстаўляць і адымаць пальцы з аднаго або другога кавадла так, каб па іх не ўдарыў малаток, дык ён становіцца торгаць нітку, а той, хто торгаў нітку,— на яго месца.

## 1095. Шашка ганяць

Ставяць у кружок зэдлічкі (табурэты) або крэслы блізка адзін ад аднаго. На зэдлічкі садзяцца гульцы і закладваюць назад рукі. У рукі аднаго з іх даецца жгут, або шашок (скручаныя дзве хустачкі з вузлом на канцы). Як толькі ў сярэдзіну круга ўвойдзе той, каму па варажбе або па ўласнай згодзе прыйшлося «ганяць шашка», жгут пачынае перадавацца з адных рук у другія ззаду гульцоў, а хто ганяе шашка, стараецца яго знайсці. Калі шукач шашка стане плячыма або бокам да таго месца, дзе шашок перадаецца, гульцы стараюцца ўдарыць шукача шашком і, залажыўшы рукі назад, хутка перадаюць яго другому, трэцяму і г. д. Але калі хто з гульцоў не спрытна гэта зробіць і ў яго будзе злоўлен шашок, ён ідзе ў сярэдзіну круга «ганяць шашка», а хто злавіў шашка, садзіцца на яго месца.

## 1096. У шыла

Збіраюцца хлопчыкі ў хаце або дзе-небудзь у зацішнае месца, садзяцца на зямлю блізенька адзін каля другога, утвараючы круг. Садзяцца яны так, каб пад нагамі ўтварылася свабоднае пустое месца. Для гэтага яны ногі не выпростваюць,

а ставяць на ступню ці на пятку. Пад нагамі ў гэтым пустым месцы хлопчыкі трымаюць рукі. Потым усе выбіраюць аднаго хлопчыка, які бярэ ў каго-небудзь або свой пасак, звівае яго, ідзе ў сярэдзіну круга, аддае пасак аднаму з сядзячых хлопчыкаў і сам паварочваецца да яго спіною. Хлопчык, які атрымаў пасак, б'е ім па спіне таварыша, што стаіць у сярэдзіне, і хутка хавае яго ў пустое месца пад нагамі. Пасак тут жа перадаецца ў рукі іншых таварышаў і хутка знікае з вачэй.

Хлопчык, атрымаўшы ўдар, хуценька паварочваецца, а пасак ужо знік. Ён кідаецца за паскам, а той далей перадаецца. І ўжо нехта іншы б'е яго па спіне, усе смяюцца. Хлопчык кідаецца ў бок удара, але пасак зноў знікае пад нагамі таварышаў. Хлопчык зноў шукае яго. Так працягваецца да тых часоў, пакуль хлопчык, што стаіць пасярэдзіне, не зловіць пасак пад нагамі аднаго з сваіх таварышаў. Тады апошні ўстае і становіцца пасярэдзіне круга, а першы хлопчык садзіцца на яго месца, і гульня працягваецца.

## 1097. У каваля

Выбіраюць з удзельнікаў гульні каваля. Каваль мае скручаную пытку з хусткі або ручніка. На лаве пад шапкай ці яшчэ пад чым хавае якую-небудзь рэч, напрыклад арэх, цыбуліну, гарошыну і г. д. Да каваля падыходзяць па чарзе дзеці і адгадваюць, што схавана. Хто не адгадае ад першага разу, таго каваль б'е пыткай. Так праходзяць усе ўдзельнікі гульні. Калі ніхто з удзельнікаў не адгадае, які прадмет схаваны, тады ўсе б'юць каваля.

## 1098. У пытку

У гульні прымаюць удзел два хлопчыкі. Адзін з іх бярэ папружку, складае яе ўдвая і скручвае. Другі бярэ тоненькі кіёчак або цвік і стараецца папасці ў цэнтр скручанай папружкі так, каб, пацягнуўшы за другі канец папружкі, другі хлопчык перавярнуў кіёчак або цвік і той апынуўся ўнутры папружкі. Калі хлопчык удала пападзе ў цэнтр, то б'е папружкаю свайго таварыша па руцэ, бярэ сабе папружку, і гульня працягваецца; калі ж не, то яго б'юць, а ён зноў стараецца папасці ў цэнтр скручанай папружкі.

## 1099. Маршалкі

Ад дубца з прысохшай карой адпілоўваюць (ці адразаюць нажом) дзве цурачкі па 2 сантыметры даўжыні і расколваюць папалам. Гэтыя новай формы чатыры цуркі называюцца маршалкамі.

На пачатку гульні пры дапамозе зробленых цурак выбіраюць з гульцоў так званых пана і пытку. Робіцца гэта так: кожны гулец па чарзе бярэ маршалкі і выкідвае іх са жмені на стол. У каго ўсе чатыры цуркі лягуць карой уніз, той становіцца панам. Далей па чарзе кідаюцца цуркі без удзелу пана. У каго тры цуркі лягуць карой уніз, той робіцца пыткай (назва гульца, які па загаду пана выконвае абавязкі ка́та). Цяпер гульцы, што засталіся неабранымі (іх павінна быць не менш трох), па чарзе кідаюць маршалкі. Кожны, хто выкіне толькі аднаго маршалка карой уніз, называецца мужыком. Яго па назначэнню пана б'е пытка 3—5 разоў па плячах жгутом, зробленым з хустак. Калі хто выкіне чатыры маршалкі карой уніз, называецца цыганом і атрымлівае на 2—3 удары больш, чым мужык. Але калі хто выкіне толькі два маршалкі карой уніз, ён называецца шляхцічам і не атрымлівае ніякага біцця. Потым выбіраюць новага пана, пытку такім жа спосабам.

## 1100. У караля

Для размеркавання роляў у гульні пішуцца запісачкі. На адной «суддзя!», на другой «вор!», на трэцяй «пабедны чалавек!», на чацвёртай «кат!» Запісачкі скручваюць трубачкамі і кладуць у шапку, а затым яны па адной вымаюцца адтуль кожным удзельнікам гульні. У каго запіска са словам «суддзя», той прымае важны выгляд і пытае:

— Хто пабедны чалавек?

— Я пабедны чалавек!— адказвае той, у каго запіска з гэтымі словамі.

— Хто ў цябе кароўку ўкраў?

Пабедны чалавек павінен адгадаць, у каго запіска са словам «вор». Калі адгадае, тады суддзя крычыць:

— А, так ты ў пабеднага чалавека апошнюю кароўку крадзеш! Кат! Даць яму цёпленькіх пяць штук!

Кат бярэ пасак, пабедны чалавек трымае руку вора з працягнутай далонню, і кат дае па руцэ пяць лёгкіх udараў. Калі

суддзя прысудзіць пяць гарачых, удары мацнейшыя, калі ж скажа: «Даць яму пяць з-пад сіняга камня!» — тады кат размахваецца і б'е з усёй сілы, так што ў вора з вачэй слёзы сыплюцца. Але да такога пакарання даходзяць рэдка, таму што ў наступны раз і суддзя можа стаць ворам, і тады яму дадуць «з-пад сіняга камня».

Калі ж пабедны чалавек не адгадае, хто ў яго кароўку ўкраў, то суддзя крычыць на яго:

— А, ты сумленных людзей няславіць! Кат! Дай яму дзве гарачых!

І караецца пабедны чалавек.

Потым запісачкі зноў скручваюцца, кідаюцца ў шапку, і гульня пачынаецца спачатку.

## 1101. У казу

У казу гуляюць галоўным чынам у полі, у час пасьбы коней — «кала коней». Перш за ўсё выбіраюць пастуха. Робіцца гэта так: шырока расстаўляюць ногі і, схіліўшыся, кідаюць праз іх шапкі назад ад сябе. Чыя шапка ўпадзе бліжэй, той і павінен пасвіць коз. Тады ўдзельнікі ўбіваюць у зямлю слупок, прывязваюць да яго аброць з повадам і даюць пастуху канец повада ў рукі. На такой адлегласці павінен пастух знаходзіцца ад слупка. Потым удзельнікі складваюць ля слупка свае шапкі, якія называюцца козамі.

Пастух бярэ ў рукі дубец або пугу і пасе козы, гэта значыць стараецца не дапусціць, каб нехта падбег да слупка і ўхапіў сваю шапку. Калі ж удасца ўхапіць тры казы (шапкі), пастуха гоняць скрозь строй. Усе ўдзельнікі зноў шырока расстаўляюць ногі, а пастух павінен на карачках бегчы паміж імі. Пры гэтым яго б'юць шапкамі.

## 1102. Пастарнак

Звычайна ў гэту гульню гуляюць хлопчыкі на начлезе. Калі адзін з іх засне раней іншых, тады бяруць доўгую палку, расколваюць яе на адным канцы, у заснуўшага хлопчыка развязваюць адну з абор, засаджваюць яе ў расколаты канец палкі, моцна яго завязваюць і ўбіваюць гэты канец у зямлю.

Хлопчык прачнецца і пачынае цягнуць нагу, але не можа яе павярнуць, пакуль хто-небудзь з таварышаў не дапаможа яму вызваліцца.

### 1103. Круцёлка

Самая любімая гульня пастухоў на стойле, калі яны збіраюцца ўсе разам у поўдзень. Пастухі агульнымі сіламі ссякаюць хвою і пакідаюць досыць высокі пень, каля 1 м ад зямлі. Хвою ачышчаюць ад галін і пасярэдзіне робяць наскрозь дзірку. Неглыбокую дзірку (см 20) робяць і ў цэнтры паверхні пня. Потым кладуць хвою на пень, прымацоўваюць яе да пня круглым шпунтом так, каб хвоя магла круціцца на пні. На канцах хвоі сядаюць пастухі, а адзін штурхае хвою, каб яна круцілася.

### 1104. Солана — молана

Большае дзіця, а часам і дарослы хто, трымаюць дзіця, ушчаміўшы ў калені, а правай рукой каўтуняць валасы на галаве, кажучы:

— Солана — молана, ці лук, ці качан?
— Качан.
— Ізноў пачаў.

І працягваюць валтузіць. Бывае і па-іншаму.

— Солана — молана, ці лук, ці качан?
— Лук.
— У лоб стук.

Тут стукаюць лёгенька ў лоб.

### 1105. Рыжыкі саліць

Старшыя дзеці, бацькі і дзяды бяруць чатырох — сямігадовых дзяцей, трымаюць іх каленямі і націраюць вушы, аж пакуль яны не зачырванеюць. Калі вушы гараць, як агонь, пытаюць, ці досыць рыжыкі саліць. Як мала, соляць далей, як досыць, то перастаюць.

### 1106. У каменьчыкі

У каменьчыкі гуляюць пераважна дзяўчынкі, удваіх, утраіх. Бяруць пяць каменьчыкаў, і кожная з удзельніц робіць з імі

5—6 фігур. Калі яна памыліцца дзе-небудзь, пачынае наступная. Гульня гэта запазычана ад яўрэйскіх дзяўчынак, якія замест каменьчыкаў ужываюць авечыя або казіныя каленныя костачкі і гуляюць з азартам, большай часткай на валошскія арэхі.

Фігуры гульні наступныя:

1. Адзінкі. Адзін каменьчык бяруць у руку, астатнія чатыры раскладваюць па аднаму на зямлі ў выглядзе квадрата. Каменьчык, што ў руцэ, падкідваецца ўверх, а дзяўчынка павінна падабраць з зямлі адзін каменьчык, падхапіць той, што падкідвала. Так падбіраюцца ўсе чатыры каменьчыкі.

2. Двонкі. Чатыры каменьчыкі кладуцца на зямлі парамі і парамі ж потым падбіраюцца.

3. Тронкі. Каменьчыкі кладуцца ў дзве кучкі: тры ў адну і адзін у другую, і ў такой жа колькасці падбіраюцца пры падкідванні пятага.

4. Ступа. Усе чатыры каменьчыкі кладуцца разам і адразу падбіраюцца.

5. Калі пасля гэтага ў руцэ будзе пяць каменьчыкаў, іх падкідваюць уверх і ловяць адваротным бокам рукі, злёгку расставіўшы пальцы.

6. Зараз жа затым зноў падкідваюць усе каменьчыкі ўверх і ловяць іх далонню. Апошнія дзве фігуры называюцца конамі.

## 1107. У караля

Перад пачаткам гульні хлопчыкі збіраюць маленькія каменьчыкі. Кожны з удзельнікаў гульні выбірае сабе прыгожанькі каменьчык, які называецца «каралём». Потым яны дамаўляюцца, хто будзе лавіць «пару»—цотную колькасць каменьчыкаў і «лішку» — няцотную колькасць. Пасля гэтага пачынаецца гульня. Адзін з хлопчыкаў бярэ ўсе камні ў руку і падкідвае ўверх; у той момант, калі камні ў паветры, ён паварочвае руку далонню ўніз і ловіць іх верхняй часткай рукі; потым зноў падкідвае каменьчыкі і пераварочвае зноў руку, пры гэтым стараецца злавіць «пару» або «лішку» ў залежнасці ад умоў гульні. А тады камні перадаюцца па чарзе ўсім дзецям. Мэта гульні ў тым, каб злавіць болей камней, пры гэтым кожны кароль пры падліку ацэньваецца ў шэсць камней. Той, хто больш злавіў іх, мае права першым пачаць гульню ў наступны раз. Удзельнічаць у гульні могуць два-пяць чалавек.

## 1108. У касцяшкі

Касцяшкамі называюцца плоскія гузікі без вушак з дзірачкамі для прышывання. Гуляюць у іх на шапках, якія кладуцца гарызантальна. Усе ўдзельнікі садзяцца насупраць адзін аднаго і кладуць па гузіку на сваім баку. Потым лёгкімі пстрычкамі падганяюць гузікі да цэнтра шапкі і стараюцца так падштурхнуць іх, каб адзін гузік упаў на другі. Чый гузік акажацца зверху, той забірае сабе і ніжні.

## 1109. Мак

Гуляюць двое. Бяруць нож і прарэзваюць ім на зямлі раўчучок. Нож пакідаюць на пачатку раўчука. Пасля мераюцца на палцы ці іншым спосабам вырашаюць, каму праводзіць паўторна прарэз. Каму выпадзе першаму чарга, таму завязваюць вочы хусткай, садзяць на зямлю і кладуць руку на нож. Ён павінен правесці нож па таму ж раўчуку. Калі ж ён не трапіць зрабіць гэта, а правядзе новы раўчук, яго таварыш выбірае зямлю паміж раўчукамі і кідае ў разяўлены рот прайграўшага. Каб зямля не трапляла ў рот, прайграўшы хутка махае нажом перад губамі.

## 1110. У вужа

Дзеці з кручкі робяць міску, наліваюць туды вады і лыжкамі ўдаюць, што ядуць. Адно дзіця, выбранае за вужа, выпаўзае з кута, паўзе да міскі есці, кажучы: «Лык, лык». Тады дзеці лыжкамі б'юць вужаку па ілбе і адганяюць ад міскі.

## 1111. Гарнушак

Удзельнікі гульні садзяцца на лаве, якая стаіць пасярэдзіне хаты, так, каб сядзець плячамі адзін да другога. Адзін з удзельнікаў гульні называецца гарнушкам. Ён ходзіць вакол чарады і раптам б'е каго-небудзь па калене і крычыць: «Гарнушак!» Той зрываецца з месца і бяжыць вакол лавы, стараючыся апярэдзіць гарнушка. Хто раней дабяжыць да апусцеўшага месца, той займае яго, а другі дае фант і становіцца гарнушкам.

## 1112. У караля

Удзельнікі гульні кладуць на стол адну на другую рукі далонямі ўніз і пачынаюць лічыцца: «Раз, два — булдава», і г. д. або іншым чынам, але ў канцы іх абавязкова дадаюць словы: «Краля! Кароль! Сам пан кароль!» Пры кожным слове той, чыя рука ўнізе, вымае яе і кладзе наверх. Так чаргуюцца ўсе рукі. Той, на чыю руку прыйдзецца фраза «Сам пан кароль!», лічыцца каралём. Усе астатнія, акрамя караля і віцэ-караля, падыходзяць па чарзе да караля і пытаюцца:

— Кароль, кароль, што загадаеш рабіць?

Ад знаходлівасці караля залежыць даць кожнаму якую-небудзь цікавую або смешную работу, напрыклад:

— Ідзі ў парог і стой на аднойназе.

— Ідзі паскачы!

— Прынясі ў зубах кубак вады!

— У адным кутку памаліся, у другім паплач, у трэцім пасмейся, у чацвёртым паскачы.

— Стань на галаве!

— Спей песню!

— Стань на часы! (пры гэтым гулец бярэ качаргу на-караул).

— Плавай!

— Будзь сапожнікам!

Пры гэтым гулец садзіцца на стул, махае рукамі, быццам нацягвае дратву, стукае кулаком, быццам прыбівае абцасы і г. д.

## 1113. У копны, у кучы

Удзельнікі гульні хапаюцца за палку, чыя рука акажацца на самым версе, той павінен свой кулак паставіць на стол. Мераюцца да таго часу, пакуль застанецца адзін. Кожны паступова накладвае свой кулак на кулак першага хлопчыка так, што атрымліваецца слупок з кулакоў. Тады той хлопчык, чый кулак ляжыць другім зверху, кажа:

— Чыя капа (або куча) на маёй капе?

— Мая,— адказвае хлопчык, чыя рука зверху.

— Ну, скідай далоў да едзь дамоў.

Той знімае кулак.

Тады наступны пытаецца ў таго, чыя рука зараз зверху:
— Чыя куча на маёй кучы? і г. д.

Калі застанецца толькі кулак аднаго хлопчыка, у яго пытаюцца:

— Чыя капа ў полі?
— Мая.
— А калі ты яе павязеш дамоў?
— Заўтра!
— А каго ты будзеш зваць у талаку?
— Сучку, унучку і цябе дурачка!

Затым, узлезшы на комін, кажа:

— Я ў полі наганяўся, я і гора навідаўся, і за градку сюды забраўся, людзей пасмяшыць, дуракоў панабіць.

І пачынае прыдумваць што-небудзь смешнае, каб рассмяшыць усіх гульцоў. Як толькі хто засмяецца, яго бяруць за хахол і прымушаюць качаць галавою, а самі прыпяваюць:

— Качай цябе, божа, у цёмным лесе, у куралесе. Ці лук, ці качан?

Калі той адкажа «лук!», то яго б'юць злёгку па галаве і гавораць:

— Табе ў галаву стук!

Калі скажа «качан!», яго зноў бяруць за хахол і раскачваюць галаву з тым жа прыпевам:

— Качай цябе, божа, у цёмным лесе, у куралесе. Ці лук, ці качан? і г. д.

## 1114. Прарок

Гульцы выбіраюць паміж сябе прарока і садзяць яго пасярод хаты на ўслоне; тады прароку накрываюць хусткай галаву і ўсе, пабраўшыся за рукі, ходзяць наўкола яго. Па чарзе кожны з гуляючых кладзе руку на галаву прарока, а яшчэ абы-хто выбраны з чарады, калі пакладзе на галаву прарока руку хлапец, кажа «Адам», а калі пакладзе дзяўчына, то кажа «Ева». Тады прарок вяшчуе, што спаткае ў жыцці: аднаму кажа, што будзе багатым, другому, што будзе ўсё жыццё плакаць і г. д.

У гэтай гульні, калі прарок умее добра жартаваць, бывае шмат смеху, весялосці.

## 1115. У фігуры

Усе стаяць у кругу і круцяцца. Сядзіць збоку воўк, а ў другім баку матка.

Матка кажа:

Мора валнуецца — раз,
Мора валнуецца — два,
Мора валнуецца — тры,
На месце, фігура, замры.

Як толькі матка скажа гэтыя словы, усе заміраюць у любой позе. Тады воўк стукаецца да маткі; яна пускае ваўка, які ідзе да фігур і выбірае, якая яму спадабаецца. Воўк вядзе гэту фігуру да маткі і пытаецца, колькі яна каштуе. Матка кажа: «Два рублі». Воўк б'е двойчы па плячах фігуры, фігура ўцякае. Воўк яе ловіць. Калі воўк зловіць, то фігура становіцца ваўком, а калі не — воўк зноў застаецца той жа.

## 1116. У ката

Усе дзеці становяцца ў адзін рад, а насупраць стаіць выбраны лічэннем кот. Усе скачуць і крычаць:

Тра-та-та, тра-та-та,
Не баімся мы ката!

Кот робіць выгляд, што не звяртае на іх увагі. Калі дзеці надта разыдуцца, кот сам скокне. Усе заміраюць. Хто зварухнецца або засмяецца, пераходзіць да ката.

## 1117. У гнілога бурака

Усе бяруцца за рукі, становяцца ў круг і хуценька кружацца. Хто паваліцца — гнілы бурак — выходзіць з круга, а астатнія зноў кружацца.

# АСНОЎНАЯ ЛІТАРАТУРА І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

Аникин — В. П. Аникин. Русские народные пословицы, поговорки, загадки и детский фольклор. М., 1957.

Бел. нар. песні — Беларускія народныя песні. Вып. першы. Мінск, 1928.

Васілёнак — С. І. Васілёнак. Народная творчасць. Мінск, 1940.

Гарэцкі, Ягораў — М. Гарэцкі, А. Ягораў. Народныя песні з мелодыямі. Мінск, 1928.

Грыневіч, Дзіцячы спеўнік — А. Грыневіч. Беларускі дзіцячы спеўнік. З беларускіх народных матываў лірыкі, сабраных у 1905—1924 гг. Вільня, 1925.

Грыневіч, Народныя гульні — Народныя гульні, запісаныя ў камуне «Красный маяк» на месцы б. Сар'янскага двара Дрысенскага р. Полацкай акругі ў чэрвені 1928 г. А. А. Грыневічам (рук.).

Грыневіч, Школьны спеўнік — Школьны спеўнік. Злажыў А. Грыневіч. Вільня, 1920 (рук.).

Грыневіч, Зязюля — А. Грыневіч і А. Зязюля. Беларускія песні з нотамі, т. II. Пб., 1912.

Дзяціныя гульні — Дзяціныя гульні. Сабрала і апрацавала Л. Чарняўская. Вільня, 1919.

Добровольский — В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. IV. СПб, 1903.

Елатаў — В. І. Елатаў. Ад песні да песні. Мінск, 1961.

Еленска — Белорусские народные песни с нотами. Пословицы Минской губернии, записанные рукой Е. Еленской с Длюховских. (Дата невядома). Захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў бібліятэкі АН БССР.

Зданович — И. К. Зданович. Народные песни Западной Белоруссии. М., 1931.

Ляцкий — Е. А. Ляцкий. Материалы для изучения творчества и быта белорусов. I. Пословицы, поговорки, загадки. М., 1898.

Малевич — С. Малевич. Белорусские народные песни. Спб, 1907. Сб. ОРЯС, т. 82, № 5, стар. 1—194.

Мельников — М. Н. Мельников. Русский детский фольклор Сибири. Новосибирск, 1970.

Носович — Белорусские песни, собранные И. И. Носовичем. СПб, 1874.

Оксфордские славянские записки — Kuranty: an Unpublished Russian Soong Book of 1733. By A. B. McMillin and C. L. Drage. Оксфордские славянские записки, 1970.

Покровский — Е. А. Покровский. Детские игры, преимущественно русские. М., 1895.

Радченко — З. Радченко. Гомельские народные песни (белорусские и малорусские). СПб, 1888.

Радченко, Сборник — З. Радченко. Сборник малорусских и белорусских народных песен Могилевской губ. СПб, 1911.

Романов — Е. Р. Романов. Белорусский сборник. Вып. I—II. Киев, 1886; вып. VII, VIII. Вильна, 1910, 1912.

Сахараў — С. П. Сахараў. Народная творчасць Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў. Рыга, 1940; рук., дадатак IV, 1944.

Сержпутовский — А. К. Сержпутовский. Отчет о поездке в Гомельскую губ. в 1926 г. Минск, 1926.

Терещенко — А. Терещенко. Быт русского народа, т. IV. СПб, 1848.

Цітовіч — Г. І. Цітовіч. Анталогія беларускай народнай песні. Мінск, 1968.

Чубинский — Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край, снаряжённой ИРГО. Материалы и исследования, собранные П. П. Чубинским, т. IV. СПб, 1877.

Чуркін — М. Чуркін. Беларускія народныя песні і танцы. Мінск, 1949.

Шаталава — Л. Ф. Шаталава. Назва «божай кароўкі» (Coccinella septempunktata) у беларускіх гаворках. «З жыцця роднага слова». Мінск, 1968.

Шейн, Мат. — П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. I, ч. 1; т. III. СПб, 1887; 1902.

Шейн, Песни — П. В. Шейн. Белорусские народные песни с относящимися к ним обрядами, обычаями и суевериями. СПб, 1874.

Шлюбскі — А. Шлюбскі. Матэрыялы да вывучэння мовы і фальклору Віцебшчыны. Мінск, 1928.

Шырма — Беларускія народныя песні ў чатырох тамах. Запіс Р. Шырмы, т. 3. Мінск, 1962.

Czeczot — J. Czeczot. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny, cz. 2. Wilno. Rokem 1836—1839 zebrane (рук.).

Hurynowicz — A. Hurynowicz. Zbiór rzeczy białoruskich (Z gminy Wiszniewskiej, parafii Żodziskiej, pow. Swięcianskiego, gubernii Wilenskiej). Kraków, 1893.

Pietkiewicz — Cz. Pietkiewicz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego. Warszawa, 1938.

Rypiński — A. Rypiński. Białoruś. Paryż, 1840.

Federowski — M. Federowski. Lud białoruski, t. 5. Warszawa, 1958.

## Іншыя скарачэнні

АІМЭФ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР
б.— былы
бел.— беларускі
в.— вёска
вар.— варыянт
вобл.— вобласць
вокл.— вокладка
вол.— воласць
воп.— вопіс
вып.— выпуск
гл.— глядзіце
г. нар.— год нараджэння
губ.— губерня

зап.— запіс, запісаў, запісала
зб.— зборнік
камент.— каментарый
кн.— кніга
л.— ліст
м.— мястэчка
мат.— матэрыялы
мел.— мелодыя
м/г — магнітаграма
п.— павет
р.— раён
раздз.— раздзел
РДНТ — Рэспубліканскі дом народнай творчасці
рук.— рукапіс, рукапісны
рус.— рускі
скароч.— скарочаны
спр.— справа
ст.— стужка
стар.— старонка
студ.— студэнт, студэнтка
сш.— сшытак
т.— том
т. зв.— так званы
укр.— украінскі
ф.— фонд
ЦГАЛИ — Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва.

## Калыханкі

### 1

Гарэцкі, Ягораў, стар. 7, № 12.

Зап. у 1926 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р.* ад П. Гарэцкай.

Напеў з'яўляецца прыкладам высокіх мастацкіх якасцей пры параўнаўча сціслых сродках. Гэта дасягаецца пластычным і суразмерным выкарыстаннем трыхордавых папевак. На іх фоне паэтычна прыўзнёсла гучыць квінтовы гук (лірычная інтанацыя). Трохдольная метрыка надае напеву пяшчотны і ўраўнаважаны характар.

### 2

Federowski, стар. 626, № 1484.

Зап. у Гродзенскім п.

Мелодыя, асабліва ў другой палавіне, набліжаецца да рэчытатыўна-дэкламацыйнага складу. Гэта зусім іншая сфера вобразнасці, чым у 1. Фаршлагі ў тэрцыю і кварту, а таксама аднапланавая рытміка — паказальнікі ўплыву на мелодыку песні адпаведных рухаў (калыхання). Метрыка другога верша 2-й і 3-й страфы выпраўлена зыходзячы з граматычнага паралелізму яе з адпаведным вершам 1-й страфы («Хто це будзе калыхаці?»):

замест

Хто табе будзе есць даваць?
Хто табе будзе піць даваць?

даецца

Хто це будзе есць даваці?
Хто це будзе піць даваці?

---

* Назвы мясцовасцей даюцца па адміністрацыйнаму падзелу, які існаваў у час запісу твораў.

